

КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

**ВЫПУСК 47**

# Вушацкі слоўзбор
# РЫГОРА БАРАДУЛІНА

Мінск
«Кнігазбор»
2013

# Цуд!

Рыгор Барадулін – чарадзей беларускай паэзіі.

Што такое паэзія? Сярод іншага – гэта выяўленне магчымасцяў мовы. Ці інакш: паэзія – гэта мова ў яе вяршынным выяўленні.

Рыгор Барадулін – чарадзей беларускай мовы.

Параўнайце тое, што мы чытаем у сённяшніх (беларускамоўных, якія засталіся) газетах, на беларускамоўных (якія ёсць) інтэрнэтных сайтах з тым, што напісана ў «Нерушы», «Руме», «Вечаллі», іншых кнігах Рыгора Барадуліна. Не па змесце, а па лексіцы параўнайце, граматыцы, сінтаксісе. Гэта не проста якасна адрозныя, гэта розныя мовы. І не толькі таму, што адна – празаічная, другая – паэтычная: яны розняцца так, як розніцца штучнае й натуральнае. Прычым паэтычная мова (у канкрэтным выпадку мова Барадуліна), якая найдалей ад гутарковай, выглядае натуральнай, а мова празаічная (газетна-інтэрнэтная), якая да гутарковай найбліжэй, – штучнай. Такой, нібы на ёй пішуць і размаўляюць не носьбіты мовы, а замежнікі, перакладчыкі. І такую няўклюдную, машынную (гуглаўскаю) мову ўсё большая частка яе карыстальнікаў пачынае ўспрымаць як натуральную – і як натуральную скарыстоўваць: менавіта на ёй многія аўтары пішуць сёння й прозу, і вершы.

Мова спрашчаецца. Машынізуецца, нібы спраўджваючы тэорыю «лінгвіста-марксіста» Н. Я. Мара: «Будучыня мовы – мысленне, якое вырастае ў вольнай ад прыроднай матэрыі тэхніцы».

Гэта датычыцца не толькі нас – працэс сусветны. Шмат дзе (у тым ліку ў нас) ён накладваецца на працэс выцяснення роднай мовы, – і абодва працэсы, супадаючы, паскараюць адзін аднаго.

Усё гэта небяспечна. Вельмі. І калі б толькі для літаратуры – такой бяды. Нават калі б толькі для мовы...

Прырода мовы, нягледзячы на тое, што быў такі найвыбітны мовазнаўца, як Вільгельм Гумбальдт (як і прырода чалавека, нягледзячы на тое, што быў такі найвыбітны прыродазнаўца, як Чарльз Дарвін), дасюль застаецца загадкавай. У набліжэннях да разгадкі першынство належыць таму ж Гумбальдту, які й па сёння – найбольшы аўтарытэт у мовазнаўстве. «Мова народа ёсць ягоны дух, і дух народа ёсць ягоная мова, – цяжка ўявіць сабе нешта больш тоеснае,» – вось асноўная канцэпцыя Гумбальдта, якую падзялялі ўсе вядучыя лінгвісты свету, у тым ліку гэтакі аўтарытэтны вучоны ў славянскім свеце, як А. А. Патабня. Менавіта Гумбальдт увёў паняцце «моўная свядомасць народа» й сцвярджаў, што як чалавек (народ) стварае мову, гэтаксама й мова стварае чалавека (народ). Кожная мова апісвае вакол народа, якому яна належыць, круг, выйсці з якога можна толькі ў тым выпадку, калі ступіш у круг іншы.

З гэтага вынікае: іншы круг – іншая мова. Іншая мова – іншы народ.

Каб было больш зразумела, як пад уплывам іншай мовы мы можам стаць (па свядомасці, па менталітэце) не тымі, хто мы ёсць, прывяду прыклад (найблізкі) з гісторыі ўплываў.

На сучасную рускую мову (якую люблю й супраць якой, як і супраць любой іншай мовы, нічога не маю) вялікі ўплыў аказала не толькі мова царкоўнаславянская (з якой увайшлі ў рускую, да прыкладу, дзеепрыметнікавыя, якія цяжка вымавіць, словы й словазлучэнні: *предшествовавшее произошедшему*), але й цюркскія мовы. Найбольш відавочны гэты ўплыў у сучасных рускіх прозвішчах: *Иванов, Петров, Сидоров*. Этнічна рускія прозвішчы, якія ўзніклі да часоў Залатой Арды й захаваліся ў фальклоры, іншыя: *Илья Муромец,* а не *Муромцев*. Тут што істотна? Тое (і яно выяўляецца, адчуваецца ў мове), што *Муромец* – чалавек сам па сабе, самастойны, а *Муромцев* – не зусім. У цюркскіх мовах не толькі імёны, але й усе рэчы абавязкова суадносяцца з асобай, якой належаць. Без канкрэтызацыі таго, каму яны прыналежныя, ні чалавек, ні рэч як бы й

не існуюць. Усімі й усім нехта павінен валодаць, над усім і ўсімі гаспадарыць. Шах, бай... цар. Гэтакі менталітэт – і ён зафіксаваны ў мове. Яно не добра й не кепска, проста яно так ёсць. Там, на Усходзе. Але ці яно супадае з тым, што ёсць мы?.. Тут, на Захадзе.

Мы на мяжы кругоў. Пытанне ў тым, ці хочам мы застацца тымі, хто мы ёсць? Беларусамі. Еўрапейскім народам у еўрапейскай дзяржаве.

Сёння ўсё часцей можна пачуць: час нацыянальных дзяржаў прамінуў. На змену ім прыходзяць цывілізацыйныя дзяржавы, якія развіваюцца больш паспяхова. Найпершы прыклад – Кітай. Добра, няхай так. Але я не чуў і не чытаў, каб хто-небудзь у цывілізацыйным Кітаі сказаў ці напісаў, што час адмовіцца ад нацыянальнай мовы. Ніхто не даводзіць такога й у Еўропе. Наадварот, вунь як французы з немцамі, нарвежцы з фінамі ашчаджаюць свае мовы, змагаюцца з іншамоўнымі ўплывамі! Ды ўсе народы ў сённяшнім свеце, у якім культура падмяняецца цывілізацыяй, менавіта з дапамогай нацыянальнай культуры й мовы змагаюцца за саміх сябе, і толькі беларусы – саміх сябе супраць.

Чаму? Бо ў нас, як кажуць землякі Барадуліна, «добрыя галовы, толькі з патыліцы зачэсаныя»?..

Вільгельм фон Гумбальдт – не для ўсіх аўтарытэт. Хоць бы па той прычыне, што не ўсе ў нас яго чыталі, а нехта нават не ведае, што такі быў. Для некага аўтарытэт – Іосіф Сталін, які таксама, пра што нават у песні спяваецца, « у мовазнаўстве ведаў толк». Ён крытыкаваў вышэйзгаданага «лінгвіста-марксіста» Н. Мара – і вось з якіх пазіцый: «Мова адносіцца да грамадскіх з'яў. Яна нараджаецца й развіваецца з нараджэннем і развіццём грамадства. Яна памірае разам са смерцю грамадства».

Няма мовы – няма народа. У гэтым Сталін ведаў толк...

Хіба гэта не тыя ж кругі Гумбальдта? Круг існавання – і круг знікнення.

Для таго, каб мы не зніклі, Бог пасылае нам такіх чараўнікоў, як Рыгор Барадулін, які й боскімі малітвамі, і па-

ганскімі заклёнамі ў «Самоце паломніцтва», «Міласэрнасці плахі», «Евангеллі ад Мамы» аберагае нашу мову, а значыць, і народ. Тое самае ён робіць і ў сваім «Вушацкім словазборы».

Я проста купаўся ў чысцюткай, як вушацкае возера Вечалле, беларускай мове, чытаючы рукапіс гэтай кнігі. Колькі слоў, ані ў якіх слоўніках не зафіксаваных. Якое мы да таго, што ёсць, яшчэ багацце маем! *Крэў* (вывернутае дрэва), *начніцы* (бяссонне), *недамаўлянкі* (намёкі), *пярэка* (хто ўсім пярэчыць), *руя* (гайня, чарада). А як граюць, бліскаюць (*блісь ды ясь*!) гаваркія словы ў прыказках, прымаўках! «У сваёй хаце і качарга маці», «Грэх у мех, а сам наверх», «Язык у роце, як чорт у балоце», «Ён моўча, а дума воўча». Ці якія моўныя россыпы ў запісаных Барадуліным аповедах простых людзей проста пра жыццё: «Кішка ў кішку лезе ад голаду... Жыццё такое: хлеб – госць... Памяць мне заарала (забылася). Гэтак ён ваяваў: акопы рылі, а ён бабам у лапаты ручкі ўстаўляў... Уперад ён піў па дзелу, а пасля так... Хачу дамоў, як вады напіцца...»

У Барадуліна болей за дзве сотні нататнікаў з вершамі й самымі рознымі запісамі. Самому яму апрацаваць іх рукі не даходзілі, таму трэба сказаць самыя добрыя словы Наталлі Давыдзенка, якая гэта зрабіла, – і з'явіўся «Вушацкі словазбор». Цуд!

Я ўжо неяк пісаў, што Рыгор Барадулін нездарма называе сябе крывічом, бо ўвабраў у сябе ці не ўвесь крывіцкі дух, удыхнуўшы з ім усю мову крывіцкую. Ён адзіны беларускі паэт, які існуе толькі ў мове й выключна ў ёй. Існуе гэткім жа неверагодным цудам, якім сама мова існуе ў пабураным – альбо дасюль не створаным – беларускім свеце. І ў гэтым свеце Барадулін робіць тую працу, якую ў іншых светах робіць народ: моваствaральную. І яшчэ аберагальную, бліскуча скарыстоўваючы й тым самым захоўваючы тое, што народ ужо стварыў і за што некалі скажа дзякуй свайму Паэту.

*Уладзімір Някляеў*

# Светлае памяці мамы Куліны

Мова тады родная, калі яна пачута ад маці, калі кожнае слова сагрэта сэрцам матчыным, калі кожны гук матчынай мовы з-пад матулінага сэрца.

Мама перадала мне найвялікшы дар – мову нашую крывіцкую з вушацкай падсветкай, з вушацкім прысмакам.

Мова Вушаччыны сягае ад паганскіх каранёў і да біблейскага неба.

Мова Вушаччыны праветраная скразнякамі часінаў, пакумленая з мовамі суседзяў.

Мова Вушаччыны ўвабрала ў сябе й задуменнасць незлічоных азёраў, і развагу бароў, і шчырасрэбраны позван крыніцаў, які выпраўляюць у свет упаўнелыя рэкі й рачулкі.

У мове нашай хапае й цнатлівага, й скаромнага. Вушацкія не дужа падкія на эўфімізмы, любяць называць усё сваімі імёнамі. Гэта паганская традыцыя, у якой чысціня бачання свету.

Вушацкі словазбор – спроба сабраць за адным бяседным сталом хоць крышачку неператлумачанага шматгалосся роднае мне зямлі, шматгалосся, якое, на жаль, пачынае глухнуць.

Мова прыкладаў і запісаў набліжана да вушацкага вымаўлення.

Калі запрашаў вушацкія словы на паперу, мне чуўся голас мамы Куліны, галасы маіх крэўных і блізкіх. Гэта й сустрэча, і развітанне.

Гэта мой паклон да зямлі тым, хто пялегваў праз вякі нашае самабытнае слова.

Дзякуй табе, мама!

Дзякуй вам, мае родныя вушацкія людзі, якія не вырakліся свайго!

З мяне,
Як камяні з зямлі,
Вушацкія выходзяць словы.
Яны ў мяне ўвайшлі
Змалі,
Каб іх ні ўроцы не ўзялі,
Снягі не замялі,
Дубровы
З сабою словы не звялі
У свой апошні шлях,
Калі
Іх зводзіць пачалі на дровы.
Гудуць, нібы раі ў вуллі,
Вядуць, як дома, перазовы,
Ідуць раллёй, як жураўлі.
Яны ратаі й кавалі,
І хадакі ад мамы
Словы
Вушацкія.
Іх кожны крок
Мой бачыць слых,
Мой чуе зрок.

Абабраць — *прыбраць, упрыгожыць*. Уся хата кілімамі (каберцамі) абабрана.

Абадвы́, абы́два — *двое мужчын*. Глядзелі абадвы рот разінуўшы.

Абалонь — *кругляк, бярвяно без сарцавіны*. Доўга ляжала бярно, стрыжань выгніў, абалонь засталася.

Абалынка — *хмурынка, аблачынка*. Набегла абалынка й сонейка схавала.

Абарэц — *сетка лавіць рыбу*. Абарцом троху й налавілі шчупачкоў.

Абасваіцца — *асвойтацца, абвыкнуцца*. Дзікаватая была котка, а цяпер абасваілася, аббыла́ся.

Аббіты — *дасведчаны, абчасаны жыццём*. Ты ж троху вопытны, аббіты малец.

Абвідне́цца — *развіднецца, днець*. Абвіднелася — тады й рушылі ў дарогу.

Абгаркі — *абгарэлыя дошкі, бярвенцы*. Цягала з пага́рышча абгаркі, хату лапіла, сенцы лапіла.

Абдаўжы́цца — *залезці ў даўгі*. Ён прыехаў, яна карміла, паіла яго, абдаўжылася.

Абдзёрак — *кавалачак бульбіны, калі дзяруць на тарцы*. Бульбу на клёцкі драла — целая міса абдзёркаў.

Абдзіртус — *той, на якім адзежа хутка рвецца, абадранец*. На абдзірстуса адзежы не напасешся.

Абдужыць — *перамагчы, перасіліць*. І абдужыў яго тады ў тым спаборніцтве.

Аб'есці — *наесціся ўволю, сагнаць смак*. Аб'елі шчупакоў, язі будуць наставаць, тады ўжо іх пад'ядзём.

Абечая́, абячэўка — *сценкі рэшата (сіта)*. Лопнула абечая, і хоць праз пальцы прасейвай муку.

Абжыцца, ажыцца — *завесці гаспадарку, угрунтавацца.* Абжыўся, хатку сабе паставіў там, на ўзгорку.

Абзыў — *вясціна, водгук.* Ад яго й абзыву німа.

Абзыўкі — водгулле, водгалас, рэха. Малая ўжо разумеіць, якія абзыўкі ад матацыкла.

Абірыш — *апаследкі садавіны.* Адны абірышы засталіся, лепшыя яблыкі ўсе павыбіралі.

Абкара́віць — *запэцкаць, вымазаць у нешта.* Пакуль з ямы вылез, увесь свой хворс абкаравіў.

Абклікаць — *паклікаць, запрасіць.* Кажнага абышоў, абклікаў.

Абкрыва́віцца — *біцца да крыві.* Пеўні так абкрываваліся, аж іх убакі водзіць.

Аблаў — *аблава.* І так на яго аблаў быў.

Аблачок — *аблачынка.* Аблачок наплыў, і сквар прапаў.

Абліваха — *дождж са снегам; яшчэ — слізгата.* Такая абліваха, што кажух карыной зробіўся. Абліваха такая, што па дарозі каціцца можна, павалішся — галавы не збярэш.

Аблітня́ — *блёшня.* Аблітня — яна самаробная, раней не было купляных. Зробюць з драціны, аблюць волавам, і яна блішчыць, аблітáіць. Шчупака б'юць кукай, пасля аблітнёй аблітнюють рыбу.

Абнашчыцца — *нашча з'есці, выпіць.* У хаці й абнашчыцца нечым. Песняй нашчыцца салавей.

Абненавідзець — *зненавідзець.* Хто там жалеіць чужога рабёнка, наадварот — абненавідзіць.

Абніжа́цца — *зніжацца, нізка ляцець.* Ляціць самалёт, абніжыцца й давай страчыць.

Аборы — *вяровачкі падвязваць лапці, абвінаць анучы.* Лапці ды аборы — усе мае прыборы.

Абразанец — *абразаны яўрэй.* І абразанчык торкаіць свой флянчык.

Абрамізіць — *абразіць, прынізіць.* Абрамізіў на людзёх, каб сябе паказаць.

Абрамяніцца — *аперазацца рамянямі.* Стаў камісарам, дык ад грудзей аж да ср.кі абрамяніўся.

Абрасець — *адсырэць на расе.* Нясі дамоў сяннік, а то абрасеіць, атап'ецца.

Абратава́ць — *выратаваць, уратаваць.* Баранілі-баранілі, алі карову абратавалі.

Аброк, брок — *папаска для каня, узятая ў дарогу.* Добры яздок помніць пра аброк. Вараному коніку броку аўса.

Абруд — *абруч, вобад.* Абруд лопнуў, і клёпкі рассыпаліся. Сіта ўдарылася абрудом і падскочыла.

Абсадзіць — *адолець, уходаць, сходаць.* Я чарак пяць абсадзіў.

Абсачаць — *калі ў дрэва спыняецца прыліў соку.* Як станіць кара абсачаць, тады адхіні галінку й прышчапі яблыну.

Абсварыцца — *перасварыцца.* Яна з усімі абсварылася й ні к кому ня ходзіць.

Абсемяняць — *семяну садзіць.* Гарод яе абсемяняюць талакой, яна саўсім баба нямоглая.

Абсмакаваць — *увайсці ў смак, раскаштаваць.* Як абсмакуешся, за вушы не адцягніш.

Абуванне — *абутак.* Дажылася Маланння — ні абуванння, ні адзяванння.

Абхаіць — *прыбраць, прыхарашыць.* Хата крапівой зарасла, хай бы хату абхаіў, абчысціў.

Абціска́ць — *ухутваць, шчытна ўкрываць.* Давай яго абціскаць, каб ня змёрз.

Абціха́цца — *сціхаць, сунімацца.* Толькі пачынаіць хвароба абціхацца, як новае насланнё.

Абцопкаць — *абнасіцца, абшарпа́цца.* Абцопкаўся ўвесь, страшна глянуць. Абцопкаў штаны — цыцалі *(махры)* баўтаюцца.

Абчыха́цца — *прачыхацца, прасынацца.* Абчыхаюся назаўтра — нікога німа.

Абыдле́ць — *азвярэць, знелюдзець.* Абыдлеў чалавек, звер зверам.

Абысціся — *збіцца з дарогі, перайсці патрэбнае месца.* Ішла й абыйшлася, згубіла сваю дарогу.

Абыцца — *звыкнуцца, абжыцца, зжыцца.* Спачатку дамоў хочацца, а пасля абудзішся.

Абэлка — *адгаворка, спасылка на некага, ускладанне віны.* Хто б што ні зробіў, а на яго ўся абэлка.

Абязгрошыць — *застацца без грошай, звесці грошы.* Абязгрошыла кума, ку́ма ўжо даўно німа.

Аб'язджаць — *расплывацца, рабіцца ацеслівым.* Каб клёцкі не аб'язджалі, вады далі.

Абязножыць — *страціць моц у нагах.* Гладка абязножыла Латышыха, па хаці сунуцца цяжка.

Абязручыць — *знясіліць рукі.* Гладка абязручыў, а такі шчырун быў.

Аб'ялдычыць — *ашальмаваць.* Нізавошта чалавека аб'ялдычылі, з гразёй змяшалі.

Абялёдаваць — *есці са смакам.* Так клёцкі абялёдаваіць, аж нос упрысядкі йдзець, аж за вушамі скрыпіць.

Абярнуцца — *перакуліцца; яшчэ — зрабіцца.* Воз абярнуўся, і ўсе ў балоці. Быў-быў чалавекам і чортам абярнуўся. Смятана вадой абярнулася.

Абярэмца — *ахапачак.* Хоць абярэмца прынясі, бо дроў у хаці ні паленца.

Абяссіліцца — *выбіцца з сілы.* Як абяссілюся, дык ня трэба буду нікому.

Абясхлебіць — *застацца без хлеба, звесці хлеб.* Памёр тата — абясхлебіла хата. Так гаспадарылі, што хлеб звялі.

Авад — *шмат аваднёў.* На кароў у паўдзён авад напаў, і яны ў гіз.

Ава́нец — *аванс.* Учора далі аванец, але такі малы.

Авохці — *выклічнік.* Авохці мне, баюся, упусціш — ня зловіш, малы, як гумовы.

Авясец — *дробны авёс (ласкава).* Во колькі малькоў, якраз як авясец. Сажнём, дачушка, авясец, тады к табе Бог сватоў прынясець.

Авя́чына — *авечае мяса.* Лепі за любую прысмачыну воўк любіць авячыну.

Агада́ць — *здабыць, набыць, прыдбаць, агораць, расстарацца; яшчэ — наліць.* Сяк-так пінжак агадаў, падняў троху свае па́рхі. Ён сабе к зіме добры кажух агадаў. Я ей чарачку агадаю.

Агалам — *агулам.* Вішні агалам прадала.

Агаспадарыцца — *завесці гаспадарку, стаць гаспадаром.* Як нічога ня здарыцца, дык маладзён агаспадарыцца.

Аглабіць — *прыняволіць, прымусіць.* Моцна ж яго аглабілі, парабкуіць на іх.

Адаробка — *дзябёлая, гладкая.* І Хадорына адаробка носіцца як жаробка.

Адбубеніць — *пабіць, адлупцаваць, уваліць.* Яму хлопцы так адбубенілі, ледзь ногі валачэць.

Адварот — *агіда, непрыняцце.* У яе на такога кавалера адварот.

Адгладзіцца — *направіцца.* Было ўжо рэбры свяціліся, а цяпер, глядзі ты, адгладзілася.

Адгу́дзіць — *адгаварыць, адбіць.*

Ці я тваіх конікаў апудзіў,
Ці я тваю дзяўчыну адгудзіў?

Аддаць — *палягчэць.* Таблетку выпіў, трошку аддало.

Аддух — *перадых, адпачынак, супакой.* І галава аддуху патрабуіць.

Аджылы — *сталага, пахілага веку.* Чалавек ён ужо аджылы, з маладымі ня ўгоніцца.

Аджыць — *пераэсыць.* І першую жонку кінуў, ён іх пяць аджыў.

Адзябнуць — *ззябнуць.* Цвяты й тыя ад'зяблі — халоднае лета сёлета.

Адказваць — *завяшчаць.* Перад смерцю ўсё сваймму першаму адказала.

Адкарапкацца — *адчапіцца, адкараскацца.* Ад гора ніяк не адкарапкаішся.

Адкормнік — *парсюк, пастаўлены на адкорм.* Адкормніку корму не набрацца.

Адкрасці — *забраць назад потайна.* Міліцыянер забраў дудкі (як самагонку гналі), а малец узяў ды адкраў іх.

Адкрасціся — *незаўважна адысці.* Памалу ад мяне адкраўся.

Адкрэвіць — *адысці ад хваробы, направіцца, паздаравець.* Можа, я троху адкрэўлю ў бальніцы.

Адма́лі — *змалку.* Ён яшчэ адмалі, як нарадзіўся, хваравіты.

Аднавуры — *аднавокі.* Шашок аднавуры, ды бачыць, дзе куры. Сляпінда́ ты аднавурая!

Аднадумец — *хто адной думкі з некім.* Мы з ёй такія аднадуміцы, што куды там!

Аднакавы — *аднолькавы.*

Боты драныя мае,
Дома лакавыя.
А ці ў дзевак, а ці ў баб —
Усе аднакавыя.

Аднаслоўны — *чалавек слова, верны свайму слову.* Стахван чалавек аднаслоўны, сказаў — зробіць. А Ладысь неаднаслоўны, у яго сем пятніц на тыдні.

Аднаяй — *мужчына з адным яечкам.* І гэны аднаяй просіць «дай!».

Адпаса́жыць — *адпрэчыць, адціснуць.* Нявестка мяне ад печы адпасажыла, усё сама робіць.

Адпа́сціць — *адкарміць, дагледзець.* Які конь гожы стаў, як яго адпасціў.

Адперыць, перыць — *адлупцаваць, лупцаваць.* Ён яго добра адперыў. Перастань малога перыць.

Адпіцца — *адсырэць, набрацца вільгаці, пусціць ваду.* Дровы ў хаці ў цяпле адпілі́ся, ня хочуць гарэць. За ноч лайно адпілося на дварэ, ня высахла.

Адпойсаваць — *адлупцаваць.* За такое добра адпойсаваць варта, каб і дзясятаму заказаў. *(Відаць, ад пояса.)*

Адпоўніць — *адсыпаць, адліць з поўнага.* Адпоўні бутэльку на пахмелак. Адпоўні бочку, а то круп з коптуркам.

Адпрог — *калі адпрагаюць коней з дарогі.*

Паедзем дамовачкі
З гэтае няволічкі.

Нам дома лепі будзіць,
Конікам адпрог будзіць.

Адпячы — *крыху спячы.* Як на пасці на палцы бульбіну адпякуць, яна й смачная.

Адрадніцца — *адчурацца, ачужацца радні, адрачыся.* Неяк вы ўжо адрадніліся, ні на парог нагой.

Адроддзе — *паходжанне.* Маскалі — стараверы, а ён якога адроддзя?

Адрэчны — *недарэчны.* Адстань ад мяне, адрэчная гэта гаворка.

Адрэчча — *непамыснасць, недарэчнасць.* Адрэчча нейкая выйшла з добрага намеру.

Адстрапаліць — *настроіць.* Адстрапалілі малога, ён і носу ня кажаць.

Адхлон — *перадых, спакой.* Піцую-піцую, і хвілінкі адхлону ня маю.

Адхон — *схіл, абрыў.* Пакацілася кола з адхону — ні шуму, ні звону.

Адхонаваты — *абрывісты.* Бераг такі адхонаваты, аж страх.

Адцэбрыць — *адагнаць, адпрэчыць.* Адцэбрылі яго ад цёплага мейсца. *(Даслоўна — прагнаць ад цэбра.)*

Адчыхвосціць — *даць прачуханца, вылаяць, прабраць.* Як адчыхвосцілі неслуха, дык шоўкавым стаў.

Адысці — *прапасці, знікнуць.* Ужо снег адыйшоў.

Адыходзіны — *адыход з гасцей, з дому.* На адыходзіны капытковую выпіць ня шкодзіць. Казу падаіла на адыходзіны.

Ад'язджа́ны — *ад'езд, ад'ездзіны.* І Селівеіха на ад'язджаны прышла.

Ажавіны — *ажына*. Смачныя ажавіны, толькі збіраць калюча.

Ажамеры — *выціскі, асадкі,ападонне*. Можа, у цябе хоць якія ажамеры засталіся, галава кроіцца, дай выпіць.

Ажнуль — *аж, ажно.*

Ажнуль мне галоўка баліць:
Як жа мне дзетак жаніць?

Ажынаўка — *гарэлка на ажыне*. Ажынаўку й без закусі піць смачна.

Ажыцца — *прыжыцца, атайбавацца, звыкнуць*. Ажыўшыся тут, і выязджаць ня хочуць.

Акалець — *сканаць*. Акалеў нябога, і на кут паклалі.

Акалле — *холад, зябкасць; яшчэ — змерзлае цела*. Глядзела-глядзела яго на дварэ, аж мяне акалля ўзяло. Прыкрый сваё акалля, а то ссінеў як пуп курыны.

Аколіва — *ваколіца*. Зялёнае аколіва ад птушыных песень глухне.

Акоцце — *асцюкі*. На плечы снапы ўскініш — акоцце сыпіцца, дык у капелюшы зручна.

Акраўкі — *абрэзкі тканіны, якія засталіся ад кроіва*. З гэтых акраўкаў нічога не пашыіш.

Аксціцца — *апамятацца, прыйсці ў сябе*. Аксціся, што ты такое гаворыш?!

Аксыля — *вокліч да цялят*. Аксыля, у хлеў, аксыля, цяляткі!

Акуратны́ — *далікатны, уважлівы*. Ён такі акуратны — і сабаку на «вы» называіць.

Акушок — *акунёк, акуньчык*. Акунь, той як дурань бярэць, акушок яшчэ дурнейшы.

Але́ха — *вольха.* Насек белай алехі, усё ж дровы будуць.

Аме́рдзіцца — *апрацівець, збрыдзець.* Амердзіўся ён мне, нідзе ад яго праходу німа. Амердзілася мне ўсё, куды ні глянь — свінні, а ня людзі.

Анадоень — *надоечы.* Анадоень яшчэ бачыліся, і на́ табе — памерла.

Анелюбе́ць — *знелюбець.* Анілюбела мне гэта хата, ды ня ведаю, куды ўцячы.

Анінютанькі — *нізавошта, ні ў якім разе.* Да работанькі анінютанькі, а да любатанькі, ах, мае матанькі.

Апагодзіцца — *распагодзіцца.* Як апагодзіцца, дык гэтыя травы бяруць і ў ямы кладуць.

Апа́данкі, ападонне — *ападак на дне катла ці місы; яшчэ — апалая садавіна.* А яму асталося толькі ападанкі з'есці. Узвар увесь выпілі, адно ападонне асталося. Наліў ападоння й частуіць, пі сам. Цэлы мех ападанак назбіралі.

Ападоліцца — *быць у жонкі пад слухом.* Быў малец як малец, ды ападоліўся.

Апантаны — *утрапёны, нястрыманы, звар'яцелы.* Апантанаму й мора па калену, і хмары па барадзе.

Апаследкі — *рэшткі, астаткі.* Апаследкі дошак ссунуў з машыны.

Апіра — *апора.* Гэта мая апіра надзейная.

Аплэвуш — *ацесліва, непадцягнуты, няўзглядны.* На такога аплэвуша ніякая дзеўка не паглядзіць.

Аплятанік, пляцёнак — *бутэль, аплецены лазой.* Бражкі быў цэлы аплітанік, дык выпіў адзін. Пляцёнак бражкі на стол — гуляй да ночы, пакуль запацеюць вочы!

Аповалач — *цямрэча, зацем, заслань*. Аповалач вочы завалакла, нічога не відаць, іду як сляпая.

Аполак — *дошка з краю бервяна, гарбыль*. Тынянка ababіта аполкамі, і добра.

Апромеццю, промеццю — *стрымгалоў, не зважаючы ні на кога*. Як угледзіць бацьку, апромеццю ляціць.

Апрыч — *асобна*. Ад усіх апрыч сядзіць.

Апрычонкі, асабенкі — *смачная ежа, якую трымаюць асобна для пестунка*. Ён толькі асабенкі есь, зласелы, здураны.

Апсік — *прэч, уцякай (вокрык на ката)*. Апсік, дуронік!

Апурхнуць — *натапырыць пер'е, абвяць*. На такой золі куры апурхлі.

Апячы — *спячы, запячы*. У печы апяку печанёўку.

Арфаваць — *веяць, правейваць*. За дзень столькі мяхоў жыта наарфавалі.

Асада — *драўляная акантоўка акна*. Асаду паставілі, засталося толькі рамы ўставіць і зашкліць.

Асва, асвiná — *аса*. Проста асвой у вочы лезіць да яго, не адбіцца. Асвіна прыстала — не адмахацца ад яе.

Асвер — *жардзіна ў студні, на якой трымаецца вядро (журавель)*. Асвер задзёр шыю ўгару з вядром у зубах.

Асвойчыць — *прыручыць, зрабіць свойскім*. Пакуль сабаку асвойчылі, усе пакусаныя хадзілі.

Асвяраць — *падважваць*. Асвер бярно, а я моху падторкну.

Асвяціць — *асвятліць, пасвяціць*. Запалю я свечачку, асвячу я сцежачку.

Асеціць — *абсесці, атабуніць, апанаваць*. Яго ж не сямёра асеціла (*не шмат дзяцей*). *(Яўна ад сеткі.)*

Асецішча — *месца, дзе стаяла асець (восець*). На асецішчы буракі ўрадзілі.

Асівець — *пасівець*. А як жа ты асівеў, а мой жа ты свой.

Асітá — *сітнёг*. Асіты з берагу нажала на подсціль.

Аслонак — *там, дзе сонца, прыслонак*. Кот сядзіць на аслонку й курню пяець.

Аслухаць — *пачуць*. Тады аслухалі, што другая баба храпіць.

Аслядаваць — *высачыць, знайсці па следзе.*

Мы ўвялі слядочак
На сваткі дварочак.
Дзе мы яе аслядуем,
А там мы і заначуем.

Асмакавацца, абсмакавацца — *адчуць смак у ежы*. Як асмакуешся, за вушы не адцягніш цябе.

Асобенна — *асобна*. Яны й спяць, і ядуць асобенна.

Астатнік — *апошні, хто адстае*. Ня будзь выдатнікам, ды ня будзь і астатнікам.

Астрáшыцца — *спалохацца, узяць у страх*. Ці я астрашылася так, ці што?

Астроў — *востраў, астравок*. А пасярэдзіне Плінскага возіра астроў.

Аступіць — *абступіць, акружыць*. А людзі іх аступілі кругом.

Асунуцца — *занядужыць, занапасці, астарэць*. А ты йдзі ў прыстарэлы дом, як асунішся.

Асцявільна — *дзяржальна восцяў.* Закалоў шчуку восцю, як асцявільна не зламалася.

Асыпка — *мука нізкага гатунку, ёй пасыпалі ахрап'е, мешанку.* Мех асыпкі ўдалося купіць, а ўсё ж парсюку нейкая закраса будзіць.

Аталпіць — *апанаваць, перапоўніць, наваліцца.* Аталпілі ўсю вуліцу — не прайсці.

Атанець — *схуднець.* Аментам атанела — так спаліла яе хвароба.

Атвадзéць — *зрабіцца вадзяністым.* Ежа, пакуль стаяла, гладка атвадзела.

Атлёт — *хват, зух.* Такі атлёт, што х.ем прапаліць лёд.

Атлум — *ачмурэнне, аблуда.* Усе гэты выбарывы́дуры — толькі атлум галавы.

Атнімка — *анучка, якой атнімаюць, выцягваюць кацёл з печы.* Кашуля, як атнімка, чорная.

Атожылле — *парасткі.* Ад яблыны атожылля пашло. Бульба ўся атожылля пусціла, трэба скарэй садзіць.

Атопак — *стаптаны чаравік; яшчэ — пра недалужнага хлопца.* Якія атопкі ўссуніш на ногі, а ўсё ж ня босы. І ейны атопак нешта з сябе корчыць.

Атрусíцца — *прывесці трусянят.* Яна, чараўніца, счаравала: труска атрусілася, а трусяняты памёрлі.

Атуросце — *парасткі.* Маленькую яблыньку прынясла, пасадзіла, яна прыжыла, і столькі атуросця ў яе.

Ахапак — *гурма.* Ідзем усім ахапкам дамоў.

Ахмурэць — *ап'янець, ачмурэць.* Ня так захварэў, як ахмурэў.

Ахопак — *бярэма, шмат.* Яны там ахопкамі грошы палучаюць на шахтах. Ладны ахопак і сабе прынёс. Пітух як даў у нагу, кроў ахопкам ліецца.

Ахосал — *заляцанец, сюбар, хахаль.* І ў яе ўжо свой ахосал завёўся. *(З ідыш — кавалер, жанішок.)*

Ахрап'е — *ежа для свіней, ссечаная трава, бацвінне, дабаўляюць яшчэ бульбы, буракоў.* Рана ўстала, ахрап'я насекла.

Ахэлак — *ахапак, ахопак.* Ладны ахэлак са стогу выскуб.

Аціха́цца — *суціхаць, сцішвацца.* Вея аціхнецца, можна будзіць у лес паехаць.

Аця́лякаваць — *марудзіць, не спяшацца.* Не спяшай, ды не аця́лякавай. Зроб гэта не аця́лякаваючы.

Ацяробкі, цяробкі — *лушпіны ад бульбы, буракоў.* Ацяробак узялі на сушылцы, а ўсё ж парсюку прысмакі.

Ачалавечыцца, пачалавечыцца — *ажаніцца, узяць жонку; яшчэ — зрабіцца чалавекам.* Бугаяваў-бугаяваў дый ачалавечыўся. Я думала — яна пачалавечыцца нарэшці.

Ачопісты — *у каго шырокі азадак.* Такая ачопістая, што ў дзверы не пралезіць.

Ачужэць — *адбіцца ад радні, забыцца на родных.* Ачужэла дачка, на бацькоў забылася.

Ашаколы — *труха, точыва, пасеі, ша́шча.* Шашаль так паточыць, што адны ашаколы астаюцца.

Ашу́ргаць — *скончыцца, перастаць.* Дождж аціх, зараз ашургаіць.

Ашчыці́ць — *шчыльна ababiць дошкамі, драніцамі.* Ашчыціла пуню, каб кот куранят не цягаў.

Бабнік — *малы, што не хоча аставацца без бабулі.* А гэнаму бабніку трэба, каб баба карміла, паіла, спаць клала й калыханку пяяла.

Бабовішча — *зямля, на якой раслі бабы.*

Цвіцела макоўка на бабовішчы,
Спі, мая дурнішча, на саломішчы.

Бавіцца, забавіцца — *затрымлівацца.* Сходзі, толькі доўга ня баўся. Дзе гэта наша мама бавіцца нешта. Як забавіцца ў гасцях, да начы дома німа.

Бавіць — *забаўляць, глядзець малога; яшчэ — праводзіць час*. Ён дзіцё бавіў. Ня робіць, а час бавіць.

Баган — *багун.* Баган добра ад клапоў хату ратуіць. *(Магчыма, ад багны.)*

Багатырка — *багатая, багацейка.*

Равуць валы, равуць,
Багатырачку вязуць.

Бадэка — *патарчака, нешта адрэчнае, няскладнае; яшчэ — няўмека, бязручка*. Прывалок з лесу нейкую бадэку, хочаць зробіць кій сабе. Кусок чалавека — бадэка, у яго ўсё з рук валіцца.

Баёк — *удзельнік бойкі, задзіра; яшчэ — маленькі бой, драчка.* Свярбяць кулакі ў байка. Чым якая сварка, лепі маленькі баёк.

Байба́с — *перарастак, боўдзіла*. Такі байбас — і ў першы клас!

Балабок — *пустабрэх, балбатун.* У балабока галава не баліць.

Балакі — *аблокі, аблачыны.* Па небі ходзюць такія цяжкія балакі.

Баламут — *чмут, галавадур.* Чмут-баламут, у чортавы лапці абут. *(Мама тлумачыла: не баламут, а беламут, бо белае муціць.)*

Балацюгі — *зарослыя балоты.* У балацюгах жывець страх.

Ба́лмач — *бесклапотнасць, бяздум'е, аблуда.* Так і пражыў цэлы век балмаччу.

Банды́кі, бэндзі — *несці малога заплéччу.* Вазьмі сынка бандыкі — хай расцець вялікі.

Банкарт — *байструк.* Банкарты гуляюць у карты, а бацькавы дзеці ламаюць клеці.

Барабаніць — *брынкаць, іграць.*

А на йскрыпку йграюць,
А на цымбалах барабаняць.

Барвічная — *баравіковая, дзе растуць баравікі.* Гэта самая барвічная мясціна.

Барля́цца — *вадзіць лыжкай ў варыве, квэцацца, вэдзгацца.* Пабарляўся ў місі, а есці ня стаў. Не барляйся, а еш, што далі.

Барычнóе — *насенне буракоў, морквы, капусты.* Пагодай паспелі барычное пасеіць.

Басоля — *басэтля.* Цяпер бабі не да солі, як зайгралі ў басолі.

Басці́ — *упарта казаць глупства.* Што ты бадзеш адно й тое як бык?

Баўду́р, байдур — *дурань, ёлуп.* З баўдурам гаварыць — толькі язык студзіць. Урадзіўся такі байдур, што сорам бярэць.

Ба́хар — *каханак, хахаль.* У яе бахары невыводныя.

Бахмачы — *гронкі, кутасы.* Хмель абвіўся каля алешыны, а з бахмачамі вецер дурэў.

Бацькоўшчына — *родны кут, родныя мясціны, сядзіба.* Гэта бацькоўшчына, я тут вырасла.

Бацяны́ — *дзецi, сыны.* Прыхаджу дамоў, а маiх бацяноў нiма.

Бачына — *бок, бакавiна.* За бачыну дзеўку пашчыпаiш.

Бачэнак — *маленькая бочка.* Сёлета ажно пяць бачэнкаў грыбоў насалiла.

Беганiна — *бегатня, марныя клопаты.* Беганiны на цэлы дзень, а заробку на цень. Ад беганiны ногi адбiў, а толку нiякага.

Безздароўе — *немач, хвароба.* Маладому нi стому, нi злому не было, а старога безздароўя спасцiгла.

Белата — *белiзна.* Такой белатой аддаець лайно.

Бе́лiна — *бель (гатунак яблыкаў).* А яна белiна была, ад яблыкаў аж сукi трашчэлi.

Белле — *святочная апратка.*

> Надзявайся, бабка, у белае белля,
> Павязу я цябе з сабой на вяселля.

Белюга́ — *белая гарэлка.* Дай якой белюгi пацягну́ць, а то ад вiна галава балiць.

Бе́ркавец — *дзесяць пудоў.* Спраўнай каровi на зiму беркаўцаў пад дваццаць сена трэба, ня менi.

Бiць — *iсцi напралом, уцэла.* Куды мы б’ём у хмызы, дарога ж збоку.

Благаваты — *слабы, кепскаваты.* Конь благаваты, а трэба дзёран уздзiраць.

Благата́ — *дрэнны, дрэнь.* Пашлi мы ў клуб, а там сабралася адна благата.

Бла́жыць — *робiцца блага.* Блажыць яму нешта пасля пачастунку.

Блот — *марнаванне.* Пiцаваў, працаваў, а ўсё ў блот пашло, як чорт зблоцiў.

Блоціць — *марнаваць, псаваць*. Нечага козамі сена блоціць, яны й лыка з'ядуць. Толькі сукно зблоціў, а паліта не пашыў.

Блыт — *блуд*. Рана дзеўка ў блыт пашла, зблыталася з шантрапой.

Блытаўка — *баламутлівая, падкая на мужыкоў*. Зблытнуўся, сыйшоўся з нейкай блытаўкай.

Блэнда — *валацуга, гулёна*. І гэна блэнда ўжо цягнецца.

Блэндзіць — *псаваць, блоціць*. Ня блэндзі мурог такой касьбой.

Блядзець — *бляднець*.

Зялёненькі вінаград
Урадзіўся напагляд.
Як Рыгорка паглядзеў —
Вінаградзік паблядзеў.

Блядэра — *прастальтка*. Надта ж заядлая блядэра, нічога ня скажаш.

Богамалельня — *малельня, малітоўны дом*. Там была жыдоўская богамалельня.

Бой — *бойка*. Ён пабіўся, дык за бой і адседзіў.

Боссю — *басанож*. Нікіпаравы малыя й зімой боссю з хаты вылятаюць. Боссю пойдзем па расе.

Бось — *басата, галадранцы*. Сабралася бось з усяго свету.

Боўтка — *боўдзіла, бязмозглік*. І гэта боўтка тут пад нагамі блытаіцца.

Бражджэль — *сухая палка, кій, калі кінуць — бражджыць; яшчэ — усё высушанае*. Ён ужо ўніз расцець, як бражджэль зробіўся. Бражджалёў напякла, німа чаго ўкусіць.

Брандзаваны — *у бронзавай аздобе*. Конь маляваны, хамут брандзаваны, толькі ў сваты ехаць.

Братавіты — *дужа блізкі сябра*. Ён мой сябра братавіты, як сабе, веру яму.

Брахлівы — *фрывольны*. Ад ейных брахлівых песняў аж у пятках колка.

Брацца — *адыходзіць*. Старыя па адным на той свет бяруцца.

Брацюлечка — *ласкавае найменне брата*. Спраўляў брацюлечка пярсцёнкі ў горадзі.

Бруд — *гной пры нарыве*. Ску́ліна прайшла, а стрыжэнь застаўся, бруд выйдзіць.

Бруёк, бруячок — *рабацінне на вадзе*. Сягоння бруёк маленькі. Бруячок, як на ляшчу луска.

Брухмень — *пузач, брухач, пузацень*. Такі брухмень — па зямлі пуза валачэцца.

Брыгаць — *патрошку капаць, накрапаць*. Дождж брыгаў-брыгаў ды так і не сабраўся пайсці.

Бры́дзіцца — *гідзіцца, грэбаваць*. Я брыджуся такога кавалера, такога п'янюгі.

Брыдзь — *брыда, брыдота*. Не падыходзь да гэтай брыдзі.

Брызентовікі — *брызентавыя пашлапні, туфлі*. У брызентовіках добра ад даўгоў уцякаць.

Брызлае — *закіслае малако*. Вячэрашняе малако брызлае, толькі бульбу праганяць. *(Брынза, думаецца, таго ж кораня.)*

Брыка — *спецыяльны воз для перавозкі сена, саломы, высокія бакі накрачаны жэрдкамі*. Звычайна ў брыку месціцца да двух беркаўцаў сена. За дажджом прывёз яшчэ брыку сена.

Брысік — *укормлены, дагледжаны, гладкі.* Глядзі ты, які брысік вырас, — хоць на ім нажы йстры.

Брэд — *спажыва, здобыч.* Каза сама на брэд ходзіць, а казляняткі на ваўчынай шкуры качаюцца й мамкі дажыдаюцца.

Бубён — *бубен.* Дзеўка ў бубён біла, як малаціла.

Бугаяваць — *халасцякаваць.* Пабугаяваў малец уволю, усё ня мог знайсці дзеўку па свайму калену *(па сабе)*.

Бугіня — *гатунак бульбы.* Дала мне бугіні на развод, пагляджу, што вырасціць.

Бугрынкі — *пагоркі, бугаркі.* А тыя бугрынкі я ўсе зраўняў.

Букатка — *печыва, булачка; яшчэ — узгорак.* Мама зранку букатак напякла. Патрапіш у лесе на букатачку — там ягад багата.

Букіш — *цвялілка для барана.* Баранька, букіш!

Бушлаватая — *разварыстая, сопкая.* Бушлаватая бульбіна ў руках рассыпаіцца.

Бушлаваць — *трывожыць, непакоіць.* Не бушлуй ты ейную старасць, асцепяніся.

Быдлюк, быдлюга — *хамаваты ці зладзеяваты.* Як стаў хадзіць у начальніках, дык такім быдлюком зробіўся. Гэты быдлюга так і пілнуіць, каб што сперці.

Бы́лле — *быльнік, дзікая трава.* Цыганскія хаты без сяней стаяць, гароды пазарасталі быллем да вокан.

Быць — *быццам, нібыта.* Сню, быць мы з Іванам ідзём лугам, а луг увесь у званочках.

Бягельня — *балота, прорва.* З гэтай бягельні век ня вылезіш.

Бягок — *бягун, быстры.* Такі ўжо бягок, што ўсюдых дападзець, усюдых паспеіць.

Бядзіць — *турбаваць, непакоіць.* Мне адно бядзіць, як гэта канцы з канцамі звесці.

Бяздолле — *нешчаслівасць.*

Закурыўся а дробненькі дожджык
Ды па чыстым полю.
Зажурыўся мой татулька
Па майму бяздоллю.

Бязлюднік — *нелюдзімы.* Бязлюднік і свайго голасу ня любіць.

Бязру́чыца — *няўмека.* Такая бязручыца — ні пашыць, ні памыць.

Бялюсь, белюсёк — *бялюткі, выпешчаны, дагледжаны.* Сынок мой, белюсёк мой, хоць нагледжуся на цябе.

Бярно — *бервяно.* Бярно ў бярно — аж звініць, усе бёрны здаровыя.

Бярэннік — *хто бярэ.* Было б што даць, а бярэннікаў знойдзіцца.

Бяспе́цкаль — *кепскі ўмец, няспрытны.* Бяспецкаль толькі псуець усё. Ці ж бяспецкаль можаць нешта людскае зробіць?

Бясштэннік — *бедны, хто нават штаноў не мае.* Бясштэннікі ў калхоз ціснуліся, каб ср.ку прыкрыць.

Вабіць — *прыманьваць, прыцягваць.* Ляснік быў, як на ваўкоў ішлі, ён выў ваўком, вабіў іх.

Вавіла — *мужчына, муж.* Вавіла ёсь, дык і дзеці ёсь.

Ва́ган — *тоўсты, пуцкалаваты малы.* Сядзіць ваган, як маленькі пан.

Ва́да — *урок, урачэнне*. На мальца вада нейкая найшла, сохніць і сохніць.

Вададых — *шустры, быстры, хваткі*. Ну й ён вададых які! (*Магчыма, іменне паганскага божышча.)*

Вадзі́цца — *дазваляць сябе весці*. Казёл не даецца вадзіцца.

Ва́дзіць — *уракаць, шкодзіць*. Хай табе ня вадзіць! *(Не ўрачэ.)* Хлеб у дарозі не завадзіць.

Вадзюга́ — *вадзяністае варыва, без навару*. Густое не жыдкое, а вадзюга гэтая, што з яе толку.

Вайлакі — *валёнкі*. Адлега, а ён без галошаў у вайлаках ідзець, мусіць, у яго ў галаве сто грам. Нага ў вайлаку — і мароз па баку!

Вайстрак — *востры канец, вастрыё*. Якраз у нажы вайстрак зламаўся.

Вайстранка — *болька*. Усё цела вайстранкі абсыпалі.

Валатоўка — *курган, насып*. А за валатоўкамі Доўжыца, рэчка-бягушка. Валатоўка была ў Крошыні, Букатачкай звалася.

Валяка — *гультайка*. Дзень паробіць, два не, такая валяка.

Валяны — *павалены*. Тут лес валяны, бура была ўсхадзілася.

Валяўка — *прастальытка, гулявая, даступніца*. З кім толькі ні валялася валяўка гэная, і яму загілела. І дачка ў яе валяка, валяшчая скурка.

Вандзэлак — *хатуль, клунак*. Бабкі, хапайце свае вандзэлкі.

Ванцак — *боль у жываце*. Ад ванцака зёлкі ў мяне ёсь добрыя.

Варанджа́цца — *прыкідвацца, строіць з сябе.* А не варанджайся ты дужа, быццам у цябе розум па патыліцы цячэць.

Варацáкі — *ваніты.* У яго жывот хворы, даводзяць яго варацакі.

Варголы — *даслоўна: голы вар.* «Я табе, сынок, сягоння варголы звару», — жартавала мама.

Вархопкі — *пажыткі, манаткі.* Пахапалі свае вархопкі й хутчэй дадому.

Вары́ўня — *будыніна, дзе гатуюць ежу.* Яна ў сваю варыўню ўсё цягніць.

Ва́тарга — *гурма, зборня.* Гляджу, едзіць цэлая ватарга, канца не відаць.

Ваўкаедня, ваўкаўня — *ваўчынае логава (логвішча, логаўе); ішчэ — няўтульная будыніна.* У ваўкаедні трох ваўчанят бачылі. У хаці, як у ваўкаедні, халодна. Хата пустая, як ваўкаўня.

Ваўкарэзіна — *абразлівы зварот да каровы, каня.* Стой, ваўкарэзіна, каб на цябе ваўкі!

Ваўначоска — *майстэрня, дзе чэшуць воўну.* Паўдня на ваўначосцы выстаяла, пакуль кузлак воўны счасала.

Вачапор — *вісус, накольнік.* Вачапоры на шкоду скоры. *(Даслоўна — хто порыць вочы.)*

Вашанок — *маленькая вошынка.* Вашанок у галаве засвярбеў.

Веяць — *гнаць, каціць.*

Кляновая лісціначка,
Куды цябе вецер веіць:
Ці ў бор, ці ў даліну,
Ці ў шчырую баравіну?

Вельмаваць — *прывячаць, частаваць.*

Ой, дзед, ты мой дзед,
А я твая бабка.
Шануй мяне, вяльмуй мяне,
Каб я была гладка.

Верасянка — *гліна, змешаная з верасам.* Гліну з дробна пасечаным верасам месяць і з гэтага робяць сцены абораў, хлявоў. *( На Ушаччыне бачыў у Двары Пліна.)*

Вернікі — *верныя ў каханні, у дружбе.* Наша дваіх зэкаў на самалёт правяла, такія яны вернікі — да першай падушкі.

Верхам — *мець уладу над некім.* Зямля па ім верхам была. Жонка па ім верх паняла. Па ім верхам едуць, як на пастуху.

Верхнік — *верхні камень у жорнах.* Ніяк не маглі верхнік узвалачы.

Ветрагон, ветрадуй — *ветраны, не гаспадар свайго слова, лёгкі на абяцанкі, пустадомак.* Ветрагону веры німа, толькі абяцанкі-цацанкі. Разумны ня чуіць, што ветрадуй ветрадуіць. Такі ветрадуй, што божа ратуй!

Відошна — *відавочна, яўна.* Тут жа відошна сасуды адкрыты. Відошна, што саўсім нядужая.

Вілатая — *у два ствалы (як вілы).* А ў нас на дворышчы бяроза вілатая стаяла.

Вілачнік — *куток каля печы ў парозе, дзе стаяць вілкі, чапёлы, гальні.* Пастаў у вілачнік свой кій. У цябе ў галаве, як у вілачніку, усё стоць стаіць.

Вірлун — *у каго вочы навыкаце.* Маўчыць, вірлун, толькі вірламі варочаіць.

Вірлы, ва́рлы — *вочы.* Што ты свае вірлы паказеліў — ніхто цябе не баіцца.

Вірун — *несутрымны, няўрымслівы.* Малы, як вірун, ні пастаіць, ні пасядзіць, кіпіць увесь. *(Магчыма, ад паганскага бога віроў.)*

Віхліцца — *круціцца, скакаць, лашчыцца.* Сабака віхліцца каля яго, есці хочаць. *(Ад віхляць хвастом.)*

Віхтáцца — *хістацца.* Галіны віхтаюцца на ветры, як не паламаюцца. Нага я віхтанулася, я чуць не заваліласяя.

Віцíна, выціна — *розга, дубец.* Віціну выхвачу ды адхварашчу пасярод Вушачы.

Вішнеўнік — *вішняк.* Вішнеўнічак выцыбаўся ўжо.

Вішшо — *вецце касатай бярэзіны, якое звычайна ламаюць на венікі да Пятра.* Пойдзем вішша наламаім, венікаў навяжам. *(Магчыма, першапачаткова гучэла як віссё, бо вісела.)*

Вобалачка — *аблачынка.* Ты, як ціхая вобалачка, плывеш.

Возерка — *азярцо.* І возірка такое кругленькае, як сажалка, яно топкае.

Возка — *заезд.* Дзве возкі зробілі, дык троху сена прывязлі.

Волаць — *танюткія, кшталту нітак, костачкі ў рыбнай мякаці.* Смашная рыбіна, алі волаці многа.

Вонка, вонкі — *за дзвярыма, на двары.* Чаркі трэба, і дзе ён дзеўся вонка?

Ворах — *страх.* Аж у мяне ворах па целу пашоў. *(Здаецца, што варушацца валосікі на целе.)*

Восець — *асець, гаспадарчая будыніна.* Восець пасадзіў на шасткі.

Вотачкая — *гэткая маленькая.* Спешка *(бульба)* вотачкая, гэта ж большанькая, а ёсь саўсім маленічкая.

Вотліж — *адлега.* Неяк на вотліж не пахожа.

Вотрыны — *рэшткі ад прасеенай мукі.* Бывала, што ў пірог падмешвалі вотрыны.

Вохкала — *хто вохкае, скардзіцца.* Гэта вохкала толькі кволіцца, а пабайнёй не заб'еш.

Ву́да — *віхлясты; яшчэ — сквапны, які ўсё вывуджвае сабе.* Што ты, як вуда, убакі ходзіш? Мікіта — добрая вуда, усё сабе грабець.

Вуды́р — *пухір.* Кіпенем ашпарыў руку, аж вудыр ускочыў.

Вужок — *вужанятка.* Маленькі вужок-бліскучыя вушкі. Вужка́ нехта забіў, а вужы́ца адна асталася.

Вужэлкі, вужла'ё — *неслухі, вачапоры.* Вужэлкі малыя так і пілнуюць, каб у шкоду залезці. Вужлаўё малое, галаву атлумілі.

Ву́лі — *галубы; яшчэ — галубоў прызываюць: вулі-вулі.* Вуляцькі-вулі, ляціце сюды, дзяўбіце пшаніцу.

Вуллё — *вулей, калода.* За вуллё кожнае падатак плаці.

Вуры́ць — *біць.* Як увурыў яму, дык ён далоў з усіх капылоў.

Вусацень — *вусач.* Вусацень гэны нічога ня робіць, толькі вусы падкручваіць.

Выбіцца — *спрацавацца, стаміцца.* Выбіўся як шпак на гэтай рабоці.

Вы́бушнець, пабушне́ць — *раздабрэць, наліцца сілай, вылюднець, памужнець.* Глядзі ты на яго, як выбушнеў. На вачах дзеўчынёшка пабушнела.

Выбыць — *адбыць, пражыць сваё.* Яна ж і нагой не кратала, выбыла свае дні.

Вы́вараць — *вывернутыя ветрам дрэвы.* Вывараць дарогу перагарадзіў.

Выгаліць — *накасіць.* Што ўжо сена выгаліла, на ўсю зіму будзіць.

Выграб — *збіранне, абіранне.* Летась кончык агуркоў пасадзіла, дык ім выграбу не было.

Выдурнівацца — *прыкідвацца, дуракаваць.* Не выдурнівайся — бярыся за розум.

Вы́залець — *азябнуць, азалець.* Вызалела дзень і карасіны не дастала.

Вы́зверак — *злы, звераваты.* Зяць у яе быў такі вызверак, дык яго забілі потым.

Вызнава́ць — *выведваць, разведваць.* Малога ў рыззё адзенуць, ідзець вызнаваць, дзе немцы адступаюць.

Вы́казаць — *выдаць.* Цябе б рэзалі, і ты ж бы выказаў нас.

Вы́камандаваць — *выхітрыць, з нічога нешта зрабіць.* Так не так, а ўсё-ткі выкамандаваў сабе на кажух.

Вы́канаць — *заходзіцца ад болю.* Руку яму адарвала, добра такі выканаіць.

Выкат — *выраз у сукенцы.* Такі выкат, што сіські вывальваюцца.

Выкаціць — *нарадзіць, прывесці.* Каза трох казлянят выкаціла.

Выла́джвацца — *збірацца, адыходзіць.* Выпраўляйцеся, выладжвайцеся, сваточкі.

Вы́ладнець — *папрыгажэць, паправіцца.* Так выладнеў на вачах, аж не пазнаць яго. *(Ладны — значыць пазорысты, паглядны.)*

Вы́лівень, вылівак — *яйка, знесенае без шкарлупкі; яшчэ — азызлы, адрузлы.* Калі куры ліюцца, ім таўкуць шкарлупінне ад яек. Вылівень ты гэткі.

Вылупак — *франт, хварсун, моднік.* Гэны вылупак са скуры вылупліваецца, абы надзецца ня так, як усе.

Вы́лупіцца — *прарэзацца, глянуць.* З раніцы цёпла было, сонца было вылупілася.

Вымагаць — *прасіць цану за тавар.* Платы не вымагала, колькі давалі, прадавала.

Вы́мантачыць — *выпрасіць, выцыганіць.* Ён усе грошы вымантачыў у маткі.

Вы́маўчаць — *змоўчыць, не зважаць.* Ён крычыць, я трываю, алі часам і ня вымаўчыш.

Вымышле́нне — *прыдумванне, выдумлянне.* Ён ня можаць без вымышлення, усё вымышляіць і вымышляіць, абы ня так.

Вы́мякшыць — *вырабіць, зрабіць мяккім.* Каб вымякшыла шкурку, дык ей добрая футрачка была б. Падушку вымякшыш, дык галаве лягчэй.

Вынас — *плата пастуху.* Не ў нос яму такі вынас, ласейшага чаго хацеў.

Вы́парак — *неслух.* І гэтыя выпаркі-рабяты такія зладзеі.

Вы́паўзень — *скурка, якую скінуў вуж.* Вуж рубашку скінуў; вужы, яны ліняюць, а тады сыходзіць з іх выпаўзень.

Выпіна́цца — *вытыркацца, вылучацца, сіліцца.* Кожны выпінаецца як можаць, каб якую капейчы-

ну заробіць. Ён перад начальствам выпінаецца, каб заўважылі.

Вы́пладзіцца — *вывесціся.* Сінічкі выпладзіліся, дзеці рукамі паролі, дык сініца адраклася.

Выпру́джвацца — *напінацца, выстаўляцца.* Выпруджваецца што сілы, каб яго заўважылі.

Вы́пукацца — *надзьмуцца.* Як мячык, выпукаецца й коціцца на кароткіх ножках.

Выраба́тываць — *выраблять.* Хата, дзе скуры партызаны вырабатавалі.

Выраблять — *зараблять.* Хай служыць, хай выраблясць сабе пенсію.

Вырай — *купка, куст.* У Грамніцкім бары знайшлі цэлыя выраі грыбоў.

Вырандржа́цца — *вычварацца, капызіцца, строіць з сябе.* А не выранджайся дужа, знаім, адкуль ты, дружа. Выранджаўся-выранджаўся, пакуль ня ўср.ўся.

Вырасці — *стаць, вывучыцца.* Ейны мужык урач, і яна сама на ўрача вырасла.

Вырва́н — *неслух, дуронік, вісус.* Вырваноў сваіх прышлюць на лета да дзеда.

Вырый — *яміна, адкуль выбралі торф.* У вырыі вада злецілася, густая стаіць.

Высадкі — *гароднiна, захаваная да вясны.* І есці хапіла, і на высадкі асталося.

Высачы́нь, выш — *вышыня, высакосць.* Высачынь такая — дух займаіць.

Вы́скрыпаць — *выстудзіць.* Зачыні дзверы, а то ўсё цяпло выскрыпаіш.

Выспрытніца — *налаўчыцца, набыць спрыт.* Выспрытніліся малыя абіраць вішні.

Выстар, выстарак — *перастарэлы.* Выстар-выстар, а за маладымі ўпальваець. Адны выстаркі асталіся, маладыя паз'ехалі.

Высцяробы — *высечаны й згруджаны алешнік.* У высцяробах маліннік пашоў.

Вы́талкаваць — *прыйсці да пэўнай высновы.* Нагаварыліся, паталкавалі, а нічога не выталкавалі.

Вы́тачыцца — *узысці, прарасці.* Вясной запахла, мята вытачылася.

Вытлуміць — *запамятаваць, забыцца.* Мазгі вытлуміла табе, нічога ня помніш.

Вы́тніца — *плакальшчыца.* Вытніца добра такі аплакала сваю суседку.

Вы́тушыць — *патушыць, пагасіць.* Трэба газ вытушыць.

Вы́хаджаны — *выгадаваны, падрослы.* Рабёнак яшчэ ня выхаджаны, малы.

Вы́хадзіцца — *зведаць гора; яшчэ — ачуняць, акрыяць.* Ён у яе выхадзіцца, узнаіць, дзе аракі зімуюць. Цяпер пітух адзін выхадзіўся.

Вы́харашыцца — *прыбрацца, прычапуры́цца.* Вымыішся, выхарашышся, дык і свет табе палюбеіць.

Вы́хартавацца — *прагаладацца.* Як выхартываіцца за дзень, дык вечарам усё з'есь. Аж духі падхартала *(падцягнула жывот).* Ён увесь падхартаны *(падцягнуты, станісты). (Ад харта — паляўнічага сабакі.)*

Вы́хвэндаць, захвэ́ндаць — *вынасіць вопратку, забрудзіць.* Выхвэндаў адзежыну, толькі сабаку ў будку.

Вы́цвіцець — *хапіць гора, нажыцца.* Выцвіціць яна яшчэ за ім, гэта пакуль ён такі добранькі.

Вы́церабіцца — *падрасці, падужэць, вылюднець.* Глядзі ты, выцерабіўся малец, не пазнаць.

Выцерак — *валяшчая.* Такі ўжо выцерак, усе цёрлі, а замуж запаўзла.

Вы́цыбацца — *вырасці.* Выцыбаўся малец нявогледдзю. *(Цыблы — доўгія ногі.)*

Выцюкнуць — *забыцца, вылецець.* Мне й з галавы выцюкнула, што збіралася на кірмаш.

Вы́чапкацца — *выбавіцца, выкараскацца.* Яна са сваёй хваробы ўсё-ткі вычапкалася.

Вы́чарнець — *учарнець.* Селіван вычарнеў, худы стаў.

Вычварацца — *капрызіцца, выкідваць конікаў.* Досіць вычварацца, пара за розум брацца.

Вычмура́ць — *прыдумляць.* Не вычмурай, чаго не было.

Вы́чыхацца — *выпарыцца, страціць градусы.* Заторкні чым бутэльку, а то гарэлка вычхаіцца й вадой зробіцца.

Вы́шчыгаліцца — *прыбрацца, прыфранціцца.* Вышчыгаліўся, як на вяселле.

Вышывальны — *для вышывання.* У мяне былі ніткі вышывальныя.

Выясніцца — *праясніцца, пасвятлець.* Сонца выясніцца, а потым узноў хаваіцца.

Вяза́нка — *звязка дроў, снапкоў.* Вязанку за плечы дый пашоў.

Вя́занка — *вязаная адзежына, свэдар.* Вязанку на плечы ўсторкніш, дык і мароз адступіцца.

Вязгала — *назола, звягло.* Змоўкні ты, вязгала!

Вязгаць — *плявузгаць.* Вязгаіш несусвеццянейкае.

Вя́зістае — *вязкае.* Вязістая дрэва — тапор ня хочаць браць, засядаіць у ім.

Вялічча — шмат, багата. *Невялікае вялічча ў яго, толькі багатага з сябе корчыць.*

Вянок — *рой.* Вянкі пчол на суках віснуць.

Вяркаць — *плакаць, падаваць голас (звычайна пра дзіця).* Хто гэта там вяркаіць?

Вярзці — *нагаворваць, плявузгаць.* Вярэць на яго абы-што, быццам ён ёй мяжу перадраў.

Вясельнік — *госць на вяселлі.* А вясельнікі пілі-елі й усмак пабіліся.

Вясна — *голад, бясхлебіца.* У іх летась такая вясна была, чуць выжылі. А сёлета вясны не было — да навіны дацягнулі.

Вятка — *натоўп, юрма.* Так і ходзяць вяткай цэлымі днямі.

Вяхотка — *звязаная з калючай травы, з вехця мачалка, каб шараваць посуд.* Вяхотку сшаравала, пакуль ададрала кацёл.

Вячніна — *трывалае, моцнае.* Новы кажух — гэта ўжо будзіць вячніна.

Гадавік — *жывёліна, якая гадуецца год.* Гэты парасяты не гадавікі.

Гадзі́ць — *дагаджаць.* Яму гадзіш як благой скуле, а ён цябе ня бачыць.

Гадкі — *брыдкі.* А то ёсь, як рапені, такія гадкія бабы, ідзець, а ў яе жывот на жываце, трыбух на трыбуху.

Гайдамаха — *гуляка, раскідаха.* Ён такі не гайдамаха — не прап’ець.

Галабоні — *букі, дурніцы; яшчэ — п'яніцы.* Гэта ўжо галабоня надрузлая, адваленая, такая наспелая сядзіць. Галабоні — п'яніцы гузаватыя!

Галабурда́ — *лухта, несусвеціца.* Ён нясець усякую галабурду як наняты.

Галавабой — *слізгоцце.* Як падмерзніць — галавабой будзіць.

Галавар — *кіпень, голы вар.* А на снядання галавар.

Галайстра́ — *голь, галеча.* І ў Расіі такая галайстра.

Галамызы — *бязвусы, з голым тварам.* І гэны галамызы жаніцца хочаць.

Галаnож — *у чаравіках на босую нагу.* Пахмяліцца дык галанож прыпёрся.

Галаруч — *голымі рукамі.* Нёс ваду галаруч, рукавіцы забыўся.

Галасуха — *плакса.* Я такая галасуха была малая.

Галата́ — *голае месца, поле.* Стаяць недзі каровы на гэтай галаце, травы німа.

Галдуечыць — *казаць, балбатаць незразумелае.* Збяруцца жыды: гылды́-гылды, галдуечуць, пакуль языкі не запацеюць.

Гале́заваць — *цягацца.* Галезаваіць па дарозі, клопату болі ня маіць.

Галень — *сшараваны венік, ад якога засталіся адны голыя дубцы.* Кінь ты гэты галень, ужо ўшчэнт сшараваўся.

Галець — *жыць ў нішчымніцы, не меиь чаго абуць, надзець.* Пагалела б, тады б знала, а то ей матка прэць і прэць.

Галіна́ — *схільнасць, прызванне.* Яго сыны пайшлі па сваей галіне: адзін лекар, а другі начальнік.

Га́ліцца — *квапіцца.* На чужое ня галься, згубіш сваё. Пагаліўся на багацця й узяў пабойню.

Галута — *безлістоўе, бясснежжа.* Уся восінь галутай стаіць — ні лісту, ні свісту. Зіма сёлетняя галутай адстаіваіцца, гола будзіць у засеках. Вясна чарнатой стаіць, галутай.

Галы — *прагны, ахвочы да нечага.* Пітух на ежу гал, гатоў усё з'есці. На дзевак галы, як кот на сала.

Галяк — *голае месца, дзе вытаптана й спасчана трава.* Казу на галяку навязала, дык яна й сквярэцца.

Га́мнуць — *схапіць, узяць.* Знахопу як гамніць, аж я знячы́веліла.

Гамолка — *акраец, луста, скібка.* Добрую гамолку адваліў, сабе не пашкадаваў.

Гамонак — *гамана, гамонка.* П'яны прыдзіць, тады гамонку будзіць.

Гандлёўшчык — *гандляр.* Цяпер усе хітрыя ў гандлёўшчыкі пашлі, дурных німа.

Ганьбаваць — *грэбаваць.* Анічым не ганьбуе, абы кішэню напхаць.

Гара — *гарышча.* Усцягнулі сена на гару, паспелі.

Гарадзішча — *плот, загароджа.*

Ой, вырасла лебяда
Вы́шей гарадзішча…

Га́рды — *горды, каго заела гардыня.* Ён чалавек гарды, абы з кім чарку ня возьміць.

Гарлач, гладыш — *гладкі, паліваны збан.* У гарлачу добра захоўваць крупы.

Гарнушак — *невялікі збанок, болей нагадвае конаўку.* Выпі, выпі, мая душачка, з поўненькага гарнушачка! *(Мама любіла прыгаворваць.)*

Гарчавая — *гаркаватая.* Капусту рана ссеклі, дык яна й гарчавая.

Гарчак — *горкі яблык, напой, пах.* Адных гарчакоў натры. Гарчаку хлібнуў, аж вочы на лоб палезлі. Перац рассыпала, дык смурод на ўсю кухню — гарчак пашоў такі.

Гарэлішча — *пажарышча.* На гарэлішчы пра агонь не гаворуць.

Гарэць — *цвісці.* Агуркі ўжо гарацць, самы цвет.

Гасціна — *застолле, бяседа, госці.* У добрай гасціні душа спачываіць.

Гасціцца — *гасцяваць.* І жылі мы душа ў душу, гасціліся-радніліся.

Гату́ — *вокрык адпуджвання.* Мы на ваўка: гату, гату, а ён хамыль-хамыль і пашоў.

Гаўкала — *брахлівы сабака.* Ён жа такі гаўкала, ляпа не сцішаіцца.

Гаціць — *працаваць.* Ён гаціць на іх увесь век.

Гбанікі — *палазы ў санках, якія гнуць у адрозненне ад капанікаў.* Трэба ўмець выбраць лясіну на гбанікі, каб не сукаватая была.

Гбацца — *гнуцца.* Нага ня гбаецца, неяк хадзіць.

Гваздкі — *гваздзікі.* Ужо й гваздкі прабіліся, неўзабаве загарацца.

Геройка — *смелая.* Ты такой геройкай ня будзь.

Гешэфт — *справа, інтарэс.* Усё гешэфты нейкія водзіць з ім. *(Ад ідыш — здзелка.)*

Гібель — *шмат, процьма.* Сёлета ягад гібель.

Гілець, загілець — *гарэць; яшчэ — дужа захацець.* Загілеў малец жаніцца, і слухаць нікога ня хочаць. *(Адсюль, відаць, і гіль, і карова чырвонае масці — Гілёня.)*

Гладка — *зусім, ушчэнт.* Гладка забылася, чаго прышла сюды. Гладка збяднеў.

Гладкі — *укормлены, дагледжаны, спраўны.* Ад таго казак і гладак, што пад'еў і набак. Яна баба гладкая, спраўная.

Гламызда́ — *нязграбны, неахайны.* Такая ўжо гламызда, аж глядзець страшна.

Глінабітка — *хаціна з жэрдзя й гліны.* У глінабітцы зіму пераэкылі.

Глінянік — *гліняны гаршчок.* У гліняніку крупы лепі ўпрэюць.

Глотнічаць — *гарланіць, ірваць глотку.* Нячым глотнічаць, лепш справай займіся.

Глушні́ — *вушы (грэбліва).* Што табе — глушні пазаклала, што ня чуіш?

Глыжы, глыжэўе, груд — *засохлыя, зацвярдзелыя камякі зямлі.* Дождж як пашоў, глыжы пабіў, бульба ўзялася, пашла ў рост. Хто палку возьміць, а гэтыя дык грудам.

Глык — *глыток.* Піцця таго ўсяго на два глыкі.

Глюганосы — *глюгаты.* І прыляцеў глюганосы крук.

Глю́ма — *глюкаты; яшчэ — няветлы.* Глюма такая страшная сядзіць, слова ня скажа.

Гнётка — *тоўстая кішка.* Такую грузь падымаў, аж гнётка вылезла.

Гнілі́на́ — *хваравіты, слабы на здароўе, запа́длівы.* Такая ўжо гніліна, вецер дыхнець — валіцца.

Гнуцікі — *санкі з гнутымі капыламі.* Гнуцікі такія лёгкія на бягу.

Гняваш, гнявы (мн. лік) — *гняўлівы, сварлівы, злапомны.* У гневаша не на мейсцы душа. Гнявы ня ставяць хлявы.

Гнянýць — *ударыць, грымнуць.* Як гнянý, дык доўга помніць будзіш.

Гой — *адчайны чалавек, разак.* Такі гой — нікому не саступіць.

Гойкаць — *гукаць, крычаць, клікаць.* Гойкала-гойкала, каб хто дзе. Вы тут грыбы сабірайце, мяне не чапайце, ня гойкайце.

Голлю — *галяком.* На дварэ зіма, а рабёнак голлю бегаіць.

Гоміна — *шум, вэрхал, гам; яшчэ — чутка, прачутка.* Гоміна на ўсю хату, нічога не разбярэш. Далёка пра яго гоміна пашла.

Гоншчыкі — *хто гоніць плыты.* Зімой на рум звозюць лес. А вясной, як лёд сходзіць, з пакоту з гары пускаюць лясіны, а іх па рацэ гоншчыкі гонюць.

Гоп — *гукаперайманне.* На адным чаравіку заднік ёсь, а на другім німа, ідзець — адзін гоп, другі шлёп.

Грабёлка — *грабянец, часадла.*

> А пара-пара грабёлачкі шукаці,
> А пара-пара русую коску часаці.

Грабінá — *труна, дамавіна.* Якую грабіну зробілі б, дык і з нечага.

Гравінь — *гравій.* Дарогу гравіням усыпалі.

Граміла — *вялікі, здаравіла, моцны; яшчэ — нясклáдны.* Грамілу гэтага толькі ў аглоблі запрагаць. Гэны граміла паверніцца, дык і перакуліць лёгка.

Грокат — *грукат.* Ён без нагі, паваліцца — будзіць грокату.

Ругніць — *бубніць, мармытаць*. Нешта ругніць, а я пра сваё думаю.

Гру́да — *змерзлая глеба, без снегу*. Па грудзі йсці — як на злом галавы.

Гру́дам — *гуртам, юрмой*. За ёй кавалеры грудам валяць.

Груза́лкі — *кавалачкі*. Гарбуз разварыўся, толькі грузалачкі дзе-нідзе пападаюцца.

Грузь — *цяжар*. Такую грузь валок, во здаравіла.

Грыбёт — *хрыбет*. А пітух заядлы такі — куры́цы выдраў увесь грыбёт.

Гры́вісты — *з грываю*. Конік у нас быў грывісты, спраўны, ляціць, а грыва віх-віх, як мурог пад ветрам.

Грыжа́нка — *бручка*. Грыжанка маладая смачная, хрупаіш і хрупаіш.

Грымотнік — *зёлка*. На лузе расцець грымотнік, рыхтык дзятлінка. Як гром грыміць, збіраюць, пасля свенцяць і кураць хату.

Гудзець — *калі свіння кнура хоча*. Свіння гудзіць, да кнораза трэба весці.

Гука́ць — *гутарыць, талкаваць*. Хоць пагукала з добрым чалавекам.

Гулы́ — *водгулле, рэха*. Хата пустая — аж гулы йдуць. Пярун як ударыць — гулы далёка йдуць.

Гумовікі — *гумовыя боты*. У гумовіках і ў балота, і з балота — і нага сухая.

Гумонны — *ганарысты, фанабэрысты*. Гумонны — куды там, нікога, апрыч сябе, і відам ня відзіць.

Гурунцавацца — *хвалявацца, халяравацъ, кіпяціцца.* Не гурунцуйся гэтак, усё ўладзіцца, пагурак *(жывот)* згладзіцца.

Гусíца — *гусь.* Як гусіца тая ходзіць, валюх-валюх.

Густыш, гусцё, гусцёж, гусцяк, гусцяёк — *густое ў варыве.* Увесь густыш з капусты выцягаў, а жыжку пакінуў. Ты яму гусцяйку чарэпай.

Гутатáлка — *гушкалка.* Малы на гутаталцы й начаваць гатовы.

Гутатáць — *гушкацъ.* Пагутатай малога, каб ня роў.

Гэтазны — *гэткі вялікі.* Во гэтазны гарбуз пуза сабе адлежаў, не падняць.

Дабрапсуй — *хто дабро псуе.* Купіла б мужыку пінжак, ды гэны дабрапсуй яго ўсё роўна зблоціць.

Дабрацца — *пачацъ, падрыхтавацца.* Ой, дзеўка, глядзі, дабяруся я да цябе!

Дабрынá — *збажына.* Сёлета дабрына надзіва ўрадзіла.

Дабурá — *дыбарам.* Вецер пер'е ў вераб'я дабура становіць.

Дадушы — *далібог.* Дадушы, ня помню, як гэта ўсё было, а маніць ня ўмею.

Дажаўтá — *падрудзіцъ, давесці да жоўтага колеру.* Бульбу неяк было дажаўта паджарыць.

Даладон — *упарты балбатун.* Ад гэнага даладона галава забаліць, суціху яму німа.

Далбак — *дурань.* Гультаю й далбаку ўсе клапоту пабаку.

Далізоўка — *прышчэпка.* З лесу дзічку прынясліі, далізоўку зробілі, прыдалізавалі, цяпер яблычкі садовыя смачныя.

Даліктун, даліктуха — *пяшчотнік, спешчаны.* Такі ўжо даліктун — не дыхні на яго.

Далука́х — *на зямлі, падлозе, доле.* Восы выядуць ігрушы, толькі шалупкі ляжаць далуках. Рабёнак далуках ходзіць.

Далячэй — *далей.* Віцебск ад нас далячэй, чым Лепля.

Данава́ — *чыста адмыць, адчысціць.* Рачным пяском кацёл данава адшаравала.

Дапава́лу — *перабраць меру, паваліцца.* Як пойдзіць да той сіўкі, дык яна напоіць яго дапавалу.

Дапакату́нку — *да ўпаду.* Напіўся дапакатунку й крычыць ратунку.

Дапэўна — *пэўна, дакладна.* Дапэўна ведаю — яны вяселля згуляюць.

Дарагоўля, даражынння́ — *дарагавізна.* Сёлета такая дарагоўля, нічога недакупіцца. Страх ісці на базар, даражыння такая!

Дардоха — *здаровая, дзябёлая.* Дардоха дзеўка — і ў кола і ў мяла.

Дармаватая — *ладная (бульба, свіння), нічога сабе.* Сёлета, дзякаваць богу, бульба ўрадзілася дармаватая.

Дармавей — *танней, дзешавей.* Яму дармавей былі работнікі.

Дармавізна — *дармовае, дадзенае, падоранае, набытае без платы.* Хочуць усе дармавізны, дзе ўдасца, а дзе й не.

Дары́цца — *дзяліцца.* Мы ўсім дорымся з ей.

Дасачыць — *дагледзець, дапілнаваць.* А ўсё-ткі дасачыў, куды злодзя падаўся.

Дасвятком — *досвіткам, на світанку.* Трэба паспець на аўтобус дасвятком. Дасвятком дамоў прышоў.

Даспанаваць — *дакладваць, казаць, паведамляць.* Яна яму ўсё даспануіць.

Дасуха́ — *ссушыць.* Скваркі дасуха зжарыла.

Дасэні — *узоры.* Настольнік тканы, увесь у дасэнях.

Даўгалытая — *даўгалыгая, цыбатая, даўгацыбая.* І Сцяпан, і жонка яго даўгалытая.

Даўгіла — *высокі, цыбаты.* К ей даўгіла прыбіўся, на ім хоць сабак вешай.

Даўжом, даўжо — *даўгія дровы.* Не парэзалі на кароткія, так даўжом і клалі.

Дахаладна́ — *астудзіць, выстудзіць.* Дахаладна астудзіў самагонку, пілася, аж душа смяялася.

Дашчанік — *будынінка, збітая з дошак, паветка, абабітая дошкамі.* Па дашчаніку вецір гуляіць, як па вуліцы. Сена склалі ў дашчанік, дождж не дастаніць.

Дашчурка, достачка — *дошчачка.* З дашчурак збіў шпакоўню, як вясна прышла.

Даясна́ — *нагрэць да чырвані, да белаты.* Нагрэў даясна, тады каваць пачаў.

Двайнюкі — *двайняты.* Двайнюкоў ёй салдат ўлупіў.

Дварніцца — *дваіцца.* Яму ўжо ў вачах дваяніцца.

Двойні — *вілы на два зубы.* Двойнямі добра гной накладаваць, а сена лепі тройнямі.

Двух’які — *двух гатункаў.* Абаранкі двух’якія ў краме.

Джагнуцца — *стукнуцца, урэзацца.* Джагнуўся ілбом у бярэзіну — аж іскры з вачэй.

Джвых — *імгненна.* Я крыкнула, а воўк джвых — і знік у гушчарах.

Джгнуць — *лупянуць дубцом, крапівой, розгай.* Як джгнеш дубцом па ср.цы, дык будзіць старацца.

Дзелізна́ — *агрэх.* Што баразна, дык дзелізна.

Дзеўчынёшка — *дзяўчо, падлетак.* Ужо дзеўчынёшка, а ўсё яшчэ ў лялькі гуляіць. І Стахванава дзеўчынёшка ўжо выладнела.

Дзеўчыцца — *калі дзяўчо хоча пачуваць сябе дзеўчынаю, пераймаць дарослыя манеры.* Ня вырасла да стала, а ўжо дзеўчыцца пачала.

Дзецяроб — *у каго багата дзяцей.* Руплівага дзецяроба баіцца хвароба.

Дзівіць, дзіваваць — *здзіўляцца.* Хто на яе дзівіць будзіць, на страхоцце такое?

Дзіклі́вы — *дзікаваты, нелюдзімы.* Малец дзіклівы, усіх дзічыцца, як у лесі вырас.

Дзічка — *барадаўка.* А наша баба ўмеіць дзічкі зводзіць.

Дзічына́ — *здзічэлы выпас, луг.* Выпасу німа — адна дзічына, калхоз усё абсеяў лубінам, луг заліло.

Дзюгнуць — *выпіць, глынуць.* Добра дзюгнуў, чуць сябе нясець.

Дзюк — *дзёўб.* Знайшоў пітух ягадзіну, дзюк — і курам аддаў.

Дзялёнка — *папаска.* Узяў дзялёнку сала ў дарогу.

Дзяло — *клопат, справа.* Вот маё дзяло якое.

Дзянне́цца — *світаць, днець.* Ужо дзяннецца стала, а яго ўсё німа.

Дзяннік — *двор, мясціна ў атачэнні хаты й гаспадарчых прыбудоў.* З хлеву выйдзіш, і дзяннік загароджаны паміж хлевам і хатай, бываіць крыты.

Дзярноўе — *дзёран.* Каб знаў, абклаў бы магілку дзярноўем.

Дзяўчур — *як бы паддзяўчына.* Усё малая-малая, аж, глядзі ты, дзяўчур які.

Длінноцце — *цягамоціна.* Ад яго длінноцця аж моташна зробілася.

Днішка, дэнца — *кавалак гладка абструганай дошкі, на якой крышаць сала, цыбулю; яшчэ — донца.* Што ты на стале крышыш, вазьмі днішка. У даёнцы дэнца замяніў.

Довеч — *давеку.* Касцюм у яго быў довіч як новы.

Дойкі — *цыцкі ў каровы, казы.* Яна ў мяне аказіла двойню, дойкі па кружцы, яна ў мяне аддоіцца.

Дойніца — *дойная карова.* У Грышчыхі добрая дойніца, малака ўсім хватаіць.

Досвіцце — *досвітак.* Ад досвіцця каня шукаю.

Досуг — *дападлівы паўсюль.* Куды ні павярніся, досуг гэны тут як тут. *(Чуецца — дасягаць.)*

Дохля — *худы, лядашчы, галодны.* Гэта дохлі такія ходзюць каля столу *(каты).*

Драбнасюр — *дробязны, скупаваты.* Ён і над запалкай трасецца, драбнасюр, адным словам.

Драбняк — *малыя дзеці.* У Бурачыхі самы драбняк астаўся, а большыя павырасталі.

Драбязлівіцца — *раскідвацца па дробязях.* Чаго ты драбязлівішся, лепш бы справу робіў.

Драміла, драмлюга — *сонны, снулы.* Я такі драміла, што ўсе мяне абганяюць.

Драпачы́ць — *танчыць*. А ён польку драпачыць, аж гараць падэшвы.

Дру́гацца — *грукацца*. Лягла, толькі ўспалася — другаіцца ў вакно.

Друза́ — *друз*. Адна друза ляжыць, каб што цэлага.

Дру́ка — *нязграбная, нягеглая*. Такая друка, дзе паверніцца, там і ўпер.ніцца.

Друкі — *азярод, пярэплат*. На друках снапы высахнуць.

Дрыгба́ — *топкая зыбістая мясціна, усё узбаўтанае*. Узбіўся пацёмначы ў дрыгбу, як толькі ногі выцягнуў. Квашаніна не застываіць і дрыжыць, як дрыгба.

Дрыгі — *ногі*. Ляжыць, задраўшы дрыгі.

Дрыжа́ка — *дрыжыкі, зябікі*. Змёрз на лядзень, без суціху дрыжака б'ець.

Дрыль — *рыдлёўка*. Дрыль кругом жалезам абсаджана, а сама лапата дзеравянная, ёй добра й біцца й мірыцца.

Дрэнчыцца — *капрызіцца*. Дамінічка не выспалася, вот яна й дрэнчыцца.

Дубі́ць — *біць, лупцаваць*. Жонцы кішкі выпусціў, ён яе й дубіў!

Дубкі́ — *на дыбы*. Конь стаў дубкі, як воз не абвярнуў.

Дуброва — *выган*. А ўжо каровы на дуброві.

Дуддзё, дудкі — *дубцы, галлё, быллё*. З быльніку венік звяжу, дык дуддзё каза паесь, а красную лазу ня любіць.

Ду́ды — *клопат, справы*. Усе дуды набок, трэба збірацца.

Дукрыць, здукрыць — *кеміць, петрыць; скеміць, прыдумаць.* Гэта яна дык добра дукрыць, як мужыка пад'юшыць. Глядзелі яны, глядзелі, тады нешта здукрылі.

Дукса — *нязграбны чалавек, няўмека.* У duксы рукі — крукі, ні да пугі, ні да навукі. *(Аднакарэннае з латышскім dukšă — ашалелы.)*

Дунай — *проста рэчка, асабліва ў народных песнях; яшчэ — сімвал прыгажосці й здароўя, чыстая, быстрая, як рака.* Шлець мяне маладу ў дунай па ваду. Дунай-дзеўка, вачэй не адарвеш.

Дуплё — *гняздо.* Там галуб дуплё сабе зробіў.

Дуралоб — *дурны, дуроны.* Ня малец, а дуралоба кусок!

Дуркеша — *дурнічка (спачувальна).* Хто ездзіць, хто плывець, а наша дуркеша чэшаць пеша.

Дуронік — *гарэза, распушчаны.* Такі дуроны, такі дуронік, нікога ня слухаіць, робіць што хочаць.

Дурэць — *гарэзіць, сваволіць.* Досыць дурэць, пакуль розгай не атрымаў.

Дух — *цяпло.* Дым не пашоў у комін, даўно не топлена, і ў хаці дымны дух.

Душні́к — *засланка, люшка, якая зачыняе дымаход у печы.* Адчыніш душнік — дым пойдзіць.

Ду́шны — *душэўны, спагадлівы.* Чалавек ён душны, людское гора ведаіць.

Дыня — *пахвіна, пах.* Стахван як падарваўся, грузячы мяхі, дык з дыняў кіла вылазіць. Пахі дынямі завуцца.

Дэрба, дэбра, дэрбіна, дрэба — *хударэбрына; яшчэ — няўвішная.* Такая дэрбіна, аж рэбры бражджаць. А мая во якая дэрба, ні да чога.

Егімора, гімора — *пачвара; яшчэ — непрыгожая жанчына.* Спі, неслух, а то егімора прыдзіць. Анця — гімора чыстая, а глядзі ты, якога хлопца забратала.

Еданіна — *ежа, едзіва.* Еданіны было — хоць пуза распераажы.

Еджанае — *тое, што ўжо елі, спытвалі.* Смятана ў слоіку няеджаная, запраўляй халаднік.

Езданіна — *язда, паездзіны.* Лепі дрэнная езданіна, нячым добрая хаданіна.

Е́менка — *бульба на спажытак.* Еменка на емя, а семенка на семя.

Ендза — *хто енчыць.* Ад гэтай ендзы й сам заплачаш.

Енкат — *енк.* Каго ўжо там б'юць, што енкат такі стаіць?

Есціся — *зацята брахаць, зва́дзіцца.* Усю ноч сабакі еліся, не давалі спаць.

Ешчы — *добры на ежу.* Парасёнак папаўся ешчы, нейкая скварка к зіме будзіць.

Ёкат — *екатанне.* Хваціла ёкату, пакуль яго ўгаманілі.

Ёлкае — *гаркаватае.* Леташняя сала ўжо ёлкае, ялчыць на языку.

Ёўня — *халодная гаспадарчая будыніна.* У хаці, як у ёўні.

Жабурынне — *жабіна ікра.* У жаб нораст пачаўся, жабурыння поўная сажалка.

Жаласнік — *той, хто спачувае, жалее.* Жаласніца знайшлася, хочаць заплакаць, ды ня ўмеіць.

Жаркота — *гарачыня.* Надаела нашай гаспадыньцы жаркота-пякота.

Жа́рнуць — *ударыць з усёй моцы.* Мой убытак, твой прыбытак, дай раз жарнуць паміж лытак.

Жарсцвяк — *пясок, жарства.* Нічога не расло — адзін жарсцвяк на гародзі.

Жаўжаняткі — *малыя жвавыя дзеткі.* Для маткі роўныя ўсе жаўжаняткі.

Жаўцяк — *жоўць; яшчэ — пясок.* Жаўцяк у рыбы выцек. Капалі яму — адзін жаўцяк.

Жахоцце — *жах, жудасць.* Такога жахоцця нагаварыў, валасы дыбам сталі.

Жванікі — *пажванае едзіва, якім, бывае, кормяць малога, яшчэ бяззубага.* Сама еш жванікі свае, а мне ня торкай.

Жму́рнуць — *міргнуць, зірнуць прыжмурана.* Нічога не сказала, толькі вачмі жмурнула.

Жмут — *жменя, пук сена, травы; яшчэ — скупы чалавек, скнара.* Хоць жмуток сена ды ўкініш у яслі. Такі ўжо жмут, такі жмудзяк, што зімой лёду не пазычыць.

Жогаль — *быстры, шустры.* Куды б ні пашоў, а жогаль жох — тут як тут. *(Магчыма, адзін з адменнікаў божышча агню.)*

Жор — *жыраванне; яшчэ — апетыт.* Якраз рыба на жор пашла. Як нападзе жор, дык сабаку б, здаецца, зжор.

Жудзель — *парасё.* Жудзель як заваліўся ў лужыну, дык і вылазіць ня хочаць.

Жур — *аўсяны кісель.*

Як кісель ды кісель дык і жур густы.
А каб тому кісялю чырвоныя боты...

Журбіна — *чужына.* Паехаў казак на журбіну...

Журыла — *дакучнік, ныцік.* Мяне жонка не зажурыць, я сам добры журыла.

Жывасіллю — *праз сілу.* Жывасіллю ўпёрлі мне гэткае дабро.

Жывацiна — *жывёла, птаства.* У гаспадарцы павінна быць жывацiна.

Жывiна́ — *жывое.* Ката прынесла ад суседкі, усё ж жывiна ў хаці нейкая.

Жы́галка — *быстрая, порсткая; яшчэ — жарсная.* Малая такая жыгалка, як маланка. Так і жыгаіць жыгалка, каб за якога мальца зачапіцца.

Жыгун — *спрытны ў заляцаннях, юрлівы.* Такі жыгун у смаляной кабылкі выпрасіць і мёрзлай сучцы ўцісніць.

Жыдавешачка — *яўрэечка.* Такая ж ладная жыдавешачка — дачушка ў Сімкіна! *(Колькі цеплыні!)*

Жыдзель, жыдзеллё — *рэдкая страва.* Зварыць жыдзель такі, хоць сёрбай, хоць пі, хоць галаву мый.

Жыллё — *жылы.* Ей атняло ногі й жыллё падцягнула.

Жы́маласны — *падцягнуты, зграбны, паджары.* А нашто лішняе мяса, мужыкі такія жымаласныя, крэпкія.

Забагацець — *зрабіцца багатым.* І забагацеў Мікіта, аж страшна.

Забарса́ць — *зашнураваць.* Чаравік разбарсаўся — развязаліся шнуркі.

За́барсні — *халяўкі.* Халяўкі, якія забарсаваліся, і зваліся забарснямі. Снег ужо ў забарсні *(глыбокі).* Па забарсні снег *(не дужа глыбокі).*

Забаяцца — *спалохацца.* А я забаялася, што не застану іх.

Забла́жыць, збла́жыць — *зашкодзіць.* Табе не заблажыць схадзіць да лекара. Вып'еш паўшлянкі, і яна цябе зблажыць.

Забледыш — *бледны, зніцелы.* Забледыша й вецер убакі водзіць.

Заблу́д — *аблуда, атлум.* Гарэлка заводзіць у заблуд іх.

Забра́жыцца — *закіснуць, пачаць брадзіць.* Ягады ўжо забражыліся, доўга ляжалі ў слоіку. Пі яблычны сок, пакуль не забражыўся.

Забратаць — *абкруціць.* Забратаў карову за рогі й павёў. *(Відаць, ад аброці.)*

Забрусець — *зрабіцца цвярдым, як брус (пра вымя); яшчэ — пра твар (з адценнем агіды ).* У Гілёні віма забрусела. У гэнага начальніка й морда забрусела.

Забутэліцца — *запіць.* Забутэліцца так можна, што ад гарэлкі памрэш.

Забыць — *адбыць.* Паспела сваю радоўку забыць.

Забягалаўцы — *хто забягае выпіць на хаду.* Забягалаўцы п'юць з чарак дый з карэлых яшчэ.

Забяліць, засівіць, прысіві́ць — *трошкі забяліць булён, суп малаком.* Троху суп забяліла, а ўсё ж ня посны. Малака — толькі засіві́ць капусту. Хоць трошкі прысівіш булён, усё ж смачней.

Зава́дзісты — *пышны, багаты.* Бярэзіна завадзістая пад вакном, аж на душы спакой.

Заваліцца — *сканаць, памерці.* Не дачакаюцца, каб я заваліласся.

Завінацца — *шчыра ўвіхацца.* Яна так завінулася каля печы, што бліны самі на стол скакалі.

Завітушкі — *маладыя качаны капусты.* У мяне засталіся толькі завітушкі.

Завод — *развядзенне, гадоўля.* Купіла дзвюх курачак, а ўсё завод быў. Авечкі свайго заводу, воўна ў іх густая.

Заводлівая — *купленая ці пакінутая на завод.* Гэта заводлівая карова.

Завозер'е — *мясціна за возерам.* У завозер'і чарніц гібель.

Завознік — *той, хто стаіць на млыне ў чарзе (у завозе).* І завознікі пакалелі, і коні перастаяліся.

Заву́гліцца — *абгарэць.* Плашка завуглілася, цяпер ей і веку ня будзіць.

Завядолец, завадатай — *завадатар.* А гэтаму завядольцу абы ўсіх узбунтаваць. А ты, завадатай, пасядзі за хатай!

Завя́зак, за́вязка — *завязь.* Агуркі ад першага завязку памочаныя, яны размякчэць маглі.

Загавеніць — *добра зачарэпнуць.* Сабе мёду дык загавеніў, аж лыжка трэснула, а мне — рука задрыжэла.

Загаіць — *вылечыць, адратаваць.* Кот сам сябе загаіў, знайшоў траву.

Загібець — *сканаць, дайсці, загнуцца.* Ад такой працы я зусім загібею.

Загон — *запас, затай на чорны дзень.* Пенсію палучаіць, дый загону многа тысяч ёсь.

Заграшылася — *з'явіліся, завяліся грошы.* Як у яго заграшылася, адразу па гарэлку пабег.

Загруднік — *хвартух.* Які ў цябе загруднік модны, з гузікамі.

Загудзець — *засяваць*. Тады я загудзела гэту песню.

Задабурыцца, задубарыцца — *заўпарціцца, устаць дыбам.* Задабурыўся, хоць ты кол яму на галаве чашы. Конь задубарыўся ні з тога ні з сёга.

Задаўнець — *тое, што пачалося даўно.* У яе хвароба задаўнела, і лечыць цяжка.

Задзірака — *задзіра, яршысты.* Нарваліся задзірака на неўступаку.

Задрыга — *нягеглы.* Гэтага задрыгу й дзіця адолеіць.

Задушша, удушша — *астма.* Душыць яго задушша даўно. Саўсім задушыла яго ўдушша гэна.

Задылдаваты — *заносісты, пыхлівы.* Ня столькі багаты, колькі задылдаваты.

Зажыць — *справіць, набыць.* Сусед Піліп сабе веласіпед зажыў, насабіраў грошы.

Зазвярэць — *азвярэць, узлець, улюцець*. Так зазвярэў — не гавары да трох. Ён зазвярэў — на людзей не глядзіць.

Займішча — *распачаты, прамечаны кавалак жніва, касьбы.* Заняў займішча — куды там, ці справіцца толькі.

Закалец — *вязкі слой у бохане.* Хлеб з закальцам спёкся. Закалец у палец.

Заканурак — *куток, закутак*. Схавацца заканурак знойдзіш. Мышка ў заканурак, а кот за ёй.

Закіпцюрыць — *ухапіць, сцапаць.* Сабе дык лепшае закіпцюрыў.

Заклямчыць — *зачыніць.* Пабегла Хадосся на кірмаш і хату не заклямчыла.

Закокаць — *падаць голас (пра пеўня).* Як пятух закокаіць, куры бягом.

Закотам — *закочваючы.* Цяжкое бярвенне на машыну закотам грузілі.

Закрапáцца — *заблытацца.* Ідзі дапамажы, каза закрапалася.

Закраса — *скароміна, прыправа да стравы.* Смачны суп наварыла — з закрасаю.

Закрутáць — *дужа, крута захацець, загарэцца.* Бач ты, закрутала дзеўка замуж.

Закукярэчыцца — *задраць нос, закапызіцца.* Закукярэчыўся так, што сваіх не прызнаець і чужых ня знаіць.

Закурносіцца — *заганарыцца, задраць нос.* З'ездзіў малец у горад і закурносіўся.

Залéтаваць — *застацца на лета.* Скасі траву, каб не залетавала. Трэба рассаду высадзіць, а то залетаваіць.

Залівéнь — *заліўны дождж, залева.* Залівень як запражэцца, дык свет белы заліць гатоў.

Залобак — *франтон.* Забілі залобак — і на гарэ зацішна стала. У залобку ластаўка гняздзечка зляпіла.

Залужэ́нне — *нізкая мясціна за лугам, лугавіна.* Ішла нізам, залужэннем, далей ад людскога вока.

Залы́сіць — *задзерці кару на дрэве.* І які цябе чорт пад руку штурхнуў, каб ты лес залысіў.

Замкí — *мачавы пузыр.* У малога крэпкія замкі, ні разу яшчэ рыбы не налавіў *(не абмачыўся, не ўсюкаўся).*

Замужніца — *замужняя жанчына.* Сярод нашых дзяўчат я першая замужніцай стала.

Замураваць — *пакрыцца лёдам, шэранню (пра шыбы)*. Вокны замуравала, нічога не відаць. Вокны, як мядзведзі, замуравала за ноч.

Замухрава́ты — *ценькі, нягеглы*. Доўга ў больніцы адлежаў, такі замухраваты стаў.

Замясціць — *замяніць*. Ты паглядзі, колькі ты замясціла мяса пітухамі.

Занездараве́ць — *занядужыць, падупасці, набрацца хваробы*. Сынок мой, нешта занездаравела я. Трэба бульбу пацерабіць ад растоў, можа, яна занездаравела.

Занятка — *занятак, нейкая справа*. Дровы паціху ў граду складаю, а ўсё ж нейкая занятка ёсь.

Запа́длівы — *хваравіты, часта западае (хварэе)*. Малы западлівы, з хваробы не вылазіць.

Запа́л — *за́пар, адзін за адным*. Думаіш, што тры дні запал свята будзіць.

Запальчы́вы, запы́льчывы — *успыхлівы, хутка загараецца*. Мужык у Анюты такі запальчывы, чуць што — халера яго забіраіць. Запыльчывы, алі ня помслівы, караць ня будзіць.

Запіўнікі — *якія запіваюць маладую*. Прыехалі запіўнікі здалёк.

Заплюснуць — *заплюшчыць*. Яшчэ адзін хліб — і заплюснуў вочы.

Запоіны — *сватанне, калі запіваюць маладую*. Паедзім у запоіны, пакуль не перадумалі.

Запу́ткі, запутнікі — *абходныя сцежкі, прасёлкі*. З балота сухапуць ня йдзіці, запуткамі, а йдзіце бальшаком.

Запятак — *абцас*. Насы дзяржацца, а запяткі шлём-шлём.

За́рдзіцца — *пачырванець, нарываць.* Скула ўжо зардзілася, хутка прарвець.

Зародыш — *зародак, зачатак.* У мокрага семя німа зародыша, а ў сухім, як чарвячок.

Заруня́вець — *зазелянець, зарунець.* Пацяплела, дык і трава зарунявіла, усё павесялела.

Засе́ўрыць — *заплеснявець.* Каўбасы бераглі, дык яны й засеўрылі.

Заскупі́цца — *скнарыцца.* Заскупіўся мужык ды на здыхляціну пага́ліўся.

Заспе́ць — *застаць.* Як на тое ліха, не заспеў начальніка.

Засунуць — *зачыніць на засоў.* Я сені засунула, праз вакно вылізла й дзверы зашчапіла.

Засу́ха — *суш, спёка без дажджу.* Па дзве бульбіны пад калівам — засуха.

Затаміцца — *замарыцца, прыстаць.* Пакуль сюды прышла, затамілася.

Затаргаваць — *купіць, утаргаваць.* Казу затаргавала, козная.

За́таўка — *сала ці здор, якім запраўляюць (затаўкаюць) страву, закраса.* Гэта добра, што затаўка маіцца. Ня голы ж булён, а затаўканы.

За́таўчына — *таўкач.* Не па катлу затаўчына. *(Кажуць, калі мужык з добрым струмантам, а жонка нягеглая, слабая.)*

За́ткала — *заторчына, якой затыкалі комін; яшчэ — неахайны чалавек.* Ягоную шапку ўжо можна пусціць на заткала. Ходзіць як заткала, мурзаты, чорны.

Затохнуцца — *задыхнуцца.* Рыба ў возіры затохлася. Прывёз прадавацъ тохлую рыбу, рыбак без кручка ў галаве.

Затравець — *парасці травой.* Гарод астаўся няпаханы, затравеў увесь.

Затула — *вялікі фартух, каб затуліцца (звычайна ў рыбакоў скураныя).* Яшчэ ў яго рыбацкая затула новая.

За́тхля — *задуха, безвятроўе, бязветрыца.* Такая жара, такая затхля стаіць, дыхаць німа чым.

Заўдавець — *стацца ўдаўцом.* І Піліп заўдавеў рана.

Заўстрэць — *завязнуць, засесці.* У рэчцы танкі заўстрэлі — танкісты сталі матам лаіцца.

Захвэндаць — *забрудніць, занасіць да чарнаты.* Што ні надзеніць, усё захвэндаіць, такая ўжо хвэнда.

Захінуцца — *зашпіліцца; яшчэ — схавацца ў ціхае месца.* Захініся, а то вецер такі, аментам прахопіць.

Выпіла, закусіла,
Сама сябе пахваліла.
Захінулася ў куток,
Па тры чарачкі ў раток.

Захмурэць — *захмарыцца.* Нешта рана захмурэла.

Заходнік — *сетка лавіць рыбу, таптуха.* Адзін заходзіць, а другі заходнік дзяржыць, рыбі й німа куды дзявацца.

Захцяначкі — *прышчыкі на твары ў падлеткаў.* Ускочылі захцяначкі — думай пра наначкі.

За́цепла — *да халадоў.* Добра, што яблыкі зацепла знялі.

Заціснуць — *забасці, прыціснуць*. Тут аднаго чалавека на Ліпаўцы бык забоў, ён яго глядзеў, а ён яго заціснуў.

Зацягнуцца — *мець доўг.* У мяне былі зацягнуўшыся грошы, дык я ўжо адразу аддала.

За́часць — *сверб*. Па ўсім целі такая зачась, хоць ты са скуры выскачы.

Зашаці́цца — *схавацца*. Зашаціўся адзін агурок у бураках, такі ладны. *(Затаіцца пад шатамі.)*

Зашытае — *гарачае варыва, якое заплыло, пакрылася тлушчам.* Поліўка, яна зашытая, дык ты дуй.

Зба́гдарыць — *збыць, прагуляць, прадаць за бесцань, згубіць, збаёдаць*. Ён усё, што бацька нажыў, скора збагдарыў.

Збегчы — *угнацца, бегчы разам, дагнаць*. Дужа мама збяжыць за намі.

Збівіны — *стаптаная, зблочаная збажына*. Ня жыта, а збівіны адны засталіся.

Збра́гнуць — *забрадзіць, укіснуць*. Незакупаранае варэнне аментам збрагніць.

Збузаваць — *здратаваць.* Кошка навяла чатыры кацянёнкі — усё сена збузавалі; яны толькі на свет пусціліся, сляпыя й мокрыя яшчэ.

Збыццё — *збыт.* Німа збыцця такому тавару, са збытам адно гора.

Збычыцца — *насупіцца*. Чаго ты збычыўся, ты ж дачку замуж аддаеш.

Звадыяш — *ашуканец, той, хто зводзіць з правільнай дарогі*. Звадыяш і чорта звядзець, і сябе абвядзець.

Зважыць — *уступіць, прамаўчаць.* Пачнець дудзіць на маму, а яна прамаўчыць, зважыць, і ўсё добра.

Званне — *мянушка.* З некага знялі званне, а к яму прылажылі, і стаў Мэгуш.

Звекаваць — *доўга жыць на адным месцы.* Я ўжо звекавала тут і то ня ўсё помню.

Зве́сціся — *занудзіцца; яшчэ — занядужыць.* Усё ж я багата, а то саўсім без курэй звялася. Столькі хварэіць, звёўся на сцень.

Звягло, звягун — *той, хто звягае.* Сціхні, звягло, бо галава ад цябе трашчыць.

Звягунец — *галасісты званок, звычайна пад дугою.* Гоняць коні ганцы й звіняць звягунцы, едзіць вяселля.

Звярыстая — *звераватая.* Яна стала звярыстая баба, з ёй ня зладзіш.

Звяры́ца — *злая асоба.* Ня матка, а звярыца нейкая, на роднага рабёнка кідаецца.

Звярыцца — *люцець, злець, быць раз'юшаным.* Што ты звярысся, глядзі не ўсяр.ся.

Звяцца — *зніцець, усохнуць.* Сёлета бульба так звя́лася — адны арэшкі.

Згайдамачыць — *змарнаваць, згубіць, зглоціць.* Столькі грошай згайдамачыў, а толку ніякага.

Згалавець — *здурнець, з'ехаць з глузду.* Што ты — згалавела, такое робіць? Саўсім згалавеў, вярзець здубавецця.

Зганяць — *сканчацца.* А гэта было — ужо зіму зганяла.

Зга́раны — *звараны абы з чаго.* Згарана з нечага — людзі ня свінні, усё з'ядуць.

Згі́рдзіцца — *сканаць, акалець, счэзнуць.* Скрыпеў-скрыпеў і згірдзіўся.

Зглá́бсціць — *прыбраць да рук.* І ня жыў, каб ня зглабсціць хоць што-небудзь.

Зглоціць — *падзець некуды, закінуць, збаёдаць.* І калі толькі паспеў зглоціць набытак? Куды ўжо зглоціла мяшалку? *(Яўна — ад глытаць).*

Згубля — *страта.* Па гэтай згублі жыць будзіш.

Згыркаць — *згубіць, недзе падзець, зглуміць.* Столькі дабра згыркаў і каб «дзякуй» сказаў. Згыркаў ужо недзе сцізорык.

Здабычлівы — *хто ўмее здабыць, прыдбаць.* Яна здабычлівая куры́ца й у шумі *(смецці)* нешта сабе ў дзюбку знойдзіць.

Здá́нькі — *прывіды.* Як сцямнелася, пачалі зданькі здавацца, у хаці даўно ніхто ня жыў.

Здзеіць — *здзейсніць, зрабіць.* Благое здзеіць лёгка, ды выправіць цяжка.

Здзержыць — *стрымацца.* Нá табе, учора дождж здзержаў, а сягоння як пачаў з паўдня, веялкай шумела-шумела ўсё.

Здобыч — *пажытак.* І пашоў шэры воўк на здобыч.

Здубавецця — *усё сабранае абы-як, абы-што сказанае.* Ён здубавецця вярзець, а мы слухаць павінны.

Здыхацца — *аддыхацца.* Не магу здыхацца, юшкі столькі з'ела за ўсе дні.

Здыхля, здыхлік, здыхляціна — *нягеглы, змарнелы.* Ня конь, а здыхля, такога хоць самога вязі.

З'ежнае — *ядомае, што можна есці.* Там з'ежнага нічога німа.

Зжыцца — *збяднець.* Зжыўся — сабаку німа чым выгнаць.

Зжыць — *перажыць.* Быў чалавек з Атрошкава, чатыры жонкі зжыў.

Ззаўха́ — *з-за вуха, з размаху, наўзмаш.* Як грымнуў ззаўха, дык ён брык вобземлю.

Злажыць — *зваліць віну на іншага.* Усё на гэту бабу злажыла, а сама сухая вышла, сама асталася чыста.

Зла́саваць — *раздурыць прысмакамі.* Ужо так яго зласавалі, нічога ня есь.

Зласець, разласець — *прывыкнуць да прысмакаў.* Зласеў на куплёным, што свайго й есці ня хочаць. І кот зласеў, ужо абы-чаго ня есь.

Зла́скаваць — *спесціць, раздурыць.* Малога зласкавалі, а цяпер самі ня рады.

Злеціць, злеціцца — *трошкі падагрэць, крыху сагрэцца, адстаяцца.* Злець ваду, хай хоць летняя будзіць. Абы троху вада злецілася.

Змазгаваць — *прыдумаць, прыдбаць.* Можа, паўлітру змазгуім?

Змікіціць — *прыдумаць, арганізаваць, вы́мергаваць.* На трох паўлітэрку змікіцілі — і на душы цяплей стала.

Змір — *згода.* Ніколі ў іх зміру ў хаці й не было.

Змуста — *той, хто прымушае, змушае да пэўнай працы.* Стары — змуста, ды без яго ў двары пуста.

Змяісты — *хітры, затоены.* Яна такая змяістая, жах.

Змякчыцца — *адысці, падабрэць, палагаднець.* Праўда, ён тут змякчыўся.

Знакомасць — *знаёмства, сяброўства.* Ён па знакомасці ўсіх дзяцей прыстроіў.

Зналопу — *знянацку, з налёту.* Чорт усё зналопу робіць, каб чалавек апомніцца не паспеў.

Знатка, знак — *прыкметна, відно, памецiна.* Па двары знатка, якая гаспадыня. Індыкі дзе стануць ў гародзі, там і знак.

Знахопу — *з наскоку, нечакана.* Хочаць усё ўхапіць знахопу, нецярплівы.

Зніцець — *змарнець, звяць, пабялець.* У бульбы каліўе зніцела ад такой пякоты. *(Бадай, ад нікнуць ці ад ніткі.)*

Знові, знава́ — *адразу, спачатку.* Каб я знові зробіў, лепі было б. Яна знава такая няспраўная, мясакрутка гэтая.

Знячы́велі — *з перапуду, з нечаканкі.* Знячывелі аж заікацца стаў.

Зорніць — *ганарыцца, задзіраць нос.* Ён галаву зорніў адвеку.

Зрабя́ціцца — *здзяцініцца.* Зрабяціўся Пятрок, у жмуркі з малым гуляіць.

Зразвагі — *не спяшаючыся.* Ідзець сабе паволі, зразвагі.

Зробіцца — *дамовіцца, уладзіць, пагадзіцца, сысціся.* Ты не чапайся, я сама неяк зроблюся. Ён успомніў даўняе, ён сваё — яна сваё, так яны й зробіліся.

Зродасць — *радня, сваякі.* У яе ж нейкая зродасць ёсь.

Зрудзі́ць — *зжаўціць, падпаліць.* Ужо гладзіла нешта праз маю анучку ды зрудзіла.

Зручны — *умелы, рукаты.* Такі ўжо зручны зяць папаўся, за што ні возьміцца, зробіць.

Зубашчэр — *весялун, баламут, прасмішнік.* У забашчэра са смеху вячэра.

Зу́брыць — *навучаць, нацкоўваць.* Яна яму зубрыць, кажаць гэтак і гэтак.

Зухнуць — *павесці сябе як зух, шыкануць.* Яго хлебам не кармі, а дай зухнуць.

Зцёмным — *па начы, абначэла.* Зцёмным прыехалі, дарога была далёкая.

Зыгарадзь — *загароджа.* Зыгарадзь коні паламалі, німа парадку скрозь.

Зык, зыкаваць, зазыкаваць — *гіз, калі на кароў нападаюць авадні ці сляпні.* Як паўдзён, дык зык кароў па полю ганяіць. Сонца сагрэіць, дык і каровы зазыкуюць.

Зылда — *няўваротлівы, несхямяны.* Кавалеры ў яе усе нейкія — то зылда, то дылда.

Зыск — *вышук.* Ноччу каня звялі, дык міліцыя зыск ушчала.

Зялёнкі, зеленчакі, зяляннё — *няспелая садавіна.* Чарэшні каля плоту — адны зялёнкі. Зеляння, гэтых ападышаў, калі хто прынясець.

Зяло — *зерне, каменчыкі ці пясок у ежу курам; вотрына.* Малады трыпутнік, пакуль зяло ня даў, можна варыць разам з крапівой маладой.

Зяпа, зяпло — *рот (грэбліва).* Заткні сваю зяпу, а то варон наляціць.

Зяпа́ць — *крычаць, груба казаць.* Ды не зяпай ты, расчыніў зяпу, як хлеў, зяпло чортава.

Зятняя — *зяцева.* Браў ён зятняй жонкі дачку.

Ігрушшо — *купка ігрушынаў.* Ігрушшо стаіць даўнае, панскае.

Ізгарода — *плот, загароджа, зыгарадзь.* Гарод каля самай яго ізгароды.

Ікранка — *рыба пад час нерасту.* Цяпер у возіры адна ікранка, нораст жа.

Іл — *крухмал.* Колькі там бульбін сабрала, а ілу поўная міса.

Імасць, мосць — *вашасць, шаноўнасць.* «Ваша імасць, просім за стол», — кажуць шаноўнаму госцю.

Іменне, менне — *імя, мяно.* Алена Канстанцінаўна — гэта ж менне якое!

Нядоля-нядоля, няшчасце маё,
Ня любіць свякроўка йменніка майго.

Імшонік — *імшоны хлеў.* У імшоніку Лысоні, як у мядзвежжу вушку.

Імянны — *сярэдні палец, альбо даўгі.* На імянны палец пярсцёнак усадзіў і хварсіць.

Іскаверціцца — *адхварэць, сканаць.* Як ні верціцца, усё адно іскаверціцца.

Іскацца — *шукаць вошы ў галаве.* Ты б хоць паіскаўся, а то не галава, а вашэўня.

Исподкі — *вязаныя рукавіцы. Іх некалі надзявалі на голую руку, а паверх рукавіцы з кажушыны (толькі з кажушыны называліся рукавіцамі ).* І ў исподках рукі пакалелі.

Исподнікі — *падштанікі.* Матузы ад исподнікаў па зямлі цягнуцца, кавалер стаптаны.

Исподняе — *ніжняя бялізна.* Исподняе данашаваіцца, на новае напрашаваіцца.

Істопка — *гаспадарчая будыніна, зімой паляць (топяць), летам халодная.* У яго істопка ёсь, дык і бульба й капуста ня мёрзніць.

Істрыць — *рабіць вострым.* Я ім косы йстру, як затупяцца, каб войстрымі былі.

Кавалерыцца — *калі хлапчаня пачынае заляцацца.* Рана яшчэ табе кавалерыцца, малако на губах не абсохла.

Кавалёк, казялок — *конік.* Ад кавалькоў уся пожня зялёная.

Кавёлы — *ногі (пагардліва); яшчэ — мыліцы.* Прымі свае кавёлы, рассеўся. На кавёлах, як верабей, скачаць.

Кавялюга, кавяла; кавялюгаць — *крывы, кульгавы, недалужны; кульгаць.* Во, ужо кавялюгае сюды кавялюга гэны.

Кажалуп — *хто скуру здзірае з жывёлін на бойнях.* А на гарэ кажалуп жывець, Касцюком завуць.

Кажанець — *слаба расці, паршывець (пра малога).* У Плікаціхі малец гладка скажанеў, кажан кажанком.

Казлякі — *вочкі ў бульбе.* Чышчу бульбу з казлякамі — на лепшае часу німа.

Казляччы — *казліны.* Былі два кумпячкі казляччы, і ўсіх прыпасаў.

Казярэка — *упірлівы, кажа ўпоперак.* Як упрэцца казярэка — не згаворышся, ня ўпросіш. Навошта мне казярэка ў хаці?

Каламесніца — *сумятня.* Цэлы дзень сумесніца-каламесніца з хаты не пускаіць.

Калапніна — *клопат, намаганне, завіханне.* Калапніны многа каля яго, а толку мала.

Калахвосціць — *трэсці, калашмаціць.* Будзіць-будзіць яго, калахвосціць, а ён сабе спіць.

Калдунаватая — *злямцаваная, збітая.* На сабаку поўсць калдунаватая.

Калека, калечка — *мянтуз.* Іван злавіў два язі й калечку.

Калéлікі — *дрыжсыкі, зябікі.* Ужо калелікі бяруць на такім марозі.

Калёскі — *каляска, вазоўнічак.* Двое калёсак вады прывязла.

Кáліва, калíўе — *куст, націнне бульбы.* Бульбу прапалола, аграблямі выграбла, усё ж калíвіна якая будзіць. Сухое каліўе — паспела спешка *(гатунак бульбы).*

Калмак — *кузлак.* Хоць калмак сена дай карові.

Калоддзе — *калоды.* Дровы — адно калоддзя, тапор і той прыстаў.

Калом — *невядома куды, праз зямлю.* Як калом праваліўся серп, ніяк не знайду.

Калюччо, калюк — *калючае кустоўе.* Такое калюччо — не прадрацца. Калюк пры калюку, дзе ні ступіш — наколішся.

Калядоўка — *Каляды.* Яшчэ ў Калядоўку дровы прывезіныя ляжаць.

Кáменка — *мураванка, цагляная будыніна.* Ён у каменцы робіць.

Камлюк — *моцны, пасадзісты, прысадзісты, таўставаты, каржакаваты (як камель).* А Стахван ладны камлюк. Ня дужа разбяжыцца камлюкаваты, яму пакруціцца цяжка.

Канадá — *назола.* Сядзіць на душы, як канада тая.

Канаць — *прасіць, дамагацца.* Канаіць купіць яму абнову.

Канашэсць — *жэрдачка, на якой сядзяць куры.* Нанач пасаджу курэй на канашэсць.

Кантáр — *кантаваны бязмен.* Кантаром зручней важыць.

Кáнчур — *акурак; яшчэ — канец баразны.* Панабраў канчуроў каля крамы дый абкурыўся. Так араў, што канчураў болі, чым барознаў.

Канькаць — *прасіць, ныць.* Канькала канькаіць, а некала некаіць. Кáня *(птушка)* просіць піць — канькае.

Канюгайла — *здаровы конь ці чалавек, здаравіла.* Такі канюгайла, што на ім толькі валуны вазіць.

Каняўё — *коні (зборнае).* Каняўё бяжыць, аж зямля дрыжыць.

Кáпа — *накідка, акрывала на ложак, набіраная кшталту сурвэты.* Закінь ложак новай капай.

Капá — *шэсцьдзесят (снапоў, яек).* Цэлую капу яек сабрала да святаў.

Капанікі — *сані, капылы ў якіх з выкапанага кораня.* У капаніках на капылы йдзець дуб.

Капіздуленька — *трошачкі, як паспытаць.* Капіздуленьку выпіў, а ты крычыш, што напіўся.

Капызíцца — *задавацца, пыжыцца.* Прышлі дзеўкі на базар, сталі капызіцца.

Капэрус — *канец, капцы.* Капэрус, нічога не ўдаецца зробіць.

Каравай — *горб.* І каравай ззаду на плячах.

Каравíна — *зарэзаная карова.* «Дзяку, дзяку, каб ты мені вякаў, палавіна каравіны й скура табе», — шаптаў селянін, які ўкраў карову, на судзе дзяку, які выступаў сведкай.

Каравятніца — *тоўстая; яшчэ — няўклюда.* А гэна каравятніца ў дзверы не ўлезіць, так раз'ела-

ся. Узялася гэная каравятніца ткаць, лепш бы не чапала.

Карапунька — *караценькі, маленечкі.* Малец недалужны быў, такі карапунька.

Каратэлька — *гатунак морквы.* Ляху каратэлькі пасадзіла, яе добра ў капусту крышыць.

Караўка — *каравая, брудная, каляная ад гразі анучка.* Здымі гэтую караўку — пасцялі чысты настольнік.

Карбýнец — *карбункул, скула.* Каб на цябе карбунец сеў!

Карміна́ — *корм.* Карміны гэтай можна было нанасіць на ўсю зіму.

Карнавухі — *з кароткімі вушамі.* У карнавухага сабакі дарогу пытацца.

Карна́ты — *без хваста.* Сабака ты карнаты.

Каровіна — *ялавічына.* Тут давалі нейкую каровіну, а там адны рэбры.

Каруза — *прыставала, надаеднік.* Як прычэпіцца да каго каруза, не адстаніць. Такая каруза як смала прыстаніць — не адчапіцца.

Кархавінне — *жабіна нераставанне, жабурынне.* Поўная сажалка кархавіння.

Карчанець — *зябнуць, слаба гнуцца (пра рукі).* У проламцы лайно палашчу, рукі карчанеюць, нічога не ўзяць імі.

Карыкатурыцца — *вычварацца.* Што ты карыкатурышся, ты й так не красунчык.

Карына́ — *кавалак кары.* З моцнай карыны можна й падэшвы зробіць.

Карэлая — *брудная.* Карэлую сарочку надзеў і хварсіць. Ідзі чыста, не йдзі карэла, ненавіджу мужыкоў, якія карэлыя ходзюць.

Карэлікі — *брудная вопратка.* Абрыдла мне яговыя карэлікі мыць, вечна п'яны, у лужынах качаецца, як парсюк.

Карэннік — *кошык з каранёў.* У карэнніку добра бульбу насіць — трывалы.

Касавільна — *кассё.* Так улёг касіць, аж касавільна трашчыць.

Касмаўка — *невялічкі ахапачак.* Касмаўку сена пад паху — і дахаты.

Касу́рыцца — *хмурыцца, хмарыцца.* Дождж, можа, і будзіць, з раніцы касурылася.

Касцёр — *града дроў.* Складзі дровы ў касцёр, хай ня мокнуць.

Ката́нка — *скручаная скароміна.* Дала яму катанку здору на закрасу.

Катлянець — *спаць з перапою (наліўшыся, як кацёл).* Прыпаўзець дамоў і ўсю ноч катлянеіць.

Катовы му́дкі — *зёлка кашачыя лапкі.* Калі ў сцяну ўторкнуць катовы мудкі, яны ўсю зіму стаяць. Усе травы зніцелі, выпетралі, адны катовы мудкі рудзеюць пухна́та.

Каціхі́ — *катахі, кацёлкі.* Па вуліцы конскія каціхі валяюцца, не прайсці.

Кашлюн — *хто дужа кашляе.* Малы кашлюн усю ноч спаць не даваў.

Квасі́ны — *ападонне ад квасу.* Як быў квас, тады не было вас, а як засталіся квасіны, і вас чэрці пананасілі.

Квачак — *маленькі пэндзлік.* Квачакам добра сценку бяліць.

Кволіцца — *шкадаваць сябе, песціцца.* Німа чаго кволіцца, трэба робіць.

Квякат — *прыглушаны гук ад удараў.* Б'юцца — аж квякат ідзець.

Квякнуць — *ударыць вобзем.* Як квякнуў задзірaку, з таго й дух вон.

Кезік — *мурлыканне, курня.* Кот зацягнуў свой кезік.

Кешкацца — *валаводзіцца, таптацца.* Кешкаецца-каламешкаецца, ніяк з хаты ня выбірацца.

Ківок — *п'яны.* Ківок ківаіцца на вуліцы цэлы дзень.

Кілун — *кнор.* Свіння на кілуноў паднялася.

Кілуніна — *сала з нявыкладзенага (нявылегчанага) парсюка.* Як закусіш кілунінай, аж салаўі на душы пяюць. Кілунінай закусіць — і пяршак як квасок здасца.

Кірмашовікі — *пярэднія зубы.* Кірмашовыя зубы — пярэжнія, а далі — кутнікі. У мяне яшчэ кірмашовікі свае, не казённыя. *(Тыя, відаць, якія можна паказаць на кірмашы, на людзях, пасміхаючыся.)*

Кірпачка — *кірпатая.* Такая кірпачка ладненькая, такая ўслужлівая, матка не нарадаваіцца з яе. *(Ад кірпатага й прозвішча Кірпіч, Кірпічонак.)*

Кісляць, кісляццё — *кісляціна.* Не ўзвар, а кісляць адна.

Кісялёўка — *абгабляваная карчавешка, якая звычайна стаіць у парозе.* Дажыліся, у хаці каб кісялёўка, гола. Нос як кісялёўка, а яшчэ задзіраіць яго.

Кіт; кітаваць — *замазка для шыб; замазваць.* Пайду ў краму купіць кіт, каб шыбы закітаваць.

Кіў — *порух пальцам з грозьбай.* Добры чалавек пабаіцца ківа, а благі не пабаіцца й кія, калі не паможаць кіў, не паможаць і кій.

Кічаўка — *купіна на балоце; яшчэ — нос.* Чорт ногі паламаіць на гэтых кічаўках. Нос як кічаўка.

Кішкаць — *праганяць, турыць, пэндзіць.* Адусюль яго кішкалі-кішкалі, нідзе не прыстаў.

Кла́дзі — *кладкі, лагі (бёрны, на якія кладуць падлогу).* Пярэйдзім рэчку цераз кладзі. Кладзі трывалыя, падлога як звон.

Клецішча — *месца, дзе стаяла клець.* Усё клецішча дзядоўнікам парасло.

Клёк — *розум, цямкасць, моц.* У яго ёсь клёк у галаве. Пыхі многа, а клёку мала. Так ён схварэўся, што ніяк ня можаць клёку ўзяць.

Клымаць, клыбаць — *ледзь ісці.* Клымаіць- клымаіць і на чарку паспеіць, клыма гэты. Клыбае памаленьку старая.

Клычыць — *дапякаць, журыць.*

У цёмным лесе сава кугічыць,
А ў чыстым полі муж жонку клычыць:
Ты, жонка мая, людзям падмана…

Клы́шні — *ногі.* Як малая захварэла, дык матка клышні свае падняла, да ўрача пабегла.

Клюкатаць — *кіпець.* Вар аж клюкочаць.

Кля́ваць — *ледзьве жыць, ліпець, знямоглець.* Дзед ужо чуць кляваіць, на паповы сані збіраецца.

Кляты — *праклёны, кляцьбёны.* Ужо кляла яго мёртвымі клятамі. *(Праклінала на смерць.)*

Кляўшы́ць — *біць, лупцаваць.* Адвёў у цёмны кут і кляўшыць малога, а той маўчыць.

Кнігі — *лёгкія ў жывёлы.* Па такой пыльнай пашы пасуць, што ў Гілёні ўсе кнігі пяском забіла.

Кнораз — *кнур.* Яшчэ малы, а ўжо як кнораз бегаіць.

Колам — *аблогай, нечапана.* Увесь гарод колам ляжыць, німа каму робіць.

Комшыць — *камячыць.* Скомшыў газеціну й у «шпакоўню» пабег.

Конік — *доўгая лава пад кут, ад стала да парога.* Пра памерлага кажуць: на коніку ляжыць.

Корнік — *хто вядзе плыты, сплаў.* Ганкі *(плыты)* ў Рыгу ганяў, корнікам быў.

Корх — *мера на шырыню далані.* Давай змерым кій кархамі. Уручча ў Мікіты два кархі й два пальцы.

Кохлік — *коклюш.* Кохлік яго забіў, алі-ткі выжыў, галадуха яму яшчэ болі на вушы пала.

Крадзе́цтва — *крадзёж, пакража, рабаванне.* У крадзецтва кінулася твая дачка.

Крайне́й — *неабходней, пільней.* Давай, каму крайней трэба.

Крапа́ць — *начыняць кілбасы, пхаць пальцам у кішку праз пярсцёнак, спецыяльную як бы лейку, альбо праз мясакрутку.* Троху кілбас накрапала, малы быў падсвінак. Кола крапанай кілбасы суседцы аднясла.

Крапосць — *моц.* Дзеры й ломам білі, алі яны не паддаліся, — ты падумай, гэткая крапосць.

Красняк — *здаровы, ружовашчокі.* Яшчэ такі красняк, а ўсё кволіцца.

Красулля — *прыгажуня.* Прыехала гэная красулля й усіх хлопцаў звяла.

Кратавінне — *нарытыя кратамі купкі зямлі.* Увесь гарод у кратавінні, як завёўся крот.

Кратацца — *рухацца.* Як бы цяжка ні было, трэба кратацца, каб жыць.

Крок — *шырынка.* Зашпілі крок, а то пітуха свайго згубіш, вылеціць.

Кроклы — *кроквы; яшчэ — тыповы, прыродны, характэрны.* Глядзіш, к зіме ў сваю хату ўвойдзім, ужо й кроклы паклалі. Кроклы ўжо парашацілі, засталося драніцамі пакрыць — і страха гатова. Сімкін — кроклы жыд, з усіх вылучаіцца.

Круглёвіна — *кружляк, круглы кавалак.* Дзве круглёвіны здору таплёнага дала яму.

Кругловіна — *яма, калдобіна.* Дажджы прашлі, і ўсю дарогу кругловіны пабілі.

Кружнік — *скручанае ў круг.* Цэлы кружнік дроту валяецца.

Круканосы — *гарбаносы; нос, як у крука.* У Праксэды сын круканосы, а мужык з кірпатым носам.

Крупяная — *з круп.* Кашы крупяной наварыла, укруціла ў фуфайку, каб ня стыла.

Крутадушнік — *няшчыры, двурушны, крывадушны.* Німа яму веры, крутадушніку, вечна душой круціць.

Крутарог — *з крутымі (гнутымі) рагамі (казёл); яшчэ — мужчынскі струмант.* Ёсь у мяне крутарог, што шавеліць паміж ног.

Крутуха — *порсткая жанчына; яшчэ — полька-крутуха.* Яніна такая крутуха, на месцы ня ўседзіць ні хвіліны. Так уляглі ў польку-крутуху, — духі вон!

Круцікі — *розная жамяра ў вадзе.* Даланёй балацінку працісніш, здзюмухнеш круцікаў і п'еш.

Круціцца — *пускацца ў блыт.* Мужык з'ехаў, дык яна круціцца як сучка.

Кручок — *маленькі начальнік, службіст.* Сын ейны нейкім кручком уторкнуўся ў Вушачы.

Крушáны — *рассыпісты, скаромны.* Пірог гэткі крушаны — не адламіць, увесь рассыпаіцца.

Крýшыць — *веяць зерне на сіце.* Цэлы дзень зерне крушылі й у бачэнкі ссыпалі.

Крывіндá — *пра кульгавага (грэбліва).* Крывінда гэна хоць куды дападзець.

Крыж, крыжавіна — *паясніца.* Боль уваліць у крыж, ні сагнуцца, ні разагнуцца. Крыжавіна як агнём гарыць.

Крыжніца — *крыга, ільдзіна.* Ай, як крыжніцы пашлі, аж усе пáлі паламалі.

Крышáн — *скрылёк.* Хаця крышан яблыка з'еш.

Крэў — *вывернутае дрэва, пень дагары карэннем.* Дзярэцца як жаба на крэў.

Кубатурка, кубатурніца, кубатка — *курыца з інкубатара.* Курка-кубатурка, ей пітух усе косці памяжджуліў.

Кубачкі — *грыбы.* З дождżу пусціліся, і тут жа занос сураежкаў, кубачкаў.

Кýбіч — *невялікі кубельчык.* Ссып пшанічку ў кубіч, яе мала асталося.

Кугугýтанька — *ласкавае найменне зайца.* А мой ты заінька, а мой ты кугугутанька. *(Малога мяне так кволіла мама.)*

Кудлычыць — *касмаціць, кудлаціць.* Вецер кудлычыць пітухоў хвост.

Кýка — *драўляная даўбежка, пабаешка, якой разбіваюць глыжы ці лёд.* Зімой, калі пад ільдом стаіць

шчупак, б'юць кукай, глушаць, прабіваюць лёд, а пасля восцямі дастаюць рыбіну. Шчупак спіну к сонцу, яго кукай бух, тапаром прасякуць і скарэй на лёд. *Некалі свякроў смяялася з маёй маладой мамы, калі яна сказала:* «Іван рыбы накукаваў».

Куку́лка — *зязюля; яшчэ — мала, на звод.* Месяц пройдзіць і кукулку не пачуіць. Грошы на кукулку толькі.

Кулаччо, кула́чча — *кулакі (зборнае).* А ў ейных братоў кулаччо па пуду.

Куле́ўе — *кулі саломы.* Кулеўем страху накрылі.

Кулі́чкі — *драўляныя гвазды, каб вешаць сёдлы.*

Каб былі для конікаў стайнічкі,
Для ўздзечак палічкі,
Для сёдлаў кулічкі.

Кулогаць — *праць, мыць збольшага.* Ты лайно троху пакулогай, і ладна.

Кулоскацца — *пялёхацца.* Кулоскаіцца малы ў начоўках, як у той сажалцы.

Ку́па — *торф.* Як купа ўзгарыцца, рады не дасі да восеньскіх дажджоў.

Купала — *агонь, пажар.* Яны яму купалу зробілі — хата згарэла.

Купіла — *грошы.* Купіць бы купіла, ды мала купіла маю.

Ку́піна — *яміна, з якой выбралі купу (торф).* Усё балота ў купінах, і цвярозы ня пройдзіць, праваліцца.

Купчасціцца — *разрастацца кронай.* Крушыннік купчасціцца, аж цень зялёны.

Куравод — *пра пеўня й пра маладога хлопца, ласага на дзяўчат, пра завадзілу.* І куравод гэты ўжо дзевак прывёў.

Куракі — *вушкі ў лапцях, куды ўдзявалі аборы (вяровачкі), каб забарсаць лапці.* Ідзеш балацявінай, курак за курак чапляецца. Лапці лыковыя, і куракі тарчаць.

Курая́ — *гермафрадыт.* Андрэй так і астарэў, ня жэнячыся, відаць, ён курая.

Курган — *дзялянка, участак.* Быў курган лесу, дык яго зрэзалі.

Курдупэпачка — *маленькая асоба, як кнопачка.* Курдупэпачка такая, а яшчэ звысоку глядзіць.

Куросадзь — *курасадня, месца, дзе куры садзяцца нанач.* Куры ўжо на куросадзі, а дурны пітух іх па двары шукаіць-гукаіць.

Курта — *бясхвостая сучка, караткахвостая; яшчэ — верціхвостка.* Была ў суседа сучачка — курта, алі такая ласкавая. З гурту выбіраюць курту.

Курта́ч — *конь без хваста.* У Піліпа быў конь куртач, алі такі порсткі.

Куса́нік — *надкусаны, недакусаны хлеб, пірог.* Мне чужых кусанікаў ня трэба.

Кусман — *вялікаваты кавалак.* Гарэлкі кварту ды сала кусман — і я сабе пан.

Кутнік — *крайні зуб; яшчэ — кватарант.* Толькі кутнікі яшчэ засталіся, а так у році вецер гуляіць. Яна кутнікаў набрала, на гэтым і жывець.

Кышнуць — *прагнаць, папэндзіць.* Як кышну — дык разлятуцца, хто куды паспеіць. Як кышну, дык духу-паху твайго ня будзіць тут!

Лабаздá — *лухта, несусвецце*. Такую лабазду нясець, аж вушы вянуць.

Лабак — *здаравіла, цвердалобы, нахабны.* Прыхадзілі лабакі п’яныя й дзяўчына кудланаватая.

Лабуза, лабазаватае — *дуддзё, быльнік*. Каза дужа ня будзіць лабузу есці, ей ласейшага дай. Сена лабазаватае, карова ня дужа есь.

Лабяк — *голая мясціна.* На лабяку німа дзе стаіцца й ваўку.

Лавэр — *развал, бязладдзе, беспарадкаўшчына.* У хаці такі лавэр, што босы чорт ногі паламаіць.

Ладзішча — *відовішча.* А на Купалле такое ладзішча зробілі — уся моладзь сыйшлася.

Лайба — *няспрытная, нехлямяжая.* Сядзіць, лайба, ад гарэлкі, як бервяно, набракла.

Лайно — *адзенне.* Трэба мець лепшае лайно ў людзі.

Лактáць — *хлябтаць.* Кот дарваўся да малака, так і локчаць.

Ламаніна — *ламата, ломка.* Галава баліць, і ламаніна ўва ўсім целе.

Ламлівая — *няроўная, у грудзе.* Дарога дужа ламлівая, мароз прыцісну́ў раптоўна.

Ламок — *скрылёк, лустачка.* Хлеба ламок ды масла камок — нам і надойдзіць.

Ламы, лам’ё — *паламаныя дрэўцы, хлуд, сучча, дуддзё.* Воўк хамыль-хамыль у ламы, толькі трэскат пашоў. Каза, яна выбіраіць лам’ё якое з сена.

Лапандзей — *балбатун, пустамол.* Як лапандзею язык не забаліць.

Лапун — *блін, спечаны нахапку.* Нейкі лапун спяку, дый ладна.

Ласае — *смачнае, прысмакі.* Што было ласае, са стала прыбралі.

Ла́сікі, ла́харцікі — *ласункі, прысмачча.* Малы гоніцца за ласікамі, яму толькі лахарцікі ў галаве.

Ласкуха — *ласкавая, якая любіць лашчыцца.* Такая ласкуха, хоць прыкладай да вуха.

Ласоха — *ласая да прысмакаў.* Яна ў цябе ласоха, зласела гладка.

Лата́цца — *мець выгоду.* Добра яна латаіцца каля свайго начальніка.

Латока, латавінка — *нізіна, нізовіна.* У латоцы дасюль вада стаіць.

Ла́хаўка — *балбатуха, пляткарка.* Бегаіць як лахаўка ды лахаіць языком скрозь.

Лахаць — *плявузгаць, брахаць, казаць несусвеццe; яшчэ — бегаць, насіцца.* Язык не на прывязі, дык і лахаіць ім абы-што. Пакуль усю вуліцу не аблахаіць, не супакоіцца.

Лахмонне — *рыззё, лахманы.* Дымам смярдзіць ейная лахмоння.

Ла́ціна — *жардзінка.* Лацінай ды па хрыбціне.

Лацно — *лацьвей.* Лацно табе, у цябе ж такі мужык, ён з-пад сучкі яйцы ўкрадзіць.

Лашчавінка — *ямінка, упадзінка.* А ў лашчавінцы баравік сядзіць.

Легцавік — *легкавы аўтамабіль.* К ей цяпер без хвігі не да носу, зяць на легцавіку прыкаціў.

Лежня — *ляжанне.* У яго ад лежні бакі паапухалі, лежань гэткі.

Лесаўцы́ — *жыхары лясістай мясціны.* Лесаўцы ў лесі жывуць, як у цёплай хаці.

Лесюгі — *густыя лясы.* У гэных лесюгах і чорт заблудзіць.

Леташняя — *мінулагодняя.* На леташнюю вясну цыбуля згніла.

Летка — *летняя пшаніца.* Ладны-ткі лапік леткі пасеялі, паглядзім, ці ўродзіць.

Лёк — *расол з-пад селядцоў.* Хто есь бульбу з лёкам, той будзіць з клёкам.

Лёстачкі — *салодкія словы, камплімėнты.* Так і падпускаіць лёстачкі дзеўцы.

Лісіцы — *лісічкі (грыбы).* Я за свае лісіцы нап'юся. Там соснік, а лісіцы па сосніку, па імху.

Лістаноска — *паштарка.* Адна лістаноска прывяла яе к нам.

Літоўка — *каса; яшчэ — пуня.* Цэлую лугавіну літоўкай за раніцу абсадзіў. Пуня-літоўка: дах на стаўбах. Толькі стаўбы й страха, а страха, як у пуні. Чатыры стаўбы, крэпкія такія.

Ліцвяк — *літовец (летувіс).* Ліцвяку ўсё па баку. Нешта ў нас ліцвякоў не любілі.

Лішніца, лішэнь, лішак — *збытак, лішняе.* Навошта мне лішніцу браць, бяру колькі паложана. Вярнуў сваё яшчэ з лішнём. І кійком аддзякаваў з лішаком.

Логаўе — *логава, лагво.* А там воўча логаўя.

Лугá — *шчолак, настоены на попеле, якім ільга праць лайно; бывае, мыюць валасы.* Даўней лугі зробіш, каўнер вымыіш. Памый валасы лугой, перхаці ня будзіць.

Лýзгаць — *папякаць, дакараць.* Колькі можна лузгаць адным і тым жа?

Лу́нуць — *кануць, прапасці, знікнуць*. Як пад ваду лунуў, нідзе ні водзыву.

Лупацень — *надуцька, лупаты*. Развесіў лупы *(губы)* свае, лупацень, і сядзіць.

Лушчонікі — *лясныя арэхі*. Лушчонікі рудыя ўжо, самі ў торбу просяцца.

Лызь-мызь — *есці на хапку, паспытаць*. Лызь-мызь, і пабег, не каб сесці ды пад'есці.

Лыліца, лыла — *недарэка, недаробак*. Лыліца й пад дажджом запыліцца. Здаровы лыла вырас. Лыла таўстамордая стаіць на ганку.

Лындаць — *сланяцца без справы*. Лындаіць- лындаіць дзень пры дні, лынды б'ець.

Лысяк — *лысы. Гэны лысяк аж блішчыць, хоць ты на лысіні нажы йстры.*

Любавізна — *сала з прораззю (бэкон), любовае мяса, прораз у сале*. Любавейшага сала адрэж, самай любавізны. Адна любавізна папалася.

Любосць — *каханне, мілосць*. У іх любосць даўно, толькі тоюцца.

Людскае — *пагляднае, гожае, добрае*. Каб што людскае калі далі, дык не — усё нялюдскае. Такі нялюдскі малец — паглядзець гідка.

Люшка — *засланка ў дымаходзе*. Рана люшку заклалі, ад чаду ў хаці сіня. *(Магчыма, ад нямецкага Luft — паветра.)*

Лягчыць, вылегчыць — *кастрыраваць*. Учора быка злягчылі, цяпер сумны лягчанец.

Ляда́ік — *моташна*. Еш з хлебам, каб лядаік не быў. Улідаіў мне гэны кавалер, глядзець не магу.

Ляжня — *доўгае ляжанне, гультаяватасць*. Ляжня знясіліць і каня.

Лянько — *гультай, лянотнік.* Толку з лянька, як з казла малака.

Ляпа — *рот (зняважліва).* А ты сваей ляпай ня дужа ляпай, памаўчы, га.на ў рот набраўшы.

Ляпітар — *ляпіла, няўмека.* Так печку клаў ляпітар нейкі, што дым ідзець не ўгару, а ўніз.

Лясачка — *кіёк, кульбачка; яшчэ — пачак.* Выразаў сабе лясачку з ляшчыны — лёгкая й уручная. Тупаіць сабе з лясачкай, куды яму бегчы. Купіла лясачку масла, надаела паснаццё.

Лясачкі — *кропачкі, рысачкі.* На ей хусцінка шаўковая ўся ў лясачкі-ясачкі.

Лясоўкі — *лясныя яблыкі.* Як не было ў садах, лясовак з лесу прынясеш на сушку.

Лятней — *ахалодней.* Летам горача ў сінтэтыцы, а ў ільняным лятней.

Лятун — *няўседа, рухавы.* Малы сюд-туд, лятун такі.

Ляха́ — *градка.* Увесь дзень лехі палола.

Качан капусты на лясе,
Верабеічка у страсе.

Мазгаваць — *думаць, кеміць.* Абмазгуй усё добра, а потым рашайся. Перш чым даваць, трэба было мазгаваць.

Мазгаўня — *галава.* У яго мазгаўня яшчэ добра варыць.

Мазолькі — *мазгі.* Пакруці трошку сваімі мазолькамі й дадумаішся, на чым свіння хвост носіць.

Мазьніца — *пасудзінка, у якой трымаюць мазь, каб змазваць колы.* Такая праўда, што сучка дзёгаць

з'ела й на галаву мазьніцу ўздзела. Хахол-мазьніца, давай дражніцца.

Мазюка — *чарвяк; яшчэ — так у малога называюць стручок.* Накапаў мазюкоў, на іх добра рыба бярэцца. Схавай сваю мазюку, а то варона схопіць.

Майнейшы — *імяніты, шляхетны.*

Яго пані майнейшая,
Яна за ўсіх ладнейшая.

Макрата — *мокрае, намоклае.* Перадзенуся, макрату сваю скіну.

Малебенка — *капліччка.* На магільніку й малебенка невялічкая ёсь.

Малёхценькая — *малюсенькая.* Такая малёхценькая зорачка ў небе смяецца.

Ма́ліцца — *прыкідвацца дзіцем.* Німа чаго маліцца, калі з-за пазухі валіцца.

Малочнік — *малачай.* Салатопку ўсю ўзвярнулі, дзе кусты якія былі, а малочнік-трава парасла па калена.

Маміца — *матка (орган).* Я табе выверну маміцу навыварат! *(Муж жонцы грозіцца.)*

Маніцца — *абяцаць, дакляраваць.*

Наелася буракоў, напілася квасу,
Манілася хлопцу даць — недабрала часу.

Маразявы — *зябкі, золкі.* Вецер нейкі маразявы, няўтульна на дварэ.

Маркацінне — *кацінныя выдзяленні пад час марцавання.* Маркацінем ўсё прасмярдзела.

Мармыль — *пануры, незадаволены, буркліві.* Сядзіць адзін у хаці, мармыль мармылём.

Мароз — *назвы:* сівярун, лютун, скварун, прагун.

Маршча́кі — *зморшчыны.* Пад вачмі маршчакі, як барозны, а яна ўсё маладзіцца.

Масіяш — *дападлівы.* Ад масіяша нідзе праходу німа ні ўдзень ні ўначы.

Маскаль — *старавер; рускі.* У нас маскалёў не было, яны асобна жылі. Маскалі людзі адчайныя — на хаду бок праб'юць.

Матавіла — *той, хто матляецца; яшчэ — мужчынская снасць.* Добра, што майго матавілы не было.

Баба дзеда харaніла
І па дзеду плакала:
— А дзе ж тое матавіла,
Што па пузу мякала?

Матамэнды — *абшарпанасць адзежыны.* Так спадніца абтрапалася, адны матамэнды баўтаюцца.

Матаркі́ — *матузкі, завязкі, вяровачкі.* Як не сваімі рукамі мех завязаў, матаркі цягнуцца.

Матрамоззе — *лахманы, старызна.* Матрамоззя поўна, а людскага лайна й німа.

Матыляцца — *ківацца, хістацца.* Не матыляйся, а то звалісся.

Ма́хала — *веер ці галінка адганяць камароў, мух.* Такая ўжо смала, што ад яго й махалам не адмахаішся.

Мацак — *моцнае яйка, якім б'юць іншыя яйкі на Вялікдзень. Калі выбіраюць — зубяць (аб зубы стукаюць; звычайна за яго слаба бярэцца фарба.* З добрым мацаком я ўсе яйкі пераб'ю.

Мацамэнды — *прычандалле, рознае начынне.* Забірай свае мацамэнды ды йдзі з Богам.

Мачлівая — *дажджлівая.* Восень такая мачлівая, неяк бульбу выбраць.

Мачонікі — *грыбы, якія соляць (мочаць).* Мачонікаў прынёс, а сушонікаў не было. Мачонікі, яны рудзенькія. Сёлета мачонікаў, хоць касой касі, зарадзіла.

Машарнікі — *грыбы.* Ужо машарнічкі пайшлі па імхах.

Менка — *абмен, мена.* Згубілі мы й апошнія грошы з-за гэтай менкі.

Мерзлякі — *усё мёрзлае.* Коні галадаюць у калгасі; корм — прынясуць мерзлякоў якіх.

Метлянік — *дзяржанне ў мятле.* Такі гаспадар, што й метлянік ў мятлу не ўставіць.

Мірымы — *можна цярпець.* Ейныя дзеці яшчэ мірымыя.

Місулька — *місачка.* Ты ў тую місульку вылій поліўку.

Мітацца, мітуніць — *кідацца з кута ў кут, мітусіцца.* Ня мітайся ты перад вачмі як мітуніца.

Мітрэга — *здарэнне, нечаканасць.* Тут у нас мітрэга зробілася.

Мітульга, мітуніца — *машка.* З-за мітульгі свету не відаць.

Мітусіць — *трывожыць.* Дарма людзей мітусіць ня буду, сама неяк спраўлюся са сваей бядой.

Млён — *ручка (кіёк) у жорнах, якой круцяць камень.* Добры млён — ня скруціцца ён.

Мора — *шмат, багата.* Работы мора, а робіць некаму.

Мужавей — *мужчына ў сіле, гаспадар.* Так мальчуган, а ажэніцца, мужавеім будзіць. Мой яшчэ мужавей малы, алі ўжо ўпірлівы.

Му́лянка — *грошы, загорнутыя ў анучку.* Мулянку не згубі, прыхавай ляпей.

Мураванка, мур — *будыніна з цэглы.* Мураванка ягоная ад усіх выдзяляецца. Мур стаіць — печ гэта.

Мурлата́ — *азызласць.* У яго з-за мурлаты й вачэй не відаць.

Мурла́ты — *абчасаныя бёрны на версе ізруба, на якія ставяць кроквы.* Мурлаты трэба пакласці трывалыя, каб кроквам было добра.

Муты́ліць — *мучыць, заездзжваць.* Каня мутыліць кажны дзень.

Мыр-мыр — *мыркаць, цадзіць праз зубы.* Насадзіць цыганят поўны сані й едзіць, мыр-мыр, ні слова ня скажаць.

Мырк-мырк — *мармытанне, размова паўсловамі.* Тады яны мырк-мырк і пашлі ў хату.

Мядніца — *вялікая міса.* Вазьмі мядніцу, абяры агрэст.

Мязджуліць, змязджуліць, размяджуліць — *таўчы, патаўчы, пакрышыць.* У мажджэрцы *(ступцы)* змязджуліў часнык. На магільніку соснік вырас, каб гахнула сасна, дык усё б размяжджуліла.

Мяздра — *мякаць.* Яблычны сок з мяздрой налілі ў слоікі.

Мякану́ць — *ударыць, уперыць.* Як мякануў у плечы, дык аж мне дух зацяло.

Мя́каш — *сярэдзіна ў бохану, мякота.* Я мякаш выразала. Кажны к сабе мякашом, а к чужому коркай.

Мякіннік — *праснак з мякіны.* Даўней мякіннік возьміш, і то добра.

Мякоць — *мякаць.* Мяса прынесла маладзіца — адна мякоць.

Мякуха — *далікатная трава.* Пашла нажала мякухі, пасекла свінням. Мякуха дужа мяккая, зялёненькая, калі дробненькая *(тлумачыла мама).*

Мялга́ — *драбяза, малеча.* Акуні й тыя мялга такая.

Мя́ліна — *вялае, маларухомае.* У яго рука жывая, а ёсь такая: возьміш яе, а яна як мяліна.

Мяліца — *прылада мяць лён; яшчэ — нязграбнае, няўклюднае.* Над мяліцай як настоішся, дык спіна колам зробіцца.

Расступіся, зямля-маці,
Выйшла мяліца гуляці!

Мяншак — *меншы сын.* Сынок, яе мяншак, падрос за лета.

Мярзлячча — *мёрзлае.* Зіма, каровы мярзлячча ядуць, мерзлякі ўсякія.

Мярлог — *бярлог; яшчэ — пра раскіданую пасцель.* Лёг мядзведзь у мярлог ды лапу смокчаць. Прыбяры свой мярлог — тут блохі ногі паламаюць.

Мя́рлы, мя́рліна — *нягеглы, затарможаны; яшчэ — нешта недаваранае, недапечанае.* Як нарodзіцца мярліна, дык хоць ты яму маланкамі ў пяткі бі. Сягоння, як на тое, і бульба мярлая, і бліны мярлыя.

Мярнік — *мерная пасудзіна.* Мерніком зручна малако мерыць.

Мясёж — *бойка, звада.* Усе ў бойку кінуліся, і такі мясёж пачаўся! *(Ад мясіць — біць; тут і мяса.)*

Мясцерыцца — *прымервацца, ладзіць месца.* Глядзі ты, і ён ужо тут мясцерыцца.

Мясюга́ — *цяжкое мяса, многа мяса.* Мясюгі такія — не падняць.

Мяцельнік — *хто робіць мётлы.* Учора мяцельнік мётлы прадаваў, і я купіла свежую.

Наблізку́ю — *наўпрасткі.* Наблізкую тут не прайсці, балота топкае.

Набрыдзь — *прыхадні, навалач.* Уся набрыдзь да нас цягніцца.

Набірная, набярна́я — *заразная хвароба (якой набіраюцца ад іншага).* Грып хвароба набірная. Кароста, яна набярная хвароба, шанавацца трэба.

Наве́даме — *як і належыць, само сабой зразумела.* Ей сорак гадоў ужо наведамі.

Наве́я — *завея, завіруха.* Ад навеі ўсё ваколле бялеіць.

Навідку́ — *навідавоку.* Сяджу навідку, а кавалеры гужам-гужам, ды міма-міма.

На́віць — *нават.* Тут навіць сляпому відаць, што толку ня будзіць.

Навя́ліцца — *наваліцца.* На яго як навяліліся ўсе, адбіцца ня мог ніяк.

Навярнуцца — *прыйсці, сустрэцца.* Якраз і Багдановічыха навярнулася.

Навярсціся — *патрапіць знянацку, папасціся.* І адкуль ён навёрся? І не навярайся мне на вочы!

Нага́ўрыць, натаўрыць — *наваліць, нагрузіць.* На стале ўсяго нагаўрана — толькі еш.

Нагбом — *піць з усяго вядра, каўша.* Пілі гора й нагбом і каўшом.

Нагладку́ю — *цалкам, поўнасцю.* Нагладкую разлічылася з зяцям.

Нáгліца — *мор, раптоўная хвароба, эпідэмія.* Во якая нагліца навалілася, людзі як мухі мруць.

Нагляну́ць — *прыгледзіць.* Калі не прыду, ты тут нагляне́ш за малым?

Нагога — *пыхлівы, задавасты, надзьмуты.* Сядзіць нагога, ня бачыць нікога.

Нагруднік — *бюстгальтар.* У дзеўчынёшкі ўжо сісёнкі адскочылі, у нагруднічак просяцца.

Надаражáцца — *модзіцца; яшчэ — цвяліцца.* Як надаражаецца — уся вуліца на яе глядзіць. Прывык толькі ўсім надаражацца, неслух.

Надаядлы — *надакучлівы.* Надаядлы горай за нахабу.

Надвор'е — *дзядзінец, двор.* Хоць жа па надвор'іку пахаджу, хоць жа на сваю мамульку пагляджу.

Надзетка — *адзежа, апратка.* Бабы стаялі, і ў вусіх адзін фасон надзеткі.

Надуцце — *злосць, узлаванне, насуплівасць.* Надуццем сваім усю справу сапсавала.

Надуцька — *крыўдлівы, капрыза.* Надуцька крыўдлівы, як малое дзіця.

Наеда — *насычэнне, сытасць.* Вялікая наеда — жывату вярэда.

Наезджыя — *нетутэйшыя, прыхадні.* Наезджыя, чужыя тут, а сваіх німа.

Наёмшчык — *памагаты (сацыяльны работнік).* Мне ня трэба наёмшчык, хто хлеб носіць, я ж з сынам жыву.

Найдун — *найдзёныш.* Ён жа ім няродны сын, з вайны найдун.

Найсціся — *прыстаць у прымакі; яшчэ — нарадзіць.* І найшоўся к ей дзед, крывы Віннік. У яе ўжо дзяўчынка найшлася без яго.

Накамшы́ць, накомшыць — *напячы многа.* Накамшыла бліноў на ўсіх едуноў.

Наке́рпаць — *наперабіраць бульбы, нагрэсці.* Трошку накерпала бульбы на вячэру.

Налецце, налета — *наступны год.* Будзем жыць сёлета, а да налецця ці дажывём. Вып'ем тут, пакуль мы тут, а налета Бог ведаіць, дзе мы будзім.

Налечыць — *паправіць здароўе.* Ездзіла ў Віцебск, дык там троху налечылі.

На́лле — *няпрошаныя, нахабныя.* І адкуль толькі налля нанясло?

Налюбкі́ — *на выбар, што падабаецца (што люба).* Бяры налюбкі з усяго каша.

Налю́дзіцца — *набрацца добрых манераў, абчасацца каля людзей; яшчэ — прычапурыцца.* Па свеці паездзіў, дык і налюдзіўся. Быў растрахайла, а цяпер, глядзі ты, як налюдзіўся.

Намерыць — *намерыцца, наважыцца.* Куды намерыла, туды й ідзець.

Нападоймішча — *як падняць.* Малы нападоймішча, дужы вырасціць.

Нападрост — *навырост, з запасам.* Малым трэба ўсё шыць нападрост, скора ўсё робіцца кароткая.

Напаспытак — *проба ежы, пітва, каштаванне.* Узяў кавалачак сыру напаспытак, каб рассмакаваць, ці спадабаіцца. Вазьмі хоць напаспытак, а там асмакуешся.

Напатканец — *сустрэчны.* Ішла полем, і напатканцу таму дарогу паказала.

Наперакось — *коса, няроўна.* Дзверыну павесілі наперакось, дык яна й не зачыняецца.

Наперасцíгі — *абгонкі, перагонкі.* І пашлі наперасцігі — хто каго.

Напіндурыцца — *апрануцца, прыбрацца вычварна, крыклíва.* Любіць напіндурыцца, каб усе на яе глядзелі ды зайздросцілі.

Напіры́цца — *адказаць, уставіць слова, адгаварыцца.* І напірыцца ня дась, сам гаворыць, сам слухаіць.

Напіры́ць — *падбухторыць.* Як напірыць яго, дык ён на ўсіх кідаецца.

На́піта — *насцеж.* У хаце каб душа, дзверы напіта.

Напíцерыцца — *набрацца рускіх словаў, старацца гаварыць па-руску ( пра таго, хто ў Піцеры пабываў).* Напіцерыўся ў горадзі й ламаіць язык, свайго забываецца.

Напíціць — *падахвоціць.* Напіцілі яго хлопцы, ён і згадзіўся.

Напіцяры́цца — *прыбрацца, сабрацца (ад Піцера).* Напіцярылася ўжо на гулі, скура на ей гарыць.

Напіцяры́ць — *падбухторыць, падгаварыць (ад Піцера).* Напіцярылі яго, ён і даў волю кулакам.

Напляўду́рыць — *нагаварыць абы-чаго, нахлусіць, затлуміць галаву.* Напляўдурыла, напляла мех з торбачкай, толькі яе й бачылі.

Напоўніцу — *на ўвесь рот есці, скубсці.* Сваё есь як не сваімі зубамі, а чужое — напоўніцу. Выгнала карову раней — напоўніцу скубець атаву.

Напрасоў — *па цаліку, уцэла.* Напрасоў пойдзіш па веснавым снезі — будзіш праваліваццa.

Напраўду — *сапраўды*. А Стахван і напраўду сабраўся з'ехаць адсюль.

Напуці́ць — *наставіць; яшчэ — нацкаваць*. Хоць ты яго напуць, а то нікога ня слухаіцца. Сабаку напуця́ць, дык свайго можаць узяць.

Напушчонік — *хто напускаецца, чапляецца*. Што ты да мяне, напушчонік, чэпішся?

Напытаць — *даведацца*. Хадзіла ў сяло напытаць, можа, дзе хату прадаюць.

Наразу́міць — *навучыць, падказаць*. Нехта наразуміў яе напісаць.

На́раснік — *кустоўе, зараснік*. Усё зарасло гэтым нараснікам — не прайсці.

Нараток — *сплеценая з вялікімі вочкамі торба, куды клалі каню сена (аброк)*. На чужы раток не накінеш нараток.

На́рва — *няпрошаны чалавек, нахабнік*. Нарвецца нейкая нарва — і кукуй.

Нарок — *нараканне, дакаранне*. Хоць бы нарок які быў, усё малако прынялі.

Нарошч — *паўтор, заход, раз*. Як Салівея хавалі, хаўтуры ігралі ў два нарошчы.

Нарэдча́с — *зрэдку*. Нарэдчас дык і добра троху выпіць, думкі перамяніць. Хоць нарэдчас згадзіцца ягоная помач.

Насатка — *насоўка*. Хоць насаткай вытрыся.

Наследава́ць — *наслядзіць, пакінуць сляды*. Толькі падлогу памыла, а ён раз — і наследаваў.

Насоў — *апранаха, халат*. У мяне насавоў балесь ведаіць колькі.

Насоўма — *нахабна, жывасіллю*. Ніхто яго ня просіць, а ён сам насоўма лезіць.

Наспары́ць — *урадзіць.* І ягадаў і грыбоў наспарыла гэтым годам, дзякаваць Божаньку.

Настоліць — *пакласці столь.* Столь настолілі, падлогу паклаў — хата гатова.

Насу́па — *сярдзіты чалавек.* Такі стаў насупа, што забыўся, калі ўсміхаўся.

Насушнае — *слабое, струхлелае.* Страха саламяная, ён яе расхінец і ўлезіць, усё такоя насушная было.

Насы́ціць — *накарміць, здаволіць.* Усіх насыціла, дык за працу.

Наські — *тутэйшы, свой.* Ён чалавек наські, яму можна давяраць. Гэта нейкі ня наські — чужы, наезджы.

Насявацца — *самасеіцца.* Крапіва насяваецца, тады гарод глушыць.

Наталкавацца — *пагутарыць.* Нагаварыліся, наталкаваліся, а нічога ня выталкавалі.

Натаптаны — *у слядах, наследжаны.* Глядзь, аж снег натаптаны, нехта быў ноччу.

Наткнуцца — *сустрэцца, адведаць.* Хай бы ты ка мне, сваціца, наткнулася.

Натрывожыць — *расхваляваць, растрывожыць.* Толькі маю душу натрывожыў.

Наўгадзь — *наўздагад.* Наўгадзь узяла парасёнка з каша. Гаворыць абы-што наўзгаць.

Наўгрунь — *бягом.* Бяжыць у Вушачу бягом-бягом, наўгрунь. Як пабег наўгрунь, дык я яго й недаждала.

Наўзмаш — *з размаху.* Як ляснуў кулаком наўзмаш, аж стол падскочыў.

Наўра — *навалач, нежаданыя, нечаканыя находжыя.* Як ехаць трэба збірацца, дык прысуніцца якая наўра — ня выгнаць.

Наўскапыта — *наўскач, з усіх ног.* Коні нясуцца наўскапыта, даганяюць уцекачоў.

Наўскасíк — *наўскасяк.* Пашла цераз луг наўскасік.

Наўсцяж — *бегчы адзін за адным.* Як пабеглі наўсцяж, дык і канца не відаць.

Націнаць — *напіраць, настойваць.* На мяне бацька націнаў, каб я на вёсцы застаўся.

Націшкá — *употайкі, крадком.* Тады яны націшка міржкамі *(на мігі)* згаварыліся.

Нацяжкý — *цяжарная, якая хутка народзіць.* Калі там што было, а яна ўжо нацяжку.

Начарадзíцца — *начапурыцца, прыбрацца.* Як начарадзіцца, дык не пазнаіш, куды тая старась дзяецца.

Начніцы — *бяссонне.* Начніцы сягоння на ўсіх напалі, ніхто ні на волас не заснуў.

Нашармачкá — *надурніцу, дарма.* Усё жыццё так і пражыў нашармачка, нідзе не натýжыўся, акрамя як за вуглом, перабраўшы лішняга.

Нашушэрыцца — *наставіць поўсць.* Кот са страху ўвесь нашушэрыўся.

Нашчачком — *нашча.* Нашчачком да споведзі ходзяць.

Небыльнíца — *небыліца.* У небыльніцы й бык можаць ацяліцца.

Невірýтны — *невыносны.* Гад невірутны, яшчэ насміхаіцца.

Невыводнае — *бесперапыннае.* У іх п'янкі невыводныя, адно толькі й ўмеюць, што жлукціць.

Недалужны, недалуга — *няспрытны, цельпукаваты.* Недалужны трапіўся ей мужык, з ім толькі мух лавіць.

Недамаўлянкі — *намёкі.* Што ты ў недамаўлянкі гуляіш — кажы як ёсь.

Недамоглы — *слабы, хворы.* Дзед саўсім недамоглы зробіўся.

Недапека — *дуракаваты.* Сын у іх ціхі, паслухмяны, алі трохі недапека.

Недаробак — *няспрытны, ні да чога не здатны, недапечаны.* Во ўжо недаробак — усё з рук валіцца.

Недаткнёнка — *недачэпа, недатыка.* Буду недаткнёнкаю са сваей даёнкаю.

Некальства — *адсутнасць часу, клопат.* З-за гэтага некальства й з хаты не выйдзіш.

Некарысны — *незайздросны, непаглядны.* Бульба такая некарысненькая ўрадзіла.

Немач — *адваротнае помачы.* Такая помач горш немачы.

Непамыслы, непамысловы — *недарэчны, няпутны.* Як жыццё непамыслае, дык нічому ня рад.

Непераліўкі, неўпераліўкі — *непрыемнасць, бязвыйсце, бяда.* Як якія непераліўкі — ён у кусты. Кот на мышыну напаў, ей неўпераліўкі.

Непрыхільная — *няўважлівая.* Дужа непрыхільная нявестка папалася.

Непрыяціцца — *нервавацца, хвалявацца.* З унукамі толку мала, брат непрыяціцца.

Неразлійвада — *дужа цесная дружба, прыяцельства.* Ён з ім неразлійвада, адзін без аднога нікуды — ні ў хлеў, ні за хлеў.

Несамадра́ненькі — *нягеглы.* Мужык у яе несамадраненькі, і з канём не саўладаіць.

Несклямяжны — *нясkладны, нязграбны.* Хоць несклямяжны, ды сам сабе важны.

Неслух — *непаслухмяны.* Неслуху хоць вуха вываpачавай, не паслухаіцца.

Неўваротны — *непаваротлівы, марудлівы.* Рыба станіць сыта́я, неўваротная.

Неўда — *плакса, румза, нюня.* Як уродзіцца неўда, дык да сівой барады румзаіць.

Неўзабаўны — *хто неўзабаве з'явіцца.* Неўзабаўны госць — тут і ёсь!

Неўзнаку́ — *няцяжка, незаўважна, непрыкметна.* Неўзнаку ей сынка пракарміць.

Неўспадзеўкі — *неспадзявана.* У нас у дарозі неўспадзеўкі брыка паламалася.

Неўступака — *упірысты.* Ён і задзірака, ён і неўступака, гора з ім.

Нехуютанькі — *нічога.* Ніхуютанькі ня будзіць з гэтага ра́я.

Не́цель — *карова, якая не цялілася; яшчэ — пра маладзіцу.* І ў гэтай нецелі нешта прыкмецілі.

Нецярпёха — *нецярплівая.* Прыбегла нецярпёха, дай ёй усё й адразу.

Ніжыня — *супрацьлеглае вышыні.* Зробіў мне зэдлічак пад ногі вось такенечкай ніжыні.

Нізь — *нізіна, нізкае месца.* Там самая нізь, што ні пасей — вымакніць.

Нікаць — *дападаць, шнырарыць*. Так і нікае па кутках, каб дзе што вынюхаць.

Ніўё — *жніўё, лугавіна*. Яно па ніўю жатае, там не касілі.

Нішцяк — *нішто сабе, добра*. І ў бедных гасцях жывату нішцяк. А ён нішцяк хату паставіў.

Ніякі — *кепскі, шкодны*. Малец ейны такі ўжо ніякі, толькі шкоды й пілнуецца.

Навіна — *ежа новага* ўраджаю. Сягоння на вячэру навіна. Новая навіна на старое бруха.

Нораст — *нераст*. Рыба на нораст ідзець. *(Так і хочацца патлумачыць — на рост.)*

Норат — *нерат*. Норат трэба ўмець паставіць, каб рыба ў яго пашла.

Носкае — *моцнае (пра вопратку)*. Носкае носіва, надоўга хваціць.

Нотны — *манерны*. Яна паненка нотная — без хвігі не да носа.

Нудзіцца — *сумаваць*. Парасё, адсаджанае ад свінні, нудзіцца.

Нура́ — *нара, яміна*. Мышына ў нуру, і кату насс.ру. Лісіца шусь у нуру — і хвастом накрылася. *(Ныркі недзе блізка, а таксама ўнурыцца, унурыць галаву, пануры, закануракк.)*

Нэдны — *заморany, саслаблы, занудлівы*. Ня столькі бедны, колькі нэдны. *(Відаць, ад нэндзы.)*

Нюшок — *узятая ў тры пальцы мука, соль, крупы, шчопаць*. Солі адзін нюшок, і досіць.

Нявогледдзю — *хутка, не азіраючыся*. Ваўчыца як ляснула зубамі, той ходу, ляцеў нявогліддзю.

Нявы́валака — *лежабока, гультаяваты, размазняваты.* Нявывалака на ходу спіць, у яго ў році вецер начуіць.

Нядбаліца — *гультай, хто не дбае.* А п'яніца-нядбаліца красу маю выпіў.

Нямтур — *нямы, нямко.* Маўчыць нямтур, толькі вачмі лыпаіць.

Нямýдраны — *несамавіты, няхітры.* Нямудранымі сеткамі рыбу лавілі.

Няпошлы, недапошлы — *недалужны, слабы, ніякаваты, непаваротлівы, нязграбны, нехлямяжсы.* У гаспадарцы заўсёды працы завал, а мужык у яе няпошлы. Такі недапошленькі малец, ажно шкада яго.

Няпутны, непутны́ — *бесталковы, які адбіўся ад рук.* Не дай Бог няпутных дзяцей.

Нясенне — *калі курыца гатовая знесці яйка.* А такая была дзікая, а то нікога не баіцца курка, грабянёчак ужо красны — к нясенню збіраецца.

Нясноты, нясноцце — *нешта надуманае, няпэўнае.* Сваімі дурнымі няснотамі ты мне галаву затлуміў.

Нястоцце — *кволае, слабое, недарэчнае.* Усё нястоцце сабралася.

Няўсхолае — *зерне, якое не ўзыходзіць.* Пшаніцу засеялі, алі ж зёрнеткі няўсхолыя.

Няхлюй — *неахайны.* Такі няхлюй, быццам у хлеві рос.

Пабаешка, пабайня, пабойка — *палка з вузляком на канцы.*

А там пад алешкаю
Стаіць баба з пабаешкаю...

Пабасцяка — *блудлівы, памаўзá.*

Ой, мамачка, я прапала,
Любіць мяне хто папала —
І рускія, і палякі,
І ўсякія пабасцякі.

Пабéраззе — *нешта нязграбнае.* У яго рукі, як пабераззя.

Пабрахушка — *показка абразлівага ці фрывольнага характару.* Скажы хоць што добрае, знадакучылі мне твае пабрахушкі.

Павароніць — *пацікавіцца, паназіраць.* Пашла паглядзець, за чым людзі стаяць, каля крамы павароніла.

Паверх, павершачку — *вышэй, зверху.* Паверх іх ёсь большыя дзеці, яны вішні шчыпюць. Павершачку кілбасу адрэжу й ем.

Павечка — *вейка, раснічка; яшчэ — нáкрыўка.* Загадай, з якога вока павечка зляцела? І ў скрыні, і ў труны таксама павечка.

Паветрыць — *праветрыць.*

А дзед бабу паважаў,
На папары навязаў:
А няхай баба паветраіць,
А можа ж, яна палепшаіць.

Паветрыя — *паветра.* Зроб прадушыну, каб паветрыя праходзіла.

Павіднý — *пакуль светла, засветла.* Я свіней павідну накарміла.

Пагадзіць — *пачакаць.* Хай сягоння яна пагадзіць троху, заўтра аддам.

Пагалець — *пажыць у бядзе, пагаладаць.* Пагалела б, тады б знала, а то ей матка прэць і прэць.

Па гарлá — *па горла, досыць*. Мне тваёй ласкі па гарла хапіла.

Пагáрышча — *месца, дзе згарэла будыніна*. На пагарышчы вазьмі зямлі.

Паглядзіны — *узгледзіны, сватанне*. Прыехалі сваты на паглядзіны.

Пáгніль — *падгнілыя ў вадзе ламачыны, палкі*. Адна пагніль ля возіра ляжыць.

Пагоднікі — *дзеці, якія нараджаюцца штогод*. У Рыпіны аж трое пагодічкаў, хватаіць клопату маладзіцы.

Пагонь — *атожылле, пáмаладзь*. Вішніна пагонь дала.

Пагробкі — *каласы з саломай пасля жніва, згрэбленыя на іржышчы*. Адных пагробкаў як ня воз набралі.

Пададэнне — *самае дно*. Верніць усё з пададэння, нешта знайсці хочаць.

Падáнак — *міласціна*. З паданкаў раз'ясіся як шыла.

Падаўкíя — *дровы, якія паддаюцца сякеры*. Падаўкія дровы лёгка біць.

Падбародавіч — *падбароддзе*. Так раз'еўся, аж тры падбародавіча вісяць.

Падбіцца — *падкаціцца, паддобрыцца*. Заюрыла ей падбіцца пад мужыка чужога, каб адбіць, сучка гэткая.

Падбочніца — *каханка, палюбоўніца*. Фроська ў начальніка падбочніцай была, мела чым зараблящь. Якая-ніякая, а падбочніца трэба — усё весялей.

Падбрушша — *падчарэўе (у свінні)*. На пабрушшы сала ў палец тоўсці.

Падвячорак — *падмацунак перад вячэрай.*

А Хадора падвячоркавала,
Назад ногі пазаторкавала.
А Рыпіна пазавідавала,
Назад ногі пазакідавала.

Падграбалы — *хапугі, скваннікі.* Усе гэты падграбалы, што хапалі жыдоўская *(у час вайны).*

Паддол — *падпамосце.* Капусты бочку нашыткаваў і ў паддол паставіў.

Пад'ехаць — *задобрыць, падмазаць, даць хабар.* Праўды ў судзе ня знойдзіш — тут пад'ехана.

Паджары — *падцяты.* Спрытны, як вецер, як воўк, паджары.

Паджога — *сухія трэсачкі, смалячкі на распал печы; яшчэ — хто падторкваецца недарэчы пад руку.* Наскіпаў лучынак на паджогу. Узяла скавараду ў рукі, а ён, паджога гэты, пад руку жох.

Паджыга́ла — *жвавая, хуткая.* Паджыгала бегла жыг-жыг.

Падза́пар — *запар, засаб.* Сем начэй падзапар пілнаваў злодзю.

Падзённікі — *падзённыя работнікі, падзёншчыкі.* У іх ўсё лета падзённікі робілі.

Падзюркавацiцца — *падрацца, пабіцца дзюркамі.* Уся страха падзюркавацілася, перакрываць давядзецца.

Падкачаць — *падгадаваць.* Каб Бог здароўя даў, троху б унучку падкачала.

Падкрадаць — *патрошку, нясмела красці.* Дык я падкрадаваю сена карові.

Падлаву́дзіць — *падпілнаваць, вычакаць зручны момант, нешта ўхапіць, украсці.* Ня жыў, каб не пад-

лавудзіць што. Вось я яго й падлавудзіў на хлусні. *(Яўна ад вуды.)*

Падлёткі — *маладыя птушкі.* І падлёткі сабраліся ляцець у вырай.

Падляпішча, падляпак — *ніжняя сківіца (звычайна, у парсюка).* Такое ў парсюка падляпішча, аж страшна, таз квашаніны можна наварыць. Пачашы свінні падляпак, хай супакоіцца.

Падмуроўка — *падмурак, фундамент.* Падмуроўка трывала, а так хата даўно б у зямлю пашла.

Падмызнік — *падхалім, дагоднік.* Язык у падмызніка лепі за рамізніка.

Паднадолак — *падшыты падол.* Яна так абнасілася, што паднадолкам падлогу мяцець.

Падножнае — *усё, што расце.* Певінь есь усё падножнае, як індык, непераборлівая жывацінка.

Паднябенне — *скляпенне ў печы; яшчэ — нёба ў чалавека.* Агонь паднябенне ліжаць. Яблык такі горкі, аж паднябенне скрабець.

Падпуззе — *падчарэўе.* Дзеўку ўзяў сабе з Загуззя, у яе чорнае падпуззя.

Падрабяззе — *звычайна мужчынскі «струмант» так называюць.* Схавай сваё падрабяззя, людзі ж кругом.

Падсанкі — *ніжняя сківіца; яшчэ — невялічкія сані.* Ад злосці аж падсанкі падцяў. Як цмыгнуў у падсанкі, дык ён — кулік вобземлю. Што на санях, што на падсанках, глядзіш, і перавязлі ўсю запасіну.

Падсеіваць — *сеіцца, імжыць.*

> Дождж ідзець, дождж ідзець
> І падсеіваіць.

Усякая шантрапа
Ўсё падсмеіваіць.

Падскрэбіш — *перапечка з цеста, наскрабанага на дзяжы; яшчэ — апошняе дзіця ў старых бацькоў.* Хоць падскрэбіш спячы — душу адвесці. Вось табе й вось, у іх падскрэбіш знайшоўся.

Падсме́ценне — *калі б'юць масла, на дне асядае накшталт смятаны.* Гэта масла зробілася жоўтая, і падсмеціння німа.

Падсмішка — *пакепліванне, кпіна, падколванне.* Падсмішку яму зробілі, гладка спанталычылі чалавека.

Падстолле — *месца пад сталом.* Стол поўны, і падстолля поўнае.

Падстру́наваты — *стройны, паджары.* Ага, падструнаваты, што з-пад жывата ног не відаць.

Падсы́каваць — *нацкоўваць, падбухторваць, падбіваць, пад'южваць.* Што ты яго падсыкаваіш, і так добрая цаца. Так і падсыкаваіць яго, як змяя, каб на мяне зверам глядзеў.

Падумка — *задума, думка.* Навіць і ў падумцы не было нічога.

Падуросткі — *падлеткі.* І падуросткі пачалі нарэшце за розум брацца.

Падхартаны — *падцягнуты, стройны.* Падхартаны мужчына, ня тое што гэты цабэрак.

Падхвоснік — *прыхвасцень, падхалім, падпявала.* Ніколі гаспадаром ня быў, так падхвоснікам усё жыццё й прабегаў. Падхвоснік усім дагодзіць, калі яму выгодзіць.

Падхвосніца — *тое, што ў свінні пад хвастом.* Як сваю радню, у падхвосніцу пацалуй свінню.

Падхлебнік — *падхалім, падліза, карыслівы.* Падхлебнік да любога падлашчыцца.

Падхмяліцца — *выпіць для сугрэву, пахмяліцца.* Падхмяліцца трэба, дык і цёпла будзіць.

Падхухýліцца — *прычапурыцца, прыбрацца.* Як падхухуліцца, дык хоць пад вянец вядзі.

Падх'ю́рыць — *падкалоць.* Любіць падх'юрыць, каб чалавек з сябе выйшаў.

Падшпаркі — *дзеці (з прасмішкай).* У яе ўжо свае падшпаркі пашлі.

Падштука́ніць — *нешта падладзіць, падстроіць.* Да працы рукі ў ср.цы, а падштуканіць штуку спец.

Падыспод — *падніз.* Падыспод надзень нешта мякчэйшае, а паверх — калянейшае, і цёпла будзіць.

Пад'юшыць, пад'юхрыць — *падбухторыць, нацкаваць, завесці.* Іх проста пад'юшылі, і яны робяць абы-што. Яго і пад'юхраваць ня трэба — сам на людзей кідаецца.

Пад'ярошваць — *заводзіць, падаграваць, раскатурхваць.* Вы яго яшчэ пад'ярошавайце, а то саўсім абвяў.

Паездзіны — *паязджанне.*

А наш кумочак паездзінкі любіць,
А можа ж, нам ён гарэлачкі купіць.

Паёнік — *цяля, адсаджанае ад каровы, якое пояць; яшчэ — п'яніца.* У пойла апускаецца рука, а цяляці даюць смактаць пальцы. Паёніка неяк падкачаць трэба. Паёнік гэны прывалокся апоўначы ледзь жывы.

Пажашкі — *смяцінкі.* У чужым воку пажашок згледзіць, а ў сваім і бярно ня бачыць.

Пажыванне — *здабыча, спажытак.* Пашоў на пажыванне, нешта ж знойдзіць.

Пажывіцца — *падмацавацца, перакусіць.* Узяў скарынчку ды й пажывіўся.

Пажытак — *здабыча, узятак.* Як ліпы цвітуць, тады пажытак самы ў пчол.

Пазáвугалле — *цёмныя куткі, завуголле.* Яго сон не бярэць, ён яшчэ будзіць хадзіць пазавугаллю.

Пазáддзе — *адыходы, высейкі.* Не ячмень, а пазаддзе адно, гэта ж трэба так не ўрадзіць.

Пазасвáравацца — *дужа перасварыцца.* Так пазасвараваліся да паўсмерці, ваўкамі ходзюць.

Пазаўтраму — *пасляпаўтра.* Пазаўтраму й дамоў паедзім.

Пазнюр — *позні, пазны.* Агуркі-пазнюры яшчэ зялёныя.

Пакато — *кола.* Пакацілася пакато, не дагоніць ніхто.

Пакладзішча — *месца, дзе нешта кладуць.* Пакладзішча хапае, толькі ў долі рука скупая.

Паклы́чацца — *пускаць клыкі (парасткі).* Бульба ў ямі доўга растоў не пускала, алі ўжо паклычалася.

Пакраса — *акраса.* Жонка — пакраса мая!

Пáкруп'е — *рэштка ад прасеяных круп.* Крупы з'елі, адно пакруп'я асталося.

Пакрэпнуць — *азябнуць, зайсціся.* Увесь дзень на марозі — і рукі пакрэплі.

Пáкулле — *атрэпкі лёну й пянькі, якімі зазвычай заторкваюць шчыліны.* Да маразоў паспела пакуллем пазаторкаваць вокны.

Палавы́ — *з мякінай, з палаўнёй.* З вайны былі рады й палавому хлебу.

Палазавінкі, палазняк — *след ад палазоў, палазня.* Летам тор *(торная дарога)*, а цяпер ішла па палазавінках, набок неяк сыйсці. Цяжка йсці па палазняку, а ўсё ж не ўцэла.

Паланачкі — *начовачкі (часцей ліповыя) палоць (веяць, правейваць) крупы.* Мы ў паланачках паллі груцу.

Паласіна́ — *паласа, адрэзак.* Дзе Трахім жыў, там гэта паласіна ў роў.

Пала́тавацца — *пажывіцца.* Ён каля базы добра палатаваўся, пакуль ня сеў.

Палатунак — *спажыва.* Лісіца чуіць палатунак.

Палегліца, легліца, палёгліца — *палеглая трава.* Каб дзе травінка ўкосная, адна палегліца. Накасілі сена па легліцы.

Па́лер — *ахвота, жарсць, пал.* Умеіць жа палеру нагнаць.

Палі́ўнік — *ганчар, той, хто робіць паліву.* Кравец без штаноў, паліўнік без стаўбуноў *(жбаноў).*

Пальчыкі — *невялікая рыба, драбяза.* Налавіў рыбы во такой — пальчыкі.

Палюк — *дзяржанне ў касы.* Так улёг касіць, аж палюк лопнуў, давялося новы гнуць.

Палярыч — *параліч, паралюш.* А яго палярыч у дугу скруціў.

Паляўцы — *жыхары бязлеснай мясціны.* Паляўцы да лесаўцоў грэцца едуць *(па дровы).* У паляўцоў поле як толькі вокам скінуць, каб дрэўца дзе.

Паманіцца — *паабяцаць.* Паманіўся сустрэць мяне з аўтобуса, ды як заўсягды падмануў.

Памаўза́ — *хто без просу некуды лезе, нешта бярэ.* Памаўза скрозь улезіць, каб хоць што ўхапіць.

Памашні́к — *памочнік*. Слабы з яго памашнік, яшчэ малы.

Памёт — *папар*. Купалка на памётах расцець.

Паможка — *падмацунак, падмога*.

А збірайся, мой брацітка, у дарожку,
А бяры злота-серабра ў паможку.

Панадка — *звычка, завядзёнка, мода*. Паняў панадку — выпіваць піва кадку.

Панараві́цца — *пакапызіцца, пакапрызіць*. Панаравілася, ды не ўзяла ў злось.

Панараві́ць — *пачакаць, пацярпець*. Панараві трохy, неўзабаві паедзім.

Пануры́цца — *паваліцца, упасці*. Як стаяў, так і панурыўся носам у снег.

Папа́саваццa — *разгуляцца, раскашавацца, пабаляваць*. Нядоўга яму папасавацца асталося.

Папасці́ — *застаць, заспець*. Во каго хоць раз папала́.

Папе́рва — *спачатку*. Паперва буракі выраслі.

Папіка, папікішча — *дакор, папрок, папіканне; яшчэ — з каго кпяць, над кім пакепліваюць*. Гэта яму вечна як папіка будзіць. Кожан раз адным і тым жа папіка. Ня малец, а піпікішча нейкае, недаробак.

Па́пінка — *пэпінка (гатунак яблыкаў)*. Пятрок Апёнак сваю папінку абаберацъ, пад Новы год вязець прадаць.

Паплячэць — *раздацца ў плячах, памужнець*. Не так вырас малец, як паплячэў.

Папра́шаваць — *прасіць некалькі разоў*. Малая ўжо есці папрашаваіць.

Папушчэнства — *патуранне, паблажлівасць*. Усё шаленства праз гэта папушчэнства.

Папялéц — *прысак.* Пакладзі бульбу ў папялец, няхай пячэцца.

Парá — *час.* Во колькі пары́ — трэба курам даваць.

Паравы́ — *каму прыйшла пара жаніцца.* Паравы хлопец, паглядны, а пáры яму німа.

Парáдкаваць — *наводзіць парадак.* Цэлы дзень парадкавала хату, дык і прытамілася.

Пáрасаваць — *рабіць беспарадак, гаспадарыць не ў сваім жытле.* Хата, як ляда, — папáрасаваў злодзя.

Пáраснік — *хмыз, порасць.* Усе лугі параснікам зараслі, недзе касе ўткнуцца.

Пароддзе, прыроддзе — *род, радня, пакаленне; яшчэ — гатунак.* Не адно пароддзе людзей пахавалася на магільніку. Сёлета з калхоза другое пароддзя бульбы прывезлі.

Паролікі — *бульба, якая перазімавала ў зямлі, бо яе не выбралі.* Бывала, з вайны паролікаў напорыш, абчысціш, адцісніш, нюшок мукі дадасі — і лапуноў напячэш, усё ж кішку абдурыш.

Пароўну — *упоравень, да самага нізу.* Я кашу́ пароўну зямлі.

Пароцца — *валтузіцца, капашыцца.* Кошка старая ляжыць, а маленькая кошачка порацца ў яе пад пузам.

Пару́шыцца — *падарвацца.* На гэтай працы цяжкой парушыўся чалавек.

Паршні́ — *абутак са скуры, у вайну рабілі з аўтапакрышак.* Якія-небудзь паршні ўсторкніш, а ўсё ж нага ня босая.

Пáсвішча — *выпас.* Атава адскочыла — самае пасвішча.

Пасівярэ́ць — *падсохнуць на сіверы.* Дошкі падсохнуць, пасівярэюць.

Пасіліцца — *перакусіць, падмацавацца.*

Узяў абараначак — пасіліўся,
Узяў я дудачку — павесяліўся.

Паскума́ціць — *зблоціць, змарнаваць.* Косіць так, што паскумаціць-паскумаціць — і на тым.

Паслюгоціць, пасулоціць — *паслініць, папэцкаць.* Толькі паслугоціць, пасулоціць дый выплюніць.

Пасме́хі — *кпіны, прасмішкі.* Каб жа радзімку *(парадзіху)* ня бралі жаноцкія пасмехі, дзявоцкія пагляды.

Пасната, паснаццё — *посная страва, без закрасы, без за́таўчыны.* Сёлета парасёнка не дзяржалі, так паснаццём і давімся.

Пастаяльцы — *хто спыняецца на пастой.* У яго штоноч пастаяльцы, і хата багатая, і падвор'я вялікае.

Пастаянка — *пастой.* Перавозчыкі заўсёды ў нас на пастаянку спыняліся.

Пастка — *пашча, рот.* На поўную пастку есь, аж хапаіць.

Па́сухалле — *сушняк, сухое ламачча.* З-за пасухалля ў лесі й чорт ногі зломіць.

Па́сушань — *выпаленая сонцам мясціна.* Куды ні глянь — пасушань, каб дзе травінка зялёная.

Па́сушнік — *пасохлае лісце.* Каровы пасушнік ядуць.

Пасце́льнік — *дошкі, што на дне ў брычцы пад сенам.* Пасцельнік новы, хоць два беркаўцы сена можна класці ў брыку.

Пасцельніца — *палюбоўніца.* Завёў сабе новую пасцельніцу й гагалём ходзіць.

Пасяльнічы — *хто любіць хадзіць на сяло, на паседзіны.*

Казалі на мяне пасялушачка,
Я ж у свайго татулькі весялушачка.

Патарча́ка — *галіна рагатая, карчавешка; яшчэ — стрэмка.* Глядзі пад ногі, а то на патарчаку нарвешся. Не заўважыў, як патарчаку пад пазногаць загнаў, цяпер насіся з рукой.

Патра́ўка — *варыва, лёгкая ежа.* Ня суп, а панская патраўка.

Качан капусты — добрая патраўка,
Верабеічка — тлустая запраўка.

Патруха́ — *пацяруха, аб'еддзе.* Запрог у сані, патруху насыпаў у кашэль каню есці, конь стаіць, патруха стаіць.

Патрухну́ць — *патрусіць.* Пакладзі кілбасы радзей і солькай патрухні.

Патрушчэліць — *патрушчыць.* Зваліўся дзед з печы й патрушчэліў місу на дробныя цурачкі.

Паўдзе́нь — *паўдзён.* А ў паўдзень ніхай прыдуць возьмуць паўлітра малака.

Паўднёвае, паўднёвешняе — *малако, надоенае ў паўдзён, калі кароў на паўдзён у спёку з поля прыганяюць дамоў.* Дастань малако, яно ня кіслае, паўднёвішняе.

Паўколак — *абчасаны кол, але не зачасаны; яшчэ — грубы, неахайны.* З такім паўколкам і ў лес ня страшна йсці. Гэта дзеўка прама нейкі паўколак.

Паўсцінне — *поўсць.* Уся куртка ў паўсцінні, зноў кошку гладзіла.

Паўхір — *пухір, пухліна*. Нацёр рукі старой пілой — паўхір ускочыў. Паўхір не пытаіцца, дзе яму ўскочыць.

Паўцагелак — *палова цагліны*. Грубку з паўцагелкаў склалі, алі цэгла была старая, добрая.

Паўшабэлак — *падлетак (кепліва)*. Гэны паўшабэлак ўжо ў дзяцюкі дзярэцца.

Пахаблю́ха — *непрыстойная показка*. Ты мне гэткую пахаблюху пры дзецях не гавары.

Пахавацца — *памерці*. Многа ўвосень старых пахаваліся, паўміралі.

Пахадзе́нь — *венік, якім мятуць на хаду*. Малец пахадлівы, як пахадзень.

Пахадзі́цца — *пакрыцца*. Дала за казла тры рублі, і каза мая пахадзілася.

Пахаду́шкі — *клопат, хаданіна*. Чалавек у пахадушках, дык час неўзаметку праходзіць.

Пахаладацца — *выйсці з душнага (з лазні, з танцаў) памяшкання на свежае паветра*. Выйдзі ў прылазнік пахаладацца.

Пахаплі́вы — *жвавы, увішны*. Пахаплівы, як агонь, у яго скрозь гарыць.

Пахапу́нькі — *успомненае ці раптам прыдуманае*. З яго пахапунькі сыпяцца, як з дзюравага меха.

Пахляба́ла — *рэдкая страва*. Памачы хлеб у сала й дай кошцы, а то што ей тое пахлябала.

Пахнючы — *пахучы*. Кроп такі пахнючы, на ўвесь гарод чуваць.

Паходнік — *падарожнік, вандроўнік, хто ў паходы ходзіць*. Нейкія людзі хадзілі, можа, якія паходнікі.

Пацалуйнічак — *хто любіць цалавацца*. Матчына радасць — сынок-пацалуйнічак.

Па́цебнік — *кустоўе алешніку, хмыз*. Пацебнік высячы, дык ладная дзялянка будзіць.

Пацішне́ць — *супакоіцца, пасталець*. Пацішнеіць ніхай, тады й гаварыць будзім. Падрастуць — пацішнеюць вачапоры.

Пацьмяк — *тоўсценькі, мяканькі*. Такі пацьмячок, аж па ср.чцы пашлёпаць хочацца.

Пачопка — *вяроўчына з пятлёю, з дапамогаю якой калыхалі падвешаную пад столлю калыску-зыбку, звычайна нагой*. Матка начэй недаспала, з пачопкі нагі не вынімала.

Пачуле́ць — *набрацца моцы, падужэць*. Хай падрасцець, пачулеіць троху.

Пачэпка — *аборынка, скураток, чым пуга прывязваецца да пугаўя*. Пачэпка гнілая была ўжо, і пуга згубілася, адно пугаўё асталося.

Пашлапень — *нягеглы, недалужны*. Пашлапень зачапіўся за пень, пень стаіць, а пашлапень ляжыць.

Пашлы́пацца — *пахадзіць, пацялёпкацца*. Па вадзе пашлыпалася-пашлыпалася й захварэла.

Пая́с — *пояс, паясніца*. Вада па паяс, усё стаіць як мора, зарасло, сіня й сіня.

Пе́кліцца — *мучацца; яшчэ — цяжка працаваць (як у пекле)*. Як жа ён пекліцца са сваёй хваробай. Цэлы век пеклюся, свету белага ня віджу.

Пе́кліць — *аддаваць набытае цяжкой працай*. Матка як вол робіць і на дачку ўсё пекліць.

Перабаразніць — *перашкодзіць, перабіць думку, гаворку*. Пра што гэта я казала? — перабаразніў ты мне думку, сваіх тры грошы ўторкнуў.

Перабіра — *пераборлівы, капрызны.* Гэнаму перабіру не дагодзіш.

Перабойка — *перагародка ў хаце.* Усё чуваць, што робіцца за перабойкай, яна ж тоненькая, гэта ж не сцяна.

Перабойнае — *з перабоямі.* У нас ужо й карасіна перабойная, у крамі хоць сабак ганяй.

Перавод — *марная трата.* Толькі перавод грошай, а карысці ні на пазногаць.

Перавуззе — *вузкая мясціна, грэбля.* Возіра ад возіра блізка, дарога абапал балота, толькі перавуззем і можна прайсці. У нас перавуззе гэта звалі Тумашовы штаны.

Перагаворшчык — *перакладчык.* Перагаворшчыцай у немцаў была наша вушацкая дзяўчына.

Перадкава́ць — *пазабягаць перад кімсьці, ліслівa гледзячы ў вочы.* Бачу, ідзе Трахім, а баба перад ім перадкуіць.

Перадойка — *карова, якая не пахадзіла й таму не запускалася.* Наша Гілёня сёлета, відаць, перадойкай адходзіць.

Пяражыргну́ць — *пераступіць цераз кагосьці.* Так цесненька ляжаць, што пяражыргнуць неяк. *(Літоўскае zergti — пераступаць, перакручваць.)*

Пяражыткі — *усё, што здараецца ў жыцці.* Трэба ж усе пяражыткі пяражыць.

Пeракінуць — *памяняць.* Жонак пяць перакінуў, і здароў.

Пераклады — *жэрдкі, якія падтрымліваюць снапы ў гумне, каб не валіліся.*

У мяне гумно вялікае,
Пярэплаты вісокія,
Пераклады шырокія.

Перакрыўляць — *парадзіраваць, пераймаць.* Так ужо налаўчыўся перакрыўляць усіх, аж жываты надрывалі з яго.

Перакуска — *падмацунак.* Каням перакуску далі, самі пад'елі.

Піералетак — *маладая жывёліна, якая пералетавала (гадавалася летам).* Асталася на завод цялушка-піералетак.

Перапрос — *перапросіны, перапрашэнне, выбачэнне.* Глядзіць, што перапросу ня будзіць, дык і маўчыць.

Перапуддзе — *страх, перапалох.* І такое перапуддзе найшло на ўсіх, што не маглі апомніцца.

Перапялёсы — *паласаты.* Ён у сваіх перапялёсых штанах усім відаць.

Пераруга — *цвяленне, наруганне.*

Пайду я каля лугу
Мальцам на перарутгу.
Пайду я каля саду
Дзеўкам на перасаду.

*(Калі перасядае ў горле ад зайздрасці.)*

Перасыпа́ць — *перабіраць, замяняць падгнілыя вянцы ці асобныя бёрны будыніны.* І хату й трысцен перасыпалі, цяпер будынінка як званок.

Пер'е — *парасткі ў цыбулі.* Цыбуля ў мяне пасаджана, цяпер пер'е з дожджу добрае вырасла.

Першына́ — *першы раз, упершыню.* Ці мне першына адной спаць?

Пеўныя — *поўныя яйкі.* Як пітух пайграіць на курыцы, яйкі тады пеўныя, найграныя ня будуць баўтунамі.

Пешака́, пюхтам — *пешкі, пехатой.* Туды й пешака зайсці можна. Ад падвод адстаў, дык усю ноч пюхтам пёр. Пюхтам джгалі ўсю дарогу, ног ня чулі.

Піздадзверка — *маленькая рыбка, верхаводка.* Звялі нармальную рыбу, адна піздадзверка засталася, хутка рыб'ю матку вылавяць.

Піздарванка — *дзеўчынёшка (абразліва).* І Курылава піздарванка там круціцца.

Пілатоўка — *купіна, кратавінне.* На пілатоўках не разгонішся, а толькі ногі паламаіш.

Пілнавацца — *трымацца некага.* Пілнуйся бацькоў — чалавекам будзіш, а прыстаніш да чужакоў, і сябе забудзіш.

Пільніца — *тэрміновая праца, клопат.* Такая пільніца навалілася, што ні спаць, ні есці некалі.

Пільсць — *поўсць у ката.* У Мірона такая гладкая пільсць, аж блішчыць на ім, толькі гладзь.

Піскля́ — *плакса, румза.* У яе малая — такая піскля, рады не дасі.

Пiскляняты — *кураняты.* І пiскляняты пішчаць, і гэта піскля сквярэцца, піск стаіць.

Пісюгі́ — *падцёкі; яшчэ — шрамы.* Разбіў слоік — пісюгі й пацяклі. Уся спіна ў пісюгах — гэтак адпойсавалі пугай.

Піцаваць — *шчыра працаваць.* Зямля не падушка: даў кулаком — яна й паднялася; на зямлі піцаваць нада. Піцаваў-піцаваў, а заробіў бочку мякіны.

Піцуга́ — *шчыры працаўнік.* Такі піцуга быў, а на памятнік сабе не заробіў.

Пла́зма, плазмаком — *упасці ніц*. Урэзаўся плазма, аж іскры ўваччу. Плазма кідаюць дровы.

Пла́ўздаць — *поўзаць па-пластунску*. Плаўздаў па траве, і каленькі зялёныя.

Племянютанька — *ласкавы зварот да пляменніка*. А племянютанька ты мой, чаго ж так рэдка бываіш?

Плоць — *плоткі (зборнае)*. Плоць з белай спіной стаіць у возіры. *(Польскае płoć — плотка.)*

Пляніца — *сіло*. З конскага воласу скручваюць як бы вяровачку. Каб волас не выслізваўся, мачаюць у попел. Потым робяць петлі, якія замацоўваюцца на дошчачцы. Кладзецца сала ці сыплюцца крупы для прынады.

Побер — *засада на паляванні*. Усю ноч у поберы сядзелі й каб што ўпалявалі.

Повірак — *кіёк, палка*. Удваіх на повірку папёрлі цэбар.

Погусць — *густая страва, густыш*. Ці табе погусць наліць?

Под; падавы́ — *тло ў печы; спечаны на подзе*. Хлеб пяклі на подзе. Падавы хлеб смачнейшы, сытнейшы.

Подручкі, уподручкі — *узяўшыся пад руку*. Як узяліся подручкі, дык ішлі б невядома куды, ашалелыя ад любосці.

Подсціль — *падсцілка карове ці каню*. Саломы на подсціль трэба настарацца.

Пожаг — *кіёк, дубец з завостраным канцом (на агні абпаленым); яшчэ — увішны, гарачы кавалер*. Гатоў пожагам вочы выкалаць. Ён пожаг такі, увесь час каля дзяўчат круціцца.

Покаддзю — *да ўпаду*. Мы покаддзю лажыліся са смеху ад ягоных жартаў.

Покат — *водгалас, гук.* Аж разлягаліся покаты смеху.

Поклад, покладзь, падкладзень — *яйка, якое пакідаецца ў гняздзе нясушцы, як бы на заахвочванне.* На поклад адно яйцо пакінула, а ўсе забрала. У гняздзе толькі падкладзень ляжыць, сягоння не няслася курыца.

Пол — *палок, палаці.* Пол — ад печы да вакна, дзе спалі ўсе разам, а ўнізі — падполля, дзе бульбу хавалі.

Полка — *пялёнка, пялюшка.* Полкі памыла — ідзі развесь у двары.

Полягка — *палёгка.* Полягку зробілі паштарам — павесілі скрынкі на вуліцы.

Помак — *намоклае палена; яшчэ — нехлямяжы.* Як пакладзеш помак у печ, дык з яго толькі дым, а цяпла німа. На балесь мне гэны помак у хаці?

Помства — *помста.* Малых павыключалі з інстытута, можа, помства, а можа, і ленаваліся.

Поражня — *паражняком.* Туды вязець, аж восі стогнуць, назад поражня едзіць.

Порах — *прах, пыл.* Мышы ўжо салому на порах патачылі.

Порацца — *поркацца, шамацець.* Баба порацца ў сваім закутку й нічога ня чуіць.

Посік — *выразаны ў забітага парсюка хвост і адпаведна ўсё, што пад хвастом. Зімой перад запаленай печкай посікам змазвалі боты, папярэдне патрымаўшы посік перад агнём.* Боты гладка ссохліся, вазьмі посік ды добра памаж іх.

Поснае — *беднае, нішчымнае.* Поснае віно, і закуска посная была.

Поўната — *поўны месяц, поўня.* Поўната на неба выкацілася.

Пошар — *корм карове.* Лепшанькага пошару сваей Букетцы расстаралася. Карова любіць ласейшы пошар.

Пояў — *з'яўленне, прысутнасць, паказванне.* Мяне й появу не было там, а яны сваё — быў.

Прабедненька — *беднавата.* Дзяцей багата, дык прабеднінька жылі.

Праварына — *праход у плоце, у які йдзе жывіна (жывёла) з поля, адкуль выязджаюць.* Збегай закладзі праварыну, каб каровы ў шкоду не залезлі.

*Перакладаў я неяк вершы ўкраінца Івана Драча. Там было: на ворині сидять тесть і зять. Слова ворина не было ні ў Грынчэнкі, ні ў сучасных слоўніках. Мой сусед-украінец патлумачыў, што гэта проста жардзіна ў плоце. Дзе Кіеўшчына, дзе Вушаччына, а словы пакумленыя. І ясней, адкуль праварына. Дарэчы, на Вушаччыне ёсць слова таго ж значэння — увароціна. Плот зробіў, увароціну зробіў заязджаць. А на Меншчыне праварына — стойла.*

Правіна, правінка — *віна, вінаватасць.* Якую ды якую правінку знайдзіць, абы прычапіцца.

Прагнуць — *пілнаваць, цікаваць.* Кот прагнуў за куранятамі.

Прагон, прагонка — *праход для выгану кароў.* Не стаі ў прагоне — каровы йдуць.

Прадрогацца — *пратрэсціся, пракалаціцца.* Па брукаванцы прадрогаўся, як жывы астаўся.

Пражытак — *пражыццё, выдаткі.* Што б яму мала было на пражытак гэтых грошы.

Прайдак — *пранырлівы, кемлівы.* Прайдаку лацвей у любым баку. Прайдак не прападзець нідзе — ні на на зямлі, ні на вадзе.

Прайдачы́ла — *прайдоха, пройда.* І сябра пасадзіць на шыла — такі прайдачыла!

Пралаяць — *прысаромець.* Пінжак такі карэлый, пралай яго, што абы-як ходзіць.

Пралетаваць — *прабыць лета й не сапсавацца.* Кілбасы жырам заліла — яны й пралетавалі.

Праскарджваць — *упікаць, прасміхаць, пад'ялдыкваць.* Другіх праскарджваіць, а на сябе дыхнуць баіцца.

Прасміха́ха — *прасмішніца.* Прасміхаха й матку родную не пашкадуіць — прасмяець.

Пратарэка — *жартаўнік, прасмешнік, пад'ялдыка.* Пратарэка ўсіх прасмяець, а сам і не ўсміхнецца.

Пра́таць — *выбіваць пранікам мокрую бялізну; яшчэ — біць, дубасіць.* Цэлы адвячорак пратала белле на кладцы, як праннік ня збіла. Яна на яго вярэць, а ён яе пратаіць.

Прахадзім — *прайдзісвет, махляр, круцель.* Прахадзімы гэты ўсякія поўну Вушачу наехалі.

Працівак — *прамежак паміж дзвюх сценаў у хляве.* У пуні сена кладуць на два канцы, а пасярод дзверы, — гэта й ёсць працівак. Два капцы сена налажыў у працівак.

Прачутка — *погаласка, чутка, навіна.* Прачутка пашла па сяле, што Праксэдзін малец вярнуўся.

Праява — *дзіва, нечаканасць.*

> У тваім хляве праява стала,
> Праява стала, праявілася:
> Усе каровачкі пацяліліся…

Проздзверы — *выбягаць, уцякаць праз дзверы.* Ён проздзверы — і насып яму солі на хвост.

Пройма — *прарэх.* Так падраў кашулю, што ў пройму й сабака пралезіць.

Проламка — *палонка.* У проламцы лайно перапаласкала, а сцюдзёна, аж рукі зайшліся.

Промзлае — *пракіслае, скіслае, закіслае.* Малако промзлае, ім гарачую капусту не забеліш — ссядзіцца.

Пропасць — *прапажа; яшчэ — бяда, крах.* У мяне штодня пропасць — гладка хата агалела. Здарылася ў яго пропасць — скінулі з начальнікаў.

Прос — *просьба, угавор.* Яна дуроная, просам нічога ня зробіш — калі крыкну, калі джгну. Шкада бабінага просу, трэба йсці.

Прост*ы* — *няпутаны.* Папускаў конікаў простых у сад.

Протар — *рагацень, пожаг.* Не прапарыся на протар, рот разявіўшы. На протары сала на агні пяклі.

Прохаладзь — *халадок, ахалода.* Толькі к вечару павеяла прохаладдзю.

Пруг — *слёзы руччом.* Сплакаўся з-за цацкі, аж слёзы пругам.

Пру́дзіцца — *упарціцца, напінацца.* Вінаватая, а яшчэ й прудзіцца. Аж прудзіцца, каб сваё даказаць.

Прудзіць — *у гарачым памяшканні (вашапрудні) пражьщь (знішчаць) вошы, варам прудзіць прусакоў у шпарах (у шчылінах).* Цэлы дзень прусакоў прудзіў.

Прыбабунька — *вясёлая прыгаворка.* Ён без прыбабунькі й кроку ня ступіць, і за стол ня сядзіць.

Прыбытак — *дзіця, малое. Жывуць ён і жонка, а ў жонкі прыбытак будзіць.*

Прыбыцкія — *розныя няпрошаныя госці й наведнікі.* Ад гэтых прыбыцкіх спасу німа, хоць дзверы забі.

Прывéрціся — *прыцягнуцца, прывалачыся.* Прывярэцца ўночы п’яны — і радуйся, жонка.

Прывíна — *прычына, абэлка.* Любая прывінка знойдзіцца, абы адчапіцца.

Пры́гавар — *прысуд, вырак.* Прыгавар яму цяжкі далі — аж дзесяць гадоў турмы.

Прыгавор — *прымаўка, пры́слаўка.* У яго на кожны кіў свой прыгавор.

Прыгажавіты — *прыгожы, пагляднtы.* Мужык ён прыгажавіты, не круці душой.

Пры́галаўка — *палена, на якое кладуцца ў печы дровы.* Дровы кладуцца ў адну прыгалаўку й у дзве.

Прыглянуць — *папілнаваць, пасачыць.* Прыглянь за маім таварам, а я адлучуся.

Прыдзяўбсціся — *дабрацца, даехаць.* Я толькі-толькі прыдзяўбаўся, а ты ўжо тут як тут.

Прыдýмнік — *кемны, быстры на выдумкі.* Яны, бапцісты, прыдумнікі.

Прыклымаць — *прыкульгаць.* І дзед прыклымаў на сход.

Прыкулікáцца — *прыцягнуцца, прывалачыся, прыкавыльгаць.* Яна ка мне прыкулікалася к вечару.

Прылажыць — *прыбудаваць, прыладзьбаваць.* Трысцен новы прылажыў к хаці, дык адразу ўсім прасторна стала.

Прылéжаны — *праляжаны, прыціснуты, сцяты.* Падушкі, насыпкі прылежаныя — знізу прыляжаліся.

Прылепіш — *лёгкая, нехуцаватая прыбудова.* Такая хата ў іх ёсь прылепленая, у прылепішу й жывуць.

Прылюдзіцца — *прыбрацца святочна, у людзі.* Як прылюдзіцца, дык і на чалавека пахож.

Пры́мастачка — *прымошчаная дошчачка да ганка ці да моста.* Каб прымастачка якая, неяк ступіць.

Прымясцерыцца — *прымасціцца, уладкавацца.* А нясмелы госць прымясцерыўся на самым краёчку.

Прынізісты — *нізкі, прыземісты, абніжаны, ніцы.* Прынізісты маліннік, а маліны сядзяць як таўкачы.

Прынука — *прымус за сталом, каб пілі й елі.* Піціесці было, а прынукі не было.

Прыпара́дчыць — *прыбраць, навесці парадак.* Троху ў хаці прыпарадчу, дый ладна.

Прыпа́рак — *сугрэў, парнасць.* Німа такога прыпарку, каб дожджык, а то з тога боку, з холаду, сядзяць агуркі.

Пры́парніца — *прыпар, гарачая пара.* Цяпер самая прыпарніца ў усіх, на зіму стараюцца.

Прыпірышча — *прыстанішча, прыстанак, свой кут.* У пагарэльца ні прыпірышча, ні прыстанішча.

Прырода — *род, радня, крэўнікі.* Прырода мая ўся тут, і мяне тут закапаюць.

Прыродны — *тутэйшы, чый род тут.* Кавалеўскія *(з вёскі Кавалеўшчына)* прыродныя ўсе паўміралі, а наезджыя жывуць, асталіся.

Прырубак — *прыбудова да ізруба.* А кросны паставілі ў прырубку.

Прырыўкамі — *рабіць нешта, улучыўшы якую хвіліну.* Прырыўкамі шыла, хацелася ж паспець сынку абнову зробіць.

Прысабачыцца — *прыстаць.* Ды яшчэ прысабачыўся к гэтай валяўцы.

Прысва́тыш — *хто сам навязваецца ў сябры, у кампанію.* Без прысватыша абыйдзімся.

Пры́святак — *пярэдадзень свята, конадзень.* Ці гэта будзінь дзень, ці прысвятак?

Прыскрынак — *шуфлядка ў скрыні, у стале.* Адразу пакладзі ключы ў прыскрынак, каб потым не шукаць скрозь.

Прыслі́зіць — *зрабіць слізкім.* Дарогу разрылі, чуць троху прыслізіць — ня ўехаць.

Прыслонак — *мясціна на сонечным баку. (Мама тлумачыла: сонца прысланяецца, упіраецца.)* На прыслонку клубнічыны згарэлі гладка.

Прысляпіцца — *прыстаць, прыбіцца.* Тады кошка кашыцца *(каціцца)* к Кухарэнчысі й прысляпілася.

Пры́смалак — *мясціна, дзе прыпякае (смаліць) сонц; яшчэ — прапталіны на палазне.* Такі прысмалачак найдзіш, маліны такія спелыя — аж сінія. Сані па прысмалках ехаць ня хочуць.

Прысма́кі, прысмачча, смакі — *ласункі, ла́харцікі.* Нейкія ж будуць смакі, якія будуць, такія й будуць. Во якога прысмачча насадзіла, з нічога вы́мадзіла.

Пры́смаўкі — *выбоіны, ямінкі.* Колы так скачуць па прысмаўках, што зубоў не сабярэш.

Прыстроіць — *зрабіць дзіця.* Ён дзеўцы мальца прыстроіў.

Прыту́л — *прыстанак, прытулак.* Пецькава жысь сыйшла на бы́ка, німа яму прытулу, будзіць ён за паганую палку.

Прытыка — *прымак.* У Маісы гэтай прытыка завёўся.

Прытыкацца — *датыкацца.* К снягу ўсё роўна грэбнем пітух прытыкаўся.

Прытыкіш — *выпадковы чалавек у нейкай справе, не свой у грамадзе; яшчэ — нясталы работнік.* Ён вечна як прытыкіш нейкі. А гэта што яшчэ за прытыкіш? Ня буду я ў прытыкішах хадзіць.

Прыха́яць — *прыбраць, давесці да парадку.* Прыхай троху ў хаці дый сама прыхайся. *(Адсюль і неахайны.)*

Пры́хваткамі — *урыўкамі.* Прыхваткамі сарочку шыла, алі паспела к святому Вялічку.

Прыхінацца — *прытуляцца, абжывацца, атайбоўвацца; яшчэ — наведаць.* Век зжываіць чалавек, трэба ж некуды прыхінацца. Прыхінуцца ж трэба, чалавек жа ўсё-ткі памёр.

Прыхітры́цца — *схітраваць, прымудрыцца.* Некаторыя прыхітрыліся самагонку гнаць з нічога, абы галаву адбірала.

Прычандалы, прычандалле — *рознае начынне.* І без тваіх прычандалаў барахла поўна.

Прычына — *бяда, няшчасце.* У калхозі прычына зробілася: слабая цялушка ў балота ўлезла й залілася.

Прышорхнуць — *падмерзнуць.* Дарога троху прышорхла, адлега прапала.

Прыязджалы — *прыезджы, хто бывае наездамі.* Чалавек ён прыязджалы, алі наша ўсё знаіць.

Пселы, псюк, псіца — *састарэлы, сапселы.* Пселы псюк, а ўсё туды ж нясець свой сюк. Сама псіца, а думае, што маладая.

Псуй — *няўмека, хто ўсё псуе.* А гэнаму псую абы псаваць, нічога ня ўмеіць.

Псуйства — *марнаванне, псаванне.* Адно псуйства паперы, а не пісання.

Псюрыць, перапсюрыць — *суябаць, біць, выцяць.* Часцяком яго бацька псюрыў. Як перапсюрыў яго рамянём — шоўкавым стаў.

Пугурак — *узгорак, пагорак.* На пугурак узбег, а з яго ўсё відаць далёка.

Пуд — *упуд, спалох.* Усё ка мне вады ад пуду прасіць прыходзіла.

Пузень — *чэрава, жывот.* І ў Пецькі ад піва пузень вырас.

Пукі́ — *парасць у цыбулі.* Маладыя пукі аблупліваюць і ядуць, яны салодкія. Цыбуля пад марозам сядзела, дык яна ў пукі йдзець.

Пулятая — *яркая, квяцістая (пра тканіну).* Хустка пулятая, сама багатая.

Пу́рхнуць — *абвяць, шашэрыцца, шэжыцца.* Мае ж куры крычаць есці, папурхла іхнае крылліка ад жары.

Пусціцца — *разрасціся.* Ад саду карэнне пусцілася.

Пухлі́ць — *біць, лупцаваць.* Нікіпар жонку штодня пухліць.

Пуц — *пацук.* Пацука можна й пуц называць.

Пуцкалава́ты — *пухлашчокі.* І сынок пуцкалаваты — копія таты.

Пу́шачка — *карабочак.* У пушачцы ўсё складзена — і ніткі, і йголкі. Хоць пушачку цукерак малому прывёз, адшкадаваў.

Пы́лькі — *кураняты.* Пылькі мае, пылюткі, акыш куды, акыш у хлеў. Курэй, куранят клічуць: пы-лі-пы-лі, ціп-ціп-ціп!

Пырклíвая, пыклівая — *калуплівая.* Работа пыркклівая — пер’е скубсці.

Пы́хтарыць — *лезці без просу, дападаць усюды.* Як бацькоў німа, дык дзеці пыхтараць па хаці.

Пыцкі — *пыса.* Конь толькі пыцкі памачыў, а піць ня стаў.

Пышэць, пытэць — *брадзіць, хадзіць.* Уцерпяць яны, калі там стаіць пышыць (пытыць) бражка.

Пэцкаль — *няўмелы, нядбалы працаўнік. Пасля пэцкаля ўсё пераробіць трэба.*

Пяколак — *чарэнь, гарачае месца на печы.* Баба сядзіць на пяколку й есь клёцку.

Пялёх — *гукаперайманне.* Вада ў возіры пялёх-пялёх.

Пярхекала — *хто кашляе сухім кашлем, перхае.* Стары пярхекала ў хаці, як барана якая.

Пярша́чка — *карова, якая першы раз цялілася.* Купіла пяршачку, мала яшчэ малака даець.

Пярэжні — *пярэдні.* Сабака кульгаіць на пярэжнюю лапу.

Пярэка — *хто ўсім пярэчыць.* Пярэку не перапярэкаіш, хоць ты яму кол на галаве чашы.

Пярэкруты — *перакручаныя ніткі.* Калі калаўротам круцюць — пярэкруты, як ткуць — бугор.

Пярэць — *гаварыць абы-што.* Пярэць на яе, што толькі ў галаву прыдзіць.

Пя́стачка — *шчопаць, нюшок, панюшка нечага сыпкага, узятага пяццю пальцамі.* Усып яшчэ пястачку круп, а то суп рэдкі. Вазьмі пястачку мукі. *(Пясць — кісць рукі.)*

Пясча́нкі — *грыбы, якія па пяску растуць.* Павінны пясчанкі пайсці, зялёнкі з зямлі пушчаюцца.

Пята́ — *у касе.* Хай на пяту бярэць, а ня носам, тады лепі касіцца будзіць.

Пяток — *пяць.* Пяток яечак ды яшчэ пяток, глядзіш, і дзесятак будзіць на Вялічка.

Пяцке́ліцца — *мучыцца, пакутваць, гараваць.* Мы б усё роўна пяцкеліліся з ім.

Пячурка — *выемка, нішка, выямінка ў печы, у якой звычайна ляжаць запалкі, гарбузяняткі.*

Нікому так не ўдалося,
Як нашаму Юрку:
Сам на печы, х.й на плечы,
Яйцы — у пячурку.

Пяшчонік — *любімчык бацькоў, спешчаны ласкай і ўвагай.* А гэты пяшчонік каб да чаго, здурнілі змалі́.

Рабаццё — *рабацінне.* Рабаццё пабіла твар, як яечка птушынае.

Рабой — *ежа, ядоміна.*

А пры мне ёсць рабой,
Нап'ёмся гарэлачкі мы з табой.

Рагачом — *паравернутае дагары нагамі.* І ў хаці ўсё рагачом.

Ра́гі, ра́гілі — *падцёкі, струменьчыкі.* Вытрыся ты, па шчоках рагі цякуць. Абярнуў цэбар, рагілі так і пацяклі.

Рагяза́ — *нязграбны, непаваротлівы.* Стаіць такой рагязой — ні абыйсці, ні аб'ехаць.

Радабодзь — *рэдка, абы-як тканае, вязанае.* Не настольнік, а радабодзь нейкая.

Рада́к — *рэдкая сетка.* Большую рыбу радаком ловюць.

Радзіцца — *пра збажыну.* На хлябы ў нас ураджай радзіўся.

Разадрацца — *разінуцца, расчыніцца.* У яе ляпа разадралася ніжняя, як у сабакі, са страху.

Разам — *раптоўна.* Ну, разам кінула ўсё й паехала ў свет.

Разáчка — *боль, рэзі.* Каб яе разачка рэзала, як я ейную капусту чапала.

Разбасячыцца — *распусціцца.* Так разбасячыўся на гэтай рабоці, што ад рук адбіўся.

Разбіць — *расчыніць, развесці.* Узяла разбіла рашчыну, спякла блінок.

Разбыдрэць, разбыстрэць — *распусціцца, зрабіцца неслухам.* Малы гладка разбыдрэў, спасу з ім німа. Аўгіннін малец так разбыстрэў, ілбом гузакі шукаіць.

Развалкі — *сані.* На сені ў развалках і ў мароз цёпла.

Развілак — *скрыжаванне дарог.* Ехалі разам, а на развілку развіталіся.

Развіцца — *аслабнуць, анямець.* Рука так развілáся, што не магу лыжку трымаць.

Разводжаная, разваднячка — *разведзеная.* Гэта баба разводжаная, ён на разваднячцы жаніўся.

Развяцца — *адысці (ад усохласці).* Дождж спорны прашоў, развя́лася гэта бульба, адыйшла.

Разгіндзяй — *марнатравец.* Наш разгіндзяй збаёдаў усё, што мог.

Раздабýхацца — *расшчодрыцца, раздобрыцца, раскашэліцца.* Сват раздабухаўся — падарыў мне свой стары кажух, каб ня змерз.

Раздрузнуць — *разбухнуць.* Суседка раздрузла, ходзіць як бочка.

Раз’еханая — *пасмакаваная дзяўчына; яшчэ — асунутая.* Можа, дзяўчына была, калі к ей падкаціўся, а каб была такая раз’еханая, сказаў бы: на чорта ты мне. На полі асталася бабка троху накрытая, раз’еханая.

Разжаге́рыцца — *расставіць ногі зашырока.* Разджагерылася, кусок курвы.

Разжы́ліцца — *знясіліцца, развіцца.* Рука разжылілася — нічога не падняць.

Раззяпіць — *шырока расчыніць.* Раззяпіў дзверы й не падумаіць зачыніць! *(Ад зяпы.)*

Разласець — *прывыкнуць, звыкнуць да ласага, да прысмакаў.* Як разласеіш, дык палысеіш.

Размазгата́ць — *разбіць дадрабна́, размяжджуліць.* Усю дарогу трактар размазгатаў.

Разматру́ніцца — *расслабіцца, абвяць, раскіснуць.* На людзях струніўся, а дома разматруніўся.

Разналадзіца — *разброд, рознагалоссе, адсутнасць згоды.* І такая ў іх разналадзіца пашла, як хто калатоўку ўкінуў.

Разрадзі́ць — *нарадзіць.* Рабёнка ціраз жывот дасталі, не разрадзіла сама.

Разумок — *разумнік (з іроніяй).* Гэны разумок ад гарэлкі размок, а ўсё пыжыцца. А наш разумок цмок у замок, думаў, што яго чакаюць пагасціны.

Разюць — *разявіць.* Разюў рот ад здзіву й закрыць забыўся.

Рандэлка — *невялікая пасудзіна.* Рандэлку мыла наклала.

Ранейшае — *ранняе, першае.* Пасею што ранейшая, хоць бацвіння будзіць.

Раньком — *на досвітку, рана, рання.* Устанеш раньком, будзіш з райком *(пчаляры кажуць).* А тады рання бяру я ваду, а ка мне прыбягаіць дзеўка. Яна й рання напоіць, і вечар напоіць, і ў паўдзён дасць выпіць.

Расказі́цца — *акаціцца (пра коз, авечак).* Чорная каза не расказілася, тры казляняткі было.

Раскапусціцца — *рассесціся дужа шырока, заняць задужа месца.* Раскапусціцца на ўсю лаву, а мне стаі.

Раскасціць — *разбіць, размяжджуліць.* Гасціў-гасціў, а пасля ўсё раскасціў.

Раскладка — *распал печы.* На раскладку два клады сухіх дроў наклала.

Раскра́тацца — *расхадзіцца, прыйсці ў сябе.* Хаджу-хаджу й неяк раскратаюся памалу.

Раскусці́цца — *пайсці багата ў рост.* Бэз перад вакном раскусціўся — нічога з хаты не відаць.

Распасці́ — *разгадаваць.* Распас пуза — рамяня ўжо не хапае.

Распрарэшыцца — *данасіцца да дзюрак, да прарэхаў.* І верхняе, і ісподнюю распрарэшылася, насіць нечага.

Распушчонік — *спешчаны, распушчаны, неслух.* Нікога не баіцца, нікога й слухаць ня хочаць распушчонік.

Распялёхаць — *расплюхаць.* Прышоў вясёлы ды распялёхаў цабэрак, усю падлогу заліў.

Рассяканка — *шустрая дзяўчынка (кліва).* У яго адны дзеўкі-рассяканкі, сыноў німа.

Растапэха — *няўмека, распусцёха.* У растапэхі рукі не з тога месца растуць.

Растаргаваць — *раскупіць, разабраць.* Дзевак усіх растаргуюць, і ты з носам застанешся.

Растрахайла — *неакуратны, неахайны, абы-як апрануты; яшчэ — несабраны.* Ходзіць па хаці гэтакім растрахайлам, аж мне гідка. У растрахайлы німа парадку ні ў галаве, ні ў хаці.

Расты́ — *парасткі, карэньчыкі.* Цыбуля расты пусціць і сапшыкаіцца, яна цераз тры дні зялёная пусціць.

Расфасоніцца — *прыбрацца, прыфранціцца.* Расфасоніўся малец ды на дзевак паглядаіць.

Расхохліцца — *распусціць валасы, нашушэрыцца.* Як расхохліцца, дык не пазнаць.

Расцяроха — *непрыбраны, непрылюджаны.* Так расцярохай і ходзіць, глядзець нялоўка.

Расчвяліць — *парэзаць глыбока, расша́стаць.* Руку нажом да кас ці расчвяліў.

Расчынаць — *пачынаць.* Калі расчаў робіць, дык і роб.

Расшабуня́цца — *раскатурхацца, расхадзіцца, прыйсці ў сябе.* Ракам-бокам, а як расшабуняішся, дык і на хваробы забудзішся. Саўсім з ног валілася, а патроху расшабунялася, і нічога.

Расша́стаць — *прагуляць, пусціць прахам набыць.* Расшастаў усю бацькаву маёмасць і голым задам свеціць.

Расшы́шкаць — *патраціць, пусціць на вецер, прагуляць, прашыкаваць.* Было трошачку грашышкаў, і тыя дзеўкам расшышкаў.

Раўнíзь, раўнязь — *роўная мясціна, раўніна.* Вырваліся на раўнізь — усё далёка відаць. Такая раўнядзь — хоць на Вялічка яйкі качай.

Раўчы́на — *невялічкі роў, абровак.* Пабег раўчынай за руёй ваўчынай.

Рахунак — *выгода, карысць.* А ці будзіць рахунак — купляць бульбу на базары?

Родзілка — *мякіна й зярняты.* Змалаціў усю й скрыжаваў *(абмёў усюдых калоссе),* асталася мякіна й жыта — родзілка.

Родня — *радня, сваякі.* Казала — устроілі к родні мальца гадаваць.

Розна — *насцеж, наросхліст, у розныя бакі.* Вокны парасчыняны, дзверы розна.

Мой міленькі прыехаў позна,<br>Параскідаў падушачкі розна.

Ростанькі — *сцяжыны на перакрыжаванні.* На ростаньках мы й рассталіся.

Росцяя — *расткі.* Бульба ўжо росця пусціла — пара садзіць, а вясной і ня пахніць.

Рохля — *неахайная, апушчаная, абыякавая, лянівая.* Сядзіць такой рохляй, каб куды парупілася.

Рубе́ль — *жардзіна (пераважна бярозавая), увязнік, якім зверху ўціскаюць (увязваюць) сена ў брыцы.* Так стараліся ўціснуць сена, як рубель ня лопнуў.

Рубец — *шво.* Такі лівень — рубца сухога не было.

Рубшчык — *хто рубіць хату.* І рубшчыкам трэба наліць, каб ізруб быў звонкі, як той кубак.

Рудка — *рудая, рыжая.* Унучка ў бацьку свайго рудкаю ўрадзілася — агнём гарыць.

Рукаты — *майстра на ўсе рукі.* Ён малец рукаты, у яго ўсё ў руках гарыць. Ён цясляр рукаты.

Рукаятка — *маток напрадзенай воўны.*

Ай, цюк дык і цюк,
Лепі дзеўка, чым дзяцюк.
Дзеўка хату падмяцець,
Рукаятку напрадзець.

Ру́нія — *рунь.* Рунія кажухом узялася, зерняты ўсхолыя былі.

Рупіць — *хвалюе, не дае спакою.* Рупіць мне запасці дроў на зіму.

Рупніца — *прыпар, клопат, праца, якую трэба зрабіць хутчэй.* На яго рупніца напала, яму й белага дня мала. Як рупніца нападзець, дык і валун ідзець.

Ру́хацца — *кратацца.* І ня кратайся, і ня рухайся.

Рухаць — *рохкаць.* Свіння сама пра сябе рухаіць.

Ручасцік — *гарлач (стаўбун) з ручкай, горла пера-цятае.* «Ці ёсць гарлачы?» — «Не, толькі ручасцікі».

Ручна — *з рук у рукі.* Аддай яму доўг ручна.

Ручні́к, ручні́ца — *малы, які не злазіць з рук.* А малец дык саўсім ручнік, з рук ня злазіць, ды й дзеўчынёшка ручніца.

Ручы́ць — *шанцаваць, добра пладзіцца.* Мне не ручы́лі свінні. Хто на жыдоўцы жэніцца, таму свінні руча́ць.

Руша́цца, руха́цца — *кранацца з месца, наважыцца йсці, ехаць.* Дзе не ждуць, і рушацца нечага. Сядзі ты ў сваей хатцы й не рухайся, і там табе не мяды будуць.

Руя́ — *гайня, чарада.* Руя ваўчыная спакою ня маіць.

Ры́дзел — *лапата.* Дзеравянная лапата, а з бакоў жалеза, як панчоха, надзета. Добры ў мяне быў рыдзел, дык і на яго пагаліўся.

Рыззíнка — *рызман, зношаная апратка.* Дайце мне якую рыззінку, закрыю я сваю разіньку.

Рында — *апушчаны, няхлюісты.* Рыззё якое ўсторкніць, ходзіць рындай такой.

Рыск — *бадзёрасць, жвавасць.* У нашага старога рыску на двух хопіць. *(У «Слове пра паход Ігаравы»: «Всеслав… в ночь влъкомъ рыскаше…»)*

Рыў — *рывок, рэзкі рух.* Сабака ўточыць нос у ваду, калі цеснінька — рыў назад.

Рыхлы — *жвавы, бадзёры, быстры.* Ён яшчэ дзед рыхлы. Яшчэ рыхла ходзіць, не саўсім старась сціснула. *( Па-чэшску ryhly — хуткі. Хуткі цягнік — ryhlik).*

Рэзгіны — *прылада для пераносу сена. Дзве крылíны — як бы рыбалоўныя сеткі, змацаваныя ўнізе, лёгка раздымаюццаій абхопліваюць сена; яшчэ — раскідаха, разінька.* Наклаў рэзгіны як панесці, рад быў, што пазычылі сена.

Усе залёткі, як залёткі,
А мая, як рэзгіны.
Ўсе гуляюць, весяляцца,
А ў мае ўсё хрэсьбіны.

Сабакарня — *хата, у якой няма ладу.* Ня хата, а сабакарня нейкая, усе грызуцца, гаўкаюць адзін на аднаго.

Сагнуцца — *сканаць.* Тады й ён сагнуўся пад вясну.

Сагура́сціць — *зладзіць, агораць.* Сагурасціў нейкую хатку й жывець сабе кум-каралюм.

Садраць — *шмат узяць за тавар.* Садраў з мяне за каня неяк не па-суседску.

Сажонка — *пасаджаныя дрэвы.* Каля дарогі сажонка з ёлачак цямнеіцца.

Сакавік — *бярозавы сок.* Сакавік — малаку памашнік, ды пасля сакавіка хочацца малака.

Сакатуха, шчабятуха — *ласкавы эпітэт да гарэлкі.*

Ай, чарачка-сакатуха,
Ня йдзі міма, а йдзі ў бруха.
З кілішэчка цячэць,
Каля сэрца пячэць.

Саладзі́ны — *солад; яшчэ — залагоджванне.* Я сваййму мужыку саладзін падкіну.

Салатопка — *будыніна, дзе тапілі тлушч са здохлай жывёлы.* Майго старога хоць на салатопку вядзі, дык толку мала будзіць, худы, як шчука.

Самаволам — *без дазволу.* Самаволам скасіў дзялянку, і яму штраф далі.

Самаволь — *сам сабой.* Усе вучні строем пашлі, а наш аболтус самаволь ходзіць.

Самадумка — *непаслухмяная, свавольная.* Унучка — самадумка гэная, з ей не скамандаваішся, свавольніца гэткая.

Самадум'ю — *ні з кім не раіўшыся, на свой розум.* Самадум'ю ўсё робіць, як мяне й німа.

Самалюбімы — *самалюбівы, прагны да славы.* Такі ўжо самалюбімы, баіцца на свой цень наступіць. Ён такі самалюбімы, што сам з сябе пылінкі здзьмухваіць. *(Мама заўсёды казала так; у гэтым варыянце больш сэнсу.)*

Сарачня́ — *сорак, саракоўка.* Яму ўжо ўся сарачня пад ср.ку, а ўсё яшчэ ма́ліцца.

Сасíць — *карміць малое грудзьмі.* Рабёнку хоць бы з арэх малака дала, гэта ж грудное, матчына, як сосіць дык і сосіць.

Сасмылéць — *спаліцца ад спёкі, згарэць.* Усё сасмылела, ярына збялела, пасохла.

Сасмы́чыцца — *пахудзець, звесціся, схудаць, стаць падобным на смык.* Арына сёлета гладка сасмычылася.

Сацíца — *напой на сотавым мёдзе, рэдкі (вадкі) мёд.*

Мой дзядок п'ецъ мядок,
А я ля яго сацíцу.

Сачок — *жакет.* Такі лёгкі сачок — у ім і ў госці, і ў скокі добра. Цэлае лета на пасту ганяла, а на сачок — спіну прыкрыць — не заробіла.

Сачы́ўка — *сачавіца.* Сачывачка ў капах стаіць, верабеічка ў страсе сядзіць.

Сашчаўгну́цца — *саслізнуцца, злузацца.* Шчупак сашчаўгнууся са столу й плясь на падлогу.

Сваейшы — *раднейшы, больш родны.* Яна ўсё-ткі сваейшая, да яе й душа мая хінецца.

Сваё — *тутэйшае, прыроднае.* Гэта рыба свайго возіра.

Светач — *кшталту падсвечніка на ножцы й лучыну ўторквалі; яшчэ — сведка, відавочнік.* Светач свеціць ня дужа, алі ўсё ж пацёмкі святлейшыя з ім. Ты што — светачам у нагах стаяў, як яны дзіця робілі?

Свечка — *плямка тлушчу ў варыве.* У супе каб свечка, крупіна за крупіной ганяецца з дубіной.

Свойсклівы — *ручны, хатні.* Свойсклівыя гусі ў вырай не лятуць.

Святочыць — *прыбіраць да свята.* Глядзі, як да Вялічка хату святочыць.

Седзіва — *сядзенне.* Ад такога седзіва азадкі каменнымі зробяцца.

Седня — *доўгае сядзенне ў гасцях, на зборнях.* Ад седні дурной галава стогам.

Селядоўка — *бочка пад селядцы; ішчэ — тоўсты, азызлы.* Ужо набралася, селядоўка, ісці цяжка.

Семнастоўка — *дзяўчынка сямнаццаці гадоў.* І семнастоўцы замуж загарэлася.

Семяна — *насенне, семя.* Гэту бульбу на семяну пакіну. Схаджу якой семяны купіць у краму. Садзяць цыбулю саўсім маленькую ад семяны.

Семяннік — *гурок (гарбуз), пакінуты да замаразкаў, каб з яго семя ўзяць.* Адны семяннікі, як быкі, у лясе бакі адлежваюць.

Семярня — *сем (як пяцярня).* Сягоння нажала сем семярэнь і тры кучкі.

Сеніна́ — *сухая травіна́.* Каза з'есь тры сініны й кініць.

Се́ран — *шарон, шарпак.* У серан ногі праваліваюцца, цяжка йсці. Снег зсеранеў — карыной зробіўся.

Сечыва — *збітае з дошак карыта, у якім секачом сякуць ахрап'е.* Насяку ў сечыві якога капусніку, каб хоць як ад парсюка адчапіцца.

Сёлетнік, сёлетнічак, сегалетак — *прыплод гэтага (сяго) года.* І пітух і бык сёлетнік. Цялушкусігалетку на племя пусціла, а бычка-сёлетнічка здала на мяса.

Сівак, сівец, сівах, сіваяй — *сівы, стары.* Сіваксівак, а ў маладзіцах знаіць смак. І сівец да чужых

сянец. I ў сіваяя душа маладая, і ў яго душа не балалайка.

Сівуха, сіўка — *старая, сівая.* Пашоў ужо к сваей сівусі. А яна старая такая, сіўка.

Сівярэць — *быць на вятрах.* Я з васьмі гадоў сівярэю на пасці.

Сікма́н — *слабы на градусы напой.* Сікману чарку наліецць, яму вочы й задурманіць. Нейкага сікману наліла й гэта за пачастунак лічыць. Хоць якога сікману дай — галава шчапаіцца.

Сіла — *шмат, багата.* Як стала сіла яблак, аж плот разламалі мальчаняты дуроныя.

Сіліцца — *тужыцца, намагацца.* Як ні сіліўся, алі не асіліў.

Сіллём, сіллю — *гвалтам.* Ён к ей сіллём падлез, дык яго засудзілі. А дзеўку сіллю замуж аддаюць.

Сінюткае — *сіняе, чыстае.* Неба такое сінюткая, як працэджанае.

Сіпка — *хрыпата, сіпатасць.* Тут у мяне на грудзях сіпка села.

Сісе́тнік — *малое, якое сосяць (даюць грудзі).* Сынок у яе яшчэ сісетнік. Што малая — ня дзіва, сісетніца яшчэ.

Сітава́ты — *рэдкі, дзюркаваты.* Ад салодкасці аж язык сітаваты стаў.

Скавенчыцца — *змучыцца, схварэць, нагаравацца.* Скавенчыўся ўвесь ад гэнай, ня тут казана, хваробы. Пакуль гарод узараў, скавенчыўся з гэтым канём.

Скажанець — *скукожыцца, схварэць.* Схварэўся сусед, скажанеў, і пазнаць цяжка.

Скалкі — *крэмень, белыя бліскучыя каменчыкі, якімі выкрасаюць агонь; яшчэ — зубы; што-небудзь*

*моцнае*. Вазьмі з сабой скалкі, у лесі спатрэбяцца. Што ты свае скалкі выставіла?

Ска́радзь — *зануда, нудзіла*. Усю душу мне дастала гэная скарадзь сваёй нудзьгой.

Скарбёнка — *скарбонка*. Грошы, колькі было, у скарбёнку ўкінула.

Скарбнік — *кладаўшчык*. Ейны мужык на базі скарбнікам робіць.

Ска́ржыцца — *скардзіцца, наракаць*.

Радзіўшы дзетак, мушу старыцца,
Гаруючы гора, мушу скаржыцца.

Скароміна — *тлушч, сала, масла*. Пасцілі-пасцілі, а пасля аскароміліся, знайшлася й скароміна.

Скастры́ць — *вылегчыць, выкласці*. Тады воліка скастрылі.

Скасу́рыцца — *паглядзець скоса, скасавурыцца*. Яна толькі скасурыцца — і досіць, малец у яе пад слухом.

Скатава́ць — *замучыць, наздзекавацца*. Яны яго скатавалі — чуць жывым пусцілі.

Склéзень — *ледзь жывы, змарнелы*. Склезень, дый толькі, адна скура ды скабы.

Склёпіста — *зладжана, падагнана, прадумана*. Трэба ж, каб было склёпіста.

Скняга — *скнара*. Скняга над кажнай капейкай трасецца.

Скорчыцца — *сканаць*. Ждуць, пакуль я скорчуся.

Скра́бацца — *корпацца*. Паціхеньку каля дому скрабаўся.

Скрогат — *скрыгат, скрыгатанне*. Ад скрогату пустых жорнаў цела шэрхла.

Скружніцца — *скруціцца, стуліцца*. Воўка лёг на дзвярыну, скружніўся й заснуў.

Скрузонне — *наваколле, свет*. На дварэ такая завіруха ўзнялася, што, здаецца, усё скрузонне праваліцца.

Скрыпець — *ліпець*. Жывець жа, скрыпіць, як кола нямазаная.

Скукарэжыць — *скруціць, сагнуць*. Як скукарэжыла галаву й плечы болямі, не разагнуцца.

Скуматы́ — *шматкі, кавалачкі, акраўкі*. Нічога з гэтых скуматоў не пашыіш.

Скума́ціць — *шкуматаць, клычыць*. Прышлі, а сабака авечку скумаціць.

Скупава́ць — *скнарыцца, скупіцца*. Скупы скупуіць, а чорт мех гатуіць.

Скупінда́ — *скупы, скваппы*. У гэтай скупінды зімой лёду не разжывешся.

Скуралуп — *жывадзёр; яшчэ — скваппы, бязлітасны*. Той скуралуп і з жывога й з мёртвага скуру злупіць, абы грошы.

Слаба — *мала*. У мяне дробязі слаба, трошкі буйнейшых грошы ёсь.

Слабіна́ — *слабак*. Такая слабіна — вецер валіць яго.

Следнічок — *след*. Нядаўна зайчык праскакаў, яшчэ следнічок цэлы.

Слізгота — *слізкасць, коўзкасць*. Абы глынуць, пацягнуўся па такой слізгоці.

Слінявіць — *імжыць, макрэць*. Пашоў слінявіць дождж узноў.

Слу́шны — *паслухмяны*. Сынок у мяне слушны, што скажу, робіць.

Сляпіндá, сляпýр, сляпея — *падслепаваты (пагардліва)*. Сляпінда сляпіндой, а грошы бачыць. Што добрага ў гэтым слепуру?

Сляпцы — *слепаватыя, слабыя вочы*. Пляц вялікі, ды што я ўбачу сваімі сляпцамі.

Смаласкіп — *смалакурня*. Усё лета на смаласкіпі робіў.

Смаркулька — *газоўка*. Бацька рана смаркульку запаліць, начысціць бульбы й надзярэць, а потым мама устаніць.

Смуголы — *блякла-чырвоны, ружаваты*. Смуголая ўся скрозь морква, яна далікатная, псуецца.

Смуголь — *загарэлы, зрудзелы на сонцы*. А мой жа ты смугалёк, гарыш, як вугалёк.

Смыль, смылень — *паленае, смылелае*. Смыллю смярдзіць — дыхаць нечым. Кінь ты гэты смылень у вогнішча.

Смы́чыць — *хутка йграць на скрыпцы*. Піліп так смычыць, ногі самі ў скокі йдуць. От смычыць!

Смяляк — *смелы, небаязкі*. Не пабаіцца смяляк выцадзіць самагонкі гляк.

Смяху́ха — *смяшлівая, рагатуха, весялуха*. Такая смяхуха — звініць і звініць.

Сняжніца — *снег з вадой*. А на балоцы сняжніца — ні падыйсці, ні пад’ехаць.

Сонніца — *санлівасць, сон*. Сонніца напала на яго, ідзець і спіць.

Сопкая — *разварыстая (пра бульбу)*. Сопкай бульбы купілі, адно аб’ядзенне.

Соснік — *хвойнік, сасоннік*. З сосніку паздзірана кара машынамі.

Соўнейка — *сонейка, звычайна, як ласкавы зварот.* Соўнейка ты маё яснае.

Спава́гі — *паволі, няспешна.* Спавагі кладзі на вагі. Я спяшаюся, а яны спавагі робюць.

Спава́лу — *спакойна, няспешна.* Еш спавалу, сабакі ж ня гоняцца.

Спавілкі — *пялюшкі.* Тады Валодзька яшчэ ў спавілках быў.

Спагадзі́на — *спагада, разуменне.* Ні дня, ні гадзіны німа спагадзіны.

Спадарожыцца — *здарожыцца, стаміцца ад хады.* Спадарожылася кума, і рады німа.

Спадкі, спажыткі — *спадчына; яшчэ — ежа, папаска.* Усе спадкі жонцы асталіся. У яе ёсь спажыткі, ад мужыка перайшлі. Даў Бог дзень, дась і спажытак (пажытак).

Спалатнець — *звянуць, страціць клёк.* Грыжанка спалатнела, морква палатном, сок выйшаў.

Спанталычыцца — *збіцца з толку.* Спанталычылася я гладка ад гэтай хаданіны.

Спара́дкаваць — *навесці парадак, давесці да толку.* Усё спарадкавай, тады гуляй.

Спатыкаць — *сустрэць.* Ішлі з магільніка й спатыкаюць яе.

Спа́шнік, спа́ршнік — *той, хто ўзорвае гарод.* Спашніку гэнаму, мусіць, налієш выпіць. Спаршнікі, яны пахалі зямлю ў пана, арандавалі як-бы.

Спешка — *гатунак ранняй бульбы.* І спешкі пасадзілі многа, і пазной.

Спіра́цца — *адмаўляцца ад сваіх слоў, адгаворвацца.* Брэшаць як наняты й яшчэ спіраіцца.

Спірко — *заядлы ў спрэчках, неўступака*. Спірко як упрэцца, не саступіць, хоць ус.рэцца.

Спісяжыць — *схвастаць*. Так спіну пугай спісяжыў, каб дзе жывая мясцінка засталася.

Сплёткі — *плёткі, чуткі*. Разносіць сплёткі па вуліцы на сваім языку, як сарока на хвасце.

Справіцца — *паспець*. Ужо справіўся сад вырасці.

Справункі — *клопат, з якім трэба справіцца*. Не к спеху гэтыя справункі. У кажнай Матрункі свае справункі.

Спраўка — *калі гаспадар управіцца з усімі работамі — у яго спраўка*. Дайце Саўку спраўку.

Спрытната́ — *спрыт, умельства*. Ён ня сілай, а спрытнатой бярэць.

Спярэкацца — *сысціся цесна, загарадзіць адзін аднаму выхад*. Спярэкаліся ў дзвярах і ніяк не размінуцца.

Спяцовы — *спецыяльны, рабочы*. Нашто мне спяцовая адзежа?

Спяшок — *ранняя капуста; яшчэ — хто спяшаецца, тарапун*. Не спяшайся, спяшок, дагоніць шашок.

Срадство — *радня, сваякі*. У яе срадства не было, адна бабылявала.

Ссадзіць — *зняць з пасады*. Ссадзілі Караленку са старшыні калхозу.

Ссініць, ссінячыць — *пабіць да сінякоў*. Такой палкай біла — ссініла, счарніла ўсяго мальца. Кавалер так ссінячыў, сядзіць як слівіна.

Ста́да — *чарада*. Такая стада буцяноў ляцела ў пачатку тога месяца.

Сталюга — *варштат*. Пакладзі дошкі на сталюгу й стружкай.

Старлíвы — *стары, перастарэлы.*

А бяда мне, бяда,
Далі мне старога дзяда,
Старога-старлівага,
Ай, дужа крыклівага.

Старлы́біна, старлыба — *стары, ссівелы, падупалы.* Пацягнула старлыбіну на маладых. Старлыба-старлыба, а ў яго стаіць дыба.

Старчок — *жабрак.* Хадзіў па вёсцы нейкі старчок, каб хто яму скарынку даў.

Старчоўка — *дачка жабрака, старцá.* Старчовачка прыхадзіла прасіла.

Стáрыца — *старое котлішча, мясціна, дзе была сяліба.* А на нашай старыцы на Верасовачцы доўга яшчэ расла йгрушына, праўда, адзічэўшы.

Старэннік — *старанны, руплівы.* Ён ужо дык старэннік, усё старэнне ягонае на дзяцей. Такая старэнніца ня кажнаму сустрэніцца.

Статýй — *непаваротлівы, нязграбны.* Стаў на парозі як статуй і стаіць.

Статэка — *недарэка, няўклюда.* Прысуніцца статэка, сядзіць колам, і ня выганіш.

Стахнуць — *збуцвець.* Восень была сырая, і салома на полі стахла.

Стол — *памінкі; садзяцца за стол адзін раз, другі й трэці.* Стол быў па Піліпу, і я сядзела на стале. Цяпер баба за адзін стол літар выпіваіць.

Стоць, стацьмаком — *стаяком, дагары нагамі; дыбарам.* І паляцеў стоць галавой у яму. Аж валасы стацьмаком сталі.

Страва — *варыва.* Трэба ўжо й страву даваць, варанага чаго-небудзь.

Стралец — *паляўнічы.* Стралец лапці пляцець, а рыбак рыбу пячэць.

Страсянка — *стрэсены спажытак для жывёлы.* Страсалі салому з сенам, каб страсянкі хапіла.

Строіцца — *збірацца, рыхтавацца.* Скора замуж стройся, вырасла ўжо.

Строп — *канёк у страсе.* Сала выцягнулі, а дзе ўлезлі — строп прадралі.

Струдзіцца — *стрывожыцца, знудзіцца, схварэцца душой.* Струділася сэрца маё па табе, сынок мой. Уся струдзілася, а ад яго каб вясцінка якая.

Струпе́хнуць, струпегнуць — *згніць.* Струпехла ўсяродкі яблана, струхлела. Такі нягеглы, як пень струпеглы.

Струх — *струхлелае, струпехлае.* Жанчыны на гары зносюць хмыз і скідаваюць у яму гэны струх.

Струшчэліць — *пакрышыць, патрушчыць, сцерці на порах.* Струшчэліў усю салому, конь гэтакі.

Стры́бчыць — *хадзіць пахапліва дробнымі крокамі.* І Праксэда ўжо стрыбчыць — носам пачула шклянку.

Стрыгма́нка — *быстрая, шустрая, ухвацістая.* Прыляцела стрыгманка, а багдай яе ліхаманка.

Стрыгна́тка — *стрыж.* Вунь як стрыгнаткі неба стрыгуць — стрыг-стрыг!

Стрыножыць — *кульгаць, ступаць на тры нагі.* Чаму гэта твайго каня стрыножыла?

Стрэлка — *страказа.* Стрэлкі над самай вадой лётаюць, аж рыбіны выскокваюць, так хочуць злавіць.

Стрэлкі — *дудкі.* Цыбуля пашла ў стрэлкі ўся, яна к зіме пагніец.

Стрэнчыць, выстрэнчваць — *дагаджаць, слугаваць.* Прывык, каб каля яго стрэнчылі. Цешча перад зяцем выстрэнчваіць, каб у сям'і лад быў.

Стугор — *стус.* Васіль, бывала, кніжак нанясець цэлы стугор.

Сту́ібень, стуіб — *непаваротлівы, няўклюдны, нязграбны.* Як стуібень які стаіць. Адхініся хоць троху, стуіб. *(Магчыма, ад стода — ідала.)*

Стыка́цца — *затрымацца, пабыць.* Ні на хвіліну не стыкаіцца ў хаці, толькі носіць яго па вуліцы.

Сты́ліца — *выстылая будыніна, еўня.* Дзіва што доўга ня вытрываіш у стыліцы.

Стыль — *стынь, стыласць, халадзіна.* У хаці такая стыль, хоць на двор грэцца ўцікай.

Субожыцца — *здаволіцца.* Таго-сяго хапіў на зуб, лызь-мызь і субожыўся.

Судаві́к — *кацёл.* Свінням судавік бульбы зварыла.

Суднік — *шафа для посуду.* Вазьмі ў судніку шклянкі.

Су́ды — *два вядры.* Жыву адна — і суды вады некаму прынесці. Я сваей бабцы судцы вады ўкінуў. *(На слых чуецца — сучцы; гукавая гульня.)*

Суколіна — *лазіна, якой абвязваюць калкі плоту.* Нарэзаў добрай лазы на суколіны.

Суконнікі — *дранікі, дзяронікі, бліны з дранай бульбы, звычайна посныя; яшчэ — суконныя буркі, абутак з ваты й сукна. Вата абкладаецца сукном, фастрыгуецца (строчыцца) машынкай, потым выкройваецца па назе й сшываецца. Каб было суха назе, надзяваюць галёшы.* Хоць суконнікаў ды спяку табе

на снядання. Ногі я ў суконнікі стаўлю, мне й цёпла: балазе ў бурках назе.

Сукрысты — *кучаравы.*

Выйду я на рэчаньку,
Выйду я на быструю.
Ці ня ўбачу я сваю
Мілую сукрыстую.

Суме́сніца — *сумесная праца, справа, сумеснае вядзенне гаспадаркі.* Ах, гэта сумесніца-каламесніца.

Супра́дкі — *попрадкі.* Прышлі на супрадкі, гудзяць калаўроты; дзіцёнак выйшаў на двор, ваўкі ўкралі, у лесі кашульку толькі знайшлі.

Сусвецце — *людзі, наезджыя з усяго свету.* Усё сусвецця з'ехалася да нас, сваіх мала засталося.

Суседзька — *сусед (ласкава).* А мне мой суседзька й за брата бліжэй.

Сустрэнец — *сустрэчны.* Ня кожны сустрэніц табе добры дзядзька.

Сухабздзеліна — *худая, ценькая.* Такая сухабздзеліна зробілася, аж звініць.

Сухалí — *высушаныя дровы.* Сухалі добра гараць, а ад макрацця толькі дым.

Сухалíна — *высахлы сасоннік, ельнік.* Каб дзе здаровая дзерава — адна сухаліна. Сухаліну яловую звалілі й прывязлі на дровы.

Су́хапуць — *сухая, нягразкая дарога.* Чуць выбіўся з балота на сухапуць.

Сухапяткі — *людзі без пэўных заняткаў.* Вушацкія сухапяткі то й робяць, што цягаюцца па вуліцы цэлы дзень.

Сухата́ — *засуха, засуш.* Ад сухаты бульбі добра не было.

Сухле́й — *ссохлы.* Гэнага сухлея й вецір убакі водзіць.

Сухлец — *перасушаны.* Пірог — такі сухлец, не ўкусіць.

Су́чкі — *калючкі.* У сабакі ўвесь хвост у сучках, усе гароды выбегаў.

Сучэначка — *маленькая сучачка (і з ласкавым адценнем пра дачку, унучку).* І сучэначка лашчыцца, каб чым абнашчыцца.

Сушонікі — *грыбы, якія сушаць.* Сёлета сушонікаў цэлую торбу насушыла.

Сушчэль — *высахлае, выпетранае.* Адзін сушчэль астаўся на полі.

Схварэць — *спакутавацца ад хваробы.* Так схварэўся, што ніяк ня можаць клёку ўзяць.

Схліпа́цца — *заходзіцца ад плачу, дрыжаць ад холаду, кпліва смяяцца (аж захліпацца).* Малы схліпаіцца ад плачу. Ну што ты, старая, схліпаішся?

Сходаваць — *здужаць, перасіліць.* Ня так лёгка сходаваць яго, як здаецца.

Сценкі — *абалонка ў клёцак «з душамі».* Клёцку адну разламіла, толькі сценку з’ела, а «душу» й клёцку ня ела.

Сцінацца — *сціскацца, закрываць рот.* У яе рот век не сцінаецца.

Сціняцца — *хадзіць сценем (ценем), сноўдацца.* Сціняіцца па хаці з кута ў кут, занятку сабе не знойдзіць.

Сціплы — *маўклівы (маўчлівы).* Бацька быў гаваркі, а Васіль па маме, болі такі сціплы.

Сціпны — *спрытны, зручны.* Сціпны малец любую ўгаворыць. *(Той жа корань, што й у слове дасціпны.)*

Сцірка — *анучка сціраць са стала.* У іх ні сціркі, ні заціркі.

Сціснуць — *схапіцца марозам.* К вечару яшчэ мароз снег такі сцісніць.

Сціх — *супакой, цішыня.* Гам замоўк, і сціх настаў. Крычала — сціху ей не было.

Сціхá — *памалу, паволі.* Сціха пачынай, каб скарэй скончыць.

Сцюцюрыцца, сцяцюрыцца, счучурыцца — *прытуліцца, сціснуцца, скружніцца, суцішыцца.* Як толькі вечар, яны каля бацькі сцюцюрацца. Малы з холаду сцяцюрыўся, аж будзіць балюча. Селі пад ёлачку, счучурыліся ўдваіх.

Сцяг, сцягá — *шмат, цуг, юрма.* На хаўтурах народу сцяг. Пуцукі сцягой з пякарні на млын ішлі. *(І сцяг (штандар), магчыма, ад сцягваць, зводзіць разам, гуртаваць.)*

Сцянéцціка — *высахлы чалавек, ад якога хіба што сцень (прывід) застаўся.* Адно сцянецціка ад яго й засталося, дзе той здаравяка-красняк?

Сціняцца — *хадзіць як сцень, прывід.* Сціняіцца па двары, німа чым добрым заняцца.

Счýпіцца — *завязаць бойку.* Нізавошта счупіліся, не развесці. *(Брацца за чубы.)*

Счыняцца — *зачыняцца.* Людзі йдуць і йдуць — дзверы не счыняюцца.

Сшыéтны — *худы.* Вярнуўся Стахван з турмы — і такі сшыетны, не пазнаць.

Сынні — *сынаў.* Дарага абходзіцца сынні «дзякуй». Сынняя ласка жывець да вяселля.

Сыра — *халодна, зябка.* Дзяўчынку не пасадзіш на зямлю, сыра, а яна яшчэ ня ходзіць.

Сырапеня, сырапоня — *толькі што ўкіслае малако.* Сырапеняй бульбу праганялі й добра павячэралі. Нешта смажыць цябе сягоння, налі сырапоні, пахмяліся.

Сыр'ё — *гароднiна.* Сыр'ё гэта возіць на сушылку здаваць.

Сырнасць — *вільготнасць.* Пагода дрэнная, сырнасць стаіць.

Сырнік — *садавiна.* Амлет цяжкі, з'есці якога сырніку карысна. *(Сырое — зялёнае.)*

Сы́цішча — *тлустая страва.* Такога сыцішча многа не з'ясі.

Сыць — *насычэнне, перанасычанасць; яшчэ — пыха.* Дай Бог мерную сыць: цукру — кус, а саломы — воз. Як чалавека возьміць сыць, дык ён угору сц.ць.

Сыцю́га, сы́цель — *сыты, адкормлены.* У гэтага сыцюгі тры падбародавічы. Сыцель сам сябе чуць носіць.

Сэндзіць — *абгаворваць, пляткарыць.* Пра другіх сэндзіць, а сябе за святую маіць.

Сюбар — *каханак, палюбоўнік, хахаль.* Да яе сюбары ходзюць, як у краму.

Сябры́цца — *сябраваць.* Нячым біцца, лепі сябрыцца.

Сява́лка — *сявенька, сяўня.* Пакуль у жорнах сявалку жыта скруціла.

Сядзяка, сядэра — *сядуха.* А яна не сядзяка, яшчэ ў грыбы сама ходзіць. Сядзі, сядэра, дома.

Сяка́р — *сякерка.* Пеўню галаву атсячы сякара німа, дажыўся гаспадар.

Сякун — *калючы вецер, часта з даждэсом.* Вецер-сякун ня дасць ісці, аж слёзы высякаіць. Снег такі сякун, ад ягоных белых іскраў уваччу цёмна.

Сяло — *так на Вушаччыне завуцца вечаровыя зборкі, паседзіны.* Пойдзім заўтра на сяло. На сяле смаляныя лаўкі *(гэта значыць — цяжка адарвацца, каб пайсці дамоў).*

Сямейны — *хто клапоціцца пра сям'ю.* Іван сямейны, сям'ёю глядзіць.

Сянцо — *маладое сена.* Нака́шавалі сена-сянца карові на ўсю зіму.

Сярылаўка — *тоўстая кішка.* Апаследняя кішка, яе ніхто не накладаіць, сярылаўка *(яе не выкарыстоўваюць на кілбасу).*

Сяўбі́т — *занадта просты (мужык).* Дурны як сяўбіт.

Такаўня — *ток, дол, выбіты глінай.* Малоцюць у пяць цапоў, як такаўня трываіць. На такаўні цапы свае танцы танцуюць, аж гліна гарыць.

Таніня́ — *танклявасць.* Таніні я была такой, як яна, не таўсцей.

Танцоха — *скакуха.* Таццяна такая танцоха — на яе абутку не набрацца.

Таплёвачкі — *пупышкі на тапалі. (Па-ўшацку таполя — тофліна, тафлінка.)* Таплёвачак на гарэлцы настоіш — лепшыя лекі ад застуды.

Тапорнік — *дровы, на якія піла не трэба, сякуць тапаром.* Навошта мне тапорнік, з яго ні духу, ні пуху.

Тарадон — *пустабрэх, трапло.* Якраз тарадон, як устаець, дык і бярэцца: тара́-бара́-тара-бара.

Тарапат, тарапак — *спех, таропкасць.* Як нападзець тарапат, ня будзіш шкадаваць пят. Як тарапак на яго які напаў.

Тарапун, тарапок — *хто заўсёды спяшаецца.* Тарапун тарапуніхў прывык любіць непаціху. Загарэўся тарапок, як сярнічак карабок.

Тарокацца — *таргавацца, доўга дамаўляцца, упірацца.* Дзякуй, што аддалі дзеўку замуж, доўга не тарокаліся.

Та(та)ргік-та(та)ргік — *кульгавасць (гукаперайманне).* Татаргік-татаргік і прывёрся таргікала *(кульга).*

Таўстамясіца — *мажная, поўная.* Ён як бражджэль каля сваей таўстамясіцы.

Таўстáя — *цяжарная.* Яна ўжо таўстая ўзноў, неўзабаві кугакала ў хаці будзіць.

Таўстое — *тлустае, цяжкое для страваванння.* Я есці не магу таўстога такога — кілбасы ці чаго. Я зварыла таўстой кашы. Таўстых круп купіла.

Таўсцё — *усё тоўстае (зборнае).* Цяжка мыць гэта таўсцё.

Таўсціла — *тоўсты.* Зайшоў таўсціла ў хату — адразу цесна стала.

Таўсцінá — *таўшчына.* Сала таўсцінёй у добрую даланю.

Таўсцюк — *фалас.*

> А на печы Касцюк абуваіцца,
> А ў яго таўсцюк падымаіцца.

Таўчыся — *біцца, грукаць.* Знячывеліла ад страху, дасюль сэрца таўчэцца.

Тахлая — *рыба, якая задыхнулася пад ільдом.* Прабілі лёд, а тахлай рыбы мора.

Тачэнечкая — *дужа маленькая.* А ўнучачка яшчэ во тачэнечкая.

Ткнуць — *пакласці, уторкнуць; яшчэ — аддацца.* Я ж бы ей два яечкі ў кішэнь ткнула. Як яна на́перад ткнула, дык і мужык ёсь.

Тлець — *перажсываць, шкадаваць.* Як вып'іць — не жалеіць, а пасля тлеіць. Сатлела ў мяне душа па ім.

Тлук — *тлушч, які застаецца на патэльні.* Памакай бульбу ў тлук, пакуль ён не застыў.

Тляга — *тля.* Тляга ліст пакруціла, чорны ўвесь.

Толк — *сваім парадкам.* Рабяткі раз'ехаліся — і усім толк.

Тонь — *сетка.* Як выцягнулі тонь — поўна рыбы.

Тор — *след ад колаў на цаліку.* Тор нас і вывеў на дарогу.

Тоўла — *таўстая, неўваротлівая.* Такой тоўлі на бок і павярнуцца цяжка.

Тоўсткі — *таўшчыня.* Сала во такое ў тоўсткі.

Тофліна, тафлінка — *таполя.* І тофлінка ў рост пашла, выцыбалася.

Травя́нік — *праснак (лапун) з травы.* Хоць які травянік абы ў чым абмачаны, абкачаны з'есці, усё ж нейкая трываласць будзіць. Пасля вайны хлеба німа, палахаіш па сталу, які травянік у руку, і добра.

Традашчанка — *балбатуха, трашчотка.* Традашчанка як адчыніць рот, дык ніхто ўжо зачыніць ня можаць.

Трасочнік — *месца, дзе збіраюцца трэскі, калі цясляраць.* Назбірай на трасочніку сухіх трэсак на распал.

Тра́кі — *трох гатункаў, асобін.* Елі хлеб траякі — чорны, белы і ніякі.

Трохпаўсцёвая — *трохколерная.* Кошка бываіць трохпаўсцёвая, а кот не.

Трубло — *хто многа есць.* Карова, трубло такое, стаіць у хлеві.

Труды — *мітрэнгі, цяжкасці, пераживанні.* Труды мне з мальцам, усё робіць па-свойму.

Трулі́ць — *маніць, хлусіць.* Досіць табе труліць, гавары да толку.

Труском — *ашчадна, патрошку.* Насып труском ды бяжы трушком.

Трухлі́на — *стахлая драўляная будыніна; яшчэ — труха.* Адна трухліна, а ня хата. Мышы сена патачылі, адна трухліна засталася.

Трылузіцца — *здавацца, мярэсціцца.* Усю ноч нешта трылузілася ўвосні.

Трылу́зіць — *вярзці абы-што, плесці несусвецце, хлусіць, казаць лішняе.* Ня слухай, што яна трылузіць. Не трылузь абы-што, хай язык адпачнець.

Трындзець — *вярзці абы-што, трашчаць (груба).* Трындзіць цэлы дзень, аж галава пухніць.

Трысцен — *прыбудова да хаты ў тры сцяны.* Ідзі, гасцёк, у трысцен, там я табе мякка паслала.

Трэп — *дарога, сцежка.* Адным трэпам ходзіць, як прывык. Ён той дарогай, а я наперад, послі я другім трэпам пашла.

Трэтар — *трэскат, грукат, шум; водгалас, водгук, рэха.* Работнікі так шчыра малоцюць, толькі трэтар ідзець. Заяц як ламануў у кустоўя, толькі трэтар чуваць.

Туба́н — *натоўп, юрма.* Я была на Епрасенню *(на святую Еўфрасінню),* зберуць тубан людзей, не праціснуцца.

Тужы́ць — *сумаваць.* Парася малое па матцы доўга тужыць.

Тузень — *бярэма, вязанка, тузін.* Цэлы тузень хворасту прыпёр на плячох.

Ту́каць — *заганяць (жывёлу), крычаць; яшчэ — падаўляць, прыніжаць.* Ён на свінню як затукаў. Тукалі й затукалі неўзнаку чалавека. *(Па-беларуску затуканы, а не зацюканы, як ў Макаёнка.)*

Тулінька — *ласкавае кліканне, падзыванне маладога каня.* Спачатку «тулінька-тулінька», а пасля «стой, воўча мяса!».

Туманіць — *піць, балявацъ дужа шчыра.* Ноч туманюць да сіняга дыму, а пасля ўвесь дзень хропатам храпуць.

Ту́марнік — *бязлюднік.* Так век тумарнікам і зжывець.

Туруру́кацца — *гучна весці размову.* Як пачнуць турурукацца — сціху ім німа.

Туры́ць, пратурыць — *гнаць, штурхаць.* Турыў-турыў п'янага з хаты, ледзь пратурыў.

Тутацька — *тут.* Куды ні кінуся — німа, ні тутацька, ні тамацька.

Ту́халь, тухло — *тухляціна.* Скралі бочку селядцоў, а там адна тухаль.

Тухляк— *штурха́ль.* Надаваў тухлякоў у спіну.

Тухлянуць — *штурхануць.* Ён яго добра тухлянуў.

Туцкі — *сядзець малому ў бацькі за спінай.* Разумны Мікітка: у чапец нас.рэць і на кут валачэць і крычыць: «Тата, мама, кака туцкі едзіць!»

Тхло — *месца пад ільдом, дзе затыхаецца рыба.* Разбілі тхло, дык рыба выскакаваць стала.

Тхлосць — *застаялы пах.* Адчыніў падполле, а адтуль тхлосцю пацягнула.

Тыль — *прачуханец.* Даў тылі, як заіц кабылі.

Тыні́на — *кол з тыну.* Я яе пяском, а яна тыніну выламала ды за мной.

Тынянка — *паветка, ушчычоная тынком.* Паспелі ў тынянку ўнесці сена ад дажджу.

Тытунец — *тытунь.* Тытунец-самсон — маладым на любеблю, а старым на сон.

Убадзюліцца — *улезці ў нешта, упэцкацца, уквэцацца.* Убадзюліўся ў гразь — не адмыць.

Убірацца — *насычаць, прасякаць.* Сала ўбралася ў бліны, а столькі тлуку было.

Убоіна — *упарты, непаваротлівы, ленаваты.* Такая ўжо ўбоіна, хоць крычы, хоць маўчы.

Убоіны — *калі забіваюць (колюць) парсюка, звычайна запрашаюць на свежыну.* На ўбоінах, як і на запоінах, чарка скачаць і скварка плачаць. Убоіны былі багатыя.

Убытка — *страта.* Пага́ліўся на гэту капейку, а чалавеку ўбытка й убытка.

Убы́ць — *ужыцца, быць разам.* З ім ты не ўбудзіш доўга, благі характар.

Увазнаць — *пазнаць, распазнаць.*

А Йван краскі не ўвазнаў,
Да Купалы адаслаў.

Увалокі — *нізіна.* На ўвалоках ураджай не збярэш — там заўсёды мокра.

Увачаві́дзь, учувід — *увачавідкі.* Увачавідзь змахлюіць — і каб шум баравы. Яна водзіць кавалераў учувід, усе відзюць.

Увінаць — *цягнуць.* Сам топіцца й за сабой увінаіць другога.

Увобмаль — *скупа, ашчадна, упрытруску.* Карові сена давалі ўвобмаль. Усяго было ўвобмаль, толькі гора па гарла́.

Увосні — *у сне.* Увосні сасніла, што парасят заганяла.

Увы́кнуцца — *прызвычаіцца.* Па першыне цяжка, а як увыкнішся, дык яно й нічога. Ён ужо ўвык у горадзі.

Увычка — *звычка, манера.* Гэта такая ўвычка: ня можаць язык маўчаць.

Увя́зь — *нагляд, няволя, забарона.* Дзержаць дзяўчыну на ўвязі, волі ей німа.

Угаркі — *агаркі.*

Папалілі ўсе шчэпачкі-ўгаркі,
А дажыдалі свае новае кухаркі.

Угледзіны — *калі глядзяць маладую перад заручынамі.* Маладую на ўгледзінах усе ўпадабалі, гэткая красулля.

Угорыч — *вугор.* Скрынку ўгорычаў наклаў і мне ўгорыча даў.

Угразі́цца — *пагражаць.* Як угразіўся яму, дык шоўкавым зробіўся.

Угрузі́цца — *пагрузіцца, улезці, змясціцца.* Пакуль узгрузілася ў таварняк, пакуль ўторкнулася, уся як мачонка стала.

Угумава́ць — *суцішыць, улагодзіць.* Пакуль яго ўгумавалі, самі з сябе вышлі.

Удаволіцца — *задаволіцца.* Ён прышоў, нешта пагаварыў, яна й удаволілася.

Уда́ліца, удаліна — *удалы, спрытны, хто мае спор у працы.* У нашай удаліцы нішто з рук ня валіцца. Як удаліна ўдасца, дык адступіцца трасца.

Удаўжкі́, ушыркі́ — *у даўжыню, у шырыню.* Малога так укармілі, ён што ўдаўжкі, што ўшыркі аднолькавы.

Удаўне́ць — *састарэць, зрабіцца даўніной.* Гэтыя звесткі так удаўнелі, што ў іх і патрэбы німа.

Удзюдзю́ліць — *даць нешта не зусім патрэбнае, падкласці свінню (дзюдзю).* Удзюдзюліў такое, што ні ўзяць, ні аддаць.

Удод — *упарты, зацяты.* Як замаўчыць удод, дык маўчаць будзіць год.

Удубкі́ — *пярэчыць.* Тады ўсе ўдубкі, і з мяне скінулі самаабкладанне.

Удумёны — *прыдумшчык; яшчэ — задуманы, хто бярэ ў галаву.* Удумёны выдумае, чаго німа. Ён заўсёды такі ўдумёны, невядома, пра што думае.

Удумлівы, спадумлівы — *уражлівы, недаверлівы, мніцельны.* Аж занадта ўдумлівы ён, як удумае што, ніяк яго не перадукрыш.

Уед — *насычэнне, наталенне.* Есь-есь, і ўеду яму німа, так згаладаўся ў гасцях.

Уедліва — *есці з апетытам.* Добра еў, ды ня ўедліва.

Ужор — *рыбінка, якую цалкам заглынуў (ужраў) шчупак.* Купілі два шчупакі, а ў ваднаго ўжор у чэраві.

Ужыць — *пражыць.* Яна семдзесят чатыры гады ўжыла.

Узагра́бліваць — *рыхліць.* Граблямі ўзаграбілі ляху й уторкнулі бульбіны.

Узаплітáнку — *калі ногі заплятаюцца.* Часта дамоў узаплітанку йдзець, такі напіты.

Узвалле, узвалакí, узвалокі — *узгоркі, перавалы.*

Іван, Іван ды Мар'я
Каціліся з узвалля.
Іван Мар'ю пераймаў,
Ручкі, ножкі цалаваў.

Узверзцíся — *узабрацца, усесціся зверху.* Узвёрзся як дурань на страху й смяецца, шчаслівы.

Узгáліцца — *захацець, пакваніцца.* Алі я ўзгалілася купіць козачку й купіла.

Узглядная — *гожая на выгляд, пазорыстая.* Капуста — яна ня дужа ўзглядная, алі свая.

Уздумаць — *успомніць, падумаць, надумацца.* Я толькі ўвідзіла ў вас слоікі й уздумала.

Узлакцíцца — *уперціся локцямі.* Над вакном узлакціўся й спіць.

Узмёт — *дзірван, папар.* Узмёт узадралі й пасадзілі бульбу.

Узнову — *зноў, яшчэ раз.* Узнову к Камілі хлопцы пашлі.

Узроўе — *берагі равоў.* Па ўзроўі разгонішся як сабака ў торбі.

Уз'юшáцца — *раззлавацца, усхадзіцца.* Яны так: на каго ўз'юшацца, таго й адмесяць ні за што.

Узянне — *укос, жніво.* Такое ўзянне хай на сухі лес.

Ýймішча — *вельмі шмат.* Сёлета грыбоў уймішча, бяры не збярэш.

Указзэя — *дзіва, штосьці нябачанае.* Указзэя з яго, дый толькі. «Указзэя, дзівосы, цуд!» *(Ускрык захаплення.)*

Укаціць — *нарадзіць.* Як укаціла два мальцы, мужык за галаву хапіўся.

Укоптур, з коптурам — *наліваць, насыпаць з верхам, па самыя берагі.* Малянкоўскую шклянку ўкоптур наліў, дык я спачатку адпіў, каб не расплёхалася гарэлка. Не пашкадаваў сусед, наліў з коптуркам.

Укрыўдзіць — *пакрыўдзіць.* Ён ня ўкрыўдзіць цябе, ня бойся.

Улазіны, уваходзіны — *засяленне ў новую хату.* На ўлазінах так госці набраліся, што вылезці не маглі. Уваходзіны — сабе ня шкодзіны.

Улегцы — *з пустымі рукамі, неабцяжараны; яшчэ — пуставаты.* Як ўлёг — не дагнаць, улегцы йсці лёгка. Ты ня май яго ўлегцы, не прыніжай, не думай, што ён такі просты.

Улёжжа — *улежнае месца.* На добрым улёжжы й сны панскія сняцца.

Улінцава́ць — *лупцаваць розгай, дзягай.* Як улінцую, дык затанцуіш у мяне.

Улонні — *калені.* Вазьмі малога на ўлонні, сплакаўся саўсім.

Улугавець — *зарасці травой.* Як там усё ўлугавела, ня знатка, што жылі некалі.

Улычніца — *кукіш, хвіга.* Такі лыч, хоць ты яму ўлычніцу пазыч.

Улэбацца — *улезці, упрэгчыся.* Улэбаўся ў цёмную справу й сам ня рады.

Улядаіць — *апрацівець, знелюбець, устыць.* Улідаіў ён мне сваімі заляцаннямі ды абяцаннямі. Улідаіў мне гэны скупірдзяй, над кажнай капейкай трасецца.

Уна́начкі — *начаваць*. Да яе мальцы ўнаначкі ходзюць.

Унасіць — *насіць, быць цяжарнай*. Калі яшчэ не ўнасіла многа, чаму ж бы аборт не ўзялася зробіць?

Уніжацца — *асядаць*. Магіла будзіць уніжацца яшчэ.

Уносніца — *кукіш, хвіга; яшчэ — насоўка*. Доўга ня думаючы, даў яму ўносніцу пад самы нос. А ўносніца ў цябе ёсь?

Унуры́цца — *пайсці ў сябе, сцяцца, адчужэцца ад усіх*. Мікіта так унурыўся, нічым ня ўзяць яго.

Унячы́велі — *ва ўтрапенні, нічога не помнячы*. Прыбеглі дамоў унячывілі, доўга не маглі адыйсці.

Упапле́чкі — *упоплеч*. Ідуць яны ўпаплечкі, а кругом ноч.

У́пар, упорына — *упарты, незгаворлівы*. Упар як упрэцца, не дакажаш яму, хоць трэсні. Гэтая ўпорына чортам створана.

Упахадушках — *ходзячы*. Чалавек упахадушках, дык час неўзаметку праходзіць.

Уперамеш — *на змену*. Дзяжурылі ўперамеш, то ён дзень, то я ноч.

Упіка — *папрок*. Твае ўпікі мне ўсю душу параелі.

Упіркі — *упартасць, незгаворлівасць*. Добра, што згадзіліся й упіркі не хадзілі.

Упіць — *добра выпіць*.

Ні я ўпіла, ні я ўела,
Ні добра ўхадзіла,
А я ж свае малады леты
Дарма патраціла.

Уплысціся — *асесці*. Хата, уплыўшыся ў зямлю, стаіць.

Уплютацца — *учапіцца.* Як уплюталася ей у валасы, чуць адцягнулі.

Упобак — *побач, бок у бок.* Усю дарогу йшоў з ім упобак.

Упокаддзю — *падаючы, валячыся долу.* Дзень робюць, а ноч п'юць, аж упокаддзю поўзаюць.

Управіць — *спарадкаваць, давесці да ладу.* Пакуль скаціну сваю ўправіла, дык і ноч агарнула.

Упрыпры́ж — *падскокваючы.* Яна збачку ўпрыпрыж ідзець.

Упрытру́ску — *пасыпаць, патрусіць.* Дай каню канюшыны, а ўпрытруску аўса сыпані.

Упрыхру́пку — *адкусваючы, хрупаючы (кусаючы).* Каб ашчадней было — гарбатку з цукрам п'юць упрыхрупку.

Упухавую — *ушчэнт.* На гэтай працы ўпухавую запарышся.

Упушчэнства — *недагляд.* Такое ўпушчэнства з дзіцём, цяпер ужо нічога не паправіш.

Упы́ліць — *улегчы.* І ўпыліў пітух за курыцай, аж пыл курыцца.

Ураг — *наравісты, няўступлівы.* Як уродзіцца ўраг, дык і памрэць урагам.

Ура́гі — *наравы, капрызы.* Я з цябе твае ўрагі выб'ю, ты мне не варанджайся. Такі ўжо наравісты конь быў у яго, поўны косці ўрагаў.

Ураджэнец — *свой, тутэйшы.* Ён ураджэнец, а тут сусвецця з'ехалася.

Урадна — *святочна, паглядна, урачыста.* У госці надзеўся ўрадна. Ён сягоння такі ўрадны — хоць пад вянец. Настольнік заслалі ўрадны, каляровы. Я ва ўраднай хусцінцы так і хаджу цэлы дзень.

Урод, урода — *ураджай, спор.* Гэтым летам німа ўроду, дык німа нідзе сена, німа ўраджаю. Сёлета на агуркі не такая ўрода.

Уроіцца, роіцца — *здасца, прымроіцца.* Уроілася ёй, што злодзя ў хату ломіцца, дык ад крыку зашлася. І што гэта яму ўроілася, быць я не прывеціла яго.

Уручча — *кій, палка, кавенька, папірушка.* Хоць якое ўручча ў руку ўзяць, усё ж прыступней ісці.

Урэзацца — *моцна закахацца (з усмешкай).*

Я ўлюбілася, я урэзалася,
Без нажа, малада, я зарэзалася.

Усве́жа — *па цаліку, уцэла.* Цяжка было ехаць па снезі ўсвежа.

Усіліцца — *умацавацца.* Пярэччына *(папярэчка, падпорка)* стала валіцца, дык я падпёрла яе, ніхай усіліцца троху.

Ускарыпкацца — *узлезці, узабрацца.* Нияк-ткі ўскарыпкалася на воз і даехала дамоў.

Ускуліць — *узваліць.* Ускуліў на плечы мех з бульбай як панесці.

Услон, услонік, услончык — *кароткая лава.* Каля грубкі ўтульна сядзець на ўслончыку.

Услужыць — *зрабіць паслугу, уважыць.* Прыдзе начальнік, стаіць чакаіць, пакуль яму ўслужаць.

Усмяху — *жартам.* Усмяху сказаў, што жыць без яе ня можаць, яна й верыць.

Успадобіцца — *спадабацца, уцягнуцца ў нешта.* Успадобілася мальцу жыць балмаччу.

Успацца — *уцягнуцца ў сон.* Успаўся на сонцы, уседзіўся.

Устоіцца — *адстаяцца.* Малако адрання, дык яно ўстоілася.

Усторкнуцца — *з'явіцца, прыйсці, надарыцца.* Госць усторкніцца, дык і прыняць трэба.

Усупэчыць — *збыць з рук, уперці нешта праз сілу.* Усупэчыў зляжалы кажух, і ня ведаю, што з ім цяпер рабіць.

Усухую — *цвяроза.* Тут ён нап'ецца, а яна будзіць усухую.

Усходы — *пад'ём у абутку.* Боты ніяк на нагу ня ўсторкну, усходы малыя.

Усцерагацца — *асцерагацца.* Яго болі за ўсё ўсцерагайся.

Утарабаніцца — *прывалачыся.* Ноччу ўтарабаніўся й лёг спаць.

Утушкаваць, утушкавацца — *ухутаць, захінуць у цёплае.* Малы западлівы, утушкавалі яго ў дарогу. Як утушкуешся добра, і мароз адступіцца.

Ухаб — *напасць, бяда, ліха.* Во які ў яе ўхаб, то насілася-насілася, а цяпер асела-ткі.

Уходаць, уходацца — *даесці, дабіць; яшчэ — замарыцца, прыбіцца.* Адзін і ўходаў увесь кацёл. За дзень уходаўся, прыбіў ногі к ср.цы.

Уце́рпець — *стрываць, стрымацца, затрымацца.* Як жа, уцерпіць, калі там стаіць бражка. Раз пашоў дождж ды неяк уцерпіў, а пасля як даў, такая макрата.

Уцеха — *радасць, асалода.* Гадую малога без уцехі, такі малы ніякі.

Уці́шыцца — *супакоіцца, аціхнуць.* Тады ўжо ўцішалася, як змаглася. Так яно само й уцішылася.

Уцумбэсціць — *моцна лінуць.* Дождж як уцумбэсціў — цёмна стала.

Учу́піцца — *учапіцца, ухапіцца*. Сабака ўчупіўся за хвост, лісіцы й дзявацца некуды.

Учуць — *пачуць*. На магільніку толькі й можна птушак пачуць, навет салаўя, а ў Вушачы не ўчуць нікога.

Ушкуры́ць — *уцяць, дапячы*. Добра-ткі яго ўшкурыў, што дасюль апомніцца ня можаць.

Ушчаміць — *ухапіць, укіпцюрыць*. Сава курэй у лапы ўшчэміць і давай латашыць.

Ушчын — *пачатак*. Ні ўшчыну, ні ўспаміну, праваліўся, як у мякіну.

Ушчынаць — *пачынаць гаварыць*. Ушчынаць пачынаіць, а дагаварыць забываецца.

Фазы месяца — маладзік, поўната, сход; веташок, вятох, ветах.

Фасоніцца — *гнацца за модай, прыбірацца*. Фасоніцца-фасоніцца, а кавалеры гэтага й не заўважаюць.

Фасунак — *клад, скарб*. Яму й чорт фасунак знойдзіць. Дзе фасунак, там палатунак.

Флянец — *парастак, атожылак*. Нядаўна, здаецца, флянчык у вазон уторкнула, а глядзі ты, які фікус вырас.

Фура — *нязграбная, грузная жанчына*. Суніцца фура — аж вуліца стогніць.

Хабёл — *хам, нахаба, неабчасаны*. Хабёл прыдзіць і любую кампанію сапсуець.

Хаданіна, хадня — *хадзьба*. Тут болі хаданіны, чым той еданіны будзіць. Ад дурной хадні ногі прысталі.

Хадзімец — *хадок, прыбыш.* Заходзь у хату, хадзіміц, цябе чакаіць гасцініц.

Хадэра — *хто дужа ходзіць, паўсюль дападае.* Уседу хадэры німа, ходзіць, нікаіць.

Халадзёнка — *халодная вада, якой абдаюцца ў лазні.* Ліні яшчэ кварту халадзёнкі на камяні, пары нешта малавата. Не халадзёнку ліюць на гарачую жонку.

Халадзіна, халадэча — *халоднае надвор'е.* Такая халадзіна — з хаты выйсці страшна.

Халадзюткі — *дужа халодны.* Вада ў ручаі халадзюткая, аж рукі заходзяцца.

Халмак — *кузлак.* Даў каню халмак сена, каб не глядзеў у пустыя яслі. Мох звісаіць халмакамі са сцен.

Халодны — *няродны.* Няма ў яго родных — толькі халодны бацька ды халодная матка *(вотчым, мачыха)*. Кажуць і на другую жонку — халодная жонка.

Халтама, халтамешка — *няскладная, раскідзістая, несабраная.* Паглядзі, халмата, якая сама. У халтамешкі вецір у галаве, туман у вачох.

Халяраваць — *хвалявацца, нервавацца, капрызіцца.* Як захаляруіць, дык мейсца ў хаці нікому німа. Не халяруй, супакойся, усё тваё табе будзіць.

Халярун — *халерык.* Халярун у гарачай вадзе купаны.

Ханабрыстая — *ганарыстая, задаваліcтая.* Дужа ханабрыстая, абы-хто не падойдзіць.

Ха́піць — *стане, будзе, хопіць.* Шчасце як каму, а гора на ўсіх хапіць.

Хаплі́вы — *увішны, быстры.* Паспеіць зробіць, ён на работу хаплівы.

Хартаваты — *галодны.* Малец хартаваты — цэлы дзень на пасці.

Харчаваць — *карміць, утрымліваць.* І адзяваюць, і харчуюць іх там.

Харчавіты — *ешчы.* Парсючок такі харчавіты — усё есь.

Харчоўка — *харчы.* Харчоўку сваю бяры, не забудзься.

Харчы́цца — *харчавацца.* Ці хрэн, ці гарчыца, абы нечым харчыцца.

Хатнішча — *месца, дзе стаяла хата.* Ні следу ад іхняга падвор'я, толькі хатнішча з бур'яну трохі значыцца.

Хвалько — *выхваляка.* Хвалько сам сябе хваліць.

Хвараваты — *нездаровы, падупалы.* А Любка гэта хвараватая.

Хваросце — *асцё.* Такое хваросце ўесца ў косці.

Хваросціць — *лупцаваць розгай, дубцом.* Матка яму хваросціць па спіне, а малы ня плачаць, упар такі.

Хварун — *які часта хварэе.* А мой мяншак такі ўжо хварун, з болек не вылізаіць.

Хварэц — *хворы, нядужы.* У гэтым дварцы ўсе хварцы.

Хваста́цца — *лупцавацца венікам.* Хвастаўся на палку, пакуль ня стаў, як арак, чырвоны.

Хвась — *гонар, ганарлівасць.* За хвась маіць, што ён начальнік. Граззю гразь, ды якая хвась.

Хвашчанка — *вяхотка, мачалка (звычайна з хвашча).* Чуць адшаравала кацёл хвашчанкай.

Хвінтос — *хвіга.* Хвінтос пад нос табе, а ня грошы.

Хіба — *бяда, напасць, пошасць.* Прыходзіць да нас ужо хіба. Яго хіба пахібіла.

Хле́біна — *хлеб.* Хоць нейкая хлебіна вядзецца, а ўсё ж не галадоўля.

Хлебнік — *хто спрыяе зарабляць хлеб.* Конь — хлебнік, а каровам усё пад хвост пхаюць, а пасля кароў за хвост цягаюць.

Хлёп — *хліп (гукаперайманне).* Толькі перайшла масток, а агонь хлёп і патух.

Хліб — *глыток, раз хлібнуць.* Варыўся ў катле грыб, і поліўкі той на адзін хліб.

Хліба́ла — *посная, слабая страва.* Аб гэтым хлібалу ты скора есці захочаш.

Хлудаваты — *нязграбны, вуглаваты.* Хлудаватая дзяўчына, як конь ламавы.

Хлябі́на — *бохан.* Хлябіну на стол — еш, хоць пуза распераж ы!

Хляпа; хляпіць — *мокры снег; калі йдзець мокры снег.* Такая хляпа, аж дарогі не відаць. Хляпіць пачало яшчэ зрання.

Хляхатаць — *кіпець.* Вада ўжо хляхочаць, скора бульба зварыцца.

Хмызоўе — *хмызняк.* Каза ўбілася ў хмызоўя, ледзь вывалаклі.

Ход, ходка, выхадка — *хада, паходка.* Кот чуў Пецьку па ходу. Дзеўчына-залёціна, у цябе ходка цёціна. У яе такая выхадка — здалеку пазнаіш.

Храп-храп — *хрупат (гукаперайманне).* Лёд на возіры храп-храп, цёк — і німа.

Храпат — *хрумстанне.* Усе маладыя, з зубамі, як пачалі есці труса, аж храпат ішоў.

Храпчэць — *хрупацець.* Сонца выпагаджваіцца, дарога крапчэй, ня так будзіць храпчэць.

Хропат — *храп.* Спіць, аж хропат ідзець па хаці.

Хрупоніць — *хрумстаць.* Лысоня напоўніцу мурог хрупоніць.

Хрыпка — *хрыпата.* Хрыпка на грудзі села.

Хрыпы́ — *лёгкія.* Усе хрыпы заціна͡юцца ў яго — астма.

Худа — *цяжка, няпроста.* Аўтобус сёння ня йдзець, ёй дабрацца худа.

Худая — *благая.* Плакала маладая, што доля худая.

Худое — *поснае, без закрасы.* На худой папасцы ні касіць, ні мясіць.

Хукаць — *дыхаць, каб сагрэцца; яшчэ — баяцца дыхнуць на каго.* Хукай на рукі, каб адыйшлі. Яна на рабёнка хукаіць не нахукаіцца.

Хукі — *пара ад выдыхаў.* У хаце так зябка — хукі йдуць.

Хурым — *сакрэт, таямніца.* Я табе пад хурымам гэта кажу.

Хутра — *кажух, футра.* У цябе хутра таўстая, цёплая.

Хэрцполька — *дужа імклівая полька.* Ад хэрцполькі ўцякуць усе болькі й усе сурокі пусцяцца ў скокі. *(Ад нямецкага Herz — сэрца.)*

Цабэрак — *тоўсты, няўвішны.* Як яму, такому цабэрку, на работу далёка хадзіць.

Цагельнік — *пячнік.* Чуць знайшлі цагельніка, каб печку скласці. *(Відаць, першапачаткова той, хто цэглу выра6ляў на цагельні.)*

Цалёўка — *дошка.* Паветку ababілі цалёўкамі.

Цалкі — *цэлая, нярэзаная бульба.* На вячэру зварым цалкі.

Ца́цкаць — *любавацца, песціць у руках.* Цацкаўцацкаў і ў кішэнь узяў.

Цацотка, цаца — *капызістая, напорыстая, прабіўная.* Ты са сваей цацоткай яшчэ й наскачашся й наплачашся. Яна добрая цаца. Такіх цацаў многа ў ср.цы.

Цвердзь — *цвёрдасць, трываласць.* Лёд ужо — самая цвердзь.

Целяпаць — *плявузгаць.* Толькі языком целяпаіць, а нічога ня робіць.

Целяпень, це́лепень — *няўклюда, няўдаліца.* Целяпень у хаці, што пень.

Цемнік — *хмыз, цёмнае кустоўе.* Цемнік абступіў сцежку, аж страшна йсці. У такі цемнік убілася, ледзь на праталіну ўзбілася.

Ціплюкі — *кураняты.* Варона шмат ціплюкоў пахапала.

Ціснуцца — *спяшацца, падавацца ў дарогу.* Пакуль відна, цісніся дамоў.

Ціхама́ — *употай, цішком.* Гэта вы з маткай усё ціхама робіце.

Ціху — *не хвалюйся, пачакай.* Ціху, пойдуць дажджы, бульба атойдзіць.

Цмыгнуць, цмыргнуць — *ударыць, грымнуць.* Як цмыгнуў, дык ён і сеў.

Цот у цот — *дакладна, адно ў адно.* Доўг вярнуў цот у цот.

Цу́пкі — *учэпісты.* Пальцы ў яго цупкія, як ухопіцца, дык ня выпусціць.

Цуркі, цурачкі — *аскепкі шкла, аскялёпкі, кавалачкі.* Збан на дробныя цуркі разбіўся. Лясь на падлогу кілішкі — на дробныя цурачкі пабіліся.

Цурме́нь — *цурок.* Малы цярпеў-цярпеў ды як пусціць цурмень.

Цы́блы — *доўгія ногі.* На сваіх цыблах яна й да Полацка дабяжыць.

Цыхна — *пранырлівая, дападлівая, усюдыісная.* Гэная цыхна скрозь дападзець, паўсюль паспеіць.

Цы́цалі — *махры на зношанай вопратцы.* Ідзець і цыцалямі трасець, хоць абрэзала б ці падшыла спадніцу.

Цьмер — *цемра, цямноцце.* Такая цьмер — ані зорачкі.

Цэп — *прылада малаціць снапы.* Цэп складаецца з доўгай жэрдкі — цапавільна, з бічоўкі — кароткай і цяжкой пабаешкі, якая якраз малоціць, б'е па снапах. Цапавільна мацуецца з бічоўкай угары́най. Гэтая перавязка бальшыной рабілася з вугровай скуры для трываласці. Угарына мусіць быць трывалай.

Цяг — *цяга ў печы.* Цягу німа, дым ня йдзець.

Цяга́лая — *распусная.* Дзяўчына цягалая, хто ж яе замуж возьміць?

Цягнуць — *перабівацца, даваць рады.* Ахрап'ем бы так-сяк цягнула.

Цягун — *старанны, працавіты.* У яе мужык такі цягун — ні хвіліначкі не пасядзіць, усё нешта робіць, нешта стараецца, яго да работы так і цягніць.

Цяжка́я — *цяжарная.* Аксіння ўжо цяжкая ходзіць.

Цялеснік — *чалеснік (як бы чало печы).* Чорны цялеснік у печы.

Цялёпкацца — *пялёхацца; яшчэ — наесціся.* Не цялёпкайся ў халоднай вадзе, сыночак, застудзішся. Нацялёпкаліся клёцак, аж чэравы трашчаць.

Цянькі — *глухія сцежкі.* Тут самыя цянькі, толькі ваўку хадзіць. І пашоў-пабег цянькамі, не азіраючыся.

Цяпельца — *вогнішча.* На пасце развядзём цяпельца й грэімся.

Цяпло — *святло, агонь.* Запалі цяпло, а то ўжо цёмна стала.

Цясютка — *пяшчотны зварот да каровы.* Гілёнька мая, цясютка мая, хадзі дамоў.

Цяўкун — *гаўкала, брахун.* Такі ўжо цяўкун, ляпа не счыняіцца.

Цяціўе — *каліўе.* Пад ліпкамі выкапала, бульбы німа й меншанькае цяціўіка.

Цяць — *кусаць.* Як сталі малога камары цяці, дык ён зарумзаў.

Чабох — *бух, бабух, чухвост (гукаперайманне).*

Дзед бабу чабох на дно.
— А мне, дзедзька, і тут ладно.

Чалядзіна — *фанабэрлівы, пыхлівы.* Чалядзіна — шастом галаву не дастаць. *(Чуецца ўспамін пра панскую чэлядзь.)*

Чамергес — *самагонка, напой, таннае віно.* Нейкага чамергесу выцісніць, каб вочы заліць, а спашнікі й стараюцца.

Чамярыца — *самагонка, саматужка.* Адна баба напілася нейкай чамярыцы й памёрла.

Чапурыцца — *прыбірацца, вымоджвацца.* Пакуль чапурылася, бульба зварылася.

Чарано — *чарэнь, самае гарачае месца на сярэдзіне печы.* На чаране спіну выграіш, і ўся хвароба пройдзіць.

Чараўніцтва — *чары, вядзьмоўства.* Я ня ўмею ніякага чараўніцтва, я толькі да Бога, я нічога не памагу, што твой мужык да другой ходзіць.

Чаркат — *крык, гвалт, базар.* Сарокі чаркат паднялі, некага высачылі. Бабы на базары такі чаркат з нічога ўшчалі, жах.

Чарналяпка — *злая (лічыцца, што ў злога сабакі чорная ляпа).* І сам, як сабака, і жонка чарналяпка, іх і злодзя баіцца.

Чаропкі — *дзяўчаткі (кепліва).* Адны чаропкі ў Ляксея, каб хоць адзін ды сын.

Чарэп'е — *чарапкі, цурачкі.* Буталь пабіўся, і чарэп'я ляжыць.

Часадла — *грубы грэбень часаць карову, каня.* Вычасалі часадлам на вясну, аж у каровы бакі ільсняцца.

Часты́ — *пачастункі, частаванне.* Часты там такія былі, што дасюль есці ня хочацца.

Чачотка — *пакручастая бярэзіна.* З чачоткі добра тапарышча робіць, не скіпаіцца.

Чачэніць — *гаварыць, слухаючы толькі сябе, трашчаць.* Сарочыха як пачне чачэніць, спыніцца ня можаць. Расчачэнілася — слова ня дась уставіць.

Чмур — *балагур, зух пагаварыць, вясёлы.* З гэным чмуром са смеху памром.

Чмура́ — *драбната.* Рыбы налавілі, такой чмуры, толькі ад ката абараніцца.

Чмыгануць — *шмыгнуць.* Чмыгануў заяц у кусты, толькі бачылі яго.

Чомбар, чонбар — *чабор.* І чомбар у лесі дзікі на ўзмежках. Даўней чонбару назбіраюць і заварываюць як чай.

Чоснак — *часнык.* Чоснак добра ў кілбасу ўкрышыць, тады яна кілбасой пахніць.

Чохаўка — *чханне.* Як напала чохаўка, нічым запыніць не магла.

Чохнуць — *лінуць.* Дождж як чохнуў, здалося, што неба абваліцца.

Чубасіць — *моцна ліцца.* Дождж гэтак чубасіў, аж усё ў руччы гудзела.

Чугай — *апранаха з аўчыны.*

Дзед бабі чугай шыіць,
А ў бабы душа ныіць…

Чулы; чулейшы — *здаровы, дужы; здаравейшы.* Як бы яна ўжо была чулейшая, дык хоць бы козачку кінула на племя.

Чуні — *абутак.* Нейкія чуні ўздзеў, вайлакоў не было.

Чурчом — *ручаём.* Са стрэх чурчом ліецца.

Чутнейшы — *гучнейшы, галаснейшы.* У лагеры песні складалі, якія чутнейшыя былі, якія не зайшліся.

Чылі́нда — *няўмека, гультайка.* За добрым мужам і чылінда жонка.

Чысцядзь, чысцяк — *чыстае месца, расцяроб.* Мала-памалу прадраліся з гушчару на чысцядзь.

Чычы́ліць — *есці, грызці, тачыць.* Малыя так чычыляць хлеб, як тыя мышы.

Ша́вера, шаць — *зброд.* Уся шавера зватажылася з'усюль. Адна шаць кругом, звяліся людзі.

Шавы́р-шавыр — *ісці, шоргаючы нагамі (гукаперайманне).* Дзед шавыр-шавыр і прыклыпаў к вечару дахаты.

Шал — *вясёлы настрой, дуронасць, неадуманасць.* На яго сягоння шал напаў, ніяк ня можаць суцішыцца.

Шала́х — *будан.* Вышлі на баравіну — шалахі стаяць.

Ша́лды-ва́лды, шаве́ль-шавель — *ісці валюхаючыся, спяшаючыся (гукаперайманне).* Яна шалды-валды (шавель-шавель) й прывалачэцца, дзе гарэлкай пахніць.

Шалманка — *забягалаўка, піўніца.* У шалманкі гэты, дзе гарэлка, ходзюць піць.

Шалуды́ — *парша.* Кошку памыць трэба, а то заводзяцца шалуды.

Шалых — *шусь, нырк (гукаперайманне).* А лісіца шалых у сваю норку.

Шаля́-валя́ — *працаваць з неахвотай, ленавацца.* Кажны хочаць, каб пражыць балмаччу, ня робячы, шаля-валя, а другі, як з тапара, каторы робіць ад шчырасці.

Шамшэць — *шамацець.* Сухое лісце пад нагамі шамшыць.

Шанавіты — *пашанлівы, паважаны.* Шанавітаму гаспадару ўсе дзверы адчынены.

Шанасць — *увага, дагляд.* Увесь свой век у шанасці зжыў. Шанась такая, як воўк кабылу шанаваў.

Шапкаваць — *здымаць перад некім шапку, запабягаць.* Не варты ён таго, каб перад ім шапкавалі.

Шапортацца — *ціха варушыцца, красціся.* Чую, нехта шапортаіцца ў палым лісці, аж гэта вожык.

Шапярнуць — *шапнуць, падказаць цішком.* Нехта ім шапярнуў, што пачынаецца аблава.

Шара́хаўка — *спалох.* Напала на яго шарахаўка, што свайго ценю баяцца пачаў.

Шарахну́цца, шарханунцца — *варухнуцца, памкнуцца.* Тут ні ступі, ні шарахніся, як у няволі якой жывеш.

Шаргункі — *бомы, званочкі.* Конь наўскапыта, а шаргункі пад дугою аж заходзяцца ад смеху.

Шароцце — *рабаціннe.* Увесь у шароцці — вачэй не відаць.

Шарсцень — *шэршань.*

Не ўцякай, дзядулька-шарсцень,
Не турбуй бабіных касцей.

Шарсцінне — *поўсць.* У Максіміхі сучка ашчэніцца, яна бярэць яе ў хату, пасля ўся ў шарсцінні ходзіць.

Шарэннік — *досвітак, калі неба толькі пачынае шарэць.* Устала на шарэніку, дык і ўсё паспела парабіць.

Шастак — *манета пэўнай вартасці.*

Сем дзён малаціла —
Шастак зарабіла.
А за тога шастака
Я купіла мужыка.

Шастаць — *нікаць, усюды дападаць; яшчэ — рыцца ў рэчах; ехаць, бегчы.* Усю ночаньку па закутках шастаў. Што ты шастаіш, не шукай таго, чаго не паклала. Кабылка была мышастая, па тры вярсты за гадзіну шастала.

Шасці́ць — *чыхвосціць, даваць прачуханца.* Як сабаку ты ні шасці, ён не зменіць паўсці.

Шасцярэнь — *чалавек, у якога шэсць пальцаў, звычайна на руцэ.* Дзіва, што ейны шасцярэнь ня бедны, шасцярнёй ухопіш болі, чым пяцярнёй.

Шáты-мáты — *крык.* Спачатку «ласачка-ласачка», а послі падняў свае шаты-маты.

Шах-мах — *на хапку, хутка, у адзін міг.* Шах-мах — і стол накрыты, усяго нагаўрана, балюйце, госці.

Шахá, шохі (мн. лік) — *навес, дашак на слупах.* Лён ляжыць пад шахой, дождж яму ня страшан. Куды ні глянь — шохі ды шохі.

Шахарэнне — *перапалох.* К прыезду начальства шахарэнне навялі, усіх на ногі паднялі.

Шашчá — *пацяруха.* Шашаль, цяпер клешч завуць, завёўся ў муцэ,ператачыў усю муку, адна шашча асталася.

Шворыцца — *калупацца, капашыцца.* Шворыцца баба ў сваім трап'і.

Швэд — *дрэваед, шашаль.* Швэд усю камоду патачыў.

Шкілэндзік — *недалуга, шкет.* Яшчэ й шкілэндзік пад нагамі круціцца.

Шкурні́, шкорні — *несамавіты абутак.* Абы-якія шкурні ўсторкнуў, усё ж нага ня босая.

Шкуры́ць — *дапякаць, чапіцца да некага.* Толькі шкурыць і шкурыць мальца, спакою яму не даець. Хто яго так ушкурыў?

Шлепані́на — *мокрая, гразная дарога.* Па такой шлепаніні йсці не давядзі бог.

Шлым-шлым — *цяжка йсці, цягнуць ногі (гукаперайманне).* Ідзець Апёнчыха старая, ногі шлым-шлым, а за ей Ключончыха.

Шлында, шляйка — *хто шляецца без справы.* Шлында-блында, а ўсюдых паспяваіць. Шляецца шляйка, як свіння незапёртая.

Шлындаць — *хадзіць, ступаць.* Старая яшчэ на нагах, троху шлындаіць.

Шляк — *паласа на тканіне.* А хустка на ей уся ў пулятых шляках і спадніца шлякатая.

Шля́ны — *валацужны, беспрытульны.* Забралі б такога шлянага ў міліцыю.

Шляпота — *слата, дождж са снегам.*

І дождж ідзець, і снег мяцець — шляпота.
Нашым дзявулькам жаніціся ахвота.

Шляхтаваць — *выціраць боты; яшчэ — адбрываць языком, сарамаціць, лаяць.* Я свае ногі шляхтавала-шляхтавала, знала, што тут памыта. Так ужо шляхтаваў, а яму ўсё як аб сценку гарох.

Шляхтун — *шляхетны, абыходлівы.* Шляхтун умеіць лёстачкі падпусціць.

Шматава́та — *досыць, багата.* Унучыкаў у мяне шматавата, дзякуй богу.

Шорхат — *шум, варушэнне.* Пачуў гэты шорхат і стаіць да дарогі мордай.

Шпік — *мозаг ў касці.* Выбі шпік, столькі яго ў касціні.

Шпы́ркі — *так клічуць авечак.* Шпыркі, шпыркі, ідзіце папіце.

Шпэтны — *хударлявы, падцягнуты, паджары.* Я ж быў шпэтненькі чалавек, цяпер ужо дык пабучнеў *(патаўсцеў).*

Шта́ба — *завала, кантаваная закладзіна.* Ужо штабай заложана, таргаваць ня будуць. *(Ад нямецкага Stab — палка, кій.)*

Шта́бы — *складзеныя бярвенні.* Бярвенняў у штабах столькі, што на хату хопіць.

Штандарты — *брусы, падкладзіны, на якія мосціцца падлога.* Штандарты давялі, каб падлога роўная была.

Шту́рнуць — *разумець.* Нічога ня штурніць у гэтай справе, а з парадамі лезіць.

Шты́бчыць — *ісці рухава, часта ступаючы.* Во як штыбчыць да свайго сюбара, аж малання з-пад хваста свішчыць.

Штых — *пласт.* Пакрылі страху кулявой саломай у адзін штых.

Шуметнік — *сметнік.* На шуметніку куры капаюцца. *(Па-ўшацку смецце — шума. Цікава гучыць: не вынасіць шумы з хаты.)*

Шупаўка — *леташняя бульба; яшчэ — тая, што заседзелася ў дзеўках.* Шупаўкай узяла́ся, сшупела — унутры нічога німа, толькі шупейка. І дзеўка бывае шупаўка, бо ніхто не пасватаў.

Шупе́ць — *выдаваць глухія гукі ад удару сякерай.* Гнілое бярно толькі шупіць, колькі ня бі па ім.

Шусь, шавыр — *быстры рух (гукаперайманне).* Шусь пад лёд — і німа яго. Стары шавыр на печ і грэіцца.

Шуя́ — *малеча, недалеткі.* Расступіцеся, шуя, не стапчыце мне х.я!

Шчаву́льнік — *конскае шчаўе.* Гарод шчавульнікам парос, гаспадара німа.

Шчаме́ль — *чмель.* Пачнець кеміць, як свой шчамель ушчэміць. Што ты як той шчамель шчэмішся?

Шчамлётка — *прышчэпка.* Лайно памыла, павесіла й шчамлёткамі прышчапіла, каб вецер ня знёс.

Шчоглае — *дрэва, якое лёгка колецца.* Шчоглыя дровы лёгка біць.

Шчурка — *мышка. У дзіцячай песеньцы кошачка жаліцца:*

Сам кухар смятанку злізаў,
На мяне — кошачку сказаў,
Маніўся мне лапкі пабіць.
Чым жа я буду шчурак лавіць?

*(Польскае szczur — пацук.)*

Шчы́бчыць — *шыбаваць, часценька ступаць.* Шчыбчыць бабка, мусіць, хочаць свае гады дагнаць.

Шчыраслоў — *шчыры на слова, ветлівы, спагадны.* Ён такі шчыраслоў, ад яго слова душу ласкай агортваіць.

Шчырнік, шчырун — *які шчырэе для каго-небудзь, спагадае.* Душа матчына — шчырніца вечная. У шчыруна душа бяз дна.

Шчэрыцца — *усміхацца.* Ты мне зубы ня шчэр (не галі).

Шыдэлак — *кручок для вязання.* Як шыдэлак зручны, дык і вя́занка вяжацца лёгка. *(Польскае szydełko — кручок.)*

Шы́ркі — *шырыня.* Такія шыркі, як гэты дошкі.

Шы́хаць — *шаптаць, наракаць паўшэптам, абурацца.* Нахахаталіся, нашыхаліся — нічога на стале не было есці. Бабы зашыхалі: « Вунь ён ідзець».

Шэды — *сівы, шэры.* Ён ужо, як воўк, шэды, а ўсё кавалерыцца.

Шэ́жакам — *вожыкам.* Валасы шэжыкам стаяць, вочы папуляў.

Шэрас — *шэрань, іней.* Такі шэрас, дрэвы ўсе паабшэрасавалі.

Юга́ — *завіруха, кудаса́.* У хаце ў нас Бог жывець, а на вуліцы такая юга — свету белага не відаць. *(Украінскае юга — сухі туман, імга, мроіва.)*

Юлёвы — *фіялетавы.* Капу пахварбавалі ў юлёвае.

Юр — *жарсць, пал.* Каму тое, каму сёе, а мне юр на ўме.

Юргіня — *вяргіня.* І юргініну ўторкнула, усё ж букет весялейшы будзіць.

Юрок — *ваўчок; ішчэ — юрлівы, жыгун.* Малы круціць юрок і сам, як юрок, круціцца. І гэны юрок бегаіць, як кнурок.

Юры́ць — *распальваць жарсць.* Калі юрыць, дык і пад хвастом гарыць.

Юхтовікі — *юхтовыя боты.* Да калхозаў юхтовікі былі ў кажнага. Ён сабе юхтовікі справіў, ходзіць цяпер панам, і лёгка, і нага сухая.

Явіцца — *нарадзіцца.* Ягняткі явіліся, бяры ягнёнка гадуй.

Яглі́вая — *звяглівая, з'едлівая.* У яглівай цёткі талент на плёткі.

Ягнятнік — *воўк, які палюе на ягнят.* Як панадзіўся ягнятнік, усіх ягнят перарэзаў. *(Адпаведна «спецыялізацыі» — гусятнік, жарабятнік, кабылятнік, канятнік.)*

Яджгу́р — *ёрш.* Прыдзіць пара, падпусцім і яджгура *(падколка)*.

Ядле́нец — *ядловец.* Ядленцу ў цяпельца кініш — дым салодкі йдзець.

Ядлі́вы — *які смачна есца.* Сена гэта ядлівае, шкода, што малавата яго.

Ядоміна — *ежа, нешта з'ежнае.* Такая ўжо доля ўдовіна, што й спагаднае слова — ядоміна.

Ядыла — *выяміна ў лыжцы, чым чарэпаюць ежу.* Не бяры маю лыжку за ядыла.

Яейная — *ейная.* І сама, і дачка яейная — абедзві цёпленькія былі.

Язычніца — *языкатая, абгаворлівая.* У язычніцы язык не забаліць усіх абгаварыць, абсэндзіць.

Ялаваты — *калючы; яшчэ — нешчаслівы.* Доля мая ялаватая, аддалі ў сяло х.яватае.

Яма — *падполле, выяміна пад падлогай (можа быць абкладзеная цэглай) для захоўвання гародніны.* Зіма была такая лютая, што бульба ў ямі змёрзла.

Яндзун, яндзуха — *хто шмат енчыць.* Такі яндзун, крый бог з ім жыць.

Яравыя — *летнія; збажына ці яблыкі — пепінка, грапштэйн.* Антонаўку можна мачыць, яна зімняя, а яравыя яблыкі ня мочуць.

Яруха, юруха — *самагонка, бражка; яшчэ — злая, кусачая.* Усе бабы хлібалі б, пілі б без краю, заліліся ў гэтай гарэлцы, наробіўшы якой ярухі. Нейкай юрухі заробіла ў дзежцы. Гэныя мушкі такія юрухі.

Ясачка — *бліскацінка, іскрынка.* Хусцінка ў ясачкі, ідзець маладзіца — аж сама свеціцца.

Ясік — *ласкавы зварот да дзіцяці.* Ясік ты мой, дзень мой пагодлівы.

Ячменішча — *поле, дзе зжалі ячмень.* Ейныя індыкі ходзюць па нашым ячменішчу, а яна й вухам не вядзець.

# Устойлівыя выразы

Ababraць як голую белку — *пусціць па свеце жабраком.*

Абысці сем сёл з прысёлкамі.

Абвесці кругом пальца.

Аб'еддзе ваўчынае — *пра дзеўку, якую шмат хто паспытаў.* Каму абеддзе, а каму аб'еддзе. На гэна аб'еддзе ваўчынае ніхто не пагаліцца.

Аб'еддзе мышынае — *рэшта сена.* Засталося адно аб'едзе мышынае, а добрае сена прышлося каню да смаку.

Абмываць языком — *абгаворваць некага, пляткарыць.* Яна усіх сваім паганым языком абмываіць, багдай яе самую на кут абмылі.

Абсіліць рукі — *расцягнуць жылы, знясіліць.* За цэлы дзень абсіліла рукі.

Абстанавіць колам — *спруцянець, памерці.* Каб цябе колам абстанавіла!

Абысці свет з прысве́ткам — *шмат.* Абыйшоў свет з прысветкам, а застаўся дурнем усё гэткім.

Абысці хітрачком — *абхітрыць, пакінуць у дурнях.*

Адбою няма — *вялікі попыт.* У Стахванішкі ад жаніхоў адбою німа.

Адкінуць хвост — *захварэць, злегчы.* Работы з яе, як з мятлы лісця, троху папоркалася ў гародзі й хвост адкінула.

Ад рання й да змяркання.

Акунёў вудзіць — *драмаць, дзяўбаць носам.* Пакуль мы гукалі, дык ён і акуня вывудзіў.

Аляксей ганяіць — *панос, паласкуха.* Аляксей на сёмы вянец ганяіць.

Аляр спраўляць — *крычаць ратунку.* Такі аляр справіў, аж чэрці вушы заторкнулі.

Ані ў бабкі гарох — *няўпраўка.*

Апромеццю ляцець — *нічога не заўважаючы, ашалела.* Як убачыць бабу — апромеццю ляціць, кілун гэны.

Арду драць — *сварыцца, зва́дзіцца, спрачацца дужа заядла, ду́біцца, нешта не падзяліць.* Брат з братам арду дзяруць за мяжу.

Астарыць сябе — *апусціцца, апусціць рукі.* Астарыў сябе й так, а яшчэ прыкідваіцца, што яго нешта цікавіць.

Атопкам хлеб рэзаць.

Атрымаць стыдніцу — *увесці ў сорам.*

Ачмут у галаву зайшоў — *затлуміцца, з'ехаць з глузду.*

Ашчэп'ю (ашчэпкам) трымацца — *моцна, аберуч.* Яна за свайго мужыка ашчэп'ю трымаецца, каб ня ўцёк.

Ашчэрыць зубы — *памерці, сканаць.* І Якута ашчэрыў зубы, хай ня думаіць, што ён вечны. І зубашчэр ужо зубы ашчэрыў.

Байка-тарабайка — *калі гавораць пра нешта пустое.*

Барання вага — *16 кг; пра худзенькую дзяўчынку.*

Бегчы (сядзець), горб ушчаміўшы.

Без перастання — *несупынна.* Паўзла й паўзла без перастання.

Без разгібу — *не разгінаючыся.* Скрабі гразь без разгібу, як разагнуўся — немец лапатай па спіне.

Без стукату, без грукату.

Без фігі не да носу — *пра ганарыстага.*

Белым днём — *удзень.* Белым днём з хаты ўсё вынеслі.

Бліськ ды ясь — *зіхатліва, шыкоўна.* Ідзець — бліськ ды ясь, адступіся, гразь.

Бог дарогу перабег — *пашчасціла.*

Браць моц — *прыходзіць у сябе, браць сілу.* З перапою моцы не бярэць.

Браць на ду́кі — *браць на хітрасць, на арапа.* Яна яго на дукі бярэць, нічога там німа.

Браць на пуп — *дужа старацца ў цяжкой справе.* Не бяры на пуп, усю работу не пераробіш.

Браць (узяць) на (у) рэмус — *правучыць, даць наганяю.* Браць на рэмус яго пара, ад рук адбіўся.

Брусам ляжаць — *нерухома, не падымаючыся.* Яна брусам ляжыць, з пасцелі не падымаецца.

Брыка мяса — *пра таўстога, неўваротлівага.* У Стахвана жонка — брыка мяса.

Булён на дыму — *звараны на вогнішчы.*

Быдла несвянцонае.

Быць за паганую палку — *нікчэмным.*

Быць на казла — *не запускалася.* На казла не была, малака мала даець каза.

Быць у падводах — *нешта падвозіць, перавозіць на кані.* Івана дома не было — быў у падводах.

Бяры не збярэш.

Вазьмі вочы (ногі) у рукі.

Вазьмі мазгі ў жменю (у рукі).

Вераб'ёва кармілка — *падножны корм.*

Варона зваліцца з кала — *у спёку.* Ужо так пячэць, варона з кала зваліцца, ня ўседзіць.

Віжы на крыжы — *прыхаваная пагроза віжам.*

Вісьма вісець — *не разгінаць спіны, не адыходзіцца.* Матка над калыскай вісьма вісіць.

Воўк у лесе здох — *пра нешта нечаканае.* Відаць, у лесі воўк здох, што гультай за працу ўзяўся.

Вочы ў ср.цы — *нічога не бачыць.*

Вывам выць — *рыдаць у адчаі.* Вывам выю, а рады даць не магу.

Вывесці з галавы — *забыць, перастаць думаць пра нешта.* А я з галавы вывіла гэта й успамінаць не хачу.

Выйсці на вясну — *перазімаваць, выжыць.* Канёнак на вясну чуць выйдзіць, а карова дык і не.

Выкідаць круг — *ісці напраcткі (наўпраcткі), напрасцяк (наўпрасцяк).* Круг выкідалі, каб скарэй.

Вылупліваацца са скуры — *выпінацца.*

Выпіць на канчатковую — *замачыць куплю, гешэфт.* Сыйшліся ў цане й выпілі на канчатковую.

Выпіць на першую руку — *хутка, на хаду.*

Выпіць на пужку — *на ад'ездзіны.*

Выпіць у красу — *заружавецца, для настрою.*

Вы́разаць у пень — *увесь, ушчэнт.* Быў такі лясок, ды выразалі ў пень, бо не сваё ж, калхознае.

Вырасці ў аглоблі.

Вырываць здароўе — *падрываць, даставаць.* Не вырывай астаткі здароўя!

Вытлуміць мазгі — *забыцца.*

Выцерці шэрыя блохі — *хапіць гора.* Там табе вытруць шэрыя блохі, чыкацца ня будуць.

Вялым х..м зроблены — *нядужы.*

Вярзці здубавецце — *казаць абы-што.*

Гагалём хадзіць — *важнічаць, задзіраць нос.* Ходзіць гагалём, сам сябе хваліць.

Га́кі-ба́кі забіць — *спірацца, упарціцца.*

Га́ліцца на чужое — *кваліцца.*

Галі́ць зубы — *пасміхацца.*

Га́лыя вочы — *зайздрослівыя.*

Гандаль на піндаль.

Ганяць сабак — *нічога не рабіць, шлындаць па вуліцы.* Каб чым заняўся, а то толькі цэлымі днямі сабак ганяіць.

Гарадзіць гарод (плот) — *казаць абы-што.*

Гасцінцы ў хусцінцы — *прысмакі, прынесеныя звычайна бабуляй, загорнутыя ў хусцінку.* Чакай, будуць табе гасцінцы ў хусцінцы.

Гвалту крычаць — *клікаць на помач.*

Гладка-душа — *пра шчырага чалавека.*

Глядзець у калелыя зубы — *бачыць нябожчыка.*

Голасам галасіць.

Голасу нарабіць — *учыніць шум, гвалт.* Біцца пачнуць, голасу наробяць на ўсё сяло.

Голь перакатная — *бедната, галеча.* Адна голь перакатная сабралася камуну ладзіць.

Гразі не атабрацца.

Гразь мяшаць — *абгаворваць.*

Гульма гуляць — *нічога не рабіць.* Гульма гуляіць, клопату ня маіць.

Гэтымі гадамі — *у гэтыя гады.* Зняслі гэтымі гадамі Праннікі (вёску).

Даваць мардавога — *даць аплявуху.*

Давесці да людзей (к людзям) — *падгадаваць; навучыць добрым манерам.* Трэба старацца, каб дзяўчыну даўчыць, давесці да людзей. Дзеўка паехала, дык цётка троху к людзям давяла.

Да ду́ры — *шмат нечага.* Усяго было да дуры.

Дажываць старасць — *быць у старым, пахілым веку.* А Мікіціха старась дажываіць, яе ўжо там заждаліся.

Дай бог ногі — *уцякаць.* Ухапіў з воза свой клунак і дай бог ногі.

Дамоў паехаць — *сканаць.* Мой ужо даўно дамоў паехаў, адна кукую.

Да перуна — *багата, шмат.* У яго ўсяго да перуна, а яму ўсё мала.

Даўгія рукі — *хапуга, злодзя.* Зэк яе любіў рукі даўгія — вёз адусюль, цягнуў.

Даць дубля — *даць прачуханца, усыпаць.* А каля Завячэлля Брэнт жыў, ён ей дублю даў добра.

Даць дыхту — *адлупцаваць.*

Даць лупца.

Даць нос — *адмовіць.* Бацька даў нос яму, жаніху такому.

Даць павагу — *ушанаваць, прывеціць.* Даў ім такую павагу, добра ўшанаваў.

Даць свету відзець (бачыць) — *дапячы, уесціся, цвяліцца.* Ён табе яшчэ дасць свету відзіць, папомніш мяне.

Даць у лапу — *даць хабар.*

Даць уносніцу (улычніцу) — *паказаць хвігу.*

Даць чосу — *добра ўваліць, дабіць нешта.* Даў чосу ботам на скоках, аж яны ашчэрыліся.

Даць як у цымбалы — *усыпаць, уперыць.*

Дзеля людскога вока.

Дзіччу крычаць.

Дзіччу расці.

Дзясятая вада на кісялі — *далёкая радня.*

Дзятлу няма дзе дзюбнуць.

Для прылікі — *адчэпнага, для адводу вачэй.* Хоць для прылікі надгубі.

Добрая цацотка (цаца).

Драць казлы — *ванітаваць, варацаць. Калі перакладаў балгарскіх паэтаў, гартаў слоўнік і раптам чытаю: дери кози. Не стаў чытаць тлумачэнне. І накрэсліліся ўсмешлівыя радкі:*

*І ў паэзіі, і ў прозе*
*Словы — вечнасці паслы.*
*Па-балгарску — дери кози,*
*А па-ўшацку — драць казлы.*

Драць лыка з каменя.

Дурны, аж круціцца.

Духі падхартала — *ад голаду.*

Дых перавесці — *перадыхнуць.* Такая пільная праца, німа як дых перавесці.

Едма есці — *не даваць спакою.* Едма есь яго штодня, як толькі чалавек трываіць.

Есці як не сваімі зубамі — *кепска есці.*

Жыць з капейкі — *з зарплаты, з пенсіі, не мець сваёй гаспадаркі.* З капейкі жыўшы, не разгонішся.

Жыць на вялікі з прысыпачкай — *добра, багата.*

Жыць на гулявым хлебе — *лёгка, на дармаўшчыну.*

Жыць шэртам, вэртам, перавэртам.

За адным скрыпам — *выйсці разам, адначасова.*

Завесці ў ср.ныя маліны — *падвесці, падставіць, паставіць ў нялоўкасць.* Завёў ты мяне ў ср.ныя маліны, і вер табе.

Завіло ў матылях — *занатурыўся, нешта ў галаву ўбілася.* Яму ўжо завіло ў матылях, гародзіць гарод.

Загнаць у казіны рог — *давесці да безвыходнасці.*

Задраць палазы (капылы) — *сканаць.* І Салівей ужо задраў палазы, а думаў усіх паражыць.

Зажанілася малако — *закісла.*

Залапіць вочы — *даць хабар.* Ён ужо добра залапіў вочы суддзю, ясна, што сваё высудзіць.

Залатое дэнышка — *шанцаванне.*

Залезць к чорту ў зубы — *пра спрытнага.*

Заліцца возерам — *заліцца вадой, пакрыцца лёдам у разводдзе.* А слізка, усё залілося возірам.

Заліць вочы — *напіцца.*

Заматыліла ў галаве — *выйшла з памяці, затлум найшоў.* Так у галаве заматыліла — забылася кошык узяць. Заматыліла мне ў галаве, зусім забылася, што збіралася пайсці.

За ні панюх (за нюх) табакі — *марна, дарма.* Аддаў вядро брусніц за ні панюх табакі.

За памяццю — *пакуль помніцца, пакуль не забылася.* За памяццю — трэба адкупіць муку, а так удаўнеіць пазыка.

Застацца на бабах — *ні з чым.*

Застацца на высадкі — *састарэць у дзеўках.* Васілішка на высадкі асталася, ніхто ня ўзяў, толькі сваталі.

Засы́паць вочы — *пахаваць.* Пакуль мае вочы не засыпіці, няхай мая хата стаіць.

Зарабіць ад х.я вушы — *нічога.*

Зарабіць стыдніцу — *быць пасаромленаму.*

Заяц у галаве здаровы — *пра дурнаватага, вар'ята.*

Заняцца кудзеляй — *абрасці маладым пушком.*

Запасці ў вока — *запомніцца, падабацца, запрыкмеціцца.* Трэба, каб ты яму ў вока запаў.

Збірацца на паповы сані — *паміраць.*

Збіцца з тропу — *згубіць след, заблукаць; яшчэ — заблытаць, збіць з толку.* Пад вечар збіліся з тропу, ледзь пад раніцу на дарогу ўзбіліся. Зусім ты мяне заблытаў, збіў з тропу.

Збіць на горкі яблык.

Збой народу — *гурма, натоўп.*

Званочкі-звягунцы.

Звесці хлеб — *застацца без хлеба.*

Звесціся на самоў хвост *(выхудаць).*

Зжыць на сабаку — *дажыцца да непавагі, да абразлівага стаўлення.* Бедны Курыла на сабаку зжыў, нявестка аб яго ногі выціраіць.

З зямлёй шаптаць — *быць ледзь жывым.*

З казу ростам — *невялікая, маленькая.* І меншанькая ўжо з казу ростам, расцець.

З крýтым паўрýтам.

З крыкам, з гікам.

Злавіць варону — *празяваць, даць сябе ашукаць.* Я на базары варону й злавіла — укралі ў мяне грошы.

Злая моц — *злосны, зацяты.* Злая моц, а не чалавек, усіх ненавідзіць.

Знасіць ногі — *прыстаць ад хаданіны.* Проста ногі зносіш, пакуль дападзеш чаго.

Зносу няма — *моцная, трывалая вопратка.* Такаяноская паддзёўка, зносу німа, аж надаела ўжо.

З плеч у печ — *жыць адным днём, без усякага запасу.*

Зрабіць на гары гразь — *марная пагроза.* Зробіш ты мне на гары гразь, а цяпер з возу злазь.

Зубіць яйка — *правяраць, ці трывалае, перад тым, як біцца, чыё паб'е, на Вялічка.*

З усіх капылоў.

З чартá пералетка — *маленькі.*

Зямля зямлёй — *брудны; яшчэ — п'яны.* Кашуля на ім зямля зямлёй. Уваліўся ў хату — зямля зямлёй.

І валасоў не хопіць — *непамерны лік чагосьці.*

І вухам не страпяне — *не звяртае ўвагі.*

І галавы не збярэш — *слізгата, галалёдзіца.*

І дзясятаму заказаць — *грозьба.*

І дуры й лапіндуры — *хапаіць; пра гарэлку й да гарэлкі.*

І жук і жаба — *усе, хто папала.* І жук і жаба туды, дзе лацьвей.

Ікаўка-смяротніца — *перадсмяротная ікаўка.* Яго ўжо ікаўка-смяротніца б'ець.

І лапы абтрэсці — *скончыць усе справы.* Разабраўся з ім па-добраму й лапы абтрос.

Ілжэць, аж скіпаіцца.

І нá табе — *нечаканае здарэнне.*

Індзеі разводзіць — *малоць пустое.* Толькі індзеі разводзіць, а робіць і не падумаіць.

І па той час — *з канцамі.* Як сыйшоў кот з хаты, і па той час.

І семя звялі — *звёўся род.*

Ісці надозыр — *следам, назіркам, не спускаючы кагосьці з вачэй.* Я за ім надозыр ішла, каб не згубіцца на чужой дарозі.

Ісці рукой — *шанцаваць, ручы́ць.*

Ісці ў абмінкі — *абмінаць, пераганяць.* Доўга ў абмінкі йшлі з ім, пакуль я не адстаў усё-ткі.

Ісці ўводмаладзь — *маладзець.* Як ахосала *(палюбоўніка)* знайшла, дык уводмаладзь пашла.

Ісці ўдагон — *наўздагон, даганяць.*

Ісці цянькамі — *цёмнымі мясцінамі.*

І трава не шумі — *хоць ты што, абыякава.*

І ў ср.нае й у бранае — *хадзіць у адным і тым жа паўсюль.* У яго касцюм і ў ср.нае й у бранае.

І хвастом накрыцца — *уцячы, схавацца, не аддаваць доўг.* Пазычыла ей з апошняга, а яна й хвастом накрылася.

І ходу — *уцякаць.* За хатуль — і ходу адтуль. Вырвалася ад іх — і ходу!

І чорт адступіўся — *такі ўрадзіўся неслух.*

Каб вугаль затушыць — *ні кроплі.* Карова ацялілася, а малака — каб вугаль затушыць.

Каб слезіна́ — *нічога няма.* І ў нас карасіны каб слезіна ў каго.

Калыхаць чарцей — *падрыгваць, ківаць нагамі, седзечы.* Сядзі як чалавек за сталом, не калышы чарцей.

Капейка рабром — *каму цяжка зарабляюцца грошы.*

Касіць дугой — *купляць сена.* Ня мае спакою, хто косіць дугою.

Кату пад хвост — *марна, прахам.* Усё, што робіў і што заробіў, кату пад хвост.

Кашалі плесці — *пра п'янага, які ідзе ўзапльтанку.*

Кепікі строіць — *пакепліваць, прасмейваць.* Любіць з другіх кепікі строіць, а паглядзеў бы калі на сябе.

Кідацца з кулаччом.

Кідаць словы на ўзвей-вецер.

Кідаць упопуск — *наўздагон.*

Кінуць-рынуць.

Кішма кішэць.

Класціся кульком — *скруціцца.*

Клясці мёртвымі клятамі — *на смерць.*

Конікаў пасціць — *калі немаўлятка ўжо абапіраецца на локцікі й падымае галоўку.* Ужо Мікітка конікаў пасець, глядзі й помач бацьку расцець.

Котма каціцца — *пра нешта круглае.* Кола з гары котма коціцца само.

Коцы-боцы — *несці малога на плячах, падтрымліваючы рукамі пад азадачак, а малы мусіць трымацца аберуч за шыю дарослага.* Вазьмі Дамінічку коцы-боцы.

Крукам сядзець — *не разгінаючы спіны, без разгіну.* Малец крукам сядзіць над кніжкамі, хочаць у людзі выбіцца.

Крутам-мутам-баламутам.

Круціць духáмі — *двурушнічаць, хітраваць.*

Круціць яйцамі — *хітраваць, маніць, спрабаваць ашукаць.* Не круці яйцамі, а скажы адразу, што табе закарцела. Яйцамі не круці, а доўг аддай.

Крычаць (падымацца, узнімацца) на казла (пра казу) — *хацець апладнення.* Хай бы козачкі ўжо кры-

чалі на казлоў. Алі ж мая старая каза не ўзнімалася на казла.

Крычаць на ўсю галаву — *голасна.* Крычыць на ўсю галаву, быццам тут глухія сабраліся.

Крычы, хоць разарвіся.

Купцы на расторгі — *шмат гарачых пакупцоў.*

Лахі пад пахі ды бягом (ды гайда).

Лезці без мыла ў ср.ку — *падлізвацца.*

Лепшы бок — *у тканіне, у вопратцы.* Вывірні сарочку на лепшы бок, ты ж ня ўвосні надзяваўся.

Лізун-месяц — *калі падлеткі пачынаюць кавалерыцца, дзеўчыцца.* Ужо лізун-месяц напаў на дзеўчынёшку, ня знаіць, як выпнуцца, са скуры вулазацца.

Лынды біць — *гультаяваць.*

Люлька-нявыкурка — *піпка.* Відаць, у яго люлька-нявыкурка — з зубоў не выпускаіць.

Ляжаць лежма — *не падымацца.* Трэцці дзень лежма ляжыць, ніяк моцы ня возьміць.

Ляжаць ломам — *без толку, як лом у лесе.*

Ляжаць лостам, улогам, логам — *не падымаючыся.* Ляжыць лостам, так яго хвароба агарнула. Пахварэлі, уся хата ўлогам ляжыць.

Ляжаць на боскай пасцелі — *памерці.*

Ляжаць плазам — *распластаўшыся ці напіўшыся.* Хоць плазам ляж, нішто яго ня здзівіць.

Ляжаць пластом — *нерухома.* Тэмпература высокая — ляжыць пластом.

Ляжаць упокат — *адзін пры адным.* Так начасталіся, што ўпокат ляглі.

Лялькі ў галаве — *здурнець.* У яго ў галаве ўжо лялькі такія дурныя зробіліся.

Ляцець ку́лем-потарчма — *нявогледдзю.* Ляці ты кулем-потарчма, не дуры мне галавы.

Мазгі ў ствол пайшлі.

Мазоліць вочы.

Макавай расінкі ў роце не было — *голадна.*

Матылі ў галаве — *затлум.*

Мех з торбачкай — *удосыць, шмат.* І ў гасцях былі, і з сабой далі мех з торбачкай.

Мець за сабаку — *не паважаць, грэбаваць.* Яна яго за сабаку маіць, бо не прасыхаіць ад гарэлкі.

Мой ты свой — *ласкавы зварот да знаёмага.* А мой ты свой, як жа я рада, што напаткала цябе.

Мужчына-кром — *дужы, моцны.*

Мыць языком — *абгаворваць, пляткарыць.*

Мяняць гаршкі на гліну.

На будзе́нь вады — *мала.*

На бягу — *похапкам, неўзнаку.* Смерць на бягу маладога чалавека ўзяла.

На вечны хутар збірацца — *збірацца паміраць.*

На вілачках цераз парог — *падаваць госцю.*

Нагой не бываць — *не хадзіць, не наведваць.* Нявестка сюды нагой не бываіць.

На дражджах — *п'яны.* Нанач прыцягнууся пад божай воляй на дражджах.

На дух — *на паветра.* Трэба яе на вуліцу вынесці, на дух.

Наесціся жалезнага бобу — *гаварыць з упартым чалавекам.*

Нажом стаяць — *абрыдзець да болю.* Яны мне ў грудзёх нажом стаяць.

На згон зімы — *напрыканцы, напрадвесні.* На згон зімы пацяплеім і мы. На згон зімы, летам і восенню кацілася кошка.

На злом (на скрут) галавы — *без развагі, неабачліва, небяспечна.* Кінуўся ў гандаль на злом галавы. Палез ён на страху на скрут галавы.

На ключы — *пад ільдом, замерзлыя возера, рэчка.*

Налавіць рыбы — *абмачыцца, усюкацца, звычайна пра малога.*

Напала пільніца (рупніца) — *наваліўся клопат.*

На паўзлокатках — *на сагнутых локцях, упёршыся локцямі.* На паўзлокатках ляжыць і пілнуіць.

На першы прыскок — *на пачатак, на хаду.* На першы прыскок кульнём па кілішку.

На піндýрах — *вымудрана, вымаджана, выскрапчана.* Яму абы ўсё на піндурах было, і ня чхнець як чалавек.

Напіцца да абуха — *да непрытомнасці.*

Напіцца да зялёных мятлікаў.

Напіцца дапакатунку.

Напіцца да ср.чкі.

Напіцца да ўсюкату — *абмачыцца.* Напіўся наш красун да ўсюкату.

На разгон вясны.

На сваіх дваіх — *пешкі, пешадралам.* Хто на чым, а я на сваіх дваіх паспеў да вас.

На святыя нікды — *ніколі.* Яна табе аддасць доўг на святыя нікды, чакай.

Насіцца як па трэцяму году — *пра маладога хлопца; жаробак па трэцяму году ўжо ладны.*

На сухі лес — *пра непажаданае; ягичэ — праклён, заклён.* Хай на сухі лес такое шчасце. На сухі лес ягоныя словы, гада падкалоднага!

На ўзыходзе года.

На хапу, на хапку, на тым (на скорым) хапу — *не чакаючы, похапкам, на хаду.* Усё на хапу цапу-лапу робіць. На хапку нешта ўкусіла — таго й палудня. На тым хапу зробіла ўкол.

На цвярозую нагу — *пасля гулянкі.* З раніцы на цвярозую нагу скажаш, а цяпер гарод гародзіш, а жарддзё гнілоя.

На часёх — *вось-вось, неўзабаве.* Яна на часёх ходзіць *(павінна нарадзіць).* Ягоная жонка ў бальніцы на часёх *(хутка памрэ).*

На чужым х.ю ў рай ехаць.

На шарэнніку — *на досвітку, калі неба шарэецца.* Устаў на шарэнніку, каб дарогу не праспаць.

Не браць да галавы — *не звяртаць увагі.* Не бяры да галавы, хай брэшаць, язык свой чэшаць.

Не вялікае вялічча — *мала, няшмат.*

Нейкае ўсякае.

Не калёсы занасіць — *лёгка, без праблем.* Яму не калёсы занасіць: што надумаіць, тут жа робіць.

Не пад гумор бегчы — *не пад настрой.* Ёй сёння не пад гумор бегчы.

Не пад густ — *не падабаецца.*

Не падпускаць ані на храбт.

Не па каню корм.

Не па катлу затаўчына.

Не слухае, хоць вуха выварачвай.

Несці несусвецце — *абы-што казаць, лухту.* Несусвеццця нясець і сораму ня маіць.

Не ў нараў — *не дагадзіць.* Што б ні браў, што б ні краў — усё яму не ў нараў.

Не ў нос (нюх) — *не да спадобы.* Яму ня ў нос, што абмінаюць увагай і павагай.

Нехаджалы госць — *рэдкі.*

Ні да галавы, ні да ср.кі — *абыякавасць, бескла-потнасць.*

Ні з колам у горла — *упарты.*

Ні на волас (валасок) — *ні на хвіліну.* Так усю ноч і варочалася, ні на волас вочы не звяла.

Ні па каню, ні па аглоблях.

Ні расола, ні пасола.

Ні скубсці, ні смаліць.

Ні стуль, ні ссюль.

Ні ў галаве, ні ў ср.цы.

Ні ўзяць, ні ўцяць.

Ні ў кола, ні ў мяла.

Ні ўшчыну, ні ўспаміну.

Ні (ані, каб) шум баравы — *абыякава, не зважаючы, няўзнакі.* Яму ані шум баравы, спіць сабе. Што ты ні гавары, а яму каб шум баравы.

Ногі знасіць — *шмат пахадзіць, выхадзіць.* Проста ногі зносіш, пакуль яго знойдзіш.

Няўрокам казаць — *каб не сурочыць.* Няўрокам казана, добра ўсё ўрадзіла.

Падабенькі падабраць (падбіваць) — *быць падобным; яшчэ — старацца спадабацца.* І падабенькі падабраў бацькавы, выліты Якута. Ён ужо, глянь ты, падабенькі падбіваіць пад яе.

Пад голае неба.

Пад нараў — *даспадобы.* Ей пад нараў, што такая ўвага.

Падперціся саплямі — *засаплівіцца.* Сядзіць баба, саплямі падпёршыся, ды глядзіць, хто па вуліцы йдзець.

Пад слухом (пад нізом) — *быць паслухмяным, пакорлівым.* Малы яшчэ ў мяне пад слухом, пакуль у сваё пер'я ня ўзяўся. Жывець пад нізом у жонкі. Пахом у Тэклі пад слухом, а Ганна пад слухом у Стахвана.

Паехаць дамоў — *быць пахаваным.*

Пазычаныя слёзы — *няшчырыя.*

Пайсці насмеляка́ — *рашуча, без аглядкі.* І пайшоў насмеляка — ці пан, ці прапаў.

Пайсці (падняцца) паверх (вышэй) папараці (лесу) — *нікога не слухацца, адбіцца ад рук; яшчэ — заганарыцца, згубіць тармазы.* Як бацька з'ехаў, дык малец паверх папараці пашоў, нікога ня слухаіць. Як у пер'я ўвабраўся, паверх лесу пашоў.

Пайсці рукой — *добра гадавацца (звычайна кажуць пра свойскую жывёлу.* А можа, яна рукой пойдзіць.

Пайшло па хляву — *спрыяе, ручы́ць у гаспадарцы.*

Пайшоў трэтар — *шум, розгалас.*

Паказеліць вочы — *вырачыць.* Паказеліў ужо вочы, казёл бязрогі.

Пакласці зубы на паліцу — *згаладаць.*

Палаць вачмі — *трапіць у няло ўкае становішча, засаромецца.* А я стаю ды толькі вачмі палаю.

Палопацца са смеху.

Памяшаць (свіным) хвастом — *засквaрыць.* Свіння хвастом памяшала, таму такая бульба смачная.

Панская скібачка — *тоненькая.* Сабе ў дзве рукі, а матцы панскую скібачку даў.

Паняць моду — *узяць за звычку (кажуць незадаволена).*

Парожнія рукі — *пустыя, вольныя.* Ідзець гэта к гэтай, алі парожнія рукі.

Па свайму калену — *па сабе, роўня, падыходзіць.* Бугаяваў-бугаяваў малец, алі знайшоў дзеўку па свайму калену. *(Далёкі водгук роду.)*

Паскіпацца на лусцікі.

Пацягушачкі на парастушачкі.

Паялопіць вочы — *вылупіць, вырачыць.* Чаго ты вочы свае паялопіў?

Перамываць косці — *абгаворваць, пляткарыць.* Яна ўсім косці перамываіць, на сябе б хоць раз глянула.

Пестун ваўчыны — *спешчаны, распушчаны (кепліва), лянотны (з пагардай), натурысты, грубаваты.* Во, яшчэ пестун ваўчыны сквярэцца. А гэны пестун ваўчыны не адкініць агарка з лучыны.

Піць без пальцаў — *пра заядлага пітака (адсажанага бычка прывучаюць піць, мачаючы пальцы ў малако).*

Піць без памяці.

Полька-тармасуха.

Поўзаць на карачыках.

Поўсць дуба (дуб'ём) — *калі кошка спалохаецца.*

Прадаваць вочы — *пільна ўглядацца.* Прама вочы прадаў — так ўгледзіўся.

Праесці галаву — *дапячы, дастаць.*

Пражыць нашармака (нашармачка; надурніцу).

Прайсці туркі-баркі.

Працаваць да цёмнага вечара.

Праца на вы́мерг — *на знос.*

Прыбіць ногі к ср.цы — *шмат выхадзіць, забегацца, стаміцца ад хаданіны.* Прыбіла ногі к ср.цы, пакуль паперыну гэную выбегала.

Прыйсці да смаку.

Прыйсці на стол — *на памінкі.* Прыдзіці ж на стол, памянём нябожчыка.

Прыкурваць ад лямпачкі — *пра п'янага.*

Пры сіле.

Прыступу няма — *не падступіцца.* Глядзець німа на што, а к яму прыступу німа.

Пуза на лоб лезець — *пра тоўстага.*

Пуляць (папуляць, паказеліць) вочы — *гáліцца; рабіць вялікія вочы.* Атарві ягадзіны, а то рабяты пуляюць вочы на іх.

Пыжыкі дуць — *пра надуцьку.*

Пытаць у хворага здароўя.

П'яны ўдрызіну.

Разбіраць смак — *смакаваць.*

Разбіцца ў мак — *пастарацца.*

Разварыцца на мазгі — *ушчэнт.* Пакуль з табой туруруакаліся, бульба на мазгі разварылася.

Разінуць рот — *сканаць.* І сам рот разюў, не парой яшчэ на той свет пасняшаўся.

Рай чуць — *адчуваць сябе ўтульна, як у бога за пазухай.* Як вязаную кофту пад фуфуйку надзену — рай чую.

Раскол-дзеўка — *смелая, баявая.* Раскол-дзеўка, прыбегла ў кампанію й ураз навяла парадкі.

Расце ў роце — *пра нясмачную страву.*

Расці на лес гледзячы — *нявыхаваным.*

Ратунку крычаць — *зваць на помач, моцна крычаць.* Ня можаць рады даць гэтай рабоці — ратунку крычыць. Ратуначку крычу, а ніхто ня чуіц.

Ровам раўсці.

Роўма крычаць.

Рошні строіць — *прыкідвацца, капызіцца.* Толькі рошні строіць, што хворая, а яе пабайнёй не заб'еш.

Рукі ў ср.цы — *пра няўмеку.*

Рукі як сýкі — *худыя, як сукі.*

Рукі яму не служаць — *няўмека.*

Сабакам зрабіцца — *адзічэць, азлець; яшчэ — астыць, закалянець (пра страву).* Ён ужо сабакам зробіўся, толькі гыр ды гыр. Булён сабакам зробіўся, неяк есці.

Сабачча лапікла — *латка; затычка (пагардліва).*

Сабраць (узяць) мазгі ў жменю — *засяродзіцца, успомніць.* Сабяры мазгі ў жменю, усё на мейсца станіць.

Сабраць мох з балотам — *гаварыць абы-што.*

Сагнаць (адагнаць) цыгана з душы (ад душы) — *перакусіць, нешта ўзяць на зуб, абнашчыцца.* Еў ня еў, а ўсё ж цыгана сагнаў з душы.

Садам узяцца — *калі гарод зарастае порасцю.* Пад ябланамі нічога ня будзіць, на тым чысцяку толькі бульбу можна пасадзіць, усё садам узялося.

Сам чорт адступіўся — *такі добры ўраджай.*

Сашчапіць лапы — *памерці.*

Свенты недаткненты — *пасміханне, прасмішка.*

Свіння незапёртая — *хто не можа ўседзець, засядзіцца.* Толькі й знаіць паўсюль дапасці, як свіння незапёртая.

Свіння няпораная — *нявыхаваны, няўдзячны чалавек.* Свіння няпораная, ні дзякуй, ні нас.ру. *(Ушацкія апошнія словы вымаўляюць аж праз тры «с».)*

Свіння няскрэбаная — *пра бруднага чалавека.*

Свіныя плечы — *хабар.* Ён за свіныя плечы скончыў інстытут.

Седма сядзець.

Сесці макам — *занядасці.*

Сесці саладом — *спыніцца ў росце, не падыходзіць у дзяжы.* А то агуркі саўсім селі саладом. Не разгіналася ў гародзі, а ўсё саладом села.

Скруціцца ў яблык — *сціснуцца, скружніцца.* А к вечару маленькі ўвесь гарыць, скруціўся ў яблык, ні грэлка, ні лекі не памагаюць.

Скурка валяшчая — *жанчына лёгкіх паводзінаў, прасталытка.* Там такая скурка валяшчая, а ён аж млеіць па ей.

Слаб у яйцах — *пра нямоглага ці які ў нечым хібіць.*

Слата слатой — *незлічона, шмат.* Ідуць і йдуць слата слатой, і канца ім не відаць.

Слёзы пускаць — *плакаць.*

Соўма наляцець — *знянацку, нечакана.* Вараннё проста соўма наляцела на поля.

Спаць да белага дня — *дапазна.* Такі лянько, спіць да белага дня.

Стаяць дубá — *не садзіцца.* Садзіся, не стаі дуба, у нагах праўды німа.

Стаяць ні на жары ні на вары.

Стаяць шчэццю — *цвёрда, упарта.* Ён за хаўрусніка шчэццю стаіць.

Сум-туга — *маркота, роспач.* Вясёлае ды вясёлае, сыйграй сум-тугу. Такая сум-туга душу агарнула, жыць ня хочацца.

Схадзіць у праведзіны — *наведаць, адведаць.* Трэба неяк у праведзіны схадзіць, як там Мархва адна кукуіць.

Схапіцца ўламкі — *дужацца, барукацца.* Як схопяцца ўламкі, аж рэбры трашчаць. *(Відаць, ад ламаць адзін аднаго.)*

Сцяна сцяной — *густа, непралазна.* Жыта стаіць сцяна сцяной, куды ні глянь.

Сысці на бы́ка — *пра заняпалае жыццё.*

Сэрца не на месцы — *хваляванне.* У мяне сэрца не на мейсцы, каб слова ад сынка, як знік.

Сядзець, блохі (гніды) ушчаміўшы — *ціхенька, пакорліва.*

Сядзець колам.

Сядзець крыччу — *не разгінаючы спіны, крукам.* А вы тут не сядзіце крыччу, пахадзіці, на людзей паглядзіці.

Сядзець кутам — *кватараваць, здымаць куток.* Сваей хаты няма, і сядзіць кутам кутніца гэта.

Убіцца ў ласку — *увайсці ў давер.* Убіўся ў ласку к яму й цяпер ашукваіць яго.

Убрацца (увабрацца) у пер'е — *дасягнуць даросласці, увайсці ў сілу, у грошы.* Як убярэцца ў пер'я, і на матку забудзіцца.

Увесці след — *напасці на след.* Яны ўвялі след — знайшлі добрую дзеўчыну.

У дзве кроці — *у двайным памеры.*

Уесціся ў пячонкі — *дапячы.*

Ужо папы ў кутках стаяць — *адвячорак, цямнееца, цёмныя цені.*

Узахады хадзіць — *заходзіцца ад смеху.* Гэны брэшаць, а ўсе ўзахады ходзюць ад смеху.

Узбіцца на грошы — *забагацець, усталяваць свой прыбытак.* Ніяк не магу на грошы ўзбіцца, капейкі лічу.

Уздрыжжу плакаць — *наўзрыдзь, рыдма.* Рабёнак узрыжжу плачаць, ад маткі згубіўся.

Узяць моцы.

Узяць у аглабкі — *прыняволіць, прымусіць.* Як возьмуць у аглабкі, скакаць не з рукі.

Узяць у страх — *спалохацца.* Узяў у страх, што бацька сварыцца будзіць, і дамоў ісці баіцца.

У іх вада неразлітая — *пра сяброўства.*

Укінуць калатоўку — *пасварыць, унесці разлад.* Як калатоўку хто ўкінуў, німа ў іх ладу.

Укласці здароўе — *падарваць, дастаць.* Ён ей здароўе ўклаў, па чужых пасцелях цягаючыся.

У козыра хадзіць — *задзіраць нос, капызіцца.*

Улажыць розум у галаву.

У лес грыбы везці.

У лыжцы гатовы ўтапіць.

Упасці ў душу — *спадабацца, стаць як родны.* І так малец ім у душу ўпаў, што дрыжаць як над родным.

У сабакі вачэй пазычыўшы.

У свіныя галасы — *позна, марна, упустую.* Прышоў у свіныя галасы — ужо ўсё растаргавалі.

Усе ду́ды набок — *усё адкласці.* Усе дуды набок: трэба брацца за сена, каб зімой карова была здарова.

У ствол пайсці — *звычайна кажуць пра буракі, якія перастаюць расці ў тоўшчу; яшчэ — пра чалавека, у якога не ўсё ў парадку з галавой.* Звару буракоў маладзенькіх, якія ў ствол пашлі. У яго ўжо мазгі ў ствол пашлі ад навукі.

Уторкнуць свае тры грошы.

У трох вадах вымыць — *чыста.*

Хадзіць кандзібоберам — *задзіраць нос.*

Хадзіць надужкі́ — *уперацяжку.*

Хадзіць на мігі — *перамірґвацца.* Усю вечарыну на мігі ходзюць, каб потым разам збегчы.

Хадзіць па беднасці — *жабраваць.* Як памёр Якута, дык Рыпіна з малымі па беднасці хадзіла.

Хадзіць па лесу з бараной.

Хадзіць уза́грудкі — *біцца, чубіцца.* Як пойдуць узагрудкі — не разняць, як пітухоў тых.

Хадзіць у падводы — *праводзіць дзяўчат дадому.* Учора ўсю ноч у падводы хадзіў.

Хадзіць упанібра́цці.

Хадзіць хаданём (хамянём) — *не знаходзіць сабе месца.* Да дзвюх ночы хадзіў хаданём, ня мог ачухацца ад гарэлкі.

Хадзіць хадуром (хадуном) — *дрыжэць, хістацца, гнуцца.* Ад іхных скокаў усё хадуром ходзіць.

Хадзіць цыганскага барца — *барукацца.*

Хадзіць шэшарам — *пыхліва, выхваляста.* Па́рхі троху падняў і ходзіць шэшарам.

Халодна, як у ваўкаўні (ваўкаедні).

Хата з вываратняў — *пра нешчасліvую хату.*

Хварэць на пана — *запанець, грэбаваць чорнай працай.* Нешта ты рана захварэў на пана. Нашага Йвана абралі за пана, сядзіць у палацы й калупаіць у ср.цы.

Хітрая выжла.

Хоць ваўкоў ганяй — *прасторна ў хаце.*

Хоць вочы на кулак пратры — *ніякай увагі.*

Хоць гарохам у лоб страляй — *уперты.*

Хоць душа вон — *конча, абавязкова.* Прывёз дровы, — бутэльку гарэлкі дай, хоць душа вон, грошы не бярэць.

Хоць жывот (пуза) распеапражы — *ад добрага наедку.*

Хоць касой касі (касу закладай) — *багата, шмат.* Грыбоў сёлета — хоць касой касі.

Хоць ката ў рот садзі — *калі едзіва завязла у зубах.*

Хоць нас.ры ды ўтапіся — *безвыходнасць.*

Хоць трэсні.

Хоць ты яму на язык стань — *балбатлівы.*

Хоць у вір галавой — *такі адчай.*

Хоць у лыжкі ўвязвай — *калі аслабла мужчынскае начынне.* У яго ўжо не маячыць, хоць у лыжкі ўвязавай.

Хоць у мак рассыпся — *безнадзейна.*

Хоць у хвою галавой — *безвыходнасць.*

Цапом-лапом — *рабіць похапкам.*

Цераз грыб (губу) не плюне — *ганарысты.*

Цёмна, хоць ражна выставі.

Ціхім крадком.

Цот у цот.

Цыган за душой (на душы) сядзіць —*затоеная злосць ці калі сумленне точыць.*

Цыцы-брыцы — *пра хварсістых з прасмішкай.*

Чорт бы на цябе гаварыў — *калі нагаворваюць на некага, дапякаюць, крыўдуюць.*

Чорт на форму ўзяў (украў) — *пра памерлага.*

Чорт яму казаў — *не зробіць, не захоча.*

Чорта дома не было — *пашанцавала, спрыяла, не было перашкоды.*

Чу́блы даць — *прачуханца даць, усыпаць.* Яму б чублы даць, каб суцішыўся вачапор.

Чуж-чужына — *чужы, далёкі.* Каб хто дзе свой, адна чуж-чужына.

Чужой бядой радавацца.

Чуткі з будкі.

Чуць з духам прыехаць — *нічога не прывезці.*

Чэрці жэняцца — *непагадзь, калі ў коміне вые.*

Шаптушка на вушка.

Штучка з ручкай — *хітры, сам сабе разумны.* О, гэта штучка з ручкай!

Шуру́м-буру́м — *вэрхал.*

Шчырая баравіна — *чыстая, звонкая.* Як вышла на шчырую баравіну, аж на душы пасвятлела.

Шчэнь сляпая — *пра малога, з грэблівым адценнем.* Ах ты, шчэнь сляпая, чаго захацеў!

Шчэрыць зубы — *смяяцца.*

Шык з адлётам — *шустры, фарсісты.*

Шыць машну чорту — *праца на вецер.*

Шэрае плячо — *апора, падмога ў шэрым побыце. Мама часта казала*: «Ты маё шэрае плячо». *Казала,*

*вядома, навырост. І ўсё ўспаміналa свайго Івана, бацьку майго*: «Даўней нясеш ваду — на помач ён, сена — ён. А цяпер нясеш-нясеш і данясеш — ніхто не зменіць плячо».

Ядкі на зуб — *уедлівы, зацяты.* Ядкі ён на зуб — лепі не трапляйся.

Ядун (жор) напаў — *празмерны апетыт.* І гэткі ядун напаў на яго, што есь-есь і ўсё не наесца. *(Магчыма, і ядун, і жор, і дрыстун, і калатун, і сонніца — назовы адпаведных паганскіх божышчаў.)*

Як аб сценку гарох.

Як быку ў ср.ку — *марна.*

Як бязрукаму рукавіцы — *бес толку.*

Як вадой разліцца — *знікнуць раптоўна.* Яна як вадой разлілася, усе й агледзіцца не паспелі.

Як венікі з вішэнніка — *марны клопат.*

Як вераб'ю на памінкі — *мала.*

Як вокам паглядзець — *пра добрыя жыты.*

Як га.но на лапаце.

Як да бобу — *няўцям.* Да яе гэта як да бобу — не даходзіць.

Як да Кітая басанож — *далёка.*

Як дваццаць год уловіш — *вярнуцца ў маладосць.*

Як завязала (заняло, зарвала) — *замаўчаў.*

Як з арака наедку — *нічога, мала.*

Як зá сцену — *раптоўна замаўчаў.*

Як за сябе закінуць — *кульнуць шклянку гарэлкі.*

Як з галоднага краю — *калі шмат ядуць.*

Як з піпкі выгарала — *ураз, лёгка, хутка.*

Як з шылам у ср.цы — *неспакойны, непаседлівы.* Носіцца як з шылам у ср.цы, мейсца сабе не знаходзіць.

Як лахаўка бегаець.

Як мора — *пра вялікае, неабдымнае.* Хат як мора, разбудавалася вёска.

Як мухамора аб'еўшыся.

Як муха ў сыраватцы.

Як нагам стаць — *нешырока.* Пракапала сцежачку ў снезі — як нагам стаць.

Як на Маланніна вяселле — *багата.*

Як на моры без вясла.

Як на шпігах сядзець — *на кпінах, прасмішках.*

Як перуном высмаліла.

Як сабаку ў карытцы — *пра зняважлівае частаванне.*

Як са свінні пісар.

Як сарока на хвасце — *плёткі насіць.*

Як у Бога за пазухай.

Як у бот нагой — *на ўсё гатовае.*

Як у вока ўляпіў.

Як у даску — *гучна, суха.* Малы кашляіць як у даску.

Як украў — *мала, дужа ашчадна.*

Як у лёд — *гатовы куды-небудзь.*

Як у п….е згарэла — *пайшло прахам.*

Як у прорву якую — *ідзе прахам.*

Як у Юлькі — *самы раз, як уліты.*

# Параўнанні

Авечая латка, як родная матка.
Аршын з шапкай *(малы ростам, зняважліва)*.

Бегае як непрытомны.
Белае як, свіное цела.
Брэша як наняты.
Бяжаць, аж выцягвацца.

Вочы заспаныя як у зайца.
Вочы як у селезня блішчаць.
Вылез як вошына на бляск.
Вырабатаны як конь.
Высах як (што) маёвы венік.

Гаворыць, як воўну на плот вешаець.
Гаворыць як спіць.
Гадзіць як благой скуле *(дагаджаць капрызнаму)*.
Галава вялікая, толькі блох разводзіць.
Галава як збан
Галасок хоць у пясок.
Галодны як воўк жаробны.
Глядзіць як казёл на новыя вароты.
Глядзіць як карова на карову.
Гол як сакол.
Голы як бубен.
Гразны (чорны) як аралля.
Грошы як вошы.
Грошы як у жыда *(багата)*.

Даўгі, хоць сабак вешай.

Дзярэ як чорт за бацьку.
Дзярэцца як жаба на крэў.
Дзяўчына як жалуд.
Дурны як аглоблі.

Жывець, як золата важыць.
Жанчына — смачная, як кумпячына.

Забрала як казла за рогі (за яйцы).
Задаецца як хлеб у дзежцы.
Задумаўся як сабака ў чоўні.
Заехаў у лес, як у кажух улез.
Залез як арак у сетку.
Зарабіла як Хоўра на воўне.
Зарабіў (выйграў) як Заблоцкі на мыле.
Зарвала як жабе на зіму.
Застаўся як на моры без вясла.
Захацелася як дурню мыла.
Зашыўся як прусак у шчыліну.
Збіраецца як галодны ср.ць.
Збіраецца, як свёкар полкі (пялёнкі) паласкаць.
Збялеў як бярэсціна.
Збялеў як ліпа.
Здаро'е як га.но кароўе.
Здуру — як з дубу.
Змёрз як свіны татка.
Змёрзнуць на костку.
Знік, як нагавіцы з плоту.
Зработаны як конь.
З яго карысці, як з казла малака.

Ісці як на палажонае *(на гатовае)*.

Калоціць як чорт сухую ігрушыну.
Ківаецца (трасецца) як жыд над га.ном.
Корчыцца як скурат на агні.
Круціцца як жулік на кірмашы.
Круціць яго як вяроўкі.
Купацца (качацца) як сыр у масле (па маслі).

Ладзіцца як у крапіву ср.ць *(доўга)*.
Лгаць як у лёд.

Маўчыць як цень (ср.ка).
Мокры як варона, а хітры як чорт.
Мокры як мачонка.
Мурзаты як заткала.
Мы з табой, як рыбка з вадой.
Мяккі, хоць у вуха кладзі.

Набрацца як бэля *(напіцца)*.
Набрацца як Гапон сліў.
Набрацца як жаба гразі *(моцна напіцца)*.
Набрацца як сабака блох.
Надвор'е мануфактурнае *(усмешліва)*. Надвор'е мануфактурнае: ружы спяваюць, сала'і расцвітаюць.
Нажылася, як мёду напілася.
Напалі як на мокрую п…у блохі.
Напіцца як бобік.
Напрацаваў, як кот наплакаў.
Наробіш, як сляпы наплачаць.
Насупіцца як кот (мыш) на крупы.
Недапіты, як недабіты.
Не спяшайся, як голы ў лазню.
Ні з тважжу, ні з ліца, як коззя пятліца.

Ні свой, ні чужы, як вятрак на мяжы.
Нож тупы як ср.ка.
Нос як кічаўка (кісялёўка).
Носіцца як жаробка.
Нясецца як чорт з грэшнай душой.

Пагавары з ім, як цар з жыдам *(грозна).*
Падторкнууся як чорт з каўшом пад брагу.
Пайсці як на той свет *(доўга хадзіць).*
Памог, як кашаль кольцы.
Пасуе, як кабыле чаравікі.
Пасуе, як свінні сядло.
Патрэбен, як цвік у падлогу.
Пахадлівы, як пахадзень (венік; пожаг).
Пацягнула, як ката па варацакі.
Перадкаваць, як сабака перад пастухом.
П’ець, як у бот ліець.
Піць (пітва) — хоць галаву мый.
Пішчыць як свіння ў пярэплаце (у дру́ках).
Прайграў больш чым на карову.
Прапаў як муха ў сырава́тцы.
Праўда, як у рэшаце вада.
Проста, як гаспадарчае мыла.
Прыстае як гарох к сценцы.
Прычапіўся, як сляпы к плоту.
П’яны як цэп.

Разгуляўся як сабака ў торбе (мяху).
Раз’еўся як парсюк.
Раз’еўся як шыла.
Раскінь ножкі, як баран рожкі.
Распусціў язык, як старац пугу.

Робіць, як мокрае гарыць.
Рукі не кукі.
Рукі як крукі.

Салжэць, як скрадзець.
Свая хатка, як родная матка.
Сісі па місе.
Сісі як бічоўкі, пісся як начоўкі.
Сказаў, як звязаў *(недарэчы, ні к сялу ні к гораду)*.
Смяецца як конь.
Спаў (сеў) як пан на саломцы.
Ссінець як курыны пуп *(пра п'яніцу)*.
Ссохнуць як майскі венік.
Стары, як ячмень пераспелы *(стаў ракам)*.
Стаяць як статуй (стуібень, стуіб).
Стаяць як урыты.
Стаяць як х.й на вяселлі.
Сыт, хоць нажы на ім вастры.
Сыты як брысік.
Сыты як рыдзель.
Сярдзіты як заваленъ.

Так атыдзець (паздаравее), як нябожчык пер.ніць.
Так курыць, як п…а сена есць.
Так наробіць, як сляпы наплачаць.
Так стараўся, аж язык замакрэў.
Такі добры, толькі на небе гвязды збіраць.
Такі чырвоны, як арак пячоны.
Тапленне, як кашынае любленне *(калі дрэнна паліцца ў печы)*.
Тарчыць як патарчака.
Толку (карысці), як з кілы мазгоў.

Трымаюся за карову, як чорт за бацьку.

Трэба болей як кату.

Трэба, як сабаку пятая лапа.

Тут і сляпому відаць.

Ты мне так патрэбен, як у ср.цы валасы.

Убіўся як сабака ў пасеі.

Угледзеўся як курыца на гузік.

У нітку выцягнуцца.

Урэзаўся як мурза ў зацірку.

У сваёй хатцы, як у роднай матцы.

У Сібір, як у вір.

Уся ў даўгах, як ёлка ў суках.

Утрэскаўся, як чорт у рабую карову (у сухую йгрушыну).

У яго даўгоў, як у зайца ламоў.

Харош як свіння ў дождж.

Ходзіць як непадоены (непрыкаяны; па-ўшацку — непрыкараны). Жонка скруцілася, дык і ходзіць як непадоены.

Хочаць замуж, як дурань стрэліць.

Худы як склезень.

Ціснецца як свіння ў плот.

Цягнуць як жабрака за х.й *(занудліва спяваць)*.

Чыст як трубачыст.

Чужая хата горш за ката, свая хатка — родная матка.

Шанцуе як тапельцу.

Юшка як на хаўтурах.

Язык у роце, як чорт у балоце.

Як арак на сонцы *(да чырвані)*. Цэлы дзень пякуся як арак на сонцы, — жалілася мама.

Як заткала *(брудны, мурзаты)*.

Як конь праз дугу, глядзіць на каргу.

Як кукамі збітая *(пра крамяную дзяўчыну)*.

Як мыла з'еўшы.

Я пана кохам, як капусту з грохам.

Як па ўмірушчаму *(плакаць, галасіць)*.

Як пень у лесе рос.

Як почка (нырка) у сале качаецца *(багаты)*.

Як сабака падхартаны.

Як слівіна *(пабітая да сінявы)*.

Як соль на вадзе, прападзем у бядзе.

Як сыр у масле купацца.

Як у злодзя ўсё пішчыць.

Як у латыша — х.й ды душа.

Як у мядзвежжу вушку *(утульна)*.

Я табе так вінен, як зямля калхозу.

# Трыказкі й прымаўкі

Абедаў-абедаў, а жывот не ведаў.

Абтросся й панёсся.

Абцёр троху пархі, дык і капызіцца.

Абы з рук далоў, а з ног само зваліцца.

Абыдзецца пляшывы без грабянька.

Абы на раду бацька быў, а так нічога.

Абы ўмела польку танчыць, а рабоце гора навучыць.

Абыходзімся мы без таго Гаўрылы, што каля нас не жывець.

Абяцанага тры гады чакаюць.

Адбяры, Божа, стыд, буду п'ян і сыт.

Аддай рукамі, а хадзі нагамі.

Адзін арак задам ідзець.

Адзін дзень з юшкай, другі з калатушкай.

Адзін з'еш і вала — адна хвала.

Адзін на плот, другі на пярэплат *(ніхто не саступіць)*.

Адзін у боб, другі ў гарох.

Ад каросты не ўміраюць, толькі рукі не гуляюць.

Адклад не йдзець на лад.

Ад кожнай бочкі шпунт.

Адкуль цёплы вецер, туды й бок падстаўляй.

Ад ліха ціха.

Адліюцца кошцы мышчыны слёзкі.

Адна жаўна й тая з га.на (адно жаўно й тое з га.но).

Адна галаўня не гарыць і не гаснець.

Адна й галавешка не гарыць.

Аднаму дагадзіш, а пяцёх угаладзіш.

Аднаму добра кашу калупаць.
Адны й тыя вочы й плачуць і смяюцца.
Ад прыбытку галава не баліць.
Ад роду не ў воду.
Адшляўся па дурных балах.
А сват свацці падплёў лапці.
Асеціла чалавека гора, хоць з моста ды ў мора.
Асіна — не лясіна, каза — не скаціна.
Аўчынка вырабу не варта.
Ашукаць можна любога, акрамя Бога.
А я жох сваё з запазухі.

Бабе праўду не кажы, пану верна не служы, — служы пану верне, а ён табе пер.не.

Бабоў цвет — і ў пана хлеба нет.

Багатага з хваслівым не разбярэш.

Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.

Багатым быць маю надзею: прадам сучку ў нядзелю.

Багаты на кані, а махляр на свінні — і махляр пераганіць.

Багаты, што нікому не вінаваты.

Бачыць вока, ды далёка (высока) кока (яйка).

Беднаму Іваньку й у п....е каменні.

Беднаму ўсюдых бедна.

Бедным плакаць памагае.

Без Бога не да парога, а з Богам уся дарога.

Без капейкі, без граша — і крывая хараша.

Без прычыны й смерць не бываець.

Без чорта балота не будзець.

Беларусы каліткі (торбачкі) у кішанях носяць.

Бі драбней, болі будзець.

Бі свой свайго, каб чужы баяўся!

Біцца не гадзіцца, а піхнуў, каб не дыхнуў.

Благога жарабка дык і на пярэплаце (плоце) шкура гагочаць.

Благому Яську ні ў чэсь ні ў ласку.

Блізкая радня: на адным сонцы грэліся.

Блыха ў муцэ, конь у аглоблях.

Бобра не бобра, а вылюбіў добра.

Бог дарогаю, а чорт цалiком.

Бог не без ног.

Бог не выдасць — свіння не з'есь.

Бог не гуляець, а свет мяняець.

Бог не слухаець, што свіння рухаець.

Бог пакараў і караўкай накрыў.

Бог сірот жалееець, толькі шчасця не даець.

Бог шэльму меціць.

Бог як у пень душу ўторкнуў (усадзіў).

Болей лопату, чым клопату.

Будзем жыць як набяжыць.

Будзем старацца, каб не ўср.цца.

Будзець горка — праплююць, а салодка — праглынуць.

Будзець час і для нас.

Бываець, і варона лапці абуваець.

Была б шыя, а чорт галаву прышые.

Былі б пабразгачы, будуць і паслухачы (паслугачы).

Былі б смачныя грыбкі, дык елі б ваўкі, а то, гады, мяса ядзяць.

Было б карыта, а свінні ўсюдых знойдуцца.

Быў конь, ды з'ездзіўся.

Вада й мельніцу йрвець *(калі шмат п'юць)*.

Вазьмі ты яго за руб дваццаць, калі ён каштуе руб пяцьдзесят.

Вайна пасярод га.на.

Валі на бурага — буры ўсё звязець.

Варона на многа сукоў садзіцца, ні на водным не жывець.

Ва ўдавы два нараву, а ва ўдаўца без канца.

Вашапруд на кут, а добраму чалавечку добра й у запечку.

Век — добры чалавек.

Век зжывеш і Кузьму бацькам назавеш.

Век зжыць — не мех сшыць.

Вельмі не вельмі, не тое, каб надта.

Верабей вераб'я здалёку бачыць.

Воз не воз — на семярых падвёз, а мне й досіць.

Вольнаму — воля, шалёнаму — поле, а спасёнаму — рай.

Воран ворану вочы не дзяўбець.

Вось табе, бабка, навука: не хадзі замуж за ўнука.

Вось твой хамут, вось твая дуга — і я табе болей не слуга.

Вырас пад неба, а дурань як трэба.

Выспееець (паспееець) касцянка — выспіцца шляхцянка.

Вышэй за лоб не ходзяць вочы.

Вялік пень, ды дуплен.

Вяселле наша — хлеб ды каша.

Вяселле сарочку знойдзе.

Гавары-гавары, як жаніцца.

Галава й два вухі.

Галава не бязмен: куды перакуліцца, туды й добра.

Галіца на дубе, а яе яйцы ў дупе.

Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам — заўжды.

Гароху нажýюць і ў ср.ку наплю́юць *(марнасць пагрозаў)*.

Гáрцы ўвядуць у старцы.

Гаршчок гаршку ганьбу даець, а абодвы дзюравыя.

Гаспадарочак — дома паночак.

Га.но аб га.но, і пырскі розна.

Га.но гору не помач.

Гдзе тылькі фэст, там пан Юзаф ест.

Глядзеўшы з рук, зробішся як крук.

Глядзі зробіш кісла.

Глянь у воду, з якога ты сам роду.

Голад не цётка, ён ілжэць і крадзець.

Гора маё гора, хата як мора, а ср.ць трэба вон хадзіць.

Гора маё гора, што муж Ягора, хоць бы дурны, ды Іванька.

Горка гарэлка, але п'юць, дрэнна замужам, але йдуць.

Горка рэдзька, ды ядуць, дрэнна замужам, ды йдуць.

Грамаць не дасць гамаць — робіць трэба.

Грозен рак, ды ў ср.цы вочы.

Грошы камень куюць.

Грошы пайшлі да раскошы.

Грышка-Мішка, кундалеў *(сабачы)* сын — наср.ў, з'еў і думаў, што сыт.

Грэх па дарозе бег, а баба глядзела й яго з’ела.
Грэх у мех, а сам наверх.
Гужам-гужам — ды міма-міма.
Гультай за работу — мазоль за руку.
Гультаю баліць жывот, а дасужаму баляць ногі.
Густая каша дзяцей не разганяець.
Гэта не грыбам дождж.
Гэта табе не пры немцах — ср.ць у сенцах.
Гэта табе не ў яйцы пішчаць *(не жартачкі)*.
Гэта табе не хвігі вераб’ям паказваць.
Гэта ўсё калякі, што пяр..яць аракі.
Гэткіх цацаў многа ў ср.цы.
Гэтых дзён не кажны дзён.

Дабрахвочы глядзіць скупому ў вочы.
Давялося на вяку чарвяку.
Дажыліся кулікі — ані солі, ні мукі.
Дай бог мяшаць свінням, ды сваім.
Дай бог раз жаніцца, раз ксціцца й раз паміраць.
Дай, Божа, у наймé людзям ды не мне.
Далей пакладзеш, бліжэй возьмеш.
Далёка воку да боку, а бабылю да гаспадара.
Далёка п’яны гойкаў *(не хутка будзе)*.
Дамэнта багаты: два катлы калатухі на загнеце варыцца.
Да нашага кýста ўсё пуста.
Да пары збан ваду носіць: ручка адарвецца й збан паб’ецца.
Да работанькі анінютанькі, а да любатанькі — ах, мае матанькі.
Да работы — агонь і да люботы як конь.
Дар зá дар, а дарма — ніц.

Дарма й каза ваўку не скачаць, як паскачаць, дык і з’есць.

Дармавому каню ў зубы не глядзяць.

Дасць Бог дзень, дасць і пажытак (спажытак).

Датуль матка міла, пакуль срачку мыла.

Даў тылі, як заяц кабыле.

Да чаго ўжо разумны — з-пад ср.кі ды ў рот.

Дачка — чужая крупеня.

Даюць, ды з рук не пускаюць.

Два дварышчы коні паілі.

Два мядзведзі ў вадным логавішчы не тоўпяцца.

Дванаццаць з поўначы прабіла, прывёз на базар Зуська мыла й пачаў таргаваць.

Двух варон варты, ажэнішся — ніводнай варты не бедзеш.

Дзве бабы й Тумаш — поўны кірмаш.

Дзе воўк радзіўся, той і куст міл.

Дзе даюць — піце, дзе б’юць — уцякайце.

Дзе згода, там лагода.

Дзе конь качаецца, там поўсць астанецца.

Дзе любяць — не ўчашчай, дзе не любяць — нагі не накладай.

Дзе наша не прападала — хай і тут ляснець!

Дзе няма роста, там няма й прыгоства.

Дзе (у каго) няма статку, (у таго) няма й упадку.

Дзе сабак многа, там двор не абброхан.

Дзе сасна ўзрасла, там яна да гроба красна.

Дзе сыноў поўная лава, таму бацьку слава.

Дзе трушком, дзе бяжком, а дзе й шагам.

Дзе харчы, там і тарчы.

Дзе чорт не зможа, там баба паможа.

Дзе шэпты, там і гешэфты.

Дзёр-дзёр мазурку, разагнаўся ды ў дзюрку.

Дзівак нябожчык: і памёршы, смяецца.

Дзівак рыбак: на вадзе сядзіць і піць просіць.

Дзяцей гадуй і торбу гатуй.

Добраму чалавечку добра й ў запечку, а якой благаце блага й на куце.

Добра таго біць, каму баліць, добра таго лаяць, хто сорам маець.

Добра ў наймé людзям, ды не мне.

Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.

Добра хлебу за блінамі, добра бацьку за сынамі.

Добра, што табе ўдалося як Салосе.

Добры малец, толькі сц.цца.

Добры чалавек, ды няма чаго даць.

Добры чалавек пабаіцца ківа, а благі не пабаіцца й кія, калі не паможаць кіў, не паможаць і кій.

Добры, як спіць: з кіем абыдзеш.

Доля мая ялаватая — аддалі ў сяло ху.ватае.

Доля ўдавіная, як савіная, што схваціць, тое й ейнае.

Дома й салома ядома, а ў гасцях і сена не есца.

Дораг той куток, дзе адрэзан пупок.

Дрэнная карова адна прыйдзець і ўсіх сапсуець.

Думай зá мара, а смерць за плячмі.

Думаў на гару, а чорт за нагу.

Дурная справа не хітрая.

Дурнога лечыць, толькі сябе калечыць.

Дурны-дурны, а скваркі любіць.

Дурных не сеюць, не пашуць — самі раджаюцца.

Дурня работа любіць.

Душа меру ведае.

Душа не балалайка.

Душа сваю долю чуе.
Душачка б прымала, ды скурачкі мала.

Ён і ад яйка адліець.
Ён моўча, а думá воўча.
Ёрмы чужыя, а наша шыя.
Ёсць што казаць, няма каму слухаць.

Жаніся, каб дурныя не звяліся.
Жанчына — усяму прычына.
Жар касці не ломіць.
Жар насіў у прыпале й разуваўся на сталі.
Ждала-ждала й жданкі паела.
Жджы, сучка, Іллі, блін з'ясі.
Жмі на басы, бо вёска блізка.
Жонка — радня па парог.
Жывем так сабе, патрошку, перабіваемся з кулька ў рагожку.
Жыві па веры й крадзь па меры.
Жыві, пакуль галава сядзіць.
Жывіце як брацці, а рахуйцеся як жыддзі.
Жыву, нічога не маю, але й з вазоў не хапаю.
Жыву як Дарота — ад рукі да рота.
Жыць будзеш, але не захочаш.

Забірайце збрую й едзьце к х.ю.
Заваліўся мядзведзь, і ўсе дуды розна.
Загарэлася бяроста ў ср.цы.
За «дзянькую» ніц не купую.
З аднаго боку пячэць, а з другога душу валачэць.
За другім бачыць пажашкі, а за сабой і бярвенні не бачыць.

За дурной галавой і нагам неўпакой.

Заелася: х.й за мяса не лічыць.

Зайца забіў метраў дваццаць.

Зайшоў за Дунай і дамоў не бувай.

Закон без вакон.

Залатыя словы й у час сказаны!

За маё жыта й я біта.

За морам цялушка — палушка, ды рубель перавоз.

Замуж хоць у пятніцу.

За паўкапейкі жабу (блыху) на край свету пагоніць.

За пнём галава, за калодай ногі *(усё да толку, утульна; жонцы за мужам)*.

За прос не б'юць у нос.

За пуп руб, за касмарку марку *(каштарыс асалоды)*.

Запытала зіма, дзе ты лета быў.

Зарадзіў Бог чалавечка — ні баран, ні авечка.

Зарадзіўся сабака з лысінкай, дык і здохніць з ей.

Заракалася свіння за вуглом га.но есці.

За свой грош усюдых харош.

За слабо й цыган павесіўся.

Засмярдзіць пад сталом, запахніць на стале.

Застаўся толькі дух ды пятух.

За тры гады боты як перуном спаліла.

За хатуль ды адтуль.

З аццялякі гаспадар ніякі.

Заяц і той злосць маець.

Збірай вархопкі ды йдзі ў заробкі.

Збіраўся, як той дзед Амос, — застаўся нос.

З Богам, Хадорка, калі людцы здараюцца.

З вады ў ваду — і сухі.

Звер не звер, а чорт яму вер.

З высакосці паламаеш косці.

З вялікіх выбораў — лапці ды аборы.

Згаварыўшыся, і бацьку можна забіць.

З голай ср.кай каля голага х.я не жартуй.

З гора кот капусту есць.

З гурту выбіраюць курту.

З «дзякуй» шапкі не пашыеш.

З добрага дупла добрая й птушка.

З'еш х.й, а рыба дарага.

З ігрушкі коцяцца недалёка гнілушкі.

З кім не рос, таму не дзьмі ў нос.

Злосці поўныя косці, а сілы з катовы кілы.

Злосць пакінь на заўтра, а работу зроб сягоння.

Злосцю людзей не пераражывеш.

З лясочку дачакаеш, а з пясочку — не.

З малачком і зямельку абгоніш *(мама дадавала: як абгоніцца ў році, дык і праглынецца)*.

З міру па нітцы — голаму сарочка.

Змог не змог — пад ніз лёг.

Змяніў бы́ка на інды́ка.

Змяя свінню не кусаець.

З навойчыка ды за малойчыка.

Знаець матка, чыё дзіцятка.

Знай, дзе ўміраць, саломкі паслаць.

Знаходка — тапор пад лаўкай.

Золата з га.ном змолата.

Золата ўсюдых золата, а га.но ўсюдых га.но.

З печы зваліцца й ср.ку не пабіць.

Зроб бела й гуляй смела.

Зробіў бы многа, ды штаны не пускаюць.

З сабачым хвастом у ваўчыны табар.

З усіх капылоў далоў.

І Аўгіння нявінна, і Ігнат не вінават, а вінавата хата, што пусціла Ігната.

І бацьку шкода, і клёцак хочацца.

І бяроза вілатая, і сваццяя багатая.

І воўк сыт, і козы цэлы.

І да мяса трэба закраса.

І за лучынку знаходзяць прычынку.

І каза Богу дарма не скачаць.

І камар носа не падсунець (не падаткне).

І кваску не зробіш з пяску, усё мучы́ца трэба.

І краў — і праў.

І курва й злодзя з аднаго прыроддзя.

І людскі род, як гарод: у ім і рэпка й свірэпка.

І на бабу бываюць ухабы.

І на лаўку й з лаўкі, і вон і з вону.

І няўмека пячэць, як засека цячэць.

І сам не гам, і другому не дам.

І так не так, і гэтак не гэтак.

І ў вераб'я злосць (сэрца) ёсць.

І ў сям'і, як у сяўні: і жыта й гірса́.

І чорт — не брат, і свіння — не сястра.

І шыта й крыта й козырам ходзіць Мікіта.

Каб ведаў тое месца, дзе паваліўся, дык абышоў бы яго.

Каб гэтай галаве ды шчэ розум.

Каб гэтай хаце дзесяць вянцоў подрубу, пяць — надрубу, — цудоўная была б!

Каб захацеў, знайшоў бы рукі.

Каб лепі, дык на чорта.
Каб не дзюркі ў роце, хадзілі б у злоце.
Каб не еў, не спаў, у Амерыцы б стаў.
Каб не клін ды не мох, цесля б з голаду здох.
Каб не плеш, дык і гола б не было.
Каб не хмель, не мароз, ён бы й тын (дуб) перарос.
Кажнае дыханне любіць папіханне.
Кажнаму гора сваё.
Кажнаму дразду па сваім гнязду.
Кажнаму свае соплі салёныя.
Кажная пачвара знойдзець сабе пару.
Кажны гад цяплу рад.
Кажны сабе мякашом, а другому коркай.
Кажны цыган сваю кабылу хваліць.
Кажны чалавек сам сябе варт.
Казала качарга гуляць да чацвярга.
Калі б'юць ззаду, спераду прывыкнець.
Калі гаспадыня з голаду памрэць, дык яе пад прыпечкам пахаваюць.
Калі кішэнь сухі, тады й суд глухі.
Калі нарадзілася цялятка з лысінкай, з ей і здохне.
Калі (каму; як) рупіць, тады (таму) й вочы лупіць.
Калі ты курэц, дык і май свой тытунец.
Калі ўлез у дугу, не кажы «не магу».
Калі шанцуе, дык і глухі чуе.
Каму гадка, а каму матка.
Каму па каму, а мне два камы.
Каму пільней, таму пыльней.
Каму тое, каму сёе, а мне юр на ўме.
Каму што, а дурню дзверы (лапці).
Каму што, а млынару вецер.
Каму што, а сляпому цеста.

Капейка камень дзяўбець.

Карову б'е зык, а бабу бабскі язык.

Кароста не проста — панская хвароба, стаі ды дзяры.

Кій на кій завадзіць, а абед на абед — не.

Кінь наперад, наза́дзі знойдзеш.

К нашаму берагу то х.і, то трэскі.

Колькі таго жыцця, а мукі болей.

Кравец за іголку, гаспадыня за калатоўку.

Красавіца, што з-пад стала кусаецца.

Краса завянець, а шчасце не абманець.

Краса пракрасі́цца, а розум прыгадзіцца.

Куды вароне ні ляцець, усё адно га.но дзяўбаць.

Куды вецер, туды й дождж.

Куды ноч, туды й сон.

Кукулка — не птушка, нявестка — не дачушка.

Кукуля кукуе, што свайго гнязда не мае.

Куме мой куме, дурны твой вуме: за аднаго абеду сем вёрст еду.

Кумка пешша — каню легша.

Купіў бы сяло, ды грошы гало.

Купіць рыбу ў рацэ, а не ў руцэ.

Курачка ў гняздзе, а яечка ў п….е.

Лапаць не князь — абуў ды ў гразь.

Лежань ляжыць, а яму доля бяжыць.

Лепі жартаваць, чым гараваць.

Лепі за статкам хадзіць, чым статак вадзіць.

Лепі з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.

Лепі касіць касой, чым дугой.

Лепі палавы хлеб, ды першы, чым другі пшонны.

Лепі першы гнеў, чым апошні.

Лёс перапялёс, і шчасце не адной масці.
Лішняга й свінні не ядуць.
Любіў бы Грасім, каб чорт грошы насіў.
Людзі не свінні — усё з'ядуць.
Людскі рот — не гарод, не паставіш плот.
Ляжаць не ляжыць і бягом не бяжыць.

Маладосць — буйносць, старасць — кайнасць.
Малады — першую галаву на карку носіць.
Маленькі сабачка давеку шчанючком.
Малое дрэва расцець то ў сук, то ў булаву, а малы чалавек — то ў х.й, то ў галаву.
Масква чужака не бачыць без ясака.
Матка не знае, што цялятка рыкае.
Матка нясе дзеткам — пазуху дзярэ, а дзеткі ад маткі хаваюць — пазуху дзяруць.
Мая душка не перабірушка.
Мужчына абы троху лепшы за чорта — сем красуняў возьмець.
Мужык так гаруець па жонцы, як баба па йголцы.
Мужыку калена пакажы, толькі праўды не кажы.
Муха не разарвець бруха.
Мы жылі й жыць будзем, а людзі гора цяпнуць.
Мядзведзь не мыецца, а яго ўсе баяцца.
Мякка сцелець, ды мулка спаць.
Мяне на работу не хвалілі, але й на ежу не ганілі.

На адным кулаку сем вёрст правалаку.
На базары й бык цельны, і певень з яйцом.
На балючыя воч (у хворае вока) пароша валіцца.
На беднага Макара й з неба шышкі валяцца.

Набойнае шыла танна каштуець *(калі хто набіваецца сам).*

На від мужык хоць лапаць, абы жыць не плакаць.

На вяку пападзецца па спіне й па баку.

На воўка памоўка, а мядзведзь спадналуску.

Нага ў гасцях, а лапаць дома.

Нагінаючыся, не нацалуешся.

На гора й сядун — дзіця.

На грэх і куры пяр..яць.

Надаела сабачай лапе ляжаць на стале, дык хай пад сталом паляжыць.

На два абеды ніхто не паспеець.

На дзяцей бацькі на век не нагатуюць.

На доўгіх лейцах дрэнна кіраваць.

Нажыў махам — пойдуць прахам.

На злосць свайму гору наеўся да ўсёру.

На курапаткі падкі.

На лечаным кані далёка не ўедзеш.

На ліха пайшоўшы, дык і куры пяр…ць.

Напіўся ў красу й абапёрся на насу.

Нарваўся хітры на мудрага.

Народу болі, чым людзей.

На старасці й чорт пабожным робіцца.

На тым свеце на загнеце.

На ўсякае хаценне ёсць цярпенне.

Начная кукулка дзённую перакукуець.

На чужое шчасце й мухай не ўпасці.

На чужой бы шкуры вала спёк, на сваей і вошыны не заб'еш.

На (у) чужой старане й жук — мяса.

На чужы раток не накінеш нараток.

На чыім вазку еду, таму й песню йграю (пяю).

Нашага Івана абралі за пана.

Не адзін той Гаўрыла, што ў Полацку.

Не бачыў ты яшчэ савы смаленай *(сапраўднага гора).*

Не бачыўшы цэлага, і лапленаму рад.

Не бойся ліхога, а бойся ціхога.

Не бойся сабакі брахлівага, а бойся куслівага.

Не будзь выдатнікам, не будзь астатнікам.

Не будзь ні войтам, ні сватам, не будзеш чалавекам праклятым.

Не будзь разумнейшы за папову цялушку.

Не было мяса, і п…а не закраса.

Не было ні граша, і раптам шастак.

Не быў ты на смычковым пераездзе *(у бядзе).*

Не быць казе на лазе й не есці ей брэду.

Не вучы таго кульгаць, у каго ногі баляць.

Не вучыце рыбу плаваць.

Не выходзіць у Хадоры тры бліны.

Не дай бог ні дадзенага, ні крадзенага.

Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.

Не дай бог тры разы жаніцца (тапіцца) й тры разы сяліцца.

Не да любеблі, калі рукі пакрэплі.

Не да парасят свінні, калі смаліць (на агонь) нясуць.

Недасол на місе, перасол на спіне.

Нежанаты б'е жонку, а бяздзетны — дзяцей.

Не з мясам, дык хлеб з квасам.

Не змераўшы броду, не суйся ў воду.

Не знайшоў шчасця зрання — не шукай яго й на змярканні.

Не кайся, што рана ўстаў і што малады жаніўся.

Некалі сабака бліны пёк, а ўсё цестам еў.
Не кармі хлебам, а дай хвост падняць.
Не кіем — палкай, адной паганялкай.
Не куецца, дык плешчацца.
Не купіў бацька шапкі — няхай галава мерзнець.
Не купіш, а зубы налупіш.
Не лезь, жаба, дзе коні куюць.
Не любебля, а тысяча рублей ўбытку.
Не мела баба клопату — купіла парася.
Не можаш памагчы, дык лепі памаўчы.
Не наеўся, дык і не наліжашся.
Не нашага носу палоса *(не роўня, не свой)*.
Не нашаму гароду вераб'і *(кепліва пра маладаступнае)*.
Не па барадзе, а па чарадзе смерць ходзіць.
Не пастаяўшы на парозе, не пасядзіш і на куце.
Не перадкуй, як сабака перад пастухом.
Не перапрыгнуўшы рэчку, не кажы «гоп».
Не радзіся красен, а радзіся шчасен.
Не руш нічога й не бойся нікога.
Не святыя гаршкі лепяць.
Не смейся, рабе, будзець і табе.
Неспадзеўкі — дзіця ў дзеўкі жох.
Не спяшайся на торг, спяшайся з торгу.
Не столькі брагі, колькі звягі.
Не страш бабу х.ем, яна яго бачыла.
Не страшна памерці, страшна чакаць смерці.
Не страшна работа, а страшна варкота.
Не сын спраўляў, не бацька ездзіць.
Не тады сабаку кормяць, як на паляванне йдуць.
Не так воўк баіцца сабакі, як не любіць звягі.
Не такі дурань, як здуран.

Не так страшан чорт, як яго малюткі.

Не ўздыхай, няма й няхай.

Не ўсіх людзей ваўкі паелі — яшчэ засталіся.

Не хадзі да папа, што ў нядзелю свята.

Не хаці ты ракаў і ні мачы ты ср.ку.

Не хвалі й колам не валі.

Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы.

Нехта ўперад, нехта ззаду.

Нечага козамі сена псуваць, яны й лыка з'ядуць.

Нечага на дзевак дзіваваць, калі пайшлі старыя бабы бл.даваць.

Нечага пад'язджаць летам на саначках.

Нечага спяшацца на той свет — кабакоў там нет.

Не чапай ліха, пакуль яно ціха.

Неяк зладзім — хлеб ёсць, сала ўкрадзем.

Ніводзін бык карову не забоў, ніводзін мужык жонку не забіў.

Ніводная гаспадыня пад пяколкам не памерла — ўсе жывуць.

Ні каровы, ні каня — жыву (сяджу) сабе як паня.

Ніц, ніц, а ў носік крэнціць.

Няма зміру ў чарцей з віру.

Няма тых крамак, дзе прадаюць мамак.

Няма чаго ма́ліцца, калі з запазухі валіцца.

Па барыну й порцыя.

Паглядзі, сава, якая сама.

Па гэтым дзеці будуць.

Па дастатку пякуць букатку.

Падаўся ў свет як у капейку.

Пад'еў — аюсь у хлеў!

Падупалага не лічы за прапалага.

Пажывём далей, пачуем болей.

Пазайздросціў барын халую.

Пазайздросціў х.й лапцю.

Пазыкі не ходзяць без'языкі.

Паймаў два белых, а трэці як снег.

Пайшла слава да Аршавы.

Пайшла сучка баразной *(знаёмым шляхам)*.

Пайшоў бы ў мніхі, дык яйцы ліхі.

Па колеру й густу сяброў не густа.

Пакуль лес адзенецца, невядома, хто дзе дзенецца.

Пакуль па каню, па аглоблі скарэй.

Палец каля пальца грэецца.

Па малаку ног не павалаку.

Па Пахомку шапка, па га.ну й накрыўка (пакрышка).

Паспееш (справішся) з козамі на торг.

Паспрабуеш — спрыт патурбуеш.

Пацалуй мяне сягоння, а я цябе заўтра.

Пацішэла й выжла, як свая бяда пабліжала.

Па цялятку знатка, якая матка.

Пачаў упрысядку пяяць.

Пашкадаваў воўк кабылу — пакінуў хвост ды грыву, — ці будзіць яна жыва?

Пашлі дурнога, а за ім другога.

Пень гарэў, а воўк ср.ку грэў, іскра пала, і радня стала.

Перад зайцам жабы ўцякаюць.

Перад сячэць, а зад валачэць.

Ператрэцца (перамелецца, перамнецца) — мука будзець.

Першая краска лепі цвіце.

Першы хлопец ён па вёсцы, ну а ў вёсцы адна хата.

Плач, галасі — рады не дасі.

Плюй на верхні грыб (губу), на ніжні само зваліцца.

Порсткі хутка скінець порткі.

Прадаў сабаку — брашы сам.

Прайшоў усе трубы й воўчыя зубы.

Прапала кароўка, хай прападае й вяроўка.

Пры віннай чары сяброў хмары, пры худой гадзіне нікога ў паміне.

Прывык з пялёнак да апрычонак.

Прыехала пані з вяселля, захацела рэдзькі з пахмелля.

Прыехалі госці із чужой валосці.

Прыйдзець каза да ваза, ды не будзець сена.

Прыйшла з гары, а багдай ты згары.

Прыйшоў з бору (з сяла) й гоніць з двору (з двара).

Прыйшоў у маю хату й б'ець майго тату.

Прыйшоў у свіныя галасы напіцца расы.

Прыходзяць дні к вечару.

Прышануй адзежынку дома, а яна цябе ў людзях.

Пусці — павалюся, падымі — устану.

Пусціўся, Мікіта, у валакіту й валачыся, пакуль канцы прыйдуць.

П'янаму й козы ў золаце.

П'яніца праспіцца, а дурань — ніколі.

П'яны прачýхаецца, а жмундзяк не раздабухаецца.

Пяць пальцаў на руцэ, і ўсе жалка.

Рабі-рабі, а дзюра мала.
Рад бы ў рай, ды грахі не пушчаюць.
Радня пасярод дня, а як ноч, дык і радня проч.
Разумны паглядзіць, а дурны пасмяецца.
Рана птушачка запела, каб яе кошачка не з'ела.
Раней у Макея было два лакеі, а цяпер Макей — сам лакей.
Ранняя птушка цярэбіць дзюбку, а пазная — вочкі.
Расступіся, гразь, га.но плывець!
Робіў ад ду́шы, а заробіў ад х.я вушы.
Розум добра, а два лепш.
Роўнае на крывым не стаіць.
Рыба куплена й воз накрыт!
Рыбаку хоць не рыбна, дык юшна.
Рыба шукаець, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей.
Рыбка пер.не ды на арака зверне.

Сабака брэшаць — язык чэшаць.
Сабака з тлушчу бесіцца.
Сабака й на Бога брэшаць.
Сабака й той лішняга не есць.
Сабака сабакам пахнець (смярдзіць).
Сабаку сніцца хлеб.
Сава відна па палёце, а сакол па паглёдзе.
Сава з месца, а сокал на месца.
Сава спіць, а кур чуець.
Сала любіць, а на свінню не ўзагнаць.
Салаўі пяюць, ды хлеб не даюць.
Салому еш, а фасону не губляй.
Са стральца й музыкі гаспадар невялікі.
Свае людзі, але не свае раты.

Сваё дзяло за яйцы ўзяло.

Сваё сонца й у попеле відно.

Свая ношка не цяжка.

Свая рука не суќа.

Свінню смаляць, а пад хвастом хваляць.

Свіння сонца не бачыць.

Свой лес — свае зайцы.

Свой свайго патрасець, а ў ваду не панясець.

Сем (дзесяць) гадоў нявестка зжыла й не ведала (не знала), што сучка без хваста.

Сем год рыбачыў, а рыбкі не бачыў.

Серабра цяжка, золата важка.

Сіраце даварыцца ў жываце.

Сказала Наста: «Як удасца».

Скоры паспе́х людзям на смех.

Служы верна й крадзь памерна.

Слухай, дуброва, што лес гаворыць.

Смала к дубу не прыстанець.

Смех з панскіх ботаў: адзін згарэў, другі сабака з'еў.

Сморкаў і за паяс торкаў.

Сорам не дым — вочы не выесць.

Спрасонку й блыха мядзведзем здаецца.

Спраў, як у земскага, а рабіць нечага.

Сраччына даражэй, чым матчына.

Старога хвалі ды з двору валі.

Старцам жыўшы, з перцам еўшы.

Старцу вярста не круг, абы міласцінка.

Старцу пажар не страшан.

Стары конь баразны не псуе, але й глыбока не арэ.

Супраць мора не здыхаешся, супраць закону не папрэш.

Сяннік не падушка, нявестка не дачушка.

Тады была сіла, калі мамка ср.ць насіла.

Тады мужык з жонкай сварыцца, калі ў катле трасца варыцца.

Такім кавалкам мяса й варона не падавіцца.

Там кралі, а тут лялі.

Таму казак і гладак, што пад'есць — і набак.

Там хлеб не родзіць, як сын бацьку за бараду не водзіць.

Той дух, што ловіць нюх.

Той самы блін, ды ў рэшаце.

Той самы рукаў, толькі навыварат.

Тры валасіны, але густа.

Тры п…ы попелу не варты.

Тры чвэрці да смерці.

Трэба ж, каб чорт машонку шыў, а яна лопнула.

Туль-туль і адтуль.

Тут яго не заб'еш, а на тым свеце яго няма.

Ты на гару, а чорт за нагу.

У багатага пана багатыя яйцы.

У Беларусі пчолы, як гусі, рэзгінамі мёд носяць.

У Бога дзён не рэшата.

У вар'ята штодня свята.

У віны няма даўніны.

У гасцях смаляныя лавы.

У гасцях Ілля, а дома свіння.

У дарозе й іголка вагу маець.

У дурной птушкі дурныя песні.

У запас не наплачашся.

У кажнага паўшабэлка свая абэлка.

У кажнай мэты свае прыкметы.

У кажнай хаце па лапаце, а ў каго дык і дзве *(свая бяда)*.

У кажнай хаце свой вушак.

Уласць, як мазь, як падмажаш, так і паедзеш.

У лесе не без звера, у галаве не без вошы.

У нашай Кацярынкі кажны дзень вечарынкі.

Унёс — твая сіла, папаўся — адказвай спіна.

У повень рот хахочацца, хуць плакаць хочацца.

У сваей хатцы можна й уср.цца.

У сваей хаце й качарга маці.

Усе грошы з машной.

Усе паміраюць, а хаваць некага.

Усе чэрці адной шэрсці.

У сіраты калі сарочка белая, тады й свята.

У славы смаляныя лавы.

Усмак не паражвеш, а ў ласцы не паражывеш.

У смаляной кабылкі выпрасіць і мёрзлай сучцы ўцісне́ць.

У ср.ку носам, а назад матросам.

Уср.цца — не падацца.

Усюдых гож, як шавецкі нож, — і боты шыць, і бульбу крышыць.

Ухваціў (хваціў) кашу шылам.

Хай будзець, як Сора сказала.

Хай той плачаць, хто бярэць, хай той скачаць, хто ідзець.

Хамут са старой кабылы.

Хацеў бы ты добрага ды многа.

Хацеў зробіць аграблі, а выйшла вешалка.

Хіцер Зміцер, але й Саўка не дурань.

Хорша, базыль, не рассыпай табакі *(базыль — бальзамінка, са стручкоў у якой высыпаецца, саспеўшы, семя — табака)*.

Хорша, тата, не ўдавіся.

Хоць альховы, ды смаляк.

Хоць ваўком называй, ды штодня па парасёнку давай.

Хоць вёрст за трыста — адна задрыста.

Хоць гаршком называй, толькі ў печ не стаў.

Хоць гол, ды войсцер.

Хоць да дня дабуду, а начаваць не буду.

Хоць да Кракава, усё аднакава.

Хоць з вадой, ды не з бядой.

Хоць ззаду, ды навыскачку.

Хоць кісла, назад не перавісла.

Хоць наўздагон, ды навыперадкі.

Хоць не палітычна, затое пажытычна.

Хоць не цішком, дык вечарам.

Хоць позна, ды козна.

Хоць позна, ды навозна *(пра добрую вячэру)*.

Хоць сабаччына, абы вочы не бачылі.

Хоць сучку, абы грошы кучку *(узяць жонку)*.

Хоць упрогаладзь, абы ў прахаладзь.

Хоць у сабачую, абы ў гарачую.

Хто б дзятла ведаў, каб не яго доўгі нос.

Хто дарогу пытаець, той не блукаець.

Хто дбае, той мае.

Хто дуж, той лепш.

Хто з языком, той з пірагом.

Хто курыць, за тым чорт шкурыць.

Хто напоршы, той нагоршы.

Хто на чужое пагаліцца, на тога неба абваліцца.

Хто не бачыў цэлага, той і лапленаму рад.

Хто не быў пастухом, той гаспадаром не будзе.

Хто пашаць, той пляшаць, хто гандлюець, той гаруець.

Хто перабіраець, той пераміраець.

Хто позна ўстаець, таму хлеба не стаець.

Хто сірату пажалеў, той і бацька.

Хто скуп, той сам сабе не глуп.

Хто ў кутку, а хто й навідку.

Хто хлеб носіць, той есці не просіць.

Хто чаго не любіць, тое таму будзець.

Хто чаго хочаць, той таго даскочаць.

Хто чужое не шануець, той свайго не маець.

Цацанкі-абяцанкі, а дурню радасць.

Цаца-цаца ды ў кішэнь, а дагоняць ды ў каршэнь.

Цацкаў-цацкаў і ў кішэнь узяў.

Ці кіем, ці палкай — адной паганялкай.

Ці кол, ці пятля — прымець зямля.

Ціхая свіння глыбока рыець.

Цыган прадаець рукавіцы й кажух з Каляд.

Цыганскі закон: ёсць — жары, няма — мры.

Цягнуць адзін у боб, другі ў гарох.

Цяжка пачаць, а кінуць ураз.

Цялятка ў ср.чцы, а ён з абушком бегаець.

Цяпер бабе не да солі, як зайгралі ў басолі.

Чалавек мяркуе, а Бог выракуе.

Чарачкі ды румачкі давядуць да сумачкі.

Час мінеш і век зжывеш.

Чорная авечка й белая авечка, а дух адзін.

Чорт не адны лапці стаптаў, пакуль такую пару падабраў.

Чорт праўду не любіць.

Чорт ставіць горад браўся, а сядзібу ўзяўся — уср.ўся.

Чубяцца за мех, а ў мяху смех.

Чужая яечня, яна не вечна.

Чужое дабро возьмецъ (бярэць) за рабро (вылезець праз рабро).

Чужымі клёцкамі сваіх дзядоў памінаць.

Чужым салам па чужой спіне.

Чужыя слёзы паб'юць бел-камень, паб'юць і лозы.

Чутка ходзіць хутка.

Чые бычкі ды бычкі, абы мае цяляткі.

Чым гараваць, лепей жартаваць.

Чым добра йсці пехам, лепш дрэнна ехаць.

Чым поршы, тым горшы.

Чым рыжэйшы, тым даражэйшы.

Чым якая сварка, лепей маленькі баёк.

Чым які пераход, лепей ўброд.

Шанцуе панам, ды не нам.

Што горад — то норат, што сяло — то сіло.

Што край, то абычáй.

Што міру, тое бабінаму сыну.

Што напоршы, дык нагоршы.

Што не гожа, тое не прыгожа.

Што праўда, то не грэх, што торба, то не мех.

Шчасця няма, дык і ў грыбы не йдзі.

Язык без косці, што захочаць, тое й хвосціць.

Язык Кіева дапытае.

Языковае мліва негадзівае.

Яйцо курыцу вучыць.

Як вядзецца, дык і на шчэпку прадзецца.

Які бацька, такі сын — праматаліся саўсім.

Які груган, такая й песня.

Якія кавалеры, такія й манеры.

Якія мы самі, такія й нашы сані.

Як ні хочаш, а вышэй ср.кі не падскочышь: ты скачаш, і яна з табой.

Як няма чаго сабаку рабіць, дык ён яйцы ліжа.

Як падмажаш, так паедзеш.

Як пойдзе Кітай, дык усё кідай.

Як просім — вочы сакаліныя, а як аддаём, тады савіныя.

Як п'ян, дык капітан, а як праспіцца, свінні баіцца.

Як Сора сказала, так Мэндаль запішаць.

Як топішся, дык і за брытву ўхопішся.

Яму хоць апенкі, ды асабенкі.

Я такую ласку й у жыда знайду.

Як у Божым вушку.

Як у лес, так і з лесу.

Як хачу, так і кручу.

# Народны каляндар

Грамніцы — зімы палавіцы, — сініца пад небам нап'ецца (15 лютага). На Грамніцы свечкі пасвянцаюць. Да Грамніц пілнуйся рукавіц. Лепі ўвідзіць злодзю ў клеці, чым на Грамніцы сонца (год будзе неўраджайны).

Святы Аўлас на сы́ры лас.

На Ізбор, на Масленіцу можаць пітух напіцца пад вуглом, а на Ізбор ўжо й вол. Ізбор пагоніць ваду з гор. Пост падняў кабылі хвост, а там Масленіца.

За́пасты — перад Вялікім пастом.

Калі на Аўдакеі мяцець (14 сакавіка н. ст.) , усё з пуняў вымецець (вясна будзе позная). Яшчэ й марац пад нос зашмарыць. Святая Аўдакея — веснавы дзянёк.

Сок ёсь — хлеба нетуці, хлеб ёсь — соку нетуці (пра вясну й восень).

Пасля Саракоў не начуй за ракой (22 сакавіка н. ст.; можа лёд крануцца).

Жаўранак прылятаіць на праталіну, шпак на прагаліну, жораў — з цяплом, ластаўка — з лістком.

Тады Праводніца. Тады ўжо Юр'я будзіць ( 6 мая н. ст.). Да Юр'я сена й у дурня. А хто розум маіць, дак і да Міколы трымаіць (22 н. ст.) .

Буцян як дапрызыўнік, ці дождж, ці снег — за тры дні да Благавешчання прылятаіць (7 красавіка н. ст.).

Вербніца перад Паскай (Вялікаднем) — апошняя нядзеля. Больш вянкоў — урода лепшая. На Юр'я свянцоную вярбу торкаюць на сваіх межах у жыта.

Вялічка, Вялікадня. На першы дзень Вялічка б'юцца яйкамі дзюбкай, а на другі дзень пухой (тупым канцом яйка).

Сягоння свята — другая Праводніца (першая нядзеля пасля Вялікадня). У Сібіры завецца Чырвоная горка.

На Глеба й Барыса за хлеб не бярыся (15 мая н. ст.).

Міколы бываіць два, адзін халодны (19 снежня н. ст.), другі галодны (22 мая н. ст.). Да Міколы ні зімы, ні лета ніколі, а з Міколы й зіма, і лета.

Юр'і абодва дурні — адзін галодны, другі халодны, адзін вясной (6 мая н. ст.), а другі ўвосень ходзіць (9 снежня н. ст.).

На Міколу варона ў жыці хаваіцца. А як па-добраму жыта ў пук ідзець — на Узнясенне, ці каласуіць — Тройца.

Дзяды на Тройцу бываюць. У нас іх тры Дзядоў бываіць. Тры дні гуляюць. Каровам увечары вянок з бярэзнічку саўюць і на рогі надзенуць. Пастух уець. Яму тады сыр дадуць ці сырнікаў напякуць. А ўвечары май стаўляюць. Аірам пахніць, бярэзнічак у нагах, у галавах, рабіннічак.

Епрасіння свята (30 мая н. ст.), пасля яе замаразка не павінна быць. Трава кругом высокая на пугурку, людзей на Ефрасеню як панаедзіць — чарната!

Як Тройца пройдзіць, тады Пятра (25 чэрвеня н. ст.). Калі Мясаед вялікі, тады Пятроўка малая, а калі Мясаед малы, тады Пятроўка бальшая.

Сягоння первый дзень посту (посны дзень) Пятроўкі. А ўчора былі за́гавіны. Пятроўка рана стала, цыбуля яшчэ не нарасла. Расада яшчэ не выспела — ківаіцца. Садзіць трэба хоць у апошні

дзень мая, расці будзіць, а ў юні — не так. Даўней Пятроўка бальшая, есці нечага, жыта не скора спеіць — на калатуху жаць.

Іван. Сягоння Купала, заўтра Іван. Зёлкі на Івана свенцяць усякія (6 ліпеня н. ст.). На Купалу вянкі ўюць і на папараць загадваюць. На Купалу суніцы, а на Пятра чарніцы. Купала прыпала, Пятро прыходзіць.

А як тры нядзелі Пятроўкі, тады жыта бурэіць к Пятру (12 ліпеня н. ст.), колас нойдзіцца. А Ілля (2 жніўня н. ст.) — хлеб ва ўсю. Даўней з дуда́мі хадзілі. Пятра галодная, а Ілля ўжо наелася. Прыдзіць Пятрок, атарвець лісток. Прыдзіць Ілля, атарвець два й укініць у рэчку лядня. Ілля ўкінуў гнілля.

Напякуць новага хлеба на Іллю, на Йспас. Іспас Макавей, медавы Іспас, а гэты Іспас хлебны. 2 жніўня (н. ст.) будзіць Ілля, 14-га Макавей мядовы. У каго пчолы — мёд дастаюць, свенцяць у царкве. Загавеюць на Макавея. Хлебнічкі пякуць з макам — рыхлыя такія булкі перад печчу.

Што на Макавея робяць? Пост робяць, пахлёбку з буракоў, жыта ў царкве свенцяць, буракі. Як зажынаюць жменьку, за ікону паторкнуць, а тады на Макавея абатруць рукой і ў царкву, а тады — як сеюць — на пачатак загону жытцо свянцонае, каб расло.

19-га Іспас яблачны. На Іспаса яблычкі свенцяць і жытцо сеяць — свенцяць.

А Узвіжанне 14 верасня па-старому (27 верасня н. ст.). Ян посны, што прыдзіць 11 верасня (н. ст.), збіраюць журавіны.

А тады, 28-га (жніўня н. ст.), Успенне, Прачыстая. У нас Прачыстая, а ў Расіі Успение пресвятой

Богородицы. Вяселлі рабілі даўней. Першая Прачыстая нюхаўка, яны будуць адзін аднаго на ўзгледзіны панімаць. А 21 верасня плюхаўка. Дзеўку на адну абнюхаюць (пасватаюць), на другую абплююць (спачатку нюхаюцца, знаёмяцца).

Пакрой, Божа, зямлю сняжком, ваду — лядком, — кажуць на Пакроў (14 кастрычніка н. ст.).

Да Змітры дзеўкі хітры, а пасля Змітры хоць ср.ку вытры (8 лістапада н. ст.).

На Пятроўку гнаі возяць. Пасля Пятроўкі — Змітраўка, Змітраўскія дзяды, бальшыя Дзяды. Счыталася — Дзяды многа ядуць. У нас год, а ў іх дзень. На Дзяды ўсе ядуць, каб ногі не мерзлі.

«Усе святыя хадзіце й непамянёных вядзіце», — запрашаюць за стол на Дзяды. Яшчэ: «Тата, мама, дзед і баба, хто на гэтай зямлі жываў, і самі йдзіце, й дзетак вядзіце».

Паліцу над вушаком робяць. Не кінулі Дзядам, дык Дзяды усё з паліцы звалілі.

Я сказала: «Рай светлы, прыходзь на Дзяды».

Два зазімкі, а тады зіма.

Багатая Каляда. Куццю салодкую гатуюць, рыбу. Старыя ад рання не ядуць, ходзяць, на неба глядзяць, пакуль зара ўзойдзіць, звёздачкі. Месяц засвеціць, тады можна есці. На багатую куццю кашу, кісель вараць.

Мароз-мароз, хадзі да нас куццю есці, а вы, вераб'і, ляціце на Дзямідавы калапні (каноплі).

Пасля Каляднага вечара дзве нядзелі не робяць — крывыя вечары.

*Запісана ад Акуліны Андрэеўны Барадулінай*
*і Марыі Рыгораўны Трафімавай*

# Валачобная

Ішлі прышлі валачобнікі,
Іграючы, сьпяваючы,
Добрага пана шукаючы.
Добры вечар, пане гаспадару!
Ці сьпіш, ці ляжыш, пане гаспадару?
Калі ты сьпіш, то Бог з табой,
Калі ня сьпіш, то моў са мной,
Адчыні вакно, паглядзі на двор:
На тваім дварэ стаіць шацёр
Навюсенькі, бялюсенькі.
А ў тым шатры залатое крэсла,
На тым крэсле сам Бог сядзіць.
Перад Богам усе сьвятцы
Шахаюцца, рахуюцца,
Каторааму сьвяту напярод пайсьці?
Сьвятыя Саракі напярод пайшлі,
Сьвяты Аляксей сохі чэшэць,
Сьвятое Благавешчэньне заворывае,
Сьвяты Вярбіч вербу пасьвенцае,
Чысты Чэцьвер ячмень засевае,
Сьвятое Вялічко з красным яечкам.
Першы дзень пірагі маюць,
А сярэдні дзень пагуляюць.
Сьвяты Юры, Божы пасол,
Божы пасол, да Бога пайшоў
І ўзяў ён ключы залатые,
Адамкнуў зямлю сырусенькую,
Пусьціў расу цяплюсенькую
На Беларусь і на ўвесь сьвет.
Сьвяты Барыс бабы сеець,

Сьвяты Мікола па межах ходзіць,
Па межах ходзіць, жыто родзіць,
Урасіўся, умачыўся,
Па залаты пояс змачыўся.
Сьвяты Шоснік жыта выплывае,
Сьвятая Сёмка навозы возіць,
Навозы возіць і Бога просіць.
Сьвяты Дзевятнік жыта раўнуе,
Сьвятая Дзесятка жыта красуе,
Сьвяты Іван пчолы садзіць
Пад перэлазам па шасьцёра разам,
Сьвяты Пётра жыта родзіць,
Сьвяты Кузьма сярпы робіць
Залатые, новые і сталёвые;
Сьвяты Паўлюк граблі садзіць,
Сьвяты Дземьян сена грабіць,
Сьвяты Ільля слаўна жнея,
Сьвяты Барыс снапы возіць,
Сьвятая Ганна вазы кладзе,
Сьвяты Спас жыта пасьвенцаець,
Сьвятая Прачыста папары мешаець,
Сьвятое Узьвіжэньне с поля збіраець,
Сьвяты Пакроў зямлю пакрывае,
Зямлю лістом, ваду лядом;
Сьвяты Юрый грудай гвоздзіць,
Сьвяты Мікола снегам мосьціць.
Прышлі Калядкі — гаспадаром парадкі:
Сьвятое Васільле дзяжу мясіла,
Пірагі пекла і рагатые і букатые.
Сьвятое Водохрышчэ ваду пасьвенцаець,
Ваду пасьвенцаець, людзей накрапляець.
Прыйшлі Саракі да другіх Сarакоў.

Дай Божэ гаспадарам здароўе,
Дай Божэ, каб жыто радзіло,
На ніве капамі, ў гумне тарпамі,
На таку ўмалотам, а ў арудзе спорам,
У дзяжы падходам, у печы ростам,
А на стале вялікім сыцьцём.
Гаспадару, дары гасьцей —
Ня баўжэж, барджэй!
Пачынальніку — капу яец,
А памагальнікам па дзесятку,
Для механошы тры грошы.
Музыкіж горкая доля:
Што даюць, бярэць тое.
Гаспадару! Дары па парадку.
А не дарыш — заві ў хатку,
Мы на тое прыступаем,
Пачастуй — усё прыймаем.

*(Занатавана ў блакноце 1963 г.)*

## Звычаі

Дзеўка, як спаць кладзецца, кажаць: «Панядзелак з аўторкам, серада з чацвяргом, пятніца із суботай, а святая нядзелька, а я маладзенька, сасніся мне той, хто будзіць мой».

Калі едзе вяселле, тады выстаўляюць рагатку (закідаюць рагатку) — выкуп за дарогу.

На другі дзень пасля вяселля сваццця мяцець на кут. Тады маладая ўвязваіць у венік рубель, — сваццця мяцець назад.

Калі спавівалі малога, яечкі ўперад падымалі, каб потым зручна было на кані ездзіць.

Калі малы пачынаў пасці конікаў (абапірацца на локцікі), вызначалі ягоны лёс. Клалі каля яго вараны бурак і паперыну. Калі пацягнецца да бурака — будзе аратаем, калі да паперыны — пісарам, чалавекам вучоным. *(Я пацягнуўся, успамінала мама, да бурака.)*

Калі дзеўка ў пару ня выйдзець замуж, яе садзяць на воз і возяць ад двара да двара, пытаючыся: «Каму трэба надабень?»

Парасёнка як прыносюць з базару, труць аб печ, каб тоўсты, як печ, быў; труць аб заслонку, каб сала было, як заслонка; кормюць са скаварады, каб свіння была гладкая, як скаварада; абносюць кругом ножкі стала, каб ад дому свіння не адхадзілася.

## Прыкметы, жыццёвыя назіранні, парады

* * *

Дзе бусел вядзецца, там шчаслівае месца.

Дрэва, у якое ўдарыў пярун, у пабудову не ўжываецца.

Трэба паставіць слоік і глядзець, ці ёсь на ім слёзы, тады капай калодзесь.

Злодзя пройдзець, хата астанецца, а агонь нічога не пакініць.

Еш, дзеўка, селязенку — каса вялікая будзіць.

На сход месяца сны не праўдзяць.

Трэба вылязаць з-за стала ў вадзін бок, а то сваты будуць кружыцца, жаніхі не туды пойдуць.

Як дзеўка мыець бялізну, а дождж ідзець — мужык п'яніца будзіць.

Не сядзі за сталом у шапцы — цешча глухая будзіць.

Калі на адной вуліцы два вяселлі ў адзін дзень, нехта згарыць.

Калі на гарохавінах робяць дзяцей, яны будуць сукрыстыя, з густымі сукрамі.

Дзе дзіцё адно, там заўсягды не ладно.

Рабёнок, не ўдарыўшыся, не вырасціць.

Любі, як душу, і калаці, як ігрушу *(дзіця)*.

Калі люлька адарвецца — і гаспадарка звядзецца.

Колькі, выбегшы да ўсходу сонца, на Саракі ўхопіш трэсак, столькі гнёздаў летам знойдзіш.

Калі пераступіць цераз кагосьці, ён расці не будзе.

Колькі за сталом пасля спажывання пасядзіш, столькі ў раі будзіш.

Ад бобу захочаш ё.у, ад гароху будзеш ср.ць троху, ад рыбы станець х.й дыбы.

Як затрапечацца ліст на асіне, пачуіць конь сілу.

Кармі мукой, дык і пойдзіць рукой, будзіш карміць га.ном — заб'еш гальнём.

Увосінь давай карові, што есь, а вясной, што ёсь.

Чалавечую галаву тапі, а конскую ратуй.

Не цягні чалавечую галаву з вады, бо яна цябе павядзець, а чалавек утопіць.

На балоці па вадзе каза хадзіць ня можаць, тады мітулі ў печанях.

Каза з вімем нядоеным не павінна хадзіць, каб не сурочылі.

Кот столькі рыбы з'есь, колькі сам заважыць.

Калі пацуку падсмаліць яйцы, дык мышы будуць уцякаць.

Калі кату вусы падпаліць, мышы будуць чуць яго.

Калі ікаўка б'ець — нехта пра цябе гаворыць.

У хітрага чалавека барада не расцець.

Чудно бабская судно: уніз дзюркай, а не цячэць.

Хто капейкі не беражэць, той сам яе ня варт.

Хочаш мець злосніка — пазыч грошы.

Што шкадуіш на пекара, аддасі на аптэкара.

Калі пітух запяець — будзіць навіна.

Сарока прыляцела, нейкую звесць (вестку, навіну) прынясла.

Сініца стукаіць у вакно, нейкую звесць даець.

Як мух на вокнах чорных шмат — на бяду.

Як мышэй многа — на бяду.

Свістуноў на мароз! *(Бо грошы не будуць весціся.)*

Чужыя жонкі — безгалоўя, сон даўгі — на нездароўя.

Калі перад рыбаком плясне хвастом шчупак, то ён не пражывець болей трох гадоў.

За тры дні перад смерцю ўсе папраўляюцца.

Памрэць матка — аслепніць бацька.

Калі ў коміне дужа выець, нехта сярдзіты памёр.

На хаўтурах поліўка — апошняя страва. Не спяшайцеся наліваць поліўку, а то з-за столу ўстануць.

* * *

Маладзік як зменіцца, пагода зменіцца, маладзік пойдзіць на другую палавіну.

На пагоду вуголля ў печы разгараецца.

Што зімой ножкай коп, тое летам ручкай хоп.

Май — каню сена дай, а сам на печ залязай.

Узнімай глебу макам, а барануй бура́кам.

Скародзь як мак, а барануй абы-як.

Сей у гразь, будзіш князь.

Сей жыта, калі чарвяк ток точыць.

Сей ячмень, як загудзіць сляпень.

Семя буракоў — у трапцы — паклы́чацца (клыкі пусціць), тады й садзяць.

Бульбу садзяць, як дулі завяжуцца.

На маладзіку пасеіўшы бульбу, бульба будзіць добрая, алі дробная.

Калі на елцы многа шышак, агуркоў многа будзіць.

Галуб крычыць на холад, як толькі агуркі садзяць.

Язмін цвіцець, дык суніцы ёсь.

Не сей пшаніцу, калі дзеўкі йдуць у суніцы.

Ягадка красна — не сей напрасна.

Позна біць касу, калі раса апала.

Ягадка — мана, арэх — сатана, грыб — ежа.

У нядбаліцы колас ад коласа за вярсту, а ў руплівага сноп на снапу.

Певень вечарам нанач пяець на цёпла, а як халодна, дык з курасадні не злезіць.

Як не абмыўся маладзік, дажджу не чакай да поўні.

Неба сінеіцца перад дажджом.

Кавалькі на дождж трашчаць.

Авечка шпарка бяжыць на дождж.

Даўней мама казала: мак трэба сыпаць, калі йдзець (малы дождж), тады дождж будзіць. Я ўсыпала, і праз дзень пайшоў настаяшчы.

Як цёплы дождж, то кроплі валяцца на зямлю, а як халодны — вісяць.

Калі ў возіра ўкінуць грэбень і шчотку са свіной шчэці, возіра зарасцець густой травой.

Не тады дождж ідзець, калі просяць, а тады, калі жнуць і косяць.

Цыганскі дух вее *(надыходзіць восень)*.

Журавы паляцелі — палудзень паняслі *(пазной восенню на пасце ўжо не палуднавалі)*.

Увосень на дні пагод восем.

Увосень работ восем.

Лыжка вады — бочка гразі *(увосень)*, бочка вады — лыжка гразі *(увесну)*.

Рана апенкі — трэба жыта рана сеяць, позна — дрэнна.

З'явіліся апенкі — праз месяц мароз.

Сініцы на холад нажы точаць.

У бярозы корань крэпкі перад марозам.

Сухі вецярок — на мароз.

Чалавек відаць зімой без кажушка, летам — без кароўкі.

Хто вядзьмак, у тога крапіва на дварэ расцець.

Калі калдун не заўець, дык папасець казу.

Каза, калі каго спалохаецца, адскочыць уцячы, але абавязкова вернецца назад, каб паглядзець, хто яе напалохаў. Ваўкі так коз і бяруць.

На першую Каляду зоры — грыбоў многа будзіць.

## Стравы

*Боб пражаны.* Бобу напрагуць перад печкай ці гароху белага напрагуць, дзеці наядуцца — і ўвесь сняданак.

*Бульба ў панчошках* — бульба ў шалупках, нячышчаная, звараная цалкамі. На вячэру бульба ў панчошках, кожны сам разуваіць.

*Вантрабянка* — кілбаса. Кішка, напханая (накрапаная) вантробамі *(ліверная)*. Вантрабянку ў капусці зварылі, наеліся, аж вочы пакруглелі.

*Гарбузянка* — варыва з гарбуза. Гарбузянка — яда нетрывалая, так, балмач смачная.

*Дзяронікі, дзербуны, драчкі, суконнікі* (посныя), *таптуны* — бліны ці сачні з дзяронай на тарцы бульбы. Хоць дзяронікам голад адгоніш. І дзярбун сала любіць. Бульба здаровая, як на драчкі. На таптуны трэба бульба й жменя мукі.

*Ілоўка, ілянка* — патраўка з крухмалу, забеленая малаком. Забяліла ілоўку, еш — не хачу. Ілянка — ежа да парога.

*Калатуха* — варыва з мукі. Еш калатуху, пакуль гарачая.

*Самагонка.* Калі самагонка плачаць *(на сценках пляшкі кроплі)*, значыць, дрэнная.

*Камы́*. Гарох уперад зварыцца, тады бульбу кладуць, запраўляюць салам, алеем, адцэджваюць. Боб намочыш, аблупіш яго, як намокніць, і бульбу послі пакласці й зварыць. Харашы камы ў пост.

*Квашаніна* — сцюдзень, халадзец. Еш квашаніну, пакуль не раз'ехалася.

*Кіндзюк* — трыбух, начынены мясам, салам, вантробамі. Кіндзюк павесілі сівярыцца на гарэ *(гарышчы)*, летам як знойдзім.

*Лянуха* — варыва са свежай капусты, часта бялёнае. Лянуха — ня свята для бруха.

*Мурцоўка.* У міску крышыцца цыбуля, хлеб, соль і ўсё заліваецца вадой. Па мурцоўцы не памарцуеш, а свайго падрабяззя не ўчуеш.

*Перамень* — клёцкі з мясам *(блізкае да рускіх пяльменяў)*. А на Дзяды ў нас перамень.

*Перапечка* — пшонная пульхная булачка. Дзеўка, як перапечка, так і цягніць за азадачак ушчыкнуць.

*Печанёўка* — кілбаса, у асноўным з пячонкі й лёгкага. Печаннё, леганнё перакруціш, і печанёўка гатова.

*Пражонка.* У чыгунку пражэцца (тушыцца) сала, кілбаса, скабінка *(рабрына)*. У яе мачаюць бліны ці закручваюць у блін. Калядны стол без пражонкі, як мужык бяз жонкі.

*Путра.* Аржаную муку размяшаць, да вечара засалодзіцца, зробіцца салодкай, а пасля ў дзежку, дзе хлеб, трэба ж, каб яна ўкісла *(латышскае putra.)*

*Сала* любіць, каб у цеснаце й у солі, каб адно каля аднаго ляжала. Калі німа марозу, сала слізніць.

*Сарокі, ці клёцкі з душáмі.* Бульбяныя клёцкі, унутры «душа» — сала ці сечанае мяса.

*Сачэнь* — печыва з бульбы й мукі са скваркамі. Як з'ясі сачэнь, будзеш сыт цэльны дзень.

*Хлебнічак* — печыва. Хлебнічкі пякуць з макам — рыхлыя такія булкі перад печчу.

*Хрушчы* — праснакі, выпечаныя да хрусту, сухія. Аржаных хрушчоў напякуць, уістопку пакладуць.

*Цюпка* — страва з хлеба, цыбулі, залітых алеем. Хлеба пацюпіць *(пакрышыць)*, цюпку сабе зробіць і есь.

*Шкляныя клёцкі* — клёцкі без «душы» (мяса), забеленыя малаком. Сягоння шкляныя клёцкі — скароміна скончылася.

*Яешня ў калена* — шмат яек, сала й кілбас. Дарагому гасцю яешня ў калена. Яшчэ — яешня на дванаццаць вок.

# Лекаванне

*Заклён на хваробу:* «Ваўкам на збежышча, сарокам на злецішча».

*Загавор ад бародаўкі (дзічкі).* Каб дзічка знікла, трэба злавіць коніка (казялка), пасадзіць яго на бародаўку й прыгаворваць: «Кызі, кызі, дай мазі, а я табе дзічку».

*Гранцавей* — карбункул, скула. Рашчыну к скуллю прывязваюць, увесь бруд папрэць. Ці капусты нанач пакладзі — атойдзіць. Вось ускочыць табе гранцавей на азаду, тады паскачаш.

*Замова ад грыжсы (грызіцы, грызі, кілы).* Узяць палку із суком і над суком гаварыць: «Гэтаму суку вецця не махаць, карэння не пускаць і лісцю не шырыцца. А ты, грыжа-грызіца, зялёная маладзіца, ідзі на імхі, на балоты, на чыстыя полі, там адзінаццаць грыжаў гуляюць, цябе дванаццатую дажыдаюць!» І тады, як рабёнку загавараваюць, над рабёнкам зубамі пасклыгаюць-пасклыгаюць: «А не грызь грызець, а я грызу».

*Залатнік* — гэта, калі хто падарвецца. Мяне тры бабы вучылі загаварваць залатнік: «На моры дванаццаць царквей, дванаццаць свяшчэннікаў, дванаццаць абедзен. Абедня састаіцца, залатымі путамі падперазана. А ты, залатнік, стань на месце ў залатым крэслі, пад бакі не падпірай, у дыні не ўпірай. Дай, Божа, помач ад маей просьбы». Дыні — пахі, пахвіны, яны дыні завуцца.

Ці яшчэ: «Ах, Божа мой, памашнічак мой, памажы ж ты мне. Ішоў Хрыстос цераз рэчку й такжа Іардан, перайшоўшы рэчку, сеў у крэслічку. Залатнік, стань на месцічку!»

А трэцяя вучыла, тая караценькая: «Залатнік залаты, залатнік малады, па касцях не хадзі, па жываце не хадзі, стань на месці ў залатым крэслі!» А пад канец: «Святы Дух, святая Тройца, святая памашніца». Кажная баба свой загавор маіць.

*Круг* — лішай. Калі ў малога кругі, свежым хлебам мажуць і сабакам ці катам аддаюць. Яшчэ круг так выводзяць: саскрабаюць з круга перхату нажом і кладуць на сук у стале ці падваконні, после беруць пот з шыбіны й страсаюць на сук, крыжуючы сук гэты некалькі разоў.

*Пякотка (пячайка, печая)*. Замова: «Ішла пякотка ля мора, сустрэла Рыгора. Рыгор, вярніся, пякотка, мініся!»

*Рожа* — хвароба, калі гарыць твар. Рожа напаўзаіць невядома калі й рана й увечар. Рожу загаваравають: «Ішоў Хрыстос цераз тры полі, цераз тры дарогі й вёў сямнаццаць рожаў. Першую паўзучую, вадзяную, камяную, пудавую, касцявую, розавую, ранішнюю, паўднёвую, чорную, урочную й уроч. Ідзі, уся худаба, проч. Ідзіце, рожы, на ніцыя лозы. Амін». І фу — падзьмеш.

*Упуд* — хвароба ад сполаху, калі хто ўпудзіцца. Замова ад упуду: «Вымяраю ў Івана ўпуд з касцей, з лакцей, з усіх сустаў, каб на меру стаў. Найсвеншая Матка наўпярод, Багародзіца пасярод, Прачыстая пазаду, станьце, усе святыя, на помач, на раду, на добрая здароўя Івана. Святая Тройца, памашніца, памагаіш усім, памажы й Івану». І тры разы гавораць Тройцу.

*Уроцы* — сурок, хвароба ад благога вока. Замовы: «Жаноцкія ўроцы, мужчынскія ўроцы, дзявоцкія ўроцы, хлапецкія ўроцы. Жаноцкія ўроцы пад ча-

пец, мужчынскія пад шапку, дзявоцкія пад касу, хлапецкія на прагуляння. Вароты праз вароты, дзверы праз дзверы, чорны волас, і рыжы волас, і белы волас. Тры ўрокі ўракаіць, адзін урок выракаіць сам Бог, Дух Святы». Тры разы сказаць, ня дыхаўшы.

Ад застуды добра дапамагаюць тапалёвыя пупышкі (таплёвачкі), настоеныя на гарэлцы.

Бабуля казала, калі шыя баліць, рушнікам абвязаць. Рушнік убіраіць гразь з рук, з твару й больку тваю ўбярэць.

Ад семічак бель (эмаль) сціраецца.

Калі сцісніць горла, у горле завалкі, ці абкладка *(ангіна)*. Яму ўсё горла абкладка задушыла.

Зубішча (калі баліць) шаптуха нацiскаiць.

Памяло запаліць ад сурокаў.

Жывот аб жывот пацерці — і ня будзець балець да самай смерці.

Галава баліць — ср.цы лягчэй будзіць.

І хвор Кузьма, і нядуж Кузьма, прывяжыце Кузьме галаву к п....е.

Галаву адкруціць і ў ср.ку заторкнуць *(калі баліць)*.

На сэрца га.на з перцам *(каб боль зняло)*.

## Прыгаворкі й зычэнні

* * *

Госпад табе насустрач!

Ну як дуж-крэпак? *(Пры сустрэчы.)*

Памагай Бог! — Казаў Бог, каб і ты памог. *(Калі працуюць, а хадыка жадае спору.)*

Лёг не еўшы, устаў не спаўшы.

Устаў, яшчэ чорт у кулачыкі не біў *(рана )*.

Зрання першае ср.ння.

Надвор'е — не пі, не еш, ні з хаты не выходзь.

Рана — росна, паўднём — млосна, вечарам — камары кусаюць.

Зайцы поле ўгнойваюць *(у нядбаліцы)*.

Леташні год сёлетні з'еў.

Зуб за зуб чапацца *(пра нядбаліцу)*.

У чорта спіна сцёрта, а ў нашага брата не пачата.

Знойдуцца (хопіць) на рукі мукі.

Цягніце жылы, пакуль жывы.

Каб жыта расло й х.й стаяў!

Ядро з вядро, колас з бервяно *(жадаючы добрага ўраджаю)*.

Гоп тата на маму! *(Вушацкі прыгавар перад пачаткам нейкае справы.)*

Ні свет, ні зара ўстаў, ср.ку задзіра.

Днём лета не позна.

Каса любіць парася, а як хлеб ды ваду, ляжы, каса, у халаду *(касца трэба добра карміць)*.

Сена такое добрае, што, абасц.ўшы, і поп будзе есці.

Жні, дачушка, авясец, тады Бог сватоў прынясець.

Як жыта жнуць, тады баб людзьмі завуць.

Раскашуйся, снапе, пакуль у капе!

Маленькі дажджышка — калхознікам перадышка.

Насс.ру багачу — свой сноп малачу! *(Гукае селянін, пачынаючы малаціць.)*

Малацілі ў тры цапы, змалацілі паўкапы.

Жыву, як жыд на млыне: жыд круціцца, а млын стаіць.

Паднёс чорт работу.

Работкі да суботкі.

Сып, сабе намалоціш.

Засталося саўсім мала — пачаць і кончыць.

Калі, бывала, маладзіца малола ўручную, у тахт спеўнічала:

Як у Вільні была,
Чай і кофію піла.
Як у Вільні, так і тут,
Жорны ўцвеліш —
Змелеш пуд.

Цыганскі пот грэець.

Табе лягчэй, а мне смачней *(ірвучы яблыкі)*.

Куд-кудак, яечка з кулак! *(Заахвочваюць курку, каб неслася.)*

Прыйшлі канцы к гародам *(завяршэнне клопатаў)*.

Застала зіма ў летняй адзежы.

У зімы рот вялікі.

Зімой хоць худоя, ды ўдвоя.

Там і клець, і павець, і ўся балесь.

Усё як у людзей.

* * *

Чорт бы на цябе гаварыў, каб ты варыў заўсягды, як на Дзяды *(да катла)*.

Хто доўга спіць, той доўг наспіць.

Прыляцелі весці, што хочацца есці.

Яшчэ сабака воч не прасц.ў, а ён ужо есці просіць.

Есці не ср.ць, можна пачакаць.

Не рэж, мамка, яйка, вары цэлае, хай усе ведаюць, што й мы багатыя.

З печы, з полу сабірайцеся к столу *(запросіны да стала)*.

Досіць зубы шчэрыць, будзем вячэраць.

Багаславёна і на стол пастаўлёна.

Хлеб на стале — рукі свае.

Хлеб спорны, калі з прываркам.

Хлебе мой, хлебе, не быць табе ў небе, шкада сваей працы — быць табе ў ср.цы.

Едзіва — адно рэдзіва, каб хоць троху густыша, засмяялася б душа.

Крупіна за крупіной ганяецца з дубіной.

Будуць бліны каля Дзвіны *(кплівая абяцанка)*.

Сала падтала (прапала), а кілбасе ліха стала.

Хлібай, не дбай, хоць жыдка, ды многа.

Не будзеш есці — не будзеш везці.

Смакам, смакам, смакаўно, а ўсё ж лепі за га.но.

Пасната не шкодзіць жывата.

Толькі шалёнаму сабаку на хвост выліць *(пра нясмачную ежу)*.

Калі лапаць укінуць, і то смачней.

Прысмакі, што ў сабакі каля ср.кі.

Дзе рот, там і смурод.

Не слухай смаку — пхай, як у ср.ку.

Еш горка, пі сольна, памрэш — не згніеш.

Шлёп га.но ў кашу, у панскую, ды не ў нашу!

Сабака не з'есць, пакуль не пакачаець *(калі валіцца з рук ежа)*.

Хто відэльца́мі, а я сваімі пальцамі.

Еш, пакуль не запяеш.

Еш, пакуль рот свеж, а як завянець, не заглянець (а як пamрэш, і калом не ўпрэш).

Ешце, хоць кішкі на плечы.

Пуп наеўся круп.

Пуп — усяму чалавеку дзяржава.

Спіткі, з'едкі — усё даедкі.

Лыжка гнецца, нос смяецца, душа радаваецца.

Ці свінні елі, ці шляхта папасавалася (балявала).

Жыві ды не хачу *(добра)*.

Хата рагата, клопату ў яе багата.

Шыю, мыю, печ палю.

Бяла не бяла, абы ваду відзяла *(калі мыюць бялізну)*.

Сярдалы-пярдалы *(калі ўсё разам наваліцца)*.

Твой «січас», як жыдоўскі «зараз».

Толькі па смерць пасылаць.

Куды па што, куды па нішто.

Куды верабей ср.ць не лётаў *(далёка)*.

І духу-паху не чуваць.

Торкаў, торкаў то ў буракі, то ў моркву.

Спешка трэба там, дзе блох ганяюць.

Стругай-стругай, сынок, бацька прыдзець — сякерай паправіць.

Такая помач горш немачы.

Пабег раўчынай за руёй ваўчынай.

Ні следу, ні знаку — пабег як у ср.ку.

Куды падзеўся, як у ср.ку ўдзеўся? *(Прыгаворваюць, калі шукаюць прапажу ў доме.)*

Агонь яго ведаець.

Шыла-шыла й га.ном завяршыла *(змарнавала працу)*.

Уся праца пайшла к ср.цы.

Тое-сёе ды нічога.

Гары яно гарам!

Як е, так і вуе.

Як ёсць, так і ёсць.

З кута ў кут — і вечар тут.

Заўхом руда, у чарапочку вада *(прыгаворваюць, калі кот мыецца)*.

На печы добрыя рэчы.

Сядзі, Ярома, дома.

* * *

У хаце Бог жывець! *(Заходзячы з марозу ў цёплую хату.)*

Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!

За гарой табе Насярэйка кланяўся.

Авёс-доўгі нос — пайшоў, прынёс *(з усмешкай таму, хто зайшоў у хату)*.

Багата! *(Кажуць на ўбоінах, заходзячы ў хату.)*

Кілбас цэлы баз *(багата)*.

Спара (спарына) у дзяжу й сын на вясну! *(Жадаюць, калі гаспадыня месіць цеста на хлеб.)*

Бліны з падскокам! *(Калі гаспадыня пячэ бліны.)*

Бліны пайшлі каля Дзвіны *(калі няма бліноў)*.

Прыемнага апетыту! — Дзякуй, і без таго ляціць тут.

Не да цябе п'юць, не да цябе «здароў» кажуць.

Масла пагасла, малако паехала далеко.

Каб шырэй ступаў, дык на чарку б папаў.

Усім кагалам і бацька з жыгалам.

Сядзь, хай не вісяць, атарвуцца — разаб'юцца *(калі запрашаюць сесці)*.

Ешце, ешце… Ну й жарэце ж вы!

Як п'юць-ядуць, тады ўсе добрыя.

Як увойдуць (увалюцца) злыдні на тры дні, дык і за сем гадоў не выганіш.

Ніколі не плюне ў чарку *(любіць выпіць)*.

Піў-піў, як напіўся, дык ажарабіўся.

Не затое мы збяднелі, што ў нас людзі пілі й елі, а так Бог даў.

Насыціў Бог, дык — за парог.

Дзякуй за абед, што пад'еў дармаед *(выходзячы з-за стала)*.

Хай у вас будзіць не спіта, не з'ета!

Каб грошы стогам і х.й рогам!

Каб петушкі не звадзіліся й на курачак садзілі.

Бяжыць руя, пабягу й я.

Следам за дзедам…

* * *

Вяселле без віна, як студня без дна.

Свату ці першая чарка, ці першая палка.

Няхай жыве красуецца, пакуль на х.й не ўссунецца.

Сем пол наперадзе, чаму мяне не бераце? — і трыштыкі туды ж такі!

Як жэняцца — сват садзіцца на каня, а чорт на качаргу.

Як забачыш, дык заплачаш.

Ні мычыць, ні целіцца.

Хоць за вала, абы дома не была.

Хоць за казла, ды запаўзла.

Дару жменю солі, каб было дзяцей падполле! *(На вяселлі.)*

Дару кучу медзі, каб былі дзеці мядзведзі.

Дару бульбы падполле, каб было дзеці застолле.

Каб ламіўся стол ад ежы, а ложак ад люботы.

Каціласся калясо з клеці, любіцеся харашо, дзеці *(кажуць маладым перад шлюбнай ноччу)*.

Хто не йдзець, той галіцца, а хто зойдзець, той каецца *(пра замужжа)*.

І гэны выстар да дзевак быстар.

Прасіў-прасіў — не выпрасіў, бадай табе чорт выкусіў!

Дзесяціна саду й мельніца ззаду *( пра заможніцу)*.

Навошта мне золата, калі ў мяне х.й, як долата.

Як пан над панам, х.й над х..мі.

З тых варот, адкуль і ўвесь народ.

Добра рыба з вады, мяса з-пад нажа, а маладзіца (жонка) — з лазні.

Я сваю Марынку хоць пасярод рынку.

Усё ж не з-за вугла, а з-за стала *(узяць жонку)*.

Якая жонка не жонка, а ўсё ж лепей за парасёнка: хату адчыніць і зачыніць.

Добрая жонка цяплей за валёнкі.

З'еш акрайчык, каб быў сын Мікалайчык.

Рукі ўгору, ср.ку ўніз, каб радзіўся камуніст.

Радзіць, як пер.нуць! *(Жадаюць цяжарнай.)*

Як заяц на парог, дык цешча за яйцы.

Хто цешчу не б'ець, той на тым свеце зайцаў пасецьь.

Вялік расці дзевак басці! *(Прыгаворваюць, падкідаючы малога ўгору.)*

Ішлі козы рагатыя, багатыя. Казалі: забадзём-забадзём-забадзём! *(Калі казычуць малога.)*

Варона-старажона, ці была ты імасць? — Была, была! *(Забаўляючы малога.)*

Ужо за бараной пайшоў, за плугам *(гэтак вызначаўся рост хлапчука)*.

Саламяны мужык і залатыя дзеткі, а не прамяняеш.

Сыны й дочкі на свае вочкі.

Адзін ды ладзін.

Спакойнай ночы, бачыць шпаковы вочы ды глядзець на палок, каб цябе чорт не павалок *(звычайна кажуць малому)*.

Дабранач — усе блохі нанач.

Прыспары, Божа, ночы на мае сіні вочы.

Рыгор, цягні багор — тачыла плывець! *(Будзяць малога Рыгорку.)*

Як спалася, ці суха ўсталася? *(Пытаюцца ў малога ўранні.)*

Глядзі, каб цябе сарокі не ўкралі, падумаюць, што сыр *(калі малы старанна мыецца)*.

Еш квашаніну, а то кундаль *(сабака)* з'есць *(прыгаворваюць, каб малы еў)*.

Нос на семярых рос, ды аднаму дастаўся.

Такому носу не будзе зносу.

Цярпі, Грышка, спасён будзеш, а не выцерпіш, чартом будзеш.

Нічому так не рад, як ідуць дзеткі ў лад.

Муж аб'еўся йгруш.

Сякі-такі мужчына, за ім дровы й лучына.

Ці пранік сплыў, ці мужык памёр *(аднолькава)*.

Я ў свайго свёкарка ўся парадніца.

Я маладзенька прамышлёна *(дапытлівая, спрытная)*.

* * *

Госць у хату — Бог у хату!

Хто з прыносам, а хто з першым носам *(прыходзячы ў госці ці на хрэсьбіны)*.

Сабраліся госці з усёй валосці.

Як не дакаціцца чалавеку, калі можа дакаціцца слава.

Пры гармоні, пры часах, з калатухай на вусах *(пабачыўшы франта)*.

З носу па грошу, а ў каго большы — з таго два.

Насі й Бога прасі! *(Калі даюць абнову.)*

Каб было багата й касмата *(калі дораць нешта, даюць праз крысо кажуха)*.

Хай носіцца, дзярэцца, на новая бярэцца *(калі даюць абнову)*.

Новае сітца пакуль навісіцца, а як навісіцца, дык і пад лаўкай наляжыцца.

Ляцела варона, села на гвоздзь, як гаспадар, так і госць *(у адказ на запросіны)*.

Наспарыў Божа *(калі стол багаты)*.

Дай Божа сесці на шчаслівым месце.

Будзем жа мы гарэлачку піці, мядочкам закусваць *(запрашаючы за стол)*.

Дай Бог гасця, а каля гасця й я.

Мядок саладок, віно зеляно *(запрашаючы частавацца)*.

І святы б паскакаў, каб гарэлкі паспытаў.

Вып'ем за тых, хто ў лазні мерзніць.

Гаспадынька гладка, яна ж наша матка, — частуй гасцей, каб бывалі часцей!

Сахаром у душу! Багаславі Бог! *(Зычаць таму, хто пачынае чарку.)*

Мёдам на душу, патакай (*прыгаворваюць пад руку таму, хто п'е)*.

Пі, пакуль жывеш, а як памрэш, дык і калом не ўвапрэш.

Смеху варта такая кварта: поўна віна, ды няма дна.

Лю́быя клёцкі — яны такія: ты за іх бярыся, а яны за цябе.

Гавары, кум, ды абедай.

Ешце, госці, капусту, капуста тлуста: сем п..д варылася, восьмая ўвалілася, а дзявятая самаволь ходзіць.

Душа ад смаку скачаць у ср.ку.

На ласы кусочак знойдзецца куточак.

Ядуць госці, ядуць, як мяцёлачкай мятуць: на стале ні крошачкі, пад сталом ні костачкі.

Піце, жылы, пакуль жывы, пойдзеце да гробу, вып'еце хваробу.

Калі сяродка поўная, тады й канцы йграюць.

Ірвіце, чэрці, на чвэрці!

Дзякуй за тую, сыграй другую!

Пашый мне такую камізэльку, як у нашай Петушыхі — з рукавамі *(жарт)*.

У вас папелі, а ў нас паелі.

Шаптуноў на мароз!

Не дораг абед, а дораг прывет.

Не дорага брага, а дорага ўвага.

Увага няблага.

Елі панамі — адышлі свіннямі.

Каб госці не селі косцю.

Кацілася чарка з столу далоў, едзьце вы, госці, з Богам дамоў!

Длагадару гаспадару, а хазяйцы — х.й ды яйцы *(адыходзячы з гасцей)*.

Грашмі на тым свеце дагодзіш.

І сыт, і п'ян, і нос у табацы.

Кум каралю, брат міністру.

Дзякуй сталу й скамейцы й усей сямейцы!

Хлеб — годам, грошы пераводам, а х.й у векаўшчызну!

Нас тут не любяць, не галубяць, дома ждуць.

Ад'язджаю, каму вінават, усім прабачаю.

Мы паедзем, мы пайдзём, надаелі мы людзём.

Дзякуй таму, хто хлебам корміць, а таму ўдвая, хто хлеб-соль помніць.

Учора рыба была, сягоння — галоўкі. Учора госці былі, сягоння — дамоўкі *(выходзячы з гасцей)*.

Заходзьце — не абыходзьце.

Добра вам жыць!

Шчасліванькае табе ўсё ўперад!

Ну, гадуйся!

Пачуемся! *(На развітанне.)*

* * *

Навасць прыйшла ў воласць.

Кепска каля Віцебска, а каля Воршы яшчэ горшэ.

Пры цары Гароху, калі людзей было троху.

І рыба ў рэчках, і жыды ў мястэчках *(успамінаючы былое, калі «ўсё было»)*.

Не хочаш расказваць — нясі ў кішані.

Калі Ваша ласка, пакажыце мне дарогу.

Дом не мядзведзь — можна заўтра паглядзець.

Дарага не прасі, скарэй прадасі.

Просім капеек на восем, а як пад'ясі — дзесяць дасі.

Лепей даць, чым прасіць *(парада цыганкі)*.

Калі просяць, тады жнуць і косяць.

На другога (некаму) толькі пірог купляюць: не ў лад, дык сам з'еў.

Адзін х.й начаваў, а другі прасіўся *(нічога у чалавека няма)*.

У нас і ў рэшаце водзіцца (трымаецца) квас.

Як была ў мяне кабылка мышастая, па вярсце ў час шастала *(кажуць выхваляку)*.

У мяне хоць куніца, ды ў рот, а ў цябе сініца, ды ў год.

Баран бараном, а рогі дарма *(на таргу)*.

Моца ёсць, ды хэнці (ахвоты) мала.

Цалое, малое, большае папалам.

Ні купцы, ні шчупцы.

Фіц выйграў, фіц прайграў *(усё роўна пайду ў заклад)*.

Няўрокам — другім бокам *(цвеляцца, калі хто валіцца)*.

Раз балець галаве *(рашучасць)*.

Няўлад мая сучка — за хвост ды на плечы.

Так не так, а ператакаваць не будзем.

Як пойдзець п….е на пройгрыш, дык і старца лябуць.

Разуй ногі, абуй нос.

Доўг не вяроўка, не парвецца.

Хто яго абманець, той на тачыле мора пераплывець.

Усе бабры дабры *(для сябе)*.

Я не я, а панская свіння.

І сам не знаець, хто яго абаср.ў.

Ці так Сцяпан прапаў, ці гэтак Сцяпан прапаў.

Ці пнём па саве, ці савой аб пень.

У ср.цы бабе грош *(нічога не будзе)*.

Зарабіў курам на соль.

Пацалуй сабаку ў ср.ку *(спазніўся.)*

Забі мяне лапцем *(калі не так)*.
На душы — хоць га.но сушы.
Мора яшчэ не на ключы — можам тапіцца.

* * *

Ты, я бачу, не з простых, толькі ў гэтым годзе запушчаны.
Свіння жванская, а пыха панская.
Не хухры-мухры, а рух-рух.
Каб я быў дзеўкай, я б табе даў.
Пан — га.ном напхан.
Папаў дзярмо на зубы, дык і цвякае.
Знаеш ты курыную сісю́, і тую не ўсю.
У ср.цы ты быў і га.но ты бачыў.
Каб ты так з носам быў *(як гэта праўда)*.
Заткала закудактала, памяло яйцо знясло.
Заяц не трэплецца.
Ні калі было, ні калі будзець.
У яго на вярбе грушы растуць.
Як устанець, дык і неба дастанець.
І лгаць трэба ўмеючы.
Калі ты не малайчына, дык і свіння не прыгажуня.
На людзях струніўся, а дома разматруніўся.
І тыя хвалілі, што цераз шлеі валілі *(коні)*.
І качачка казала: ты-ты-ты.
Так і скажы, што ср.ць хочаш.
Хто першы пачаў, той у ср.цы тарчаў.
Хай на тваей срачцы скулка сядзіць! *(Хай будзе па-твойму.)*
Свінню не перабз…ш, цябе не пераспорыш.
У надуцькі (гневаша) губы тоўсты, а ср.ка тонка.
Чмут-беламут, у чортавы лапці абут.
Трывога: сляпы забіў крывога!

Я цябе баюся, як ср.ць саджуся.
Дужа ты яму сагразіш.
Трымайся руху ў кустах.
Найшла каса на камень.
Ідзі ты к Богу за пісара!
Біся, сварыся, а на дабрыдзень слова кінь.

* * *

Стварыў Бог і каецца.
Зялён, што рута, і кісел, што атрута.
Ён табе не шыш-варона й не кукуй-заяц.
Хітры дурань.
Дурны як трэба.
Дуросці поўны косці.
Што ўбіў, тое й уехаў.
Ні табе дзякуй, ні табе нас.ру.
Ні ў зуб нагой, ні ў вуха пальцам.
У яго з роту сабакі скачуць.
У яго ў роце мухі любуцца.
Яму гавары, а ён брык дагары.
Яму пра абразы́, а ён пра гарбузы.
На яго тут кожны венік брэшаць.
Языча-языча, сабе добра не пазыча.
Хай бы ўжо ты пнём радзіўся, хоць бы свіння зад пачасала.
Не будзе з яго людзей.
Толькі ймя займаець.
Пакараў Бог і караўкай накрыў.
Дзеўчына, як карчма, хто захоча, увойдзе.
У яе малання з-пад хваста свішчыць.
У яе языка не трэба пытацца.
У чым (што) у пасцелі, у тым (тое) і ў касцеле.
Дзе павернецца, там і ўпер.нецца.

Ні ў пір, ні ў вір, ні ў добрыя людзі *(нельга ісці з некім)*.

На яе й сабака нагу не задзярэць.

Крычала- крычала: «Падай патарчала!»

Яе толькі вераб'і не люблі.

На бітай дарозе трава не расцець *(пра жанчыну-распусніцу, якая не можа нарадзіць)*.

Сябры — адну кабылку люблі.

Нас ні вада не размыець, ні свіння не разрыець.

* * *

Будзь здароў і не кашляй!

Соль табе ў вочы, а галавешка ў зубы *(кажуць, каб адагнаць уроцы)*.

Яшчэ не стары — першую галаву на карку носіць.

Няма паганей рук і чысцей вады.

Лева — слёз залева *(кажуць, калі свярбіць вока)*.

Кашаль тугі, вылезець другі.

Стаптаўся знізу паляшук, а зверху вошы з'елі.

Будзь дужы, як вяроўка, складзеная ўчатыры.

Спас Бог ад грому, ад дажджу, ад паганых рук.

Якая вада ні гразная — чысцей за нас, яна нас абмыець, а мы яе не.

Кароўка — мамка, а сала — ямка.

Старасць — не радасць, горб — не карысць.

Пакуль вочы свецяць і глядзяць.

Прывязуць здаро'я з жаб'і прыгоршчыкі.

Памагло не памагло, а ад сэрца адлягло (за сэрца ўзяло).

Дзень пражыў — бліжэй да смерці.

Трэба жыць і мучыцца, пакуль смерць налучыцца.

Скрыпучае дрэва доўга скрыпіць.

Працягні, Бог, веку з зайцаў хвост.

На тым свеце пабілі ўсе ліхтары, шукаўшы *(чакаюць на тым свеце)*.

Ямкі тыя ёсць, дзе вочы былі *(старасць)*.

Не налечышся, а скалечышся.

Свадзьба слаўна песнямі, хаўтуры — вытніцамі.

Сягоння тут, а заўтра ў другі кут.

Смерць за ўсіх здаравейшая.

Як бы ні мучыўся, абы добра памёр.

Смерць і радзіны не чакаюць доўга гадзіны.

Не па старасці, а па спеласці *(паміраюць)*.

Зямлі скварка, а людзям чарка *(калі хто памірае)*.

Хай са святымі адпачываюць і нас дажыдаюць *(адыходзячы з магільніка)*.

Пуцём-дарожкай, пуцём-дарожкай *(услед адлятаючым жураўвам)*.

## Пытанні й воклічы

* * *

А дзе ж тое дзелася, што ў штанах вярцелася?

Ад чаго яму стала, ад круп ці ад сала?

А хто цябе нёс, калі знаў, што дзюравы мост?

Дзе здабыць тога зелля, што робіць вяселле?

Калі ж будзе тое лялё? *(Абяцанае.)*

Муха-яруха, ці будзіць заўтра суха?

На боль яна табе?

На бяда вам гэта было?

На воўка ён табе здаўся?

Няўжо на дзяўчат звод звёўся?

Чаго б сляпы плакаў, каб сцежку бачыў?
Чалавеча, ці ёсць у цябе галава на карку?
Чаму, як пазяваецца, рот разяваецца?
Што гэта за яны?
Што гэта робіцца, калі конь жаробіцца?
Што ён табе — наср.ў ці мяжу перадраў?
Што ён цябе — золатам аблепіць? *(Сумнеў, калі багата абяцаюць.)*
Што на яго нашло — холад ці цяпло?
Што робіцца з нашай жаробіцы? *(Здзіўленне.)*
Што табе — грошы замулелі? *(Сталі лішнімі.)*
Што табе — мазгі выпетрыла?
Што ты ходзіш як не солена еўшы? *(Не ў настроі.)*
Што ў цябе — бацька быў шкляром (шкляны бацька)? *(Пытаюцца, калі хто засціць святло.)*
Што я табе — мяжу перадраў?

* * *

А мамкі мае родныя, ай-яй-яй!
Ах ці мне! *(Ад нечаканасці.)*
Бог мой Бог *(уздых)*.
Боль (балесь) яго ведаець.
Вось галава дык галава!
Гары яно агнём!
Госпадзі, спасі (ратуй) мяне ад гэтай поскудзі!
Людцы боскія, яйцы плоскія! *(Здзіўленне)*.
Ого-го атарві галаву!
Оенькі-оенькі!
Садовая галава! *(Лёгкая кпіна.)*
Ці халера яму дай... *( Выказванне недаверу.)*
Эх вы хлопцы-растаропцы!

# Добрыя пажаданні

А хай вас дажджом намочыць!

Багдай табе добра было!

Бадай цябе мані *(каб не ашукалі)*.

Будзь здарова, як карова, і багата, як зямля, і пладліва, як свіння.

Дай Бог яму веку!

Дай жа Бог табе здароўя з жабіны прыгоршчыкі *(усмешка)*.

Дай табе Бог здароўя ў ручкі, у рожкі й паміж ног трошкі!

Каб беглі дні, а здароўе стаяла!

Каб Бог яе гадаваў!

Каб ты сто гадоў жыў і памёр на цёплай печы.

Каб цябе жырам абкаціла й балесь не брала.

Каб яму было цёпла ў пекле.

Карай Бог павек! *(Каб Бог добрае пасылаў часцей.)*

Хай ёй здарова будзець!

Хай жа Бог даець Анэлі й у касцеле, і ў пасцелі!

# Праклёны й грозьбы

Апсік, каб твой апох сік! *(Пагроза кату.)*

А халера іх хай!

Бадай цябе чамярэнь!

Боль цябе паеш!

Будзіш помніць да зялёных венікаў!

Вон! Каб і вонках не было!

Дзе мой нож? — яйцы вон! *(Грозьба малому неслуху.)*

Закрой гáмалу (ляпу)!

Запішы (засячы) сабе на ілбе!

Каб ён так ср.кай сонца бачыў!

Каб па ім вошы пехатой хадзілі!

Каб табе кукнула!

Каб табе моль пяты пабіла!

Каб твайго й духу-паху не было!

Каб ты век будаваўся!

Каб ты гарохам ср.ў!

Каб ты з компасам ср.льню шукаў.

Каб ты ср.ў кручанымі вяроўкамі.

Каб ты ср.ў пад плотам калючым дротам.

Каб ты тое з'ела, што ты мне думаеш.

Каб ты сцежку мацаў!

Каб ты яго ў штаны не ўклаў!

Каб цябе ванцак з'еў!

Каб цябе любіў стары цыган вялым х..м! *(Праклён цыганкі.)*

Каб цябе мядзведзь! *(Грозьба сабаку. Гэта ж якой прадаўніны адгалоскі!)*

Каб цябе на кут абмылі!

Каб цябе намачыла ды не высушыла *(усмешліва)*.

Каб цябе порах узяў!

Каб цябе ў чыстым полі дзвярмі прышчаміла!

Каб цябе хваля-бура зваліла!

Каб цябе чахотка злажыла!

Каб яе шлях трапіў!

Каб яму залілося! *(Праклён п'яніцу.)*

Каб яна зморшчылася!

Каб яна так смак чула!

Калі пахвачу твой кій!

Насяру табе поўны рот, гнілых груш пад'еўшы!

Соль у вочы, вілы ў кілы й галень паміж калень!

Соль у вочы, камень на грудзі й пячонку ў зубы!

Так дам, што аж чэрці засмяюцца!

Труп яго бяры.

Узнаеш, па чым фунт ліха!

У мяне кароткі завароткі!

Хай ён будзе на крумкача *(памрэ)*.

Хай жывець, хоць ей канца не будзіць.

Хай ім вочы арак павыядаець!

Хай табе зубы ў роце будуць лішнія.

Хай ты няладна будзь!

Хай ты па Месяцы хадзі!

Хай ты сцямся!

Хай цябе вір глыне!

Хай яго балесь усяго!

Штоб цябе пранцы!

Як трахану, дык аж чэрці пасыплюцца!

Я табе зроблю так, што не толькі стаяць не будзець, але й вісець будзець няправільна! *(Праклён цыганкі.)*

Я табе пакажу, дзе Бог, а дзе парог!

Я табе пакажу кіем, у які бок дамоў ісці!

Я табе пакажу, на чым свіння хвост носіць!

Я табе пакажу — учарашнюю крупеню есці!

# Падзядзячкі й цвялінкі

Адкуль? — З-пад кур, петухоў сын.

А мне? — Твой нос у га.не. Вытры, дам тры *(малы выцірае нос)*. Было не выціраць, даў бы пяць.

Гразь-гразь, чаму ты не гарыш? — Я б гарэла, каб не была карэла.

Дай закурыць. — Закуры кату пад хвост. *(Адказваюць малому.)*

Дайце нажа! — Ус.рыся, бяжа!

Добры вечар! — Добра лечыў, ды памёр.

Добры дзень! — Добры, толькі сена касіць.

Значыцца... — Калі значыцца, дык і целіцца. *(У каровы па баках відаць, што хутка ацеліцца.)*

Калі? — Не калі, а жывых пушчай.

Клубок. — Скулля табе ў бок.

Крыж на крыжы. — Калі знаеш, не кажы.

Куды? — у ср.ку па жалуды. Натрасу й табе прынясу.

Лянько, нá яйко. — А ці аблупленае? — Не. — Тады еш сам.

Навошта ты ўкраў тапары? — Якія тапары? — Што любаліся без пары.

Навошта ты ўкраў цыначкі? — Якія цыначкі? — Што пад хвастом у свіначкі.

Не хачу. — Пацалуй у ср.ку смаркачу.

Ну? — Х.й гну, дуга будзець.

Пабітую нагу трэба змазаць ежам. — Якім ежам? — Га.ном свежым.

Пакажы. — У казы пад хвастом паглядзі.

Папкі! *(Малы просіць хлеба)*. — Скулля ў лапкі.

Па што, воўча, ідзеш? — Па апошняе.

Позна ўжо. — Гэта ж не ў гроб лажыць, што позна.

Расказаць табе пра белага лася? — Раскажы. — Вось і казка ўся.

Расказаць табе пра белых авец? — Раскажы. — Вось ім і канец.

Скарэй! — Калі скарэў, дык памыйся.

Ты спіш? — Не. — Пазыч сто рублёў. — Сплю, сплю…

Хлеба. — Падскоч да неба!

Хлеб-соль! — Ядзім, ды свой.

Ці ведаіш, як дзяўчына апяклася? — Як? — За гарачы х.й узялася.

Ці даць табе тры паясы? — Якія паясы? — Я нас.ру, а ты паясі.

Ці позна ўжо? — Рана. — Хай рана доктару, ён яе загоіць.

Чый бацька ўср.ўся? — Твой. — А твой з'еў.

Чым вас частаваць. — Чым вароты падпяраць.

Што казе будзець, як год прыбудзець? — Другі пойдзець.

Што на вячэру? — Цяцеру.

Што на вячэру? — Яглі — пацалаваліся й спаць ляглі.

Што на палудзень? — Сушні. — Якія сушні? — П…а з вушмі.

Што на сняданне? — Булён — за х.й і вон!

Як здароўе? — Як га.но кароўе.

Як цябе завуць? — Чым крупы дзяруць. — Крупы дзяруць драчкай, цябе завуць ср.чкай.

*

Мядзведзь-мядзведзь
Не ўмеў пяр…ць,
Пакуль навучыўся —
Ср.ць забыўся.

*

На Андрэеве мядзведзя забілі,
Прадалі, грошы ўзялі,
Шапку купілі.
Бай мерыў на нагу,
Пацубай на руку,
А нас.ру табе на галаву.

*

Стрыжка-камарышка
У поберы сядзела,
Усіх мышэй паела.
Адна пад мост —
І тую за хвост.
*(Цвяліліся са стрыжанага малога.)*

*

Ой, Поленька-Поленька.
А што ў цябе голенька?
Не брашыце, зладзеі,
Занялося кудзеляй.
(*Цвеляцца з дзеўчынёшкі.)*

Адарваў гнілому цяляці хвост.

Валуй — раменныя вушы (*пра недарэку).*

Вушацкія бляхары паехалі ў Вушачу кусацца.

Каму трэба бітыя гаршкі? *( Пытаюцца, пасадзіўшы заплеччу малога.)*

Кату па пяту, сабаку па ср.ку, свінні па калена.

Рыгарэц без яец.

Старому раку па ср.ку, вераб'ю па калена.

Унучачка як сучачка *(ласкавае пакепліванне)*.

Шчарбыль-гарбыль, дрысь у рот *(цвеляцца са шчарбатага малога)*.

Я дурэю й расту, поўна ср.чка хвärасту.

## Дзіцячыя гульні

Надзімаюць свіны пузыр, кідаюць гарошыны, завязваюць і сушаць, — забаўка для дзяцей.

Вурзгалка — пасярэдзіне косткі (свінячай, барановай) прывязваецца скручаная суровая нітка з двума канцамі-петлямі. У іх прасоўваюць пальцы й пачынаюць расцягваць (раскручваць). Костка пачынае круціцца накшталт прапелера, вурзгаць (вурчэць). Зроб ты рабёнку вурзгалку, усё нейкая забава будзіць яму.

*

Мікітка-сынок,
Падай тапарок
Адсеч пупок,
Паглядзець кішок.
Фук!
(*Падуць на далоньку.*)

*

Жыў-быў буцян
На вісокіх нагах
На шырокіх лугах.

Ставіў пунькі-прыпунькі,
Накашаваў сена-сянца.
Будзім пачынаць знову з канца?
*(Мама на сон прыгаворвала.)*

*

Ішоў Бай па сцяне
У чырвоным жупане.
Нёс сямёра лапцей —
І сабе, і жане,
І дзіцёнку па лапцёнку.
Баіць ці не?
*(Маміна калыханка-засынанка.)*

Малыя садзілі божую кароўку на раскрытую даланю й прасілі:

Кароўка-багоўка,
Паляці на неба,
Прынясі мне хлеба,
Чорнага і белага,
Толькі не гарэлага.
(*І багоўка адлятала.)*

*

Бацян-бацян, круці кола,
Дам курыцу на Мікола!

*

Бацян-бацян даўганосы,
Прапіў боты, а сам босы!
(*Крычаць дзеці, калі бусел робіць кругі над хатай.)*

*

Курыца-квактуха
Вадзіла дзяцей
Каля кляцей.
Квок — сесці
На чырвоным месці.
*(«Квактуха» — дзіцячая гульня часінаў мамы.)*

Кошачка-ласачка, дзе была? — У папа. — Што рабіла? — Кросны ткала. — Што заробіла? — Кусок сала. — А дзе дзела? — Сама з'ела. — Апсік, апсік! *(Лічылка.)*

*

Казаў бацька: казу дам
І з маленькім казяням.
Будзем казу даіці,
Казлянятак паіці.
Казу дам, казу дам
І з маленькім казяням.
*(Прыпявалі, танцуючы з малым «казу»).*

Пахадні — гульня, забава, каб заняць дзяцей. Каб адчапіцца ад надаядлых і шумных малых, каб хоць на час пацішэла ў хаце, звычайна гаварылі: «Збегайце вазьміце ў Музыканціхі пахадні». Малыя бягуць у крайнюю хату: «Матка сказала, каб мы забралі нашы пахадні». А там ужо ведаюць, што гэта проста забава, і пасылаюць да Мікіціхі, а Мікіціха пасылае да Піліпіхі. І так, пакуль усю вёску абгаляпуюць, суцішацца дуронікі й на паветры набудуцца.

Пікар — дзіцячая гульня, у якой рознымі спосабамі палкай збіваецца бляшанка.

# Хуткамоўкі

Авечачка, спі з дачкой.

Дзе арэх? — Арэх у ямі. — Збілі чым арэх? — Кіямі.

Няма сала — лупі здор.

Пад паветкай тры кані.

Пракоп пралез праз строп, праз крупы, праз муку й праз па́дкруп'е.

Пяе бусел на балоце.

Ты чыя, абечая, нічыя, абы чыя.

Хапай, пахаплівы, ядры, слівы.

Чые дзеці? — Янопавы. — Хто Яноп? — Я Яноп.

# Прыгаворкі пад скокі

*

Ты Хадора, я Максім,
Ты гатова, я саўсім!

*

Маладому чувілю
Жарам пяты пасалю.
Я на вуха чувілю
Пашапчу, каго люблю.
Чувіль мой, чувіль,
Віль-віль-на́віль,
Віль-віль-віль.
(*Танец часоў мамы.*)

*

Танцуй, танцуй ды прыстой
Караценечкі з таўстой!

*

А хто полечку танцуець,
Той багата не жывець,
Ён апошнюю кароўку
На падмёткі прадаець.

*

Андрэй, не дурэй,
Не дзяры сарочкі.
Не ты праў,
Не ты ткаў —
Хадорыны дочкі.

*

У Матруны на тры струны,
А ў Луцэі на адзін бас.
А ў Варвары на тры фары!

*

Ой, іграйце, вы, музыкі,
Далібог.
Не шкадуйце вашых ручак,
Нашых ног.

*

Без музыкі, без дуды
Ходзяць ногі не туды.
А як дуду пачуюць,
Самі ногі танцуюць.

*

Іграй, мая дудка,
Ды не торгайся.
Пап'ём, паядзём
Ды разойдземся.

*

Ой, не сам я трасуся,
Мяне чэрці трасуць,
А малыя чарцяняткі
Падкалачываюць!

*

Ты мой дзед, ты мой дзед,
А я твая бабка.
Шануй мяне, даглядай,
Каб я была гладка.

*

Ой ты, полька-тармасуха,
Дождж ідзець, дарога суха.

## Хто як пяе

Ластаўка ўвесну дакарае: Перапілі, пераелі, пералушчылі, перапілі, пераелі, пераласавалі.

Ластаўка варыла піва й спытвала: Кісла піва, кісла, кісла, кісла.

Салавей: Цімох, Цімох, павёў дзеўчыну ў мох, у мох, паваліў, загаліў — торк, торк, торк, торк!

Жабы на балоце: Курр-ва, курр-ва! — Сама тта-ккая, сама тта-ккая!

Драч скрыпіць: Пастух-пражор на пасту йдзець — жарэць, з пасты йдзець — жарэць.

Певень: Кукарагу́, усім па пірагу!

## Загадкі

Авохці мне,
Пяць на мне,
Шосты строчыць,
І той хочаць.
(*Скрыпка, пальцы, смык.*)

Ад чаго гусь плыве? (*Ад берага.*)

Адгадай загадку: што пад яйцамі гладка? (*Патэльня.*)

Ані шпунта, ані дна — поўна бочачка віна. (*Яйка.*)

Белы, як снег, надуты, як мех, на дварэ стаў, як конь, заіржаў. (*Гусак.*)

Быка павязлі, а сэрца засталося. (*Стог павезлі, а калок застаўся.*)

Быў я таптан,
Быў я капкан,
Быў я на кружале,
Быў я на базары.
Жыў-быў, сям'ю карміў,
А памёр — выкінулі вон, —
Сабакі касцей не ядуць.
(*Гліняны гаршчок.*)

Дакуль заяц бяжыць у лес? (*Да сярэдзіны, а далей бяжыць з лесу.*)

Два каты смятану ліжуць. (*Сані.*)

Дзед бабу нагнуў,
Касмаціцу раздзьмуў,
Салодкае выкусіў,
Горкае выплюнуў.
(*Ляшчыніна, арэх.*)

Дзесяць братцаў цягнуць невад на Пердунову гару. (*Пальцы, порткі.*)

Еду, еду на старым дзеду, кійком паганяю, на смерць забіваю. (*Човен і вёслы.*)

Еў я пана, еў я ца́ра, толькі рыбкі не спытаў. За рыбкай паганюся й сам утаплюся. (*Камар.*)

За белым бярэзнічкам талалай брэшаць. (*Язык за зубамі.*)

Загадаю загадачку: перакіну церазградачку, няхай к налеццю вісіць. (*Цэп.*)

Зялёна, як елка, чы́рвана, як дзеўка, а хвост, як у мышы, ды не мыш. (*Морква, бурак.*)

Зялёная, а не луг, белая, а не снег, сукрыстая, а без валасоў. (*Бярэзіна.*)

Ішла Панурка растурэцкая з гара́да́ й пыталася ў Куркульяна: «Ці дома цар Канстанцін?» — «Быў на грыме́-гарадзе́, пайшоў на глін-горад». (*Мыш пыталася ў пеўня, дзе кот. Певень адказаў, што быў на градзе дроў, а потым пайшоў на печ.*)

Ішлі лесам, пялі басам, няслі драўляны піражок з мясам. (*Хаўтуры.*)

Ішоў пан градой, нёс два бліны пад барадой і кусок сала на галаве. (*Певень.*)

Ішоў Тота каля плота, пытаўся ў Жмуры, а ці дома Ляпа? (*Воўк пытаўся ў ката, ці дома сабака.*)

Карова з Туроўлі, з Бычкоў бык сышліся разам і зробілі крык. (*Скрыпка, смык.*)

Кіну не палку, заб'ю не галку, скубу не пер'е, ем не мяса. (*Вуда, рыба.*)

Кладуць старца ў дамавіну, х.й тарчыць напалавіну. (*Грыб у кошыку.*)

Красен-чырван, як са ср.кі вырван. (*Бурак.*)

Круць-верць — у чарапочку смерць. (*Кілбаса ў гаршку.*)

Ляціць, крычыць: кум, кум. А сядзець — кроў п'е. (*Камар.*)

Маленькі гарбаце́нькі ўсё поле прабяжыць, цэлы год ляжыць. (*Серп.*)

Машоначка барання дае й звечара й зрання. (*Капшук з тытунём.*)

Мужык карчы драў-драў, корч выдраў, кінуў, а дзюрку панёс. (*Хадзіў за вугал.*)

Мядзведзь стаіць — вушы скачуць. (*Ступа й таўкач.*)

Не для таго цябе браў, каб з табой спаў, а для таго, каб у цябе кусок мяса клаў. (*Бот.*)

Пад стогам мышы дохнуць. (*Вуголле тухне пад гаршком.*)

Падае з гары, а б'е ўнізе. (*Маланка.*)

Паміж двух дубоў вісіць цялёнак без зубоў. (*Тое, што й думаеш.*)

Паненка тонка, пяр…ць звонка. (*Стрэльба.*)

Пасцялю рагожку, пасыплю гарошку й хлеба акрошку. (*Зоркі й маладзік.*)

Пашлю пасланца па любога гасця. Госць ці прыйдзець, ці не, а пасланец не вернецца. (*Стрэл.*)

Пекната чысціню панясла на вышыню. (*Агонь (ці кот) узбег на страху.*)

Перагнуў цераз мяжу, а што зробіў, не скажу. (…)

Повен хлявец белых авец. (*Зубы.*)

Поўна бочачка віна, нідзе дзюрачкі няма. (*Яйка.*)

Поўна бочачка круп, а наверсе струп. (*Макавая галоўка.*)

Прыехаў камісар — усё поле папісаў. *(Мароз шыбы.)*

Псюк пад каленькі кусаець, ды няма каму яго выгнаць. *(Старасць.)*

Пузаты пан у яму ўпаў. *(Бурак.)*

Ракам настаялася, ср.кай наківалася, камары наеліся, людзі наглядзеліся. *(Праполка агароду.)*

Расла-павырасла, з куста павылезла, па руках пакацілася, на зубах ачуцілася. *(Чарніца.)*

Сам худ, а яйцы з пуд. *(Бязмен.)*

Сеў на конь і паехаў у агонь. *(Кацёл на вілках у печ.)*

Сорак насавоў, а ўсе без рукавоў. *(Капуста.)*

Сядзіць Арына — рот разіня. *(Комін на даху.)*

Сядзіць Савасцей без скуры, без касцей. *(Куча.)*

У клубочку сем дзюрачак. *(Галава.)*

У куточку на пруточку вісяць Мэндалевы яйцы. (*Клубок нітак.*)

У левай руцэ трымаюць, левай кідаюць, на ўсю зіму хапае. *(Бульба.)*

Цераз мора катоў хвост. *(Восілка ў вядры.)*

Цыганка ў хаце, а цыцкі на дварэ. (*Бэлька.*)

Цякло, цякло й лягло пад сцякло. *(Рэчка й лёд.)*

Чырвона — ды не дзеўка, зялёна — ды не дуброва. *(Морква.)*

Чысціня светлыню панесла на вышыню. *(Падпалілі кошцы хвост, пабегла на печ.)*

Шыла-бадзіла па полю хадзіла, па-вушацку гаварыла, па-нямецку паварачывала. *(Гусь.)*

# Гаваркое слова,

альбо

# Жыццё, як яно ёсць...



*Занатавана за Акулінай Андрэеўнай БАРАДУЛІНАЙ й землякамі (г. п. Ушача)*

Нашы імёны: Якута, Парвен, Сахон (Сафрон), Цыцыля, Макрэда, Пілiп, Стахван, Касцюк, Змітра (Змітрок), Аўдоцця, Аміллян ( Міллян), Ігнат, Лукаш (Лукан), Нікіпар, Салівей, Тумаш, Хвядос, Лаўрэн, Іллюк, Агата, Цярэшка, Пятрок, Трахім, Паўка, Хведар, Праксэда, Купрыян, Патап, Аляксей (Лёхта), Анцл, Галя, Люцэя, Колюсь, Вікця, Яўхім.

Абсецім бабу й пытаім… Лаўку ссунуць, сноп саломы пад галаву, папонкай пакрыюць — і спі… Дзесятым годам пашла служыць… У дзесяць пагібель вымыла слязьмі… Даўней па жэбрах хадзілі (жабравалі). З макавае зярнятка хлеба ня бачылі. Буракоў відам ненавіджу змалку. Кішка ў кішку лезе ад голаду. Вялікая лыжка дзяцей не разганяіць, а малая разганяіць.

Жыццё такое: хлеб — госць… Гэта ж нада — атправіць па старца́х! Яна прасіць міластыньку хадзіла… Пашлі ўтрох, і на́ймітка была дзеўка. Ты даўніну сваю ўспамінаў. Памяць мне заарала (забылася).

Вайна… жыта на пошці, вывезці не паспелі. Беглі ўсе, насілі. Бабуля з мамай. Пакуль прышлі — позна… Ля Васільковай хаты матацыкл без колаў. У хату пашлі. Дзверына ад шафы. Свінны палонік мыю ў лужыне. Усё замёрла, замлела, Грышу ня бачу. А нікога няма на пасёлку… Хай ужо страляіць, іду, іду ад яго (немца). А спіна ўся ўгінаецца, зараз усадзіць кулю. А тут рух уніз…

На гару ўскарэпкаліся за школу — жох плячмі. Толькі ўніз. Бабашыха: «Твайго ж Івана забілі». Ногі падкасіліся. А можа, няпраўда? Пашлі ў зям-

лянку. А немцы на млыне. Мы рашылі перапаўзаць мост. Стала вечарэць. А суседзі ня кажуць, куды пойдуць. У канаві селі. А ў іх акопчыкі. Усё бахаюць і бахаюць…

У зямлянцы сядзім. А нешта смалістае гарыць. Баба падпаўзла адна: «Ня плач, ня плач. Гэта ж твая хата гарэла». І вярнуцца к нечаму… З поўначы аціхла. Ня знаіш, дзе немцы, дзе нашы. На золак сталі танкі трашчэць. У рэчкі танкі заўстрэлі. Танкісты сталі матам лаіцца. Нашы! Развіднелася, сціхла. Выпаўзаем. Глядзім — нашы. Маладзенькія! А колькі ж радасці, і яны намі!

Ідзем, сонца свеціць. Прыходзім дамоў. Дымок яшчэ дадымліваўся. Кожны ў хату пашоў. Самі пашлі к Міклашэўскай. Цяпер кватэранты. Дарага. «Ці, можа, ісці ў лес?» — «Ідзіці куды хочаце».

Бабуля анучку мые: «Можа, лыжка будзе, выціраць будзім…» Чарапок знойдзе: « Можа, есці што будзем з яго…» На пошту — знайшла крэслы. Ложак знайшла. Схавала за дрыўмі… Драўляныя дзверы закаціла. Чатыры кубы ячменю хлеба асталося. Бульбу ў яму, паверх стажок. За ноч (могуць) спаліць, — калкі ўбіць, абабіць дошкамі, фундамент жа новы.

На сабе бульбу пасадзілі. У Худалея быў конь. Худалеіхі за гэта сукенку пашыць. Даў на паўдня каня. Меншае на плячах перавезлі. Зрабілі талаку, мох у балоці. Немец пленны імшыў. З Мар’яй на кані з камунгаса страху кускамі перавезлі. Крыдыт (узяла). І даваенны (крыдыт) не згарэў. Столь, падлогу — сама… Думаю: вайну перажыла — не забілі, а цяпер заб’юць, кажную ж ноч на гарышчы прахожыя хаваюцца.

…Гэтак ён ваяваў: акопы рылі, а ён бабам у лапаты ручкі ўстаўляў…

Насаві́ белыя падпярэжуць паясом (накшталт плашча). Брызінтоўкі — чаравікі парусінавыя былі.

Дзякуй Сталіну-грузіну,
Што абуў нас у рызіну.
Будзем Амерыку прасіць,
Каб рызіну не насіць.

(Пасля вайны пялі, калі клеілі сабе галёшы са старых камераў машынных.)

Адзін кацёл у паўтара вядры, а другі ў вядро. Мукі кадзь — селядоўка. Хлеб пякуць на аіру ці на клённіку — кляновых лістах… Як шашча́, мука (паточаная шашалем), пшаніца не прыстаець ні к чаму, пустая, няма цяжару, клёку, клейкаці. Надаела мне гэта печыва — хлеба німа, пячы й пячы (лапуны, пірагі, сачні). Раней гарохавікі пяклі нейкія й елі… З рыбай юшка, з грыбамі юшка (поліўка). Залетась слаба было з закрасамі. Бульба па-цыганску — печаная ў прысаку. Катлеты са здыхліны.

На сіта ўсе смакі сеюць. Смакоцце — самы смак, цымус, марцыпаны. Проша піць гарбату без цырымоніі (без цукру ці з гузікам за шчакой).

Чужога на локаць не дасталося.

Навошта сыту́ю патэльню мазаць, калі з яе й так сала цячэць? Топкае сала такое (растапліваецца на патэльні). Напрышчыш бліноў, і добра. Яечня круцілася на скаварадзе (ад тлучшу).

А я мядзведзя мяса ела. Мядзведзь панадзіўся ў авёс. Ну як там дзед яго падпілнаваўся. Мяса салодкае, з прорасцю, слой мяса, слой сала. Пад'ела дасыта́… У нас яшчэ заслонка (кавалак) сала ёсць.

Леташняе сала белае, і не ёлкае, і не салёнае. Надты (вялікі) шматок… Мой неяк забіў казу дзікую, што падушка, тлустая. А з дзічынай (мясам дзікай казы) такая капуста смачная. Настолькі хлеб адзешавеў проці жыроў, чаго век не было.

Нам жа трэба канчаты ножык. Удрабіш капусту дробна, патаўчэш, яна й добра будзіць. На каштаванне зварыць, на паспытак. Цэлае досвіцце варыла. Не высыпай муку, апылішся… Купіш вуксус, ксенцыю гэту. Вытлуміла мне саўсім зробіць тое. Бутылку рубцаватую бяры. Як спяшаешся, тады нічога ня найдзіш. Наўпралік ідзі. Гразка йсці ў туфлях. Надзеў рагаціну, плашч нейкі, не прыстаець да яго (не пасуе). Пакуль зойдзіш, дык абцямнеіш (будзе цёмна). Бывала, калі што трэба, дык абгаляпую ўсю вёску (абабегаю галопам). Прыступна йсці ў гэтых ботах. Трыбушыцца бот…

Распытала — вочы наверх лезуць. Пачула — як агарнуў мяне вожах (жах). Вочачкі па яблычку, зрэначкі па йгрушынцы. Яшчэ горш устрашэла. Ляцела, свету не відаючы. Пад дзень ужо віднелася. Сонца яшчэ было (дзень).

Сёння так укава́ла, так умёрзла, як у глыбокую восень. Думала, што карчаком злезу, так азалела. У галаве стала бла́жыць. Калі й прынемагуся…

Такую светніцу ехаць! Валя ехала, яшчэ ей п'ятку (пяць рублёў) дала. Калі хочуць — я ім шчаджу́. Я б правяла́, што пільней трэба. Якая мне грозьба ехаць? Не трымай грошы ў калашы́.

Давалі палонічкі й лыжачкі. Пакуль стаяла, асталіся лыжачкі. Вочарадзь як узялася — не хваціла мне. Нада будзіць прыпілнаваць, калі будуць прадаваць. Кажаць: дзешавога не бяры мне на плацце.

Прыцямнелася ўжо. Зорка-серабрыначка... Іду дамоў і слязьмі ліюся. Прышла дамоў ужо цемнавата. Хлеба не было, дык я мяса троху пажвакала. Калапенькі (каноплі) добра каб былі — варыць чай. Робіла-робіла, прышла ў хату, пажывілася й спаць лягла. Вот так і вечар мой скруціўся. Хоць ты вочы зашый — не хачу спаць. Толькі дагары ці ніц спаць магу.

На́перад заехаў. Ён меўся нанач дамоў прыехаць. Жджы-пажджы, а яго ўсё німа. Няеўшы выездзіў увесь горад. Кажа: «Замарыўся я ў дарозе, трахатраха не памёр». За хархопкі (вархопкі) ды дамоў.

Шчабятухі бацька прывёз (самагонкі, гарэлкі). Апетыт на ўздыме! У мяне яшчэ стакан юрухі (бражкі) ёсь. А там ужо качарга завязалася (каша заварылася). Давайце на першую руку вып'ем скоранька. Раздзялі, каб пароўну было. Якая тут чарка — рыб'я вочка... Цаляком палажылі селядцы. Пасля селядца на ваду брахаць будзіш (сабака, як аб'есцца, п'е, а потым брэша на ваду ад злосці, што зноў піць хочацца). Ты ўсё выпі, ты яшчэ ня нашчылася.

Ты будзіш рыбу пярчыць ці цыбуліць? Налупіла бульбы, надрала й напякла бліноў стог. Слабы з яго ядун. Трошку цірне́ць адчапнога, кажаць: «Вот наеўся, аж вочы поўнымі сталі». Місачку чуць-чуць змучыў. Кажа: «Што ў мяне жывот — тры полкі?» Да свяжы́ны падрыхтуем гарэлку. Кароўскае масла. З маслам і га.но смашна. Чорны хлеб за ўсё смачней, ён жытны́. Павячэралі за ціхаю гадзінаю.

Паспрабуй троху прасыры́ць ручнік і вытры. А гэты рушнік стары — яму рваццa нада. Насцілка (капа) была памытая. Яна знава́ такая. Усё было памытае, але туды-сюды — драбязы троху й сабралася.

Вурдаль — кашынае імя. А гэта наш Вурдаль ці ні на ўлоў пашоў? А Кундаль, Шпырка — гэта сабака. Сабака нічога, добры цяўкýн… Цяпер кошка будзіць каціцца. Дзе яна іх выкаціць? Яна ёй кіндзéль каўбасу. Кот мурлý заводзіць. Катокцёпленькія лапкі. Балесь на яе (кошку), два ўжора з'ела (ужор — рыбка, якую глынуў шчупак). Дохля яе бяры, хай сядзіць.

Як адвячорак, цямнеіцца — ужо папы́ ў кутках сталі (цені; папы ў цёмным, чорным). Як толькі кошка вяркне — у мяне вочы па гэтай лямпачкі. У хаці халодна, вядома ж — без мужчыны. Падушачку троху прылéчу — сагрэю. Лёг бы заснуў шараю гадзінай (як цямнее, дождж ідзе).

Чаму сырасць? — з падсцення холад пачаў ісці. Яго хата розікам стаіць — адчынена (ад разінуць). Нічога німа ў хаці — як перуном вы́смаліла. Шыхалом усё стаіць, адно аднаму не прылігаіць. Дом там — адно шы́халле, старызна. Хай вецір прадзьмухнець. Хата стаіць, як сарока без хваста: без хлявоў, без сяней. Старая хата, а няўжо яму маладую даваць? Трахім біў-біў прусоў, павыбіваў усіх чыста.

Увесь двор белы — закідалі грýдкамі (снежкамі). Хатка, як родная матка, залез на печ, гудзі й коміну памагай, комін гудзіць, і ты гудзі, ногі за каптур задраўшы. Валюх-валюх з печы… у чужой печы й нязграбна робіць.

Гляджу — у бакоўку ходжана… Летам горача, а ў хаці ўсё ж лятней.

Жыў ня буду, а хату пастаўлю! У мяне бёрны ёсь. Сасновыя дошкі на падлозі доўжай ляжаць.

Стромка стаіць страха. Сценкі грубінои (таўшчынёй) два метры. Хоць бы цвік! Страха расплыла́ся як ластаўка. Туды й сцёку ня будзіць.

Запалку выскрабнуць... Хату запалілі, а яна паку́лай імшоная, дык уся лабавая сцяна абгарэла. І хлеў жа настолены (са столлю), зімой цёпла. Хлеў зашчытны такі, дашчаны, ня мшоны, але ўдвоя. Скачаць па дзенніку — між хлева й хата загарадка, — там заўсёды дзель відна. Схадзіла ў подсціл, прама тынянку (паветку) нагрузіла. Нясу, язык высунуўшы...

Хай яна згарыць, такая гарадзьба, каровы ўсю бручку з'елі (дрэнна плот паставілі). Думаю: доўга свінні выламіцца, тады й рады не дасі... Казулька — слуп з падпорай. У мяне ў калодзежы толькі трэцяя часць вядра чэрпаіцца.

Не ўвярэдзішся, калі й ты занясеш кацельчык. У сталоўцы вагі прадажныя, а ў малочнай атпускныя. Дзень, ад ліха два ты папрацуіш...

Штогод усё далей мой дом становіцца ад захода (старэе).

Мама казала пра наш пяты паверх: «Сядзі, як пад небам, і жджы, калі Бог душу забярэць». Башня, ды такая выш (вышыня)! Што такое — два пакоі, а жыць недзе...

Хачу дамоў, як вады напіцца...

Вот гэты маладзік і прадзержыць мароз. Цяпер гэты за́веі якраз усхадзіліся... Пачнуцца скора сівяры́ (на вясну). Вясна холадам адстоіць.

Вязуць, турацць і турацць на базар. Сколькі пераварачываіцца машын, прама разміну нет. Ямачка вы́дрыгалася (па бруку калёсы ехалі).

Пад вясну было, дзе праталачак ёсь, дзе німа. Пойдзем, Галя, з табой, я буду ісці, а ты надо́зар. Адліга ўдарыла, і дарога паслізела. Не на шасцерыку ездзіць тут (на шасці конях). Наўзгалёп нясецца на кані. На дыбы́ конь надта браў.

Дзяржы караме́ц (корм), а то карова скора ацеліцца. Кароўка ўжо на часёх (на цясёх; гатовая цяліцца), нада ж кадзіць, глядзець.

На работу яна хаплівая. Прыры́ўкамі шыла — пры́хваткамі. Ён мяне, чуць шарэлася, разбудзіў. Дзевер атсаветаваў купляць парасёнка, што свіння пяршачка (першы раз парасілася).

Учора сонца выясня́лася, дык са стрэх капала. Дрэвы пабелены вакол паяском, як падвязкі ў дзяўчат. На гэтай рабоці здорава не звырэдзішся (не натрудзішся, не ўмаешся). Ужо ў вочы вясна лезіць — цёмна вачам на вуліцы. Цяпер вароны ня робяць гнёздаў. Учора цяплей было — сонца прысвечвала. Маладая травіца паадскаквала.

Пагода — аж трасецца! Пагода такая цёплая, хоць агуркі сей.

У такую зямлю дзіця пасадзі — вырасціць. Мама тлумачыла: рунь зазелянела, адскочыла (як адскочыць, так і зазелянее). Ужо большае — варона хаваіцца. Жыта ў пуку́. Высыпаіць. Красуіцца. Ужо ў жыці пяткі наліліся (бярэцца зярно). Налілося. Як наліецца — і пачынаіць спець. Жыта ўжо забурэла — выспела. А бываіць — жыта зраслося, счарнела, згніло… Пшаніца зімавая ці летка.

Лапка кропу, пер’іна часныку, каліва бульбы, вочка парэчкі, вянок цыбулі, хвост морквы.

Я сабе ціплюкоў (пісклянят) купіла з кубатара (інкубатара). Малыя кураняты ўсе белыя, толькі якія чорныя будуць, яны жаўцей. Пеўнае яйцо — дзе ёсь зародак, але ёсь і пустое. Курыцу зарэжаш, яна якраз леташніца.

Дождж троху прасыры́ў зямлю. Раскасмацéла кветка. Пагода пад'яснéлася. Маладняк вішэннік пашоў. Вішына Зойцы цяніла (кідала цень). Трэба, каб кожная бульбінка была адбáбленая — адарваны пупок (расток). Відошна (на выгляд) хворыя агуркі.

У цябе ж выгода кругом — і пожня, і луг. Цяпер на лугу хоць лажыся (суха). Няпутаная, простая кабыла. Каню падвяжуць балалайку, а ён ходзіць — блын-блын. Э, брат, каня стрыножыла (кульгае, ступае на тры нагі). Канёк з любога вядра піць ня будзіць.

Прынясу трусам мех травы, сыплю-сыплю, і мяха мала. Шэрых гусей прыганяла-прыганяла, прыгукала. Мы кармілі гусей дасытá, дык і смашнае мяса было.

Каза ў аіры порацца цэлы дзень. Козы, халера іх ведаіць, можа, папалявалі, гладка перасталі даваць малако. Казлянятачкі-лібінятачкі... Асянчына болей па балацявінках расцець, бяз зёлак, посная, парожняя. Канюшына па калена. Пагода — толькі сена сушыць. Добра, як сухата, пагода. Я лепі любіла сена падаваць, як таптаць (на возе). Яўхім водпуск з сягонняшняга дня ўзяў, паехаў сена старацца.

Такая жара, што сем партоў можна змяніць. Удушнілася — упацела, душна стала. Нічога не расло, дажа трава вы́велася. Сена стажар'ем пастала ў

кармушцы (дрэннае). Такая жара была, дык вужы ў двор хадзілі піць.

Карова можа ўпіць гвозд, а свіння ня можа, яна зубамі есь. На малако гэты раз прабач, прынясу заўтра. Карова хвост дугой трымаіць. Тожа такая красівая, маладзенькая й з трэцім цялёнкам. Для збродлівай каровы бразготка. Каля рэчкі маркоўнік, перамерзніць, тады салодкі, абы карова з'ела — так абдула, разагнала. Кароўка добрая, алі скінула, можа, ру́неі аб'елася, два месяцы неданасіла. Такая бесталковіца вышла.

Чаго ты лындуеш (лянуешся)? Шавяліся, каб не завяліся (вошы). А ўжо буду старацца, аж язык замакрэіць.

А там круглы Дзе́менчык (возера), як вока. Каля яго журавіны й вужы. Ён ляжыць у сонцы, ніхто яго не чапаіць. Там астроў (востраў), а ўнізі возіра. Як ты паедзіш? — хваля вялікая. А нічога, бруячок там маленькі. Рыба ідзець на жы́рава... Лазіць усю ноч па ўловах. Шчуку кукуюць, васцямі колюць, васцямі закалоў шчуку. Не мае гады па рыбу хадзіць — у вырай збірацца пара...

А на двары такая дабрата! Дождж ідзець ды параві́ца (парыць). Грамніцкі бор пад Дзе́менцамі. Вышла ў край берага (у лесе). А соснік паваляўся, сухастой, прайсці неяк, шышкі ў ногі колюцца, за́вальняў многа. На самы лабяк вышлі — дзіва што пячэць. Мох суханькі такі — сівачок. Нечапаны бераг чарніц! У лашчаку ягады сядзелі. Ваўкі вачмі паслі яе. Гойкала-гойкала, і сабраліся. Баялася, што воўк напаткаіць. Ідзі, касмацень чортаў! (На ваўка.) Сабакі ях-ях, пакаціліся па пнях, а ваўкі — за саба-

ку... Распусціць глотку, па лесі ходзячы, крыкам сваім... А пасля, відаць, знайшоў сваіх (парасятка дзіка), уціхся.

Ячмень ужо плечы выставіў — так саспеў. Дождж як уліў! Заліўны дождж. Там авёс палеглы. Жыта, хоць яго лічы (кожнае зерне). Пшаніца адборная, хоць бусы рабі й вешай маладой на шыю. Гэты год пчолам гадзіла (было сонечнае надвор'е). Пчала як прамы́слая.

Скорчыўся быў парсюк, вочы поўсцю зараслі. У парсюка вочы напалавіну відаць, з ілба на вочы вісіць. На кнаразоў крычала-крычала свіння, як хлеў не парвала. Леташняя свіння яблыкаў ня ела, а сёлета які аглодачак — з'есь. Адной мешанкі мала парсюку.

Грыбы завуцца казялькі, пясчанкі, кабылы. Ну, болей у грыбы не пайду, пакуль гужам не пачнуць расці. Знайшла цэлыя выр'і грыбоў. Грыбы адны чарвіныя, яблыкі — чырвяныя. Пасля Узвіжання йдзі ў лес і ўвідзіш вужа, а на Узвіжання хаваюцца.

Я і там порк, і там порк — нет бульбы. Бульбоўнік высах дасуха́. Тоўстае калі'ўе, аж зямля патрэскалася. Капала будьбу — адны галовы. Прыпёрла, бульба, як качанне (а пра малую — як арэхі). Сёлета бульбы харошыя. Захмурэла штось...

Яравыя яблыкі, восеньскія, калі ярыну жнуць, бель гэта. Яблыкі нагамі штырылі (было шмат). Ядраная капуста — адзін шчолак. Увосень і верабей піва варыць (усяго багата). Трахім сад калавурыў (вартаваў) на Кавалёве. Сёлета на ўсё гола, яблыкаў німа.

Ветрык халаднаваты падыха́іць. Лісця ня высахла, я яго мала й награ́біла. Работа па мне верх паняла́. Бядзяць мяне прымаразкі. Да, сягоння ўжо засвяжыла. А вецер гэткі маразяны ўвосень. Ужо белыя мятлікі лётаюць, зіма.

Шпак перад адлётам пажыў, пагадаваў дзяцей, папіў-паеў, трэба ляцець-ляцець…

Прытарабачыць карчоў. Напляжыць хвоек на дровы. Запарыўся ўпухавую. Конікам адпрог будзіць. У гэнай пілы зубы ядавітыя, як у цігры. Спарней бы было, каб мяльчэй парэзаць. Бяздушныя дровы (духу няма). У мяне дроў надойдзіць (хопіць). Вада замёрзла, зверху была сабраўшыся. Ня дай бог падмяцелле.

Разгаілі салому, разбілі, разнеслі. Абмылі парсюка цёплай вадой і ў цялятніку паслалі на саломі. Азадак напалавіну адсеклі, а цы́біна асталася.

Як карову старую вядуць на ўбой, усё роўна што сын матку…

Ну й запрогся мароз! Гэткі мароз-кіпун! Во мароз, сала неяк урэзаць. Во як ты ўту́шкавалася (ухуталася). Мароз — духу неяк схваціць.

Трахім расказваіць, як жэніцца шляхта: «Ён стаіць сівы як абіз'яна, а яна як мачынка гарыць». Маладое каханне (першае). Ну, дзеўка, не жывацей, калі я да цябе дабяруся! Дзяўчына як жалуд, у яе языка ня трэба пытацца. Сала многа, хлеба ёсь, вы́бушнела дзеўка. Ну, гэта Карабанішка — гонкая дзеўка, хоць на ей вішні аббірай (такая высокая). Доступу не было к ёй. Ёмкі хлопец (спрытны, дужы). Ён ўсё з падходкамі да яе. Казырыцца яна супраць яго. Сваты ў розгляды прыехалі.

Доўгі хлопец, хоць сабак вешай. Дзяўчына з кароткай шыяй, як мяшок завязаны. Гэну тону не павернеш (пра таўстуху). Яна здаровая, як ласіца, белая морда — прыгожая баба... Ура́дная баба (пагляданая). Відаць, к ей нейкі начальнік прыходзіў — медаль на грудзях баўтаіцца. Утрэскаўся, як чорт у ра́бую карову.

Маці ездзіла, зыск дзелала, што й дзе. Хто ж гэта першы здумаў (пусціў чутку)? Маці галасіла голасма. Няўжо ён сабе дзеўчыну ня можа знайсці, няўжо на іх звод звёўся (пераваліся)? Цяпер дзеўкі носяць прычоскі, як палонікі (апалонікі), а самі тонкія, як свісцёлкі.

Ей хоць прысаку на пяты насып, усё роўна будзе крычаць «люблю!». Нявогляддзю пойдзіць (без агледзінаў). Дзеўкі аж на лыткі сц.ць — так замуж хочуць. Тая толькі жджэць з арміі, якую не бяруць. Чорная, нялюдская (непрыгожая, нехлямяжая), алі цяпер выладнела. Гадоў пяць яшчэ пая́лавае, дык ніхто ня возьмецъ. Шаўчукова ўжо замужніца (выйшла замуж). Прадавала дзявоцкую красату, а купляла жаноцкую ташнату.

Добрае прыроддзе: матка-работніца, век не сварыліся; бацька-работнік, нічога ня браў. І не прыгажавітыя — кру́гам каля маткі зайшлі замуж.

У сяле жывуць, а іх жа ніхто замуж не бярэць. А бацька й мяжу закосіць, як косіць, і сена чужое заграбець. У Зараценне на сяло ня ходзяць, і бацька, робяць.

Дзе там за вамі згледзіш... Пашоў хлопец у блыт, найшоў гэту сухабздзеліну. Грудзі, як у пітуха калені. Яна, як воўк, такая паджарыстая, даўгалытая.

А, сыночак, ты мяне адразу з хаты выгань, а то яна мяне выганіць!..

Укінуў некалі мне ў кішэню цукерку, а яна ўся прыстала. Да таго ўкахалася маё сэрцайка ў цябе... Каб ён адзін прышоў, дык табе ласкавей было б.

Як сказала, што ён праг па мне, шалеў, дык я лахі пад пахі й пабегла. Прычапіўся, ну хоць ты задавіся. Што ён па табе — галаву завяжаць? А тады слухай як: навя́ліўся на мяне... Ён пачаў і рукамі, і нагамі, і ўсякімі спасабамі... Як ён у хату, я б за вілачнік, і да дарогі на ім выехаў бы! Забірай шарла́цце й топай дамоў. Ты мне ўстыў, апрацівіў. Ён майго га.на ня варты! У мяне кароткі завароткі!

Як ажаніўся, зусім абесталковіўся. Абасваіла хутка (сваім лічыць). Ён яе шанаваў, як вока. Мужа прыспала (усыпіла), а сама пашла гуляць. Ру́чная — блядзюга, а зручная — работніца. Гэта ўжо рэшата — у гулявой дзеўкі, што й пасеіна адна не задзержыцца. Бацька п'яніца, матка тожа не адкініць. Там у яе ці цынковая прыдзелана, ці дзеравянная, як толькі трываіць (пра гулёную нявестку-ўдаву). І розум бы мела, каб такую нявестку спасціла з свету.

Развіля́ем такім зробіўся, разгіндзяем. Як заву́рыць качалку, яна лясь-лясь — заляскатала. Чаго ты на яе зверышся? Як даў у палічку, усе стаканы ў цу́ры, чашкі — у цурачкі. А яна гак яму палкай па плячох. Што ты, дурны — біць вокны, алі есь ейную душу?.. Я ж яе браў высокую, чарнабрывую... Ну чаго ты, раскапе́ха (з адкрытым ротам)?

За пнём галава, за калодай ногі, добра, калі ў хаці які шаве́ль ёсь (каханак, сюбар). Першая жонка цяплейшая. Каб ён еў, што яна ў яго першая. Як

паўлітра на стале, тады «жоначка, ласачка», а калі німа — гатоў на адным зубу перакусіць. А яна слязамі ліецца... Работай і так загружан, а тут яшчэ трэ абузу мець такую — не цалавацца! (Скарга п'янага.)

Уперад ён піў-піў па дзелу, а пасля так... Прыдзіць, набраўшыся як казелька. Укачаецца, увяргеніцца. П'яны ляжаў, міліцыя прышла, морду яму адкапалі, паглядзелі — жывы... Вазьмі яго (п'янага мужа), а то яго абе́руць. У балоці цецярук балбочаць «не, не», аж гэта Полька мужыка клянець...

Прышоў дамоў, а жонка: «Каб цябе пярун забіў, каб арак з'еў!..» Жонка другая, як учарашні булён. Прыходзіць дамоў — жонка ўжо ў козыр, задзіраіць нос. Як стала выклінаць, як столь зубамі ня грызла. Жывая турма!. Табе як благой скуле ня ўгодзіш. Як памрэць жонка, ня ўспомніць сце́пліцца, а за яго ўсе гужам...

А Кабякова свякроў з языка не спускала, мыла языком... Нашто ты звягаеш кожны дзень? Ты ж яе ніжаш (прыніжаеш) перад ім. Камень ня выцерпіць, калі-небудзь што й скажаш у адказ. Відаць, свякроў дрэнная, калі нявестка вочы не паказала.

Здзень штаны ды, калі дастаніш, укусі сябе за той! (Цешча зяцю ў час сваркі.) Тады пярэплат станавіла (не хацела, каб жылі разам), а цяпер зводзіць. У яе ўсё роўна цыган за душой сядзіць, — і мучаіць совісь. На ўзмірэнне ходзіць да зяця... Зяць Вользе адбіў палец — крыві повен вайлак нацякло. Складай слёзы ў руку ды лічы, колькі выціснула.

Яна двух зразу радзіла, а послі панясла ды, відзіш, аборт зделала, а яшчэ — кінула, можа, дзяўчынка будзіць. І вырадзіла ўсіх, і здаровая... Добкініха

была кандзідатам у парцію, зробіла аборт, і яе выкінулі. У мяне ж іх не сям'я — толькі два (пра дзяцей). Ты мой сынок-ласунок. Жаўна-жаўна, вылецела з га.на (нарадзілася). Паглядзі на малую, там тае адрэчча (у той род пайшла). Яна тваё га.но глядзіць (даглядае малое).

У бярозавай люльцы, у дашчаніках спіць малы. Рачком спіць, на каленачках. Якраз як авадзень водзіцца (калі спаць хоча). Часы тры галасіў, яму рады не было даць. Ты мне сканаць не дасі… Як убачыць бацьку — ні з рук. Узяла волю такую па ім, што жыць ня дась. Узяў яго бэндзі на плечы й нясе.

Дзед Салівей, а малы заве Салавей. Ну, бі ладкі. Я цябе зарагу рагамі! (Гуляюць з малым.) Яна яго пад пахай выгадавала. Увідзіў малы валасапед, як клубок з каляскі — і за ім. Я качу як сіла, а ён лезіць. Але я ўкуліла яго ў каляску й адпёрла дамоў… Росту на яго не было (не рос). Ён гуляў на дварэ, як увідзіў, што йду, — у ёкат: разам ісці. Разгача пад ср.ку даць неслуху.

Якую вы яе няцéлую прывезлі (унучку), попа — былінка. Ня гэту — гэну лялечку трэба пакласці ў ложак. Што ты ўцішылася (сціхла, змоўкла)? А ты думала — яе добрую прачнеш? То запірала, то зацінала (не хацела есці). Хлеб з сахарам есь, а стравы лій ці ня лій — ня будзіць. Еш суп, каб ты параніў! Ты ей так выкруглі яйцо (у яешні). Цяпер унучка саўсім другая, лепшая — троху палюднела, памурнела, куды там, пабольшала. Няхай свой смак збудзіць і атойдзіцца ад стала. Троху адклевала дзеўчына.

Шалёнка носіцца (малая). Так прыхітрыцца (унучка), і прыходзіцца браць з сабой. Малец, як ві-

рун. Узяў бы рэмень ды скнэбліў яго рэмнем. Такія недагодныя мальчонкі. Вужлаўё малое, вужэ́лкі малыя (хуліганы, неслухі). Вот вазьму розгу ды як адхварашчу! Цябе таўкачом у ступе не спаймаіш — жых-жых (шустры). Ласкамі душу выміць. Дзе я табе вазьму — з калена выламлю? Не кракадзілься!.. Мая ўнучачка, ты ўжо так збрахала, што й сабака так ня збрэшыць.

Валачэць рабёнка, а ён рыла́ты такі. За прыборамі гоніся, а дзеці не дагледжаны. Шалёная дачка й недапечаны сын. Вочным нейкі — заросшы вочы поўсцю. З Генем у дудкі пашоў. Гілюе да дванаццаці гадзін ночы хлопец. Вучыцца на сабак брахаць. Асталоп — асінавы лоб… Чужыя дзеці скора растуць, армію адслужваюць і турму адседжваюць. Сынок ты мой, ужо на галаве бальшакі, як за Дземенцам (возерам). Як ні хаці, а ўжо сорак гадоў на дварэ.

Як вы прыехалі, свята нашло! Падзяліцца па душах з некім. У іх святковыя насовы (белыя, святочныя). Гэта не знарочысты звычай. Як даўней Піліп іграў на йскрыпку, на гармонь. Пакуль жа ён наламаў пальцы — найграў, наўчыўся. На йскрыпку ў яго лепі выходзіла. Чарку за ўсе святкі выпіла. Ня стол, а геаграфія харчу! Кій на кій толькі вадзіць (болей нічога). І калі хто аднекваіцца: «Не хачу, мне многа, я ня вып'ю», — тады кажуць: « Хай табе ва́дзіць». Вот падсміяць любіць, пад'ілдыкнуць. Пахахаталі б на повен рот.

На адпеў нідзе не прыходзілася пяяць. Дзе ня можаць спяваць голасам, там пяець гавядзінай. Паркуйцеся — разбірайцеся па па́рах. От ты пе-

радаў, даў духу! Гармонь вальсам іграіць, а ён «Каробушку» вядзець. Галосіць іскрыпка. Цэлы дзень невыводнае вяселле.

З Пецькі я не здзівіла, а з цябе. Ты ж дык ей сваé́йшая (большая радня). Калі ладу нет, дык ты навя́зный (навязваешся). Можа б, мы перара́дзілі з ей… Аблупі боты венікам шашкучым. Каб паўчаса назад, дык бы й нагадзі́ўся агурок, выпіла б паўчаркі. У арміі ясі-ясі, а на жываце сем складак. Дома булёну насёрбаішся — жывот, як лоб, зробіцца.

Яна мяне за ларок па сакрэт вядзе. Прачутка пашла… Такая праўда, як у рэшаці вада. Як пачнуць што весці, зграбуся й пайду. «Ой, маніш!» — «Каб я маніў, за мной бегалі б». Яна плёткі не пляцець. І ўпіркí не хадзілі (не спрачаліся). Ці ты мне мяжу перадраў, ці ў гарох наср.ў, за што мне на цябе сердзіцца? Плюнь ў вочы — я проці цябе ніколі талкоў ня маю… Просьбы, мольбы — неяк адмовіць. Я табе на выгодзе стану (прыгаджуся). Прама ўся з хітрасці сшыта. Я ей ня ўмоўчала: «Хай табе вочы вялікі стануць, як табе маё ўсё вяліка». Хай яна яго не спажывець. Ды я іх усіх на вока звяду й дакажу! Няхай яе раздуіць, жабу, як лапаць. Усё ж думаіш, што яна пачалавечыцца (стане чалавекам).

Спяшаіць, аж крыссі разлягаюцца. Вот дало ж яму ўзяць гэтую бутэльку! Усюды пападзецца — не к вушаку, дык к прабою. Спяшаіць, аж яйцы мокрыя. На абкладзінах быў і напіўся (на Дзяды, бывае, абкладаюць магілкі). Недзе курыцы клюнуць — усю морду збіў мёрзлай касцінай. Куляўся б ён на галаве, калі б яна была. Розум па запатылку (патыліцы) цячэць. Добрая галава, толькі з патыліцы зачэсана.

Закруціў носам, быццам хрэну панюхаў. Наліў сабе, стакан абгладзіў і выпіў. Піць ён любіць, а сваёй ня кініць людзям. Закускі той возьміць, што сто галоў на рубель. Гандлюіць, як цыган конямі. Недзе нешта махляруіць. Так і глядзіць, каб пухлянуць чаго-небудзь.

Хведар коні краў — канавод. Ім жа нада было ўкрасці, каб дзевер не ўвідзіў. Цішэчкам прынёс. Мацюжыннікі адзін аднаго не баяцца, разам крадуць, а адзін другога не выказаваюць. Як там робіў, многа грошы прытаіў. Хай ім будзіць нос (застануцца ні з чым). Хай жа троху агутаіцца (супакоіцца) рэвізія, і я падам заяўленне. Сследавана: атамкнута й узядзены веласіпед.

Чалавек ты чалавек, улез ты сюды, як арак у сетку. У яго й у падуме німа. Як на мокрае цяля навалііся. Тады ён вымкнуўся сказаць. Яны б яго ўхайдокалі зайцамі (загналі). Падоліла (пашчасціла) табе, што такога не сустрэў. Дажы́лага чалавека ў цюрму садзіць! Расстроілася, як узяло мяне за душу. Яна стаіць, а слёзы пырх-пырх. Мужчына, дык ён і на слёзы крапчэй. За Ігната пашла ў прысягу (прысягнула ў судзе) Арцёміха, і была Піліпам цяжарная. Быў суд, але яны яго спынілі.

І кот жывець, і сабака жывець — у кожнага свая доля. З якіх шчэ́пеняў тут жыць будзіш? Грошы ні ў дугу німа. Пенсія малая — пальцам вымакаіш. Браўшы добрае, трэба аддаць добрае. Яна сама ня есь, прама ўсё сям'і шчадзі́ць. Табе добра, ты й так у дзверы ня лезіш.

Чабатарыха паджма́ла некуды. Ногі шалды-шалды, адна за адну закідываіць. Пашла як на той свет

(дужа доўга хадзіла). За гарэлкай пашла, у лужыну ўбадзюлілася, чуць не залілася. Цягнецца як тры чвэрці да смерці. Бабы качоргі мянялі й то барышы пілі. Стаканчык з кружаўцом (малянкоўскі) выпіваіць не аддыхая. Якая ж крапосць (моц), каб цябе хвіля-бура задавіла! У яе вялікі непарадак у галаве, каб быў парадак, так бы ня робіла… Сколькі я там выпіла — «пад спаднічку» ( да абадка). Літр яны вып’юць і закуску тваю ўходзяць.

Іванковіч, што галава бальшая ў жонкі. Сівый, як яблана. Ходзіць, як конь па кукурузі. Мне й з галавы выцюкнула, што гэта ён… П’яны ўзяў лісафет за руль, яго лісафет павёў. Панеслася душа ў рай, а ногі ў міліцыю. Глядзі джагнешся ілбом аб тратуар.

Рабаццё (рабацінне) пабіла яго шароцце, твар не відаць. Валасы парадзелі, і пяколкі сталі бальшымі. Валасоў німа, толькі каля вушэй халмачкі́. Прэць яму жывот пад нос, ён ня відзіць за жыватом наперад нічога. Вылупіў вочы, як заяц се́ручы. Ото распанеў, ліха яму!

У сухіх у касцях болі жымаласці (клёку). Мужчына абы крыху лепш быў за чорта — сем прыгажунь возьміць. Энная жонка. Масце́рыцца каля яго (прысуседжваецца). Яна такая баба-гаваруха. Навідку сядзяць. На адзіне́ жывець чалавек, адна хата. Хто сціха спросіць, хто атвеціць?

Усё шчырэю, каб скварка даўжэйшая была. Ем уволю, роблю ўволю. І баню сымшыў, і хату аблажыў. Гэтак робіў і святы дзень, і будзінь дзень. Як уеўшыся, чалавек пры целі. А ў яго ложка пасрэбраная (багаты). Грошы ў добрай шанасці ляжаць. Любей жа, як ёсь, чым ня ёсь. Рублёўку даў. Як сто

рублёў — кружок, як пяць — маладзічок (старая пра парэформенныя грошы 1961 г.).

Гульбай — вечны калека. Ужо развінціўся, зробіўся нейкім басяком, а не чалавекам. Брат яго за міліцыянера быў. Яму яшчэ як заўець. Як работаць — хворы, а як піць, дык і здаровы з ім не сап'еціца. Туль-туль і ў сталоўку. Ачмут у галаву зайшоў. Яму кароў у хлеў заганяць даверыць неяк. Такі няцямкі, убачыць пяць раз і не запомніць. З ім толькі га.но есці, не падзяліў, дык у морду шлёпнуў, і ўсё. Бог як у пень душу ўсадзіў (пра недарэку). Яго вочы ніколі не прасыхаюць ад гарэлкі. Ня слёзы капаюць, а гарэлка. Губы сінія, як у куры́цы пад хвастом ссінеіць (у п'яніцы). Дзіва што, тры дні за́пал п'ець. Выставіўшы свой посмак (казёл), сц.ць яму на галаву. Прама сіллём ліюць гарэлку. Хай па ім вошы ходзяць, каб я пашла к яму на хаўтуры.

Багатыр такі, так яго так, — язык ад шчаўлю паскіпаўся. І зжыліся гладка, нічога німа, ані цыбулінкі, ані ў што ўкрышыць. Літрагу на стол выставіў. Яна ў кукшы́н узяла ўліла самагонку. Такі вэрхал — чорт босы не пяройдзіць. У хаці пыл і акно замуцянае. Я ўжо з пуця збілася. Ацверазела гладка. Ты й не цверазілася. Бялізну так памыла, што сабака аббрэшацца (бо калі дрэнна памыта — сабака брэша). Шлында ты шлында, шлындаіш ты цэлы вечар — шлып-шлып. Пілі, пакуль у штабель ня склалі. Смерць на носе, а ўсё чорта строіць…

Старая: «Тады й машыніст гэты прыехаў, машыну на двары паставіў». Я толькі-толькі прыдзяўбаўся. На машынах ездзіў, у аварыі пападаў, а цяпер яна ўладзіла яго на той, што з вялікай дзюбай (экскава-

тар). Да той лужыны нават і свіння не падыходзіць, дзе камбайнёр мыецца. Дзе просьбай, дзе грозьбай сабярэш людзей. А што — у яго мала гэтых прыводнікаў?

Яны шыбка йдуць — размахаліся. Звядзець хахлы, а тады вярэць вёрам. Біцца пачнуць — голасу надзелаюць. У будыніну глянулі — бораюцца. Іх проста пад'юшылі, нацкавалі. Як даў, дык санкі (сківіцы) набок. Лепяка ўляпіў яму. Залявоніў па вуху. А той як ухліпнуўся (маўчыць).

Качаліся-качаліся (бораліся), алі ён наверх. Разануў іх нажом, — дык некаторых вы́гаілі. Ім так сказалі сталовачныя (работнікі сталовай). Гэта гэткая дзіч над людзьмі!.. Збілі былі цыганоў, цыганкі іх ачу́лілі. Цыганка круць-верць, спадніца ўспузырылася.

Калі чорная галава й голы, а калі белы, як у парсюка шарсцінне. Каля алешніка двое белых, голых, іду са старажоўства, аж спужалася. У мяне шкура пашэрхла, на яго гледзячы (голы на марозе мыўся).

Еду такую даль, мне нада столькі ляпацца-бразгацца. Клапоўня, а ня станцыя. Раі расклад напісаў, дык там адгледзіцца. Барткевічыха прадала сваю хату, ужо ў Мінск адбіраіцца. На таргі ўзялі, калі адзін столькі, другі болі. Тут, дзе прадажны дом (крама), пагаманілі з ей. Марковічава прасіла даведацца, ці ёсць футра на шубку. Клышко кавёр сабе зажыў (купіў)…

Ехаў у Ленінград на нейкае падучэнне. Ад яго ні ўшчынку, ні ўспамінку. Цыбулю прыслалі, — елі й гаварылі, што смачней за цукар. А чаго слёзы? Расчуліліся… Паехалі ў Хахлаччыну.

Церахоўшчына (на Браншчыне), дзе сланечнік завецца сон. Каб гэта зна́та было, дык усё б з'іначылася. У мех сабралі вархопкі — і дамоў. Канчайце вы ўжо тут сваё жыццё, куды ўжо ездзіць па свеці. Едуць абы-чаго…

Ты ж малады, а як пастарэіш, дык і варона нос дась. Тваё здароўе пры табе. Зубы ж не дзіравыя, можа, амаль (эмаль) знасілася. Кароста вельмі набірушчая. Слоік сала топленага ад кішок…

Астарэла, асівела, ей гадоў-гадоў. Сухая, старая, галава́тая такая. Каб яна хоць соўгалася тут па хаці. Зжыла век, дзяцей пагадавала, а цяпер гарод стаў ей нізкім. І гэта ейнай сіле нада насіць. Калі ўжо ў яе сэрца зжы́лася, дык якая яна будзе жы́харка. Яна яшчэ зада́ўніла хваробу. Зяўкала ротам, як рыбіна. Вочы ей зачыніла, рукі звязала, каб не разышліся. Рана белы свет пакінула. Яна ж сама галоўку паклала. Старасць іх забрала.

Станіць труднавата ў грудзях, тады неяк дыхаць. Боль уваліць такая, што качаішся. Да дня дакачалася, дзянёк стаў — і пашлі мы ў больніцу. Двая́ніць у вачах. Здароўе нецікавае. Трошку прыцінаіць, прыгрызаіць хвароба. Так банкамі спіну саставілі — курыцы німа дзе клюнуць. Каб ня банкі, дык зусім бы апурхла. Трудная хвароба. Троху адгладзілася. Семдзесят год ужыла. Робіць робіла, а жыць яшчэ недабралася. Відаць, з лёдам пайду разам (памру).

Сёлета пад вясну было. Выгала ў Асоўскай каля хаты, ён сядзіць к сонцу й спіць. У яго ўжо галава зработалася. Чуць дзверы ссіліў зачыніць. Падцягнула нагу, і нага гэта ня стала чуць. Як ступай у задніцу — перастаў хадзіць. Яна ўслу́жыва-

ла каля яго (хворага) кажную мінуту. Яму дыхаць сцінаіць. Расіца на ілбе. Склыгаіць зубамі. Усё ў ім вы́трупехла ўнутры, усё струхлела. Трое сутак паляжаў, бяз мовы астаўся.

На магільніку многа накладзена людзей. А што нас там — мяды чакаюць?.. Красноў і цяпер пекліцца. Жахотная доля. У кажнага сваё гора, дзень так, а дзень гэтак. Усе жывуць роўна, на два абеды ніхто не паспяваіць. Бяз гора нічога не бываіць. Цяпер праўду ваўкі з'елі, цяпер праўды нет ні ў кога. Цара (Хрушчова) усё роўна як у ж.пе спа́рылі. Каму верхам, каму нізам — гэта будзіць камунізам. Га́рдых Бог з неба скідаваіць. Усім ўсё ладно ня зробіш. Ужо свет звярнуўся набок. Колькі тога жыцця, а мукі болі…

Добра, калі сабака сябра, а за ўсё горш, калі сябра — сабака.

Ня стаў сябе ніжэй падэшвы. Хлеб — самая цэннасць, спрадвеку-веку…

*Занатавана за Марыяй Рыгораўнай ТРАФІМАВАЙ і землякамі (г. п. Ушача)*

У Завячэллі быў Брэнта, Брэнт, у яго быў кучар з адным вокам; і ў каня такія навушнікі, каб нічога ня бачыў. Быў Арцём-ляснік на ваўкоў. Як ішлі — яго бралі, ён выў і ваўкоў вабіў — у два кулакі. Ваўкі ўжо нахадзіліся з вайны, як завылі, а коні ў кучку хру-хру. Яны вылі-вылі й пашлі.

Жылі такія Зінкевічы, спа́шнікі, шляхта. Тая дзісе́нская (з Дзісны) — нос як крук, шляхцянка. У нас шляхты драбнасюры; спадніцы вытканыя ў два ніты й на круг пашыты, і пакромка ўнізе,

ходзяць, пакуль цы́цалі. Пану лыка замест грыбоў падсмажыў на салі, ён і з'еў. Шляхты хадзілі маліцца ў Вушачу.

Кабыла ў яго была быстрая, па мастку (паехаў), а яна шлёп далоў, тарарах-тарарах-тарарах — калёсы й паехалі. Ён у нашу дзярэўню ў прымакі прышоў. Даўней дзесяць кіламетраў з Завячэлля прыдуць — і назад прыдуць (вернуцца).

Усякая жняя жнець-жнець, за ей хвост цягніцца. Нізка жнеш калоссіка, усё ў руку збіраіцца. Даўней у цапы малоцяць, устаюць рана. У пяць цапоў. Каторыя здаровыя, яны б'юць, а ты толькі лопаіш. Даўней восець змалоцяць, абмятуць, вось і хлебец з мякінкай. Гэта ня гора — палавы́й хлеб (з паловай). І каса на стале, і цэп на стале — усё яе багацце. Светачы́ былі з лучніка́мі. Асталося ўсё — і прасніцы, і калаўроты. Дымны дух у хаці, дымам будзіць смярдзець яе лахмонне, — точна як хата ку́рная, як даўней.

А на па́сці возьмеш троху грыба, падабрэіш. Гарохавых нератоў напячэць, тады нажвець сісюлак маломy. Голад ня цётка — ён ілжэць і крадзіць. Воўк злы галодный, так і чалавек.

Рум. З гары, з пакоту, зімой возюць, а вясной, як лёд сходзіць, і коцяць у плыты, і гонюць. Гоншчыкі, лесавозы, рэзчыкі. Едуць на пастаянку. Лесаўцы дома — паляўцы едуць.

Баб'я гара — там баба змёрзла. Балота звалася Пану́ры, балота Патопа ля Вярхоўя. Тут для журавін падса́да (глеба) добрая.

Два надзелы зямлі, даў дзесяціну Грышчысе, як рэзалі зямлю. Ён абмяжы́ў, слупы паставіў. Ён быў

леснiком за Добрыцай за ракой. Як стала ў Арэхаўнi камуна, паехаў у камуну. Памёр, забiўся. У Ваўчы цэркву разбiралi. Ён iконкi спалiў. Папалiў, усё спалiў… Аржаной мукi надзярэць у жарны, па беднасцi хадзiў.

Хутары далi. Прыехаў сын, абсеiлi хутар. Рыбы наловяць у Рыштáх, пакуль вясна, шчавель вырас. Як вайна стала, так яны там i загiнулi. А тады, як сцягвалi хутары ў сяло, Бýтаўшчыну ў Вушачу сцягнулi.

Ехалi, i танцавалi, i гойкалi й шмойкалi, а як прыехалi ў iстопку спаць, а жонка пад брухам памазала журавiнамi, ашукала. Ён i выгнаў яе з iстопкi.

Нашы дзеўкi ня йдуць замуж,
I папу даходу нет,
Гопца-дрыца, гоп-цаца,
Нашы куры без яйца.

Тады Iван i зжанiлiся з Кулiнай. Бацька каня прадаў на льнозавод, дык каня Барадульчыкам звалi. Iван стаяў у Багародзiцку, а да Увалок трэба было завезцi, гэта было ў Вялiкi пост, алi снег быў. Ты толькi цёткi гарадчáнскай баяўся (Тарканiхi з Гарадка).

Хапун быў (былi арыштаваныя): Цiцёнак Iсак, Ходзька, Сальнiк Цiт, Курыла, Макар, Стахван, Марцiн, Iван, Пiлiп — усе Мiцкевiчы (мая радня па бабулi). Сальнiк адзiн з Дубчыны быў. Як шырокiя вокны — значыцца, кулакi. Як запусцiлi, як саслалi туды, дзе халодна. Недзе пагiбла там, забiлi. I звялося племя. Кажнаму гора сваё…

Як ваўкi разойдуцца, сцiшуцца, конi начынаюць скубаць. Недаглядзелi начлежнiкi. А ўвосiнь мяса

наложана (падатак) — аддала казу. Ён такі ветрагон быў, нешта зробіў. Штаны былі абшыты скурай, дык яго празвалі Хромавая ср.ка. Стыд ня дым, у вочы ня зайдзіць.

Жыта на гародзі троху пабурэла, каласоў нарэжаш і нешта спячэш. Троху абтаўкла й наварыла калатухі.

І на па́лкі ў калхозі робілі, і жылі (запрацаваныя трудадні адзначалі рыскамі — палачкамі). Ці помніце, як мы пілі гэны сікман і бульбу ў цяробках елі? Гэта ня гора, мае дзеткі, гарохавая каша.

З Бярозавага балота на Букатачку, Кошань, Пчальнікі́. Букатачка была большая валатоўка, алі рабяты раскапалі, і знаку нет. Ніз, тут поле раскалатушана. Дажджы йдуць, трактары цягаюцца, дарогу й разбілі. Заку́ткі, побач Мількоўшчына, мазні́ завод зваўся Закуткі. Дзе старая хата была — пугурак. Свяжэйшая памяць, не такая ўчарсцвелая. Босыя ўспаміны хадзілі, усё помнілі, а зараз на машынах — ня ўсё помніцца…

У лагеры былі каля Лепля, у Докшыцах. Паліцэйскія — хай вас боль паесь… Жыта бутылкай абтаўклі й накіпяцілі, слізь нейкая слізкая была, нахлібаліся як чаю. Ішлі з лагеру, адзін чалавек ў Воране поліўку наварыў — жытнічкаў налавіў (пацучкоў). У Задаброцці ігрушша гэтага было, — перад агнём пячом, яны скапцеюць.

Як запалілі былі Прасінніну хату — вады носім, посцілкі мочым ды на страху кладзём. А немцы хахочуць! Быў немец, прама з клубок. Скрабі дарогу, і ўсё. Я ня знала хадоў, куды ўцеч. За труды, за цяганіну не плацілі. Немцы ў Браншчыне ў лапцях

хадзілі, сляды, як трактары. Усе на матацыклах у лес паехалі. Гута, дзе сцякло робяць. Як вайна была, паліцейскія як убачуць, у каго чаравікі, абсядуць, абдзяруць. Толькі й жылі аб шапках, у каго ўбачаць, здзіралі з галавы.

У царкве была ружэйная майстэрня. З касцёла цынк на вёдры й кацялкі партызаны ўзялі. А другая царква стаіць абваленая. Раненых прывезлі ў Докшыцы. Агні раскладаюць («рамы» пікіравалі), тады тушаць агні. Мы ў латоку к возіру беглі. Мы ў балотца — а соснік рэдкі такі... Здаецца, так і не было, а як станеш успамінаць... Партызаны назначалі дзяжурыць. Бабы надзенуць карамысла. «Рукі ўверх!» А баба: «Я ўжо гатова!» Зімой цераз возіра й соснік усё чуваць вечарам. З Кавалеўшчыны чуваць Наваселле.

Якаўкі — там усю дзярэўню пабілі, і Ягадкі. Вёска Васілевічы — быў аэрадром невялікі. Краснае, Антунова, Капусцін. Бацька прыехаў з Антунова апалены. Лес павысечаны, павыцераблены. Кругом балота, вялікая баравіна — Ласіная гара. Жорны, печ на ўсю хату. Там хлеб партызанам пяклі. Станковы кулямёт трэба заліваць. Гналі шкіпінар. А рэшта на боты дзёгаць. Разведчык калёсы змазваў. Іванковіч Міхал загадваў. На Завуллі смалакурні былі, у Заку́тках карчы рвалі — на шкіпінар, а з бярозы — дзёгаць.

У вайну, у блакаду, цераз раку пераходзілі, дзе Загацце; несла маладзіца малога ў хустцы. Хустку адвязваіць, і ён — у ваду. Вясной хадзіла да ракі, думала, прыплывець, а малому гады два было. Усё ждала ля ракі... Немцы па іх засціглі, малы кры-

чыць і крычыць, хоць яму глотку завяжы. Як зашлі ў балота, як яму заціяло. Цяпер пагляджу на тога сына, не магу — гатоў быў застрэліць…

У хаці радзівонавец (з атрада Радзівонава), прышоў з Нямеччыны. Пашла ў Лявонаўшчыну, у пушчу. Яна раджала ў лесі, у бані; самалёты лёталі, агню нельга было паліць… І нашоўся ў іх рабёнак, яна яго кінула (у блакаду), гадзіна. Людзей бегла — свет! Можа, дзён на чацвёрты прышла, а ў малога вароны вочы павыцягвалі. А ці ён сплакаўся, а ці ён змёрз… Ідзеш — кучы круп, падэшваў куча, машынкі швейныя. Ляжалі-ляжалі параненыя, уцішаліся…

Прышлі ў Самоўку, дзе партызаны шкуры выраблялі. Бомба блізка атарвалася, што нас балотам закідала! Во якія страхі былі. У Забораўна пашлі. Маскаленка, і ён з намі прылучыўся. Помню: перад маем ляцяць самалёты й афішкі кідаюць: «Пячыце ляпёшкі, чакайце бамбёжкі. Падціскайце хвасты й уцякайце ў кусты». Лексяёнак з намі, што ў бацькі адно вока меншае, раненае, знак, казінае вока, адсюль мянушка Казіцкі. Пяялі:

П'ю гарэлку, як ваду,
Люблю бабу маладу!

Ці:

Ай капут, капут, капут,
Прадала капусты пуд,
І кашолачку грыбоў,
І ўхажора без зубоў!

З вайны нічога нет ніякага. Снапы, што троху асталіся на полі, апаследкі абабіць пусціла, былі адказныя за гэта. Яны ім вочы залапілі, далі хабар, задобрылі. Хавалі жыта пуда паўтара ў Бярозавае

балота, у Пчальнікі, ягоднікам гэтым прыціснула клунак. Гарох мой быў закапаны на гародзі ў скрыні, лён быў і пража была наматана. Дождж ішоў, гарох клыкі пусціў, коўдра на кускі разлезлася. Пасля вайны пол быў нямошчаны, дзве дасочкі ляжала. З вайны з лубіна намеліш і пірог спячэш, малінамі начыніш.

Фронт корміць коні, з сосніка паздзірана кара... Ей далі карову без хваста: аралі на ей, дык хвост адкруцілі, толькі дудка асталася. Вялі мы, вялі карову гэтую, соўнейка на заходзе было. Каля Жароў адбіралі грошы, хто йдзець. Ну так дождж ліў, ну так змоклі! Ужо замірэнне было, не вайна...

У салдаты раней не праводзілі, возьмуць торбачку, завязуць у Полацак, там здача была... У старыка была хата некарысная, у дзеда ў гэтага хацёнка. Грошы ўзялі, а дзеда ня нада. І дзеда здалі ў прыстарэлы дом, стапталі недзе, і дзеда німа.

Сонца садзіцца ў магільнік, да партызан. На маім жыцці столькі ваён было... Каб мне тую парусінавую спадніцу, што пасля вайны, і здароўя тоя...

Там такое касагор'е, там цёмны лес, вёска Шчарбёнкі, там бор. Растала ўсё, возірам зробілася. Снег з пугуркаў стаіў і зразу замёрз возірам. Тут, дзе бор рэдкі, Чорны роў. Ёсь папарaць як языкі, а ёсь як парасончык, на балотах. Села найперадзі каня. Прыстоілі-прыстоілі, аб'язджаючы, і сталі. Даўгая дарога смяецца каля пярэдняй. Пярэдняя хітрэйшая, што яе трэба абыйсці, даўгую. А даўгая смяецца каля яе. Пайду заўтра светлым днём, аддыхаючы.

Тут возірка ёсь. Ня возіра, а такое забалоцце з вакнамі зробілася, завецца Люкташ. Ёсць такая

рыба — галовы ды рэбры, а яна ўся аб'еханая. Юшка пахніць не вадой, а рыбай. У нас раска не гаворацъ, але: усё цінай пакрылася, жабурыннем. Людзі не гáдзяцца жаб, жаба, яна чыстая. Халодна, рыба ня ловіцца. Рыба ў берагах, як халодна, не стаіць, углыб ідзе.

Крываўнік, што белым цвіціць і лісце, як лапці. Сачыстая трава. Тады ўзяў касу й скасіў усю гэту паласінý. Ён скасіў яшчэ за пагоду, пагода была. Такое поле-поле, а тады алешнік. Птушкі досвіта пяюць, іх завуць лемяшы, як лемяшы точуць. Дзе нізкія мясты, алешнік, там салавей і пяець, у бары ён не пяець.

Ужо стаіць гэны буцян із дзюбай, а пасля ўкругавую будзіць хата. Закотам, заходам бёрны качаіць. Нехта й кáменный выклаў дом. Латоку заставілі хатаю. Новы ганак вышэйшы, а нага шукае стары й спатыкаіцца.

Якая там падлога, абы-што намошчана. А гэты дзверы дашчуркамі пастаўлены. Якая там хата, гніллё зложана. Ёрк-ёрк, такі ёркат ідзець (мышы ). Пацукі чаркаюць: чыр-чыр. Хай на іх дохля, на пацукоў, усё пагрызлі.

Дзяннік завецца хлеў і загароджаны, а па-руску: во дворе была — у Бранску, а ў нас: на дзеннікý была. Як нядзеля, дымок пушчу ў лазні. Я ў лазню прыладзілася, дык вярнулася. Прыбраць з двара ламачча збальшá. Каля дроў убірала шýму гэну. Толькі справілася, пакуль усё паабхаівала. Двор запорысты кругом — ніхто не ўвойдзіць. Аднарукая калонка доўга выліваe ваду з рукава. Ён жа такі гаўкала (пра сабаку). Тут адзін сабака цягнуў лісіцу абадраную, дацягнуў да Феньчынага двара й выкінуў.

Каму шчыруіш, каню ці карові? Мае конікі як гаголікі, брок ядуць. У адной бабы карова ба́лася чорная. Яна ка мне ды мяне абваліла, пратаіць у грудзі рагамі, прабала́ б, і ногі пасініла. Рэбры стаяць рагаццём.

Прыходзіў воўк к каровам. Карова дух знаіць, чуіць, што ня так.

У козаў у трыбуху ёсь кнігі (лёгкія), шчытна зложаны, і ў каровы такія самыя кніжкі, і ў авечак кніжкі ёсь. Козам трэба воля, каб па волі хадзілі. Ён іх выпусціў на дзенніку, і козы, як хрышчаныя людзі. Лес Страліца за Варанём. Тады ж пасціць можна было ўсюдых. А цяпер казе места німа. У казы жырнае малако, алі дух не кароўі. Яны, козы, далікатныя, ім лішкі даць нельга, даю ў абрэз. Каза мяккае з'ела, а дудкі́ ня есь. Хоць каза канюшыну, можа, і есці ня будзіць, усё ж на зубах цвёрда будзіць. Каза не карова — тры яблыкі з'есь, і досыць. Бульбы начысціла, нада казе ацяробачак зробіць. Каза пе́рвачка — першым казляняткам ходзіць.

Яна недзе напытала ў Павуллі сена нейкага. Падходзіць вечар, сена яны не прывезлі, а прывезлі ноччу. Каза гэта сена ды ў хлеў, адзін ахапак, другій...

Пакуль Трахім сціх робіць, я мальца глядзела. З рабёнкам сядзець дакучна, луччы на пасту ганяць, чым з рабёнкам сядзець. Ух ты, сапе́ль малый! Ох якій бальшый: сабаку па ср.ку, свінні па калена. Казы спугаўся — ляціць нявогляддзю. Яна бяжыць за ім, ашалеўшы бяжыць, ён у лам'ё, а каза ка мне дубка́. Дагнала — у вядро рагамі, а грыбы ўсе далоў. Спужаўся казы й вяроўку кінуў.

Я яе шаную, нідзе на дождж не пускаю. Яна ня кашляіць крэпка. Дойкі — па кружцы. Яна ў мяне аказіла двойню, а сёлета аказіла чатыры ягнёнкі, дык я аднаго выгадавала, козачку. Яна ў мяне чатыры разы аказіла. Пад печчу ягнёнак прапаў, ды яна ў мяне аддоіцца, гляджу, а ў яе казялок. У белай казы віма з кулачок, як усё роўна дойная.

Ей нада каб чаго таўстога, крэпкага чаго. Дзікага бабоўніка. Аір быў, балота, з дожджу ўсё заплыло. А на восінь затапіла, недзе ўзяць травы. Казе трыццаць пудоў нада, яна ж есь і есь, як авечка, і пад ногі нада, подсціль. Каза гэта каза. Летась у мяне венікаў было, я нанасіла. Зімой як акозіцца, і венічак добра, таўстога нечага. З быльніку венік звяжу, дык ўсё дуддзё паесь, а красную лазу ня любіць каза.

Купіла парасёнка, тры рублі аддала, што зляглі. А гэта свіння даўгалытая, лыткі даўгія, лыч кверху й хрыбет востры. Свінкі адна адну заядаюць. Гадую без уцехі. Свінку накарміла, устала — дзялы-дзялы… Думала, што парасёнку даць, а тады прылюджвацца. Лета пройдзіць, ахрап'е, бацвінне нарасцець, якое сала будзіць, такое будзіць. Прывязлі й парасят, і гусей, і ўсякую рэзанку.

Прышла кýрыца, нада ж ей даць-даць, і другая стаіць, гэна ды гэнай баіцца, пяць пальцаў есь, ходзіць на гэных булдышках. Куры троху хлеба з'елі й пашлі, атсы́паліся. Адна курыца ўнадзілася пад шулой несціся. Яна ўнадзілася, кінула адзін падкла́день з-пад шулы, з-пад бярна. Пітух як увідзіць кýрыцу — лапу́-лапу за ей. Калодзеж быў на дзенніку каля хаты. Яна курыцу, як захвокчаць, у калодзеж. Многа курыцы нада, яна й утапілася.

Куркі былі, лісіца прышла й так дала дзёру! Пуцакі (пацукі) яйцы ядуць, каб на іх боль. Пітух як даў у нагу, кроў ахапкамі ліецца. Акыш! Каб табе вочы вылізлі, нячыстая сіла! Асталося курэй пяць штук. Людзі ўміраюць, а па курáх ужо бяда, куры неяк завесці, чуць завяла. Усё ж я багата, а то сусім без курэй звялася.

Індыкі малыя выгуліваюцца, яны большыя за куранят, алі далікатнейшыя. Як толькі індык ідзець, дык пітух пяець, індык ідзець на яго голас. Ідзець к яму паперад, пітух лягчэйшы, а індык цяжкій. Індык як учупіўся ў кутку, дык я яго за адну крылíну выцягнула й выкінула. Індык з індычкай так і залéтавалі ў мяне. Індыкі каля варот стаялі акалеўшы.

І кошка з сенцаў вышла — была б ей папраўка (ласунак). Нада кошцы даць любовага кусочак. Шляхоцкая дохля… Пашоў кот у сені, сціхся-сціхся й здох. Несла ката ў пляцёнцы, у торбе, у аўтобусе вязла, на гарэ дзяржала, — і дамоў сышоў! Наш кот пайшоў на здобычы.

Ішла й зашлася к варотам. Блізка не хадзіла, здáлеку паглядзела. Здалёку і зблізá. Хай будзіць корань, хай стаіць хата. Усё будзіць нейкая зачэпка… Цяпер у нашым лесі пазнаць нічога няможна, павыразана ўсё, усё дзялянкі…

Дома кажны куст гаворыць. Сядзіш у Пятроўку тут, птушкі пяюць, зара занімаецца… Балачынка нашла — кап-кап. Дождж перагоніць — ужо свéтлеіцца. Салавей яшчэ не напяяўся, гадзіна дня, а ён у алешніку падзьмуў у поўную бутэльку, пасля пачаў ліць — забулькала, пераліваіць у паветраныя келіхі…

Яны табе ўсё спалахуюць у гародзі. Аж прыходзіць на́двечар, глядзіць, што арата. Даўней пусцяць трактары, узработаюць ды ўзработаюць! У тваёй бульбы не было растоў, яна памёрзла, акалеўшы была. Грэчка любіць зямлю, гэта асобенная зямля нада. Такім дажджом усё выстыніць, і што пасеіная — замыіць, заб'ець… Папала́ бульбу, пабаранавала, глыжэўя пабіла. Цыбулі пасадзіла хвост, а тая сілу ўзяла й стала расці. Цыбуля, як тынок! Такіх расолавых цвятоў німа. На памёце (удзірванелы папар) раскусцяцца цвяты.

Дожджу німа, усё сядзіць, як у попелі, суха так. Верка пасадзіць нейкія агуркі, а яны нялітыя не растуць. Як росту німа, дык і толку німа. Усё сасмылела, уся ярына збялела, пасохла. Стаіць сеінае дабро ўсё, уніз галовы паспускала. Каб пабыў, хоць троху падняў бульбеннік, ён быў бы ві́дзен. У самую бульбу, у цвет, дажджу не было, дык яна неўмалотная.

Устала ў чатыры, віднеіцца, залачок, мне так добра. Ноч мала́я — відна-відна, дык я пагляджу-пагляджу…

Чалавек як пад'есць, дык і робіць, рукі ягоныя ня млеюць. Як робіш, уся хвароба паверх выходзіць. Трыццатку далі, а трыццатку якога мірнога піць. Якая дарагоўля!.. А я віджу ўвосні капешку, мне нехта прывёз і зваліў. Сена абжала каля ліпіны, каля варот, усё ж ахапак сена. Можа, прыедуць цяці́ўя касіць. Ужо корм старацца ўзя́ліся зара́ння.

Тры дні дожджу не было, а сягоння як начаў з паўдня, веялкай шумела-шумела ўсё. Дождж найшоў такім залопам, тучай. Хлеб парос — пліццём (пластамі) варочалі. Яблану віхор зламаў. На яе мор

напаў, пагніла. Німа ніводнага шпака, вераб'я (з-за хіміі). Дрэвы як цвітуць — пчолы звіняць. Чмель які вылеціць, дык і той не на дрэве. Ні чарніц, ні брусніц — лес звялі. Ён ад сонца сохніць. На голад, на ўсё пашло, ні агуркі не растуць. Мае ж агуркі лепшыя, мае ж доўжанькія, а гэты карослівыя. Морква дробная, як гніды.

Сход (месяца) падходзіць. Цяпер стала пагода, астанавілася, Бог даў. Як глянула — аж чорна вісіць вішняў, еданіны будзіць на дзень. Агрэст, як брусніцы, з яго й кісель смачны.

Цяпер цішыня, як ціхае лета. Дзверы адчыніла, аж залачаіць, птушкі пяюць...

Дождж, а тады сонца, валакі такія ходзюць. Мае агуркі зацвіцелі другі раз. Слівы такія — к сонцу паспелі, пакуль у Вушачу занясла — калатухай зробіліся. Там слівы ляжаць у ку́сце, як чмя́нула, дык куры дзяўбуць, як дзе найдуць. Малых гэных яблыкаў красна вісела. Бульба вырасла ў аглоблі.

Не́бы ўжо восеньскія...

Было арэхаў і грыбоў — у каго ногі ёсь. Такія кані — кабыльнікі (грыбы). На печы грыбы былі: казе́лькі, пясчаначкі беленькія, а рудыя — кабылы сушоныя. Толк ёсь у яе ў грыбах, а гэта не ў кажнага, яна іх і накалыпіць. Брусніцы паспелі — аберуч ужо йрвуць. Толькі знатка, дзе былі лесні́кі (лясныя яблыкі).

Антонаўкі ўрадзілі, яны небальшыя, алі іх сіла было. За міску чарвей (дрэнных яблыкаў) — сорак капеек!.. Пагода цёмная, як у мяшку. Як усердзілася: зарэжу к Калядам казлянят! Забілі зімовага парсюка пудоў на пятнаццаць. Ужо ла́харцікаў не з'ядуць,

як елі, парсюка забіла, авец парэзала. Аддалі коні лісіцам... Вось маё дзяло якое...

Мне трэба стулкі са два купіць, а то німа на чым сядзець. Троху я пастаю ў вочарадзі, а потым пад тыя часы й яна падойдзіць. Магазіншчыца раздобрылася, дык цэлый мяшок дала мукі. Я шэсць пакетаў прыперла — нeяк падалося (пашанцавала). Бегай глядзі, дзе спадналуску пападзецца.

А цяпер такі дзень сыры, цёмны — калядаўка. Ня змерзну, у мяне многа надзетку. Надзену якую лахаміду. Вы́худзяцца яны ўсе ў мяне (пра абутак). Каб яе шлях трапіў, як яна мне кашулю брудна памыла. Гэта таўсцё цяжка мыць. Надзелася як Сямён на Вялікдзень. Троху прыбяруся й буду, як брусьнічка. Я ж не такая й моршчаная. Каб знала, дык разгладзіла б маршчыны (гледзячы на сваё фота).

Мароз стаў, а йгрушшо вісіць. Начы́ такія, мароз два градуса, абліваха, крупы такія. Абліваха йдзець, слізгоцце. Тады ён і жарыць, гэтый вецір. Век ня думала, што снег нападзець. Яны па снягу хадзіць ня ўмеюць, пашлі каля плоту ўцэла. Мароз дзержыцца, трава крэпкая, ня мялася ніяк. Як стала ўюга, як стаў мароз! Люты заўсёды снежны. Сонца на мароз стаўбамі, стрэламі. А снягі-снягі...

Я сягоння Пецьку хацела казаць, што сягоння будуць госці: увосні сніла, што парасят заганяла. Гэта вам Бог дарогу перабег (пашанцавала). Матка цябе відзіць, як увосінь пагоду: сонца выясніцца й зноў за воблакі. Грышка — гэта ж такое крэпкае імя! Аб венік-галяк цірані ногі. Наследава́лі госці.

Бульба хлё-хлё, — думаю: а калі ж яны прыдуць? Бульбі доўга зварыцца — тут жа й гатова. І бліны

гатовы, і бульбачка зварылася, і бацвінне шэрае. Як бы рашчына была, дык на рашчыне бліны смашныя, скарынка кіслату пусціць. Січас я дзяронік паджару. Бліны, яны ўпікаюцца, а бульба не гарыць. У мяне недзе лой казліны й цяпер ляжыць два кружкі, жыр, калі пячэш, застаецъ. Лойператапляюць з алеем, тады ён застываіць. Сала ўсё раз'ехалася на ваду. Як рэзала — поўна ўкоптур было, як зжарылася, дык ні знатка.

У мяне гэна падстаноўка ёсь, што скавараду стаўляюць. Куды ўжо зглоціла? Дзе яна дзелася з начы, я ня знаю. Пайду капусты прынясу другога смаку. Качаны былі палопаліся, дык я скрышыла. Белыя-белыя, а дзе-нідзе зеленкаватыя. Смятаны пакладзі трохі, будзіць гладзейшая поліўка. Рукі карэлыя, алі хлеб к душэ пойдзіць, а пясок сам сабе. І ежа на сале стаіць, сытых карміць добра. Мне многа, я саўюся (як вып'ю).

Душы німа, другая жонка халодная. Нарэжаць хлеба, а скібачка ківаіцца, панская скібачка. Мачыха як ліець, дык сваім зпаднізу, а ягоным жыжку. Чужога рабёнка хоць маслам маслі, а ён ўсё роўна дзёгцем смярдзіць.

Кілбаса вісела б на гары (гарышчы), дык зробілася б як патарчака. Ён павесіў на гарэ. Кумпячок вісеў, скурка нацягнута, а ўсярэдзіні ўсё мышы з'елі. Во каб цябе халерыя! Так з'елі, абсмакталі, адны косці засталіся. І ў мяне бульбу, буракі ўсе з'елі. Мышы як пойдуць машыраваць!

У мяне было табе нешта расказаць, і забылася гладка. Еш ня еш, алі пасядзі каля стала. Ты кажы з канца да канца, а ты з сяродкі пачаў. Ешце, каб на

скавварадзе злось не аставалася. Усяго таўстога наелася, трывалага, мяснога, наелася як дудá. Дзякуй богу, наелася, і нехудога. Паатхадзя выпіла, і я цяпер барыня.

Сват свацццю карміў: «Хлібай-хлібай, сваццця, а то ўсё роўна сучка з'есь». Хазяйка ні адна не памёрла: калі гаспадыня з голаду памрэ, дык яе пад прыпечкам пахаваюць. Напаследку з'елі й міску абскрáбалі. Чалавек як трохі з'есь, тады не такі злы. Можа, паставіла, як сабаку сікнуць, у місцы? Там, у сталоўцы, абы-якая варка.

Яна разумная дзяўчына, а ты яе ня школь. Яна хлеб-хлеб малака. Што ты яе напаіваеш, прыганяеш (няволіш), застаўляеш? Да смаку, таму й есь, да смаку прышлося. Яна жыжачку, а ты густыш... Галава такая (у дзяўчынкі на фота), што ўжо нада сямнаццаць гадоў. А ўсё-ткі адроддзе ўшацкае. Ваша дзеўка надзяецца нялюдска, адрэчы. Нашто ты ей такую панадку даеш? Нада ж некаму быць атменным, ня ўсё ж адзінакава.

Гэта не ў хвалé — яшчэ добры малец. Ён жа прыехаў у чужыя людзі, хай думаіць. Свой на благá не пажадаіць. Як іх цяжка гадаваць адмалку.

Сягоння скупая вячэра ў нас. Чаго мы тут упацёмку сядзім — пойдзем на відную хату. Усяго будзіць, яшчэ век не зжываіш, а век пачынаіш...

Не трэба стукату нарабляць. Не крычы, нідзе я ня быў, я ў дзялах быў! Што ты надумаў выдумаць? Тлуміць мазгі — няхітры занятак. Яму гэта не ў нюх, яму гарыць. Яму дай раз у рот уліць. Ён кілбасу пашчаліпіць, дык яе ні людзям, ні свінням. З'еў і панёсся насіцца, яно пратрасецца. Невыводная была ў іх

кумпанія. Пецька з імі дружбы ня маіць. Нанач прыцягнецца пад божай воляй на дражджах. Ходзіць як баран, кішкі прысохшы. Мне стыду ня рой!

...Якая цябе кахае, ажно сэрца ў яе трасецца. ... Каб жыць з ей, — нада яна мне на жыццё! Нахадзі якую адну, а не вазі пераменных. Ты добрых баб ня найдзеш, а каб арава хвастоў было. Уля́піўся так — радачкі німа. Перад ей стрэнчыць, яму ўсё выказала, тады ўжо ўціхся. Па ім і маладзіца, а дакуль ён будзіць бегаць, такі сівец?

І яна стаі́ла, і я не сказала, і Пецька прыкрыў. Пецька малому іменне даў, малы лапушысты такі, курносы. А куды ён дзеніцца, як век зжывець? Гэта вададых — ей толькі грошы.

І Пецькава жысь — хай яе балесь зложыць... Тады троху ўцішыўся, прыехалі за́ціха. Пакуль я пасядзела, яго нідзе ня стала. Прыдзіць, маўчыць, і я маўчу ціхенька. Разам жыўшы, нялюдска гэта. Круціць яго як вяроўкі. Нада ж якую правінку (віну) знайсці. Было папікішча на цэлы век. Ён на мяне, як на свінню (якую) выганяюць на выгань, ту́каіць. Ну гэта ж ніяк прама неяк! Чалавеку паглядзець, мне самой нялюба. Змераў жысь маю... Ненавіджу жыцця прама п'яніц!

Цяпер к каму пойдзіш, у вокнах чорна, усе спяць. На скорым хапу й каша разышлася (расплылася на патэльні), зараз будзіць чай — трасецца ўжо вада. Адчыні душні́к — дым пойдзіць. Як печанька мала, пічанёўкі нясмашныя, яны духу ня маюць. Рэж драбней радыску, што ты яе як цялятам крышыш. Во гэту хустку цягнулі мышы пад печ. Устаю, хустка мая пад печчу. Табе, дэнка, дам крышыць цыбулю.

Мыць цыбулю ня трэба, тады яна вадзя́ная. Супу паставіла, касціну ўлажыла, рысу ўсыпала. А дзе салёнка? — троху пасаліць нада. Яно ж не з лапцем варылася.

Ня баўся, блін гатовы, а бульба ўжо хахочаць белымі зубамі з белай пены.

Абы былі наці́снены ў расол агуркі. Можа, грыбы цыбуляй прасмярдзелі, я іх накрыла на́глуха. Цыбулю ня еш, грыб выбір. Наварыла халаднік з буракоў, ні ён бе́лены, ні ён які́й. Ты мне троху забялі, чу́тку, паўлыжкі. Хлеб на порцыі парэзаны як на ежу. Паічку адну прасіла. Укусіў бы, — гэта ж сіла прама другая. Ждала-ждала, есці прыладзіла, адрэзала й закусіць у талерачку поўную паклала. Рана наелася сіллём (праз сілу), дык цяпер не хачу есь. Пад'еўшы, і мне бяды нет. Во пабеглі руччы, а я думала — сала скве́рыцца, а гэта чай. Бадэрку цэлую чаю выпіла. Січас дастану брусніц, а то яны ў мяне зале́тавалі. Давай хоць напаспроб майго варэння, хай хлібаюць, яго добра есці.

Ты ляжыш, цябе абыйсці неяк, нада цераз цябе жыргаць. Якога ты ка мне смердзюка прывёў? Ляпаў, стукаў, на гару лазіў, ня знаў, дзе яму дзецца. У сенях аб адно гак, аб другое гак. Да двух ночы хадзіў хамянём. Спіць, пакуль сонца ў зад не ўвапрэцца. Адве́чаркам і пойдзіць. Што ўжо ты нашчай душой пойдзіш? Ад яго ж не хаваюць, хай есь на здаро'я. Ты жыццё маё й выццё маё…

Шчавель навары з салам, ні з мясам, з ялавічынай. Там бульбіну ўкрышыш, як будзіць мяса варыцца. На зямлю (уніз) пакладзі й зверху шматам якім сала прыцісні, каб яго сівір не заядаў, кажды

шмат паасобінку. Як гавяджа мяса, дык яно крэпкае ў фаршы. Бяры галаву (свіную), клёцкі будзім варыць, а якая хамуціна каля галавы! І печані, і легані (печань, лёгкае) смачныя. Свіная галава, язык выразаны, шчокі абрэзаны, толькі дашчанікі (пашчанкі) асталіся. Бяры мяса каровіна. Навучыліся: мяккае павыразаюць, а рэбры прадаюць. Худа жыць… А во ўжо Арына скняга, што было б купіць. Тут жа й не наедак, а ўсё прывет.

Шчыпі ты яблыкі, абяры ты іх рабятам. Хоць бы напаспыткі яблычак узяў. Табе бархатныя, а мне мулатовыя яблыкі паваліліся — грапштэйн. Дала б вам кашолку, ды гэта маё самае ўручча — у лес хадзіць. Аўтобус атлажыўся на пяць мінут пазней. Трымай вуха трубкай (будзь пільны). Казала аўтобусніца, што білеты прадаюць у аўтобусе.

Прыехала Марыя Рыгораўна: «У вас узноў прыбыўкія!» Усё спраўлялася-спраўлялася, каб гэта к вам паспець. Я б усю печанёўку прыпёрла, каб знала, што яны так будуць усмак. Каб знала, хоць бы малінавых дудак прывязла (лячыцца). Апаследнія лыжы ўзяла. А не калом у куток выкінь іх з віранды.

Нашто дзеўчыну кінулі ў чужых людзя́х? Унучка, каб Бог яе гадаваў, хай расцець на памяць, на пацеху. Вочы бацькавы, а ліцо цьмянае. Накладзі рубашачку ў штаны, укладзі. Каб барані бог у пясочак ручкі ня ўторкнула. Сядзела-сядзела й урылася спаць. Ён іх бязвыхадна любіць усіх. Унучцы нада воля, як кату. Твае гады сходзяць — нада жыць.

А дзе той урадны мужчына? — куды хочаш! Красный — чы́рваный, у гады ўвабраўся. Морда такая ў яго, за калена яе цісніць. Чаму лысый? — можа, які туман з’еў валасы? (Пасля Чарнобыля.)

Валос няма, а галава як пашыта. Гавару: «Хаім (Мальцінскі) паехаў у Ізраіль». Марыя Рыгораўна: «Дзе ўсе…»

Мне школа (будынак) у вачах не відаць. Чуды расказаць, а то забудуся, з Гарбучыхі. Тут мітрэнга зробілася, як на рара́тах (на свята). Скажу я вам па душы, як мая душа жывець усярэдзіні… Рабочыя дні, святкоў німа. Святкі не гаварыла, дык аж маркотна ў хаці.

А ў Ганульчыка йграюць абжынкі.

Такі-сякі пашлапень,
А ўсё ж за ім паляпей.
Такі-сякі, абы быў,
На гарэлку б зарабіў.

У іх бал зберацца, п'юць-гуляюць. Месяцы два туманілі (пілі). Літар загнець за раз. П'юць так, што сабакі морду ліжуць. Дапрызыўнікаў праводзілі — і гойкалі, і шмойкалі, і гармонь мокніць. Ён мяне цягніць, а я не йду. Алі тарокаліся-тарокаліся, я такі не пашла. Даў ганьбу, што не пацалавала, гонар паставіў.

Прыдуць у госці — пасля ня выбавіцца.

Я садзіцца па канец столу, а яны мяне на кут. У смяхі такія, у жарты пусціўся. Хахаталі б, каб ня лопнулі. Часты́ (пачастункі) там такія былі!.. Прынясець і расчастуіць. Максіміха сядзіць — на пальцах усё ясна, у вушах ясна (у золаце). І надзецца любіць і зменна, і добра. Ёй жа будзіць столькі хварсы! У яе на кніжцы грошы да балесці. Хата кілімамі ўся ababрана.

Танцавала на таку,
Скрабанула ногцем,

Заляпіла сургучом,
Замазала дзёгцем.

Танцаваў, як дасць з усяе нагі, так шчыраваў! Адна настаўніца — з блаху, стрыжаная, малая, а сват — малады брысік і ўпры́сядку танцаваў. У кажнай песні свой голас, свой вывад (ад выводзіць ), а тут мелодыя пераваротлівая. Як выйдуць, як гакнуць песню.

Я не буду чаю піць
З разбітага чайніка.
Не абы-каго люблю,
А земскага начальніка.

Цяперашнія песні стрыманыя. Пакуль гэты песні запішаш, новыя нарастуць. Па ветру (на слых) вучацца песні спяваць. «Сястрыцы-парадніцы, парайце парадачку…» Самая дарагацэнная песня… Гэта цяжкая песня выдумалася.

Цэлы вечар угамону не было. У сяле век зжылі, век ніхто мянінаў ня робіў. Ня знаю радзін сваіх, ня знаю мянін сваіх. Кавалераў сваіх ня віджу. Раней кавалеры былі, зубы ж былі. Каторыя не кавалеры — паўміралі. Жыва старуха, капаіцца ў хаці, нічога…

Хата пад казной лічыцца. Можа, пусціць дзешавей, дык купяць хату. Салатопку ўсю ўзвярнулі, дзе кусты якія былі, а малочнік-трава парасла па калена. Усякая была зіма, і ўсяк мы жылі. Гэта мне воўк дарогу перабег, што з Полацка паперына прышла. Пячатка доўгая, як чаўнок. Як гэта жыць, каб не было выйсці куды, каб сцежкі не было каля хаты? Німа ні вераб'ёў, ні ластавак, хімія звяла. Зайцаў німа, раней як вясна — кугі-кугі. Вераб'ёў німа, пчол

німа, паела іх гэта хімія. Галкі толькі й вароны не здыхаюць. Ідзі ды жалься, калі табе нада. Ужо ж і на яе напала хіба. Ніхто майму гору не пагадаіць. Круту бяду размыкалі, каза... Усюдых я была, і рады неяк даць. Німа чаго маліцца тому богу, які на нас не глядзіць.

Вылецела з райзага й была нідзе, а цяпер уладзілася. Бензін жа не з возіра цягаюць. Вададых такая, нажылася на базі. Во гэты зімы кралі на базі! А ім даход, яны ўжо нахітрыліся, каб гэта зна́та было. Яна папервасці ўзяла спраўку. Калі яны багатыя, ім мала ўсяго, каб іх боль паела. А гэтак рубель узяла сціснула (зажыліла). Тая баба жывець у дзіцях, у горадзі. Яна жывець, а сястрака негада́на памёрла. Яна ўвесь час была на таргоўлі, усё крала, цягнула. Алі разам лоп і памёрла.

Пытаюцца ў Марыі Рыгораўны: «Пачом кілбаса?» — « Ня знаю, агулам купляла». Там паздраствазаліся із ёй. Гавары-гавары й разгаварыліся мы пра Іллючыху. Яна пад гадамі (у гадах). Сталі гаварыць аб малако, аб усё. Размовы заспінныя... Каровы нашы дружаць, а мы з бабай ніяк. У мяне з Волькай не выходзіць гаворка. А яна ўсё на мае вочы навіралася. Выліла на мяне ўсе памыйныя словы. Пашло чарадом — доўг за доўг. Хай жывець, хоць ей канца ня будзіць.

У нас тут адну Электрычкай завуць; як дзе ток праходзіць, яна биваіць. Як ток скрозь праходзіць, дзе хаўтуры, дзе імяніны, корам якій, дык яна й корму прывязець. Бацька вадзіў-вадзіў рабёнка, алі-ткі кінуў і паехаў. Хату яе мужык выляпіў із гліны. Баба культурная — Электрычка, яна абы з кім ня будзіць

ні піць, ні курыць. Тут яна жывець, дзе магазін казённы, зялезны.

Гляджу: грошы жма́чка ляжыць. Я бягом, горб ушчаміўшы. Усе гніды падохлі — страх перапудзіліся. Як нет вораху (страху) — усё добра, нішто не варухнецца. Не вінуйце мяне... Ні я ўпіла, ні я ўела, ні добрага знасіла.

Дзевак замуж аддаюць целных — тры месяцы пабудуць і ацеляцца.

Печка топіцца, дыміцца,
Дзеўцы хочацца жаніцца.
Дзеўка плачаць і равець —
Ніхто замуж не бярэць.

Будуць робіць даччыно вяселле.

Загарэўся куль саломы,
Толькі пыхаіть агонь.
Закрутала дзеўка замуж —
Толькі топаіць нагой.

І Барткевічашка ладзіцца замуж. Каб чалавек быў ду́шны (з душой хінуўся). Усе маладыя хочуць салодкага.

А зямелька-чарназём,
Мы гнаёчку падвязём.
А як нарасцець бацвінніка,
Як у дзеўчатак шарсцінніка.

Дзеўку вязуць — іскрыпкі йграюць, удоўку вязуць — дзеткі плачуць.

Работаіць у спіце нейкім, у сталярцы, усё ня лыкам таргуіць. Узяў жонку, дзе ў бацькі склад, дык у яго пуза расцець. Якая ў яе была заработка: яна зубы круціць, а ён устаўляіць. А я ўчора сказала: дурань дачка, што на вяселля клікала такога бацьк-

ку. Яшчэ розум рабяцкі. Ацерпіцца й будзіць неяк. Улажу розум ей у галаву.

Хадора была дзеўкай, Сяргей к ей падкраўся, і дзеўка нарадзілася. Узяў яе, і нажыў двух рабят. Дзеці сядзяць лупатыя, з-за печкі торк-торк галовы. І Санчышын малец іграў вяселля. Браў зятняй жонкі дачку. А можа, у яе была на вéдаме якая нявестка. Ён узяў яе з малым, яна прыводная была. Радзіўся без пары, у яго была галава як налітая, пакуль набраўся цела. Рабёнак яшчэ ня выхаджаны, малы, вада вадой, і смярдзіць. Узяў варэння ложку ўлажыў, вот і вада долу. Дзеўка тавар такій — не мужчына: хата бальшая, дыхаць некалі, яе нада тапіць і раннем, і вечарам, халодная хата. Яна баба нягідкая, як конь робіць.

Баба, як ракіта, прыжывушчая, і ў балота пасадзюць — будзіць расці.

Да яе нейкі бахар ходзіць, ён ў Бярозаўцы ў ваенных нейкім падмятайлам. Находчыватая дзеўка, выкруціцца. Як з ей жыць — рамы адны, адзетка такая з нітак, наратоў навешаіць і носіць. Ня трэба ей пятачок за слова плаціць, сама нойдзіць. Яна ня шыш-варона, а хру-хру... Усё тая баба зможыць, якая свой х.й сцярожыць.

Мой мілёначак вісок,
Аж на ветру гнецца.
Прывяжу на канюшыну —
Няхай адпасецца.

Яна ў адной меры — не таўсцеіць, не худзеіць. Заіклівая Жэнька. Ты б на гэту паглядзеў: і ср.ка й рот гаворяць. Тожа мужыка падбіла сабе. Ён нейкі быў камуніст... Дзяўчыну зробіў, ён у акулярах

хадзіў, дык і яе звалі чатырохвокая. А дзяўчынка такая разявáчка спрытненькая. Лоб у яго няморшчаны — яму гадоў сорак. Ён заíклівы, алі нічога. І як яна з ім спазналася? Такі нейкі прыезджы прахадзім. Той усё-ткі рыскавей быў. Той хадовы зяць, той быстрэйшы.

А той жа, з нашэўкамі, вядома ж, палкоўнік. Яна была тулінькі-тулінькі, а пасля падняла свае шатыматы. Ты яго з'ела, ты яго згорліла... Мне ж Арына пад сакрэт расказваіць: галасам галасіла, а ён на самалёт — і паехаў.

А чаго ж ты, чаго ж
Кепачку накінуў?
На каго ж, на каго ж
Ты мяне пакінуў?

Ці нашоў ён сабе прытулак? Яна няласкавая была на яго. Век зжыла й не засмяялася.

З неба зорачка упала
І растала пад мастом.
Уся любосць мая прапала
У сабакі пад хвастом.

Яна зграблася й паехала на цаліну. А ў яе дзеўка на холадзе (на Поўначы) недзе жывець. Ён хадовы такі чалавек, не дурны. Яго жонка вазьмі ды памёрла, ён па старой знакомасці ўзяў шляхцянку з Вýрады.

Гэта баба прыхадзіла ка мне ў валачобнікі. Мужык у яе старэй, такі жмундзяк, усё па складах. А дзядзька ў Ліпаўцы тожа не прамáха. А цяпер чым яму худа? — ад ваеннага жонку ўзяў... Радзіўся ў іх рабёнак — які, чый? Моўчкам-моўчкам-маўчаком...

Мужык быў на сплаву́, дык утапіўся. Як звязалася з разводжаным, прычапіўся, ну хоць ты задавіся. Яна яго подручкі вядзець, дзе руччэй, ідзець. Яна прыдзіць і рабянят прывядзець. І прышлі яны ўпяціх, і ўсе пры рабоці. Вотачкая (маленькая дзяўчынка), гэта большанькая, а ёсць зусім ма́ленечкая. Жывіце, пакуль жывяце, нажывіцё ў дзецях.

Бабка, ты ж абкрыйся, а то пазябнеш. Пхай ей, а сама хадзі рындай. На бульбя́нцы (сушыльным заводзе) стала робіць. Як укусіць свая вошына за галаву, усё будзе ўмець. А як жывець у бацькі-маткі за плячамі, тады нічога ня рада. Вылуплівакам (моднікам) толькі не ўгадзілі, а ёй ўсё добра. А вот глядзі ты, смярдзючка якая. А нявестка яе куды там якая ладная. Як яе сталі роды брацць, а ён вучыўся ў Магілёві. Адмалкі, як жаніліся, к свякрові дачку не пускаіць. Яна летась і сёлета лета — каб вочы паказала.

Ушацкія прозвішчы: Ключонак, Бервянёнак, Хамёнак, Кірпічонак... Перарабіў фамілію, перакрывіў... Мужык падшлёпнаваты, няўзглядны, алі дужа слу́шны. І дровы сячэць, і арэць, што яна скажаць. Ён і рамы абсадзіў, і гарод абгарадзіў. Ён такі работнік — ад душы ўсё робіць. Да работы — агонь. Такі старык старэнны. А Мікіта — вечны паднявольнік, і на рабоце, і дома. Цэлую вясёнку цягаў сучча.

У нас быў Аляксей-нямтур: як е, так і вуе. Ён цясляр быў рукаты. Стаіць глядзіць усімі вачамі, пільнуіць па гаворцы — ці закончана размова... Жонка памёрла, а ён хату запісаў на дачку, дык ні адна баба ня йдзець. Ён у саўхозі робіць, такій добрый, такій

ладный. Пакуль ён парамантаваў, дык зробіўся адвячорак. Ён пры рабоці, яблыкі ціскаіць... Ён такій знаходчыватый, ён сам сабе дабываіць усё.

Селі за стол вячэраць. Нічога мужчына, вісокій і карова ў яго ёсь, і свіння. Сеў, асеўся — нагу адставіў. У яго ўжо такое злажэнне, косць такая. Троху паходзіць — заса́паецца-засапаецца, ён і жырэіць, косць разрастаіцца, ён і ня можаць хадзіць. Сядзіць з ім упаплеч баба.

На рыбу йдзець і з рыбы йдзець, але ўсё ж быў на возіры. Ішоў да Баб'і гары, а там воўк з ім спаткаўся, воўк вёў і вёў ад Баб'і гары й назад. Ваўка спужаўся, ня то што чалавека. Мар'я, дурань ты, ты ня ведаеш, я з чалавекам спаткаўся, Дамэнта гарадскі (з в. Гарадок). Што табе — медаль за гэта вырабляць?

Як якая капейка — прап'ець, есці абы-як, абы наліцца. Гарэлка пасі́ліла ўсё. Як пуп ссінеіць, абы напіцца. Усе платы мордай пазбіваў. Яму мазгі й выпетрыла. Ходзіць гразны як аралля, неяк яму сарочку на плечы ўздзець. Штаны парваныя — усё начыння баўталася. Галава на паўлітра ўссаджана. Ад Каляд да Каляд у лазню ня ходзіць. Кофту ўспёрлі старую яму, і цяпер як сабаку ў карытцы (абы-як). К яму збіраюцца як якія наўры. Яны ўсе наезджыя, налля якое. Калі ўжо суп з чышчанай бульбы, дык прама ахапкамі ядуць, як іхнія шчокі трываюць, хапаюць. Хочуць, каб ня робіць і каб грошы ахопкамі былі.

Тады я вышла, зашла яму наперад, стаяў ён, баўтаўся-баўтаўся й пашоў, ківаючыся. Пад корч галавой даўся б — і ўсё яму. Як святый дзень — ходзіць у рыззі. А то толькі звягу робіць. У гэнай шапцы яго

й козы знаюць. А куды ён болі дзеніцца, дажыўся — ні пад бок, ні пад галаву. Як сойдуць калом (нанішто), і нічому места німа. Тады як надзеўся, дык на чалавека пахож.

Ён з Селішча, кінуў жонку з траімі дзіцямі, прыстаў к бабі ў Вушачы. Сыны ў Полацку абадва жывуць. Калі яна памёрла, хто яе ведаіць, астаўся адзін. Хацеў жаніцца, тут баба хадзіла-хадзіла: «Табе аднаму жыць дрэнна...» Баба ў Воўчы прысваілася к яму: «Я твая баба...» Такая баба чорная ёсь, Шашок завуць, такая яна язычлівая, каменданту выкажаць.

Ён знаіць, што будуць абжыначкі, нап'ёмся гарэлачкі. Болі чурак бярозавых (у «экстру»), каб гарэла й паліла й за сэрца брала. Апёнак лыткі заплёў (напіўся). А ён бровінай у вакно стукнуўся. Ён як п'ець — уважаецца, баіцца. Кварцірантка ня будзь дурань, напісала пісьмо. А яна ня будзіць яму ўважаць ... Утарабаніўся й лёг спаць. Яна ж і табе не падасцца. Яна будзіць яго як чорта на вілах насіць.

Ён нагледзіў, дзе добрая якая капуста, тую й краў. Праз строп сала ўкрадуць, салому разграбуць. Ні стуку, ні груку, прама ціхім кра́дкам. Хочуць усё дармавізны, дзе ўдасца, а дзе й не. Усе некуды ўцёрліся, іхнае пароддзя такое, усе надта разумныя... Цяпер так робяць, каб і заўтра работа была.

У Лабаніхі нядаўна ўкралі ўсё. Алі ж нада — вакно выдраць! Па што ты, воўча, ідзеш? — па апошняе. Воўчы след, авечый след... Дзве трускі — у адной сем, у другой восем трусянят, курачкі на яечках, парасё за 75 рублёў, бульбу ад суседкі — і ўсё спалілі. Тынянку ледзь вадой адбаранілі ад агню... Здала карову, прышлі: «Давай, баба, грошы!» Яна,

Натася, яе шчаўчком заб'еш. Зарэзалі бабу ў хаці белым днём. Ня дай бог такіх смерцяў… Як жонку зарэзаў — псіх стаў, — ну, прыставіўся. Як памрэ, дык нідзе прытону німа, а ён ўзяў ды памёр.

Адзін з Занавіння пяць разоў тапіўся. Во як было — чу́ды! Гогаль быў за судом, а ён задавіўся. Нада хату перапісаць, нада сведку. Ні Светкі яму ня нада, ніхто… Вусцінішкі засталіся дзве ў Полацку. Цераз каптур вяроўку прывязаў і каля дзвярэй задавіўся…

Зэк любіў рукі даўгія — вёз адусюль, цягнуў. Яны даследавалі й разаблачылі, яму — мяшалкай. Следства кончылася, і ніхто ня выказаў. Не злавіў, не кажы, што злодзій.

У Мосара яго перавялі, жонка шляхцянка, прайдоха. Сорак вянкоў было паложана чалавеку. Ён мне ў памяць удаўся. У яе грошы былі, і людзі відзілі, што яна каля сярэдзіны насіла іх. Ён жа вазіў карчоў — начальнікаў.

Перавялі яго ў Віцебск, павы́шалі, яна баба пры сіле, а ён стаў слабець. Ён яго нечым абабідзіў. Нешта ён перад ім перахітрыў. Гэта нехта сылгаў. На базары й бык доіцца й целіцца, і пітух з яйцом. Ён ім угразіўся нечым. Так ён яму ўбядзіўся, указаўся (уеўся).

Прывык да загадаў, як лозунг да клічнікаў, і да вымоў, быццам дзед да гарчычнікаў. Сягоння паехаў у Віцебск на нейкі наганяй, яму дадуць. Жыўжыў, робіў-робіў, а цяпер куды ні пойдзіць, а яму па хвасту.

Прывёз жонку — у жорны малоць. Бедна жыў, дзевак многа, мальцаў, зямлю барля́лі. Трошкі нама-

жуць на хлеб, пацілінкаюць. Баба па беднасці хадзіла. Яна ходзіць на бойню, то галаву дадуць, то мяса кавалак. Людзі не ядуць рысу, бо ў іх недахватаіць. А калі чалавек абяднеіць, няхай ціснецца к лесу ці к возіру, у лесі лыка надзярэць, у возіры рыбіну зловіць і неяк пераб'ецца. Багаты на грашах, а бедны на выдумках. Беднаму ўсюдых бедна.

Як матка рабяччa змёрзла: ён думаў, што яна носіцца на вяселлі, а яна вышла на дзяннік і прымёрзла. Выйдуць дзеткі на ваколіцу: «Мама, калі прыдзеш, мам!..» Не чапай ліха, няхай яно пакоіцца. Пяцера дзяцей, і думай, як жыць. Мальцы ладныя, яны пад дысцыплінай. Цяпер рабят кра́дуць, ня ўсе людзі добрыя, ёсь і жулікі, нада так, нада гэтак…

Гэнан малец — атарві галава. Зробіў рагатку й з камяня́ забіў галку. Пальцам па руцэ трым (шчоўк) і ходу. Як у яе малец развіўся, ён такій дуроный. Хоць дысцыпліну яму трохі далі. Вады баіцца, ратунку крычыць, яна яго ўзяла й сіллём у ваду ўкінула. Яму перапалох страшны зробіўся рапто́ўны. Парэзаў вены — пальцы зрабіліся карчакамі, ня гнуцца. Падаб'ецца пад дзерава й спіць, паганый малец, гу́льбай.

Перавянчалі гэту цэркву, перасвянцілі па-свойму баптысты.

Забрала ж мацамэнды (спадкі, вархопкі), якія ў яе былі, і пашла к другому. Хату падзялілі, усё жонцы прышлося, так схітрыліся. Тады яна шварнула яму тры капейкі. Ці ты чалавек, ці ты баба? Прадала ўсё мамэнтам за нядзелю й выехала. Яна паехала як стаіць, ня ў сілах была ўсё забраць. Прышла Валля на ат'язджаны. Адрасу ўзналіся. Ён там, дзе

Сібір і мора, дзе халодна дужа. Вольчачка, уставай, ты ня ведаеш, хто мы цяпер ёсь… Усё ей мінулася, Багдановічысе.

Заметна так, што ня жонка, а падбочніца. Няхай ватовікі шлець палюбоўніца. Два сыны едуць на холад, у Цюмень. Яны, як цыганы, адзін за адзін чапляюцца. Едзь, друзá такая (мяса раздрузлае). Хадорына залоўчына дачка прыехала. Панок, да Москвы вылезуць мозгі.

Чужыя слёзы недзе ўпруцца ей у бок, паб'юць белкамень, паб'юць і лозы. Тады ж Ромка ладная была, а цяпер нялюдская стала. Падасць праз вакно нейкі пірог калючы. Прыпрэць з бальніцы кашы нáвалаку, торбу сухароў. А цяпер з капейкі жыве. Зграблася й пашла, ей стыдна. Багдановічыха ў мясную краму ўсадзілася-ўбілася.

Яна сюды не захадзяся пашла. Плач па свінні развяла, свіння здохла. Як стала жаліцца, як стала плакаць. Ён яе падсмяяў, чаго яна йдзець. Слёзы пускала, а яны пасля хахаталі; хай бы маўчала проці людзей. Фенька, у яе капейка рабром гладка не бываіць. Як вывіла нітку — таўсцей за палена. Дзверы травіной закрыты. Там есці мала, недахваткі.

Яна ня выжыла з розуму, яна апанела. Нібыццам на работу йдзець, а пасля сойдзіць, і яе німа. А яна так дажыла — ад бальніцы выжалі (звольнілі), ад свіней выжалі. Яны ўжо век зжываюць… Бязменам забіла на печы п'янага, доўга ляжаў пад сенніком, пакуль абдумала, як зробіць. Так яны ўсе і зжыліся, так яны ўсе й прапалі.

Далі тэлеграму, што Віця ўтапіўся, вада недзе бальшая й быстрая. Там сцяпы́ гэтыя бясплатныя, і

паша, і корам. Сыны на хаўтурах абабілі яе. Яна яму рубашку парвала, а ён ей морду абабіў. Яна як стала крычаць, як стала галасіць, як бразнула аб зе́млю.

Іван зробіўся таўстый, ня любіць, калі хто к яму прыходзіць. Я яго прала́ю, ён жа з маёй цешчай запісаны, яму стыдна, нялоўка. А ўжо жонка кляла, жонка выклінала, не адну свечку ў царкве паламала. А ён пасівеў, гладка апірх (апурх). Хварэў-хварэў, алі выхадзіўся, а ёсь — не выхажываюцца… Яна як ліванула ў вочы, і вочы ў яго, і трава згарэла, і падаконнік. Чума іх ведаіць, чаго завяліся?

Зберагá, як у канаве Хрушчоў, ляжыць (паслізнуўшыся). Мыла-мыла, павесіла, усё звалілася, па пяску пацягалася. Тэкля ўсюдых крала, і з плоту, дзе якое пашытае вісіць. Яна гэтым часам за грошы й проздзверы. Аддасць ей чужыя слёзы Бог. К ей мала хто хадзіў, а яна баба жарлівая. Яна й старая, а памаладзілася.

Каля возіра адгалоскі йдуць, бліжэй, бліжэй, і саўсім недалёка — з сосніка міліцыя. Міліцыянер падгледзіў па кустах, і выгналі іх. Шофер як даў па машыні — толькі відзілі. Тады адно ранне я пашла ў шчавель, а міліцыя прыяджаіць: у Кагалёнчыхі трусоў пакралі. Шарыў-шарыў, у каго ёсь трусы, тады дапытаўся. Узяла трусянят свіснула сем штук і занясла зэкам. Міліцыянер за Надзю, а яна: «Гэта маё…» Цяпер ходзіць на завод алляны́ на работу (адрабляе).

Спачатку нарадзіўся злодзя, потым п'яніца, карчомнік, а потым ужо чэсны чалавек.

Яна ў бальніцы раздзявалкай работаіць. Як пачала матку біць, як пачало ўсё звінець, усё валіцца.

І мацюга перавярнула. Совісць яе пабіла. Яна шла на дзяннік, такая п'яніца несувіру́тная. Што ў яго было за ўруčча — яна ку́лем паляцела. Тады за паганялку сваю — паляцела нявогляддзю. Крычыць, аж се́даіцца. Маўчы, як цень, зміласцівіцца. Алі й ён яе дубасіць, што ты! Адзін раз качаргой даў, ашалеў. Бяз крыку ні кроку. На твары зала́піны. Як даў у вакно, рама зазвінела.

Ноч пабыў, прыехаў карчаком, мёрзлы, хадзіўхадзіў і сышоў. Найдзецца нехаця́ (некалі). Нап'ецца, у клуб пойдзіць, паб'ецца-пераб'ецца. Як паваліцца, траханецца ў яго ўсё ўсярэдзіні. Я табе штурхну, сівак! Ён яго, здаецца, кінуў мякка, а яму чуваць. Думала, усё вантроб'я лопніць. Выпіў, тады тарадэіць абы-што. Калі яму затоп (канец) зробіцца, замоўкне? Цяпер моладзь столькі не ўжываіць, як даўней. Маладыя ўжо пакорчыліся (паўміралі). А ты роб, дохля цябе бяры!

А Спірыдовічыха гэта ходзіць як селядоўка (бочка), ногі таўстыя — па жыдзянёнку... Недалужны быў такі карапунька. Слабы хадун, алі пацягнуўся ў грыбы. Яму бягучым неяк, яму сядзячым робіць нада. Такі нямоглік, што ў яго ўжо даўно ў ср.ку піць пашоў. Жывець сам сабой ціхенька. Яна б яго глядзела як на́ймітка. Наймітка жывець, і то яна гаспадару шчырыцца, і то яна нейкі ў хаці чалавек.

Нячым бабыля ў хату пусціць, лепі барану на куце паставіць. На барану хуць атнімку (анучку) павешаіш. І ўзяць некага, Нікіфар — ён нядужый. Нікіпара ты знаў — у астарэлыя аддалі. Яны Несцера здалі ў астарэлы дом.

Яна сама белая, а дачка чорная — армянінка. За армянінам замужам. Як было землетрасенне, дык думала, што ён затросся й аліментаў ня будзіць. Заваліся хата, як тут выберашся. У нас такога пароддзя нет, у рускіх людзей. Людзі роўныя — цыганы й рускія, толькі масць у іх розная. Цыган — галава чубатая. Калі Хрыста распіналі, цыган сказаў, што ён у адну руку цвік уваб'е, а ён авадня пасадзіў.

Сяло, усе дома, калатухі якой пад'ядуць, а тады як завядуцца біцца. Прасіння жывая была, Нюшка яшчэ... Як радзіўся, так і пачаў красці ўсюдых... Тут з некім ажанілася, сыйшлася, жывець у Зябках... Дзверы расчынены на́пята... Іду й гляджу на Васількову хату, і Нінка жыла, і Насця жыла. Анька жывая, хараша. Малец у яе ягоный. Спраста́-спраста ўсё зробілася, гора... Ужо Пакроў на дварэ, што вы хочаце, сын ажаніўся, дачка вышла замуж, усе ад яе адыйшліся. Надзькіна дачка разашлася. Сэрца яго завалілася, ён памёр зразу...

Хат болей, чым людзей. Многія быльнікам зараслі. Дзверы ў нас рашчынены, смехам зачынены... А што там за се́ды, за паседжанне? Я папіраюся кійком, так надзейней.

Бабы панапіваліся. Ермачыха накрала гарэлкі й дамоў несла, а зэчыха ўгледзіла. Лабань ішоў дамоў з дзяжурства, заваліўся й памёр. Рады неяк даць, так бабы п'юць... Цвяцінскі жа не памёр, ён задавіўся. К дзвярам перакінуў вяроўчыну й задавіўся... У Старынцы такое кладбішча вясёлае, рака цячэ ўнізі, луг, хоць ты там жыць збірайся...

Думаецца, што век вяком адна...

З зімы аднялася ў яе рука й нага. Дачка пілнуіць яе. Стала нагамі перадзві́гаваць. Баіцца, каб нам ейная часць не асталася. Яна дужа псіхатая, каб яна не была псіхаватая, дык яна б болей пажыла. Памыла яна адзежу, адзежа ў яе ладная, павесіла ў дзенніку, а індыкі на адзежу нагадзілі…

Віжу ўвосні: стукаіць мне нехта ў вакно, — мусіць, мая цешча хварэіць… Старасць іх забрала. Старая з кульбай у Наваселлі — 182 гады! Дзяржуся, трываю неяк. Зачапілася за палку, яна не пасунулася ўперад, а стоць стала. А мяне зразу як узяла свербата. Як узлезла на палок, як папалілася, абмылася, абдалася… Галава як забірацца — шум-шум. Возьмецца жыватoк гудзець: гу-гу. Як я адна, дык яна мне на вы́гадзе станавіцца (прыдасца).

Хто ня бачыў гора, той не спачуваіць.

Мне сярэдзіна як зробіцца калком. Усярэдзіне патáіцца, а пасля наверх лезе хвароба. Як вып'ю цытрамон, мне тады відна й у вачах, і ў галаве. Яны мне ў грудзях нажом стаяць. Хвароба як упя́кшыцца. Ногі мае яшчэ хадзілі, а тады як забілася. Варочацца стала, як стаў варочаць урач. Ён мяне вадзіў, хадзіць вучыў. Не ўмеўшы — не пойдзіш. Прыехалі ўрачы — цэлы таўбун. Я ўжо на кавёлах хаджу. Спіна не баліць, алі выраўнавацца не магу. Класціся мне нада бокам. Як із палкай — хаджу роўна, а так уніз мяне гнець. Я яшчэ на 80 гадоў не адчуваю, я яшчэ сілу маю.

Пакуль жывы, дык жывы, а хто яго ведаіць, як будзіць. Ты мышку (мышцу) нейкую застудзіла. Нейкая жыліна ў цябе скрывілася. Ты доктару нажалься… У дачкі баліць, дзе дзеці заводзяцца…

Гляджу — старая шапортаецца. Каровы біліся, яна разганяла, дык яе стапталі. Жыллё перарэзана. Жыліна ўцякла аж за локаць, яе трэба лавіць, кроў сыйшла, яна ўжо халодная... Каб гэтак ток даў, дык і не жыла б, і вочы папуляліся б. У яе жывыя пальцы, балесь яе не бярэць, не адрэзала. Тарканіха плечы разбіла, лечылі ў бальніцы. Сядзіць як лайба, я здаравей за яе. Жывая, ходзіць як карчак. А мая во якая дэрбіна старая. Лабоха такая, яе к Новаму году выпісалі.

Тэкля саўсім ужо абнядужала. У камок з'ехала, дык яе адкалолі ўколамі. Япончыха ўжо з палкай ходзіць, крыллі апусціла. Ей пяць гадоў жыцця. Яна хра́брыцца, а віджу я па ей — сла́бый чалавек. Хаця не хаця нада есці. Цяпер яна прыслабела. А гэта хвароба, яна ў крыві ў іх, яна не набіраецца (не заразная), яна маладзіком (толькі пачалася). Склыгала-склыгала зубамі — стаяць. Пусцілі па́галаску, што будуць пяць баб забіраць на лячэнне.

Надзей нет — мозг пабітый (аварыя). Бядняк, ён так і загнуўся. Дарога была размыліна, трактарам перацягнула. Лоб яе зжыўся, і рука наладзілася пасля аварый. Калі не памарозіў косці, шпік, тады ногі атойдуць.

Стары памялом курыць (абкурвае), бо сурочылі. Ён забалеваты такі. Ён хварэў хадзя́чы. Алі дзед астарэў, уміраць ужо збіраецца, мох па ім парос нейкі. Адпраўляюць у прыстарэлы дом ці ў інваліды. Во прывязаў бы палку (калі б памёр).

Як чалавек к смерці збіраецца, ён вачамі ня цяпаіць, яго вочы павалакай занясло. Не маня́ся памёрла, заўчора схавалі яе, бабу. Аж хвароба іх пасціскала

(памерлі). Смерць — яна не па выбару прыдзіць, не па чаргу. Смерць, як п'яны мужык, прычэпіцца, знойдзіць прычыну.

З Богам ня біцца, жывеш-жывеш ды хлёп! Як бы ні было, алі ўсе спім пад небам пад ціхім.

Богу вераць абы-як, а Бог не бяз ног. Як гэта дажываць на свеці?

Чорны, страшны ляжаў, апухлы, абвіслы. І слёзы пацяклі, так жа плакаць не любіў... Магілка ўтаптаная, і знаку на ей нет. Кладуся спаць, як уміраць. Цяпер жыць было добра, алі нарвалася халера. Памру, думаю, дык гэта рыззё ўсё папаляць. Дастае з ямы мяса: «Яма якая людская, некаму астанецца»... Гэта й на смерць абуць, там цёпла будзіць хадзіць. Уміраць калі-нікалі трэба... Сёлета пад вясну скажу «досыць». Як станіць грукаць па труне й пясок і каменне, я ж буду чуць, як памру. Ужо так надаела жыць, і такая дарагоўля. Людзі цяпер мітаюцца, ня знаюць, дзе дзецца.

Гэту зіму да вясны яны дажывуць, людзі. У каждага сваё ёсь цяпер. На тое й зямлю далі, каб насадзілі чаго, а то паны сядзяць у казённых хатах, німа нічога ў іх.

Ты жыві, як панімаіш сам сабой. А ў нас ўсе параз'язджаліся, усе парасхадзіліся, усё чужое скрозь. Я ўжо памру, гэтага кіпа ня ўвіжу, гэта ўжо пасля мяне будзіць.

Вайны ня будзіць, алі будзіць такі мясёж, што ўсё!

Зямля вяліка, а дзецца недзе...

*Пётр Аляксандравіч ТРАФІМАЎ*
*(г. п. Ушача)*

Гугалешнікі былі, туды кароў пасцілі. Раслі грыбы чорныя, мачонікі, па ельніку. Гэта мясціна называлася Зады, на гэтым баку Чорнага рова.

Цыбуля прапала, адзін маток. Калі бачыш чарку, дык і цыбуля мяса. Расказвае: «Дзед, пірог пякуць, ці дадуць нам?» — «Дзе там, наша справа толькі ляды драць». У нітку выцягнуся, алі зраблю.

У балахоне ад дажджу лазіць. Паехала жонка ў Полацк, варыў парасяці бульбу, у акулярах, нягалены…

Доўга чапурыўся, у капелюшы, пад гальштучкам, — такія звычайна пры штабах.

*Жыхары в. Забораўна*

Вечарам у райком сабралі, старшыні без сямей, адступаюць самі. Мы на коні й паехалі…

Стог на тым месцы, дзе тады расстрэльвалі. Вывелі бацькоў і сына. Маці сына пад сябе: страляй разам! Так і зратаваўся, а бацькоў забілі.

Вы хоць на скамейку прыхініцеся. Кусток жасміну пасадзіла, тут чалавек сем ляжыць у гародзі. Партызаны раптам з лесу як рýхнулі… Прыехалі партызаны (туды, дзе ваявалі): «Гэта ж ня той лес!» — «Дык вы ж забыліся, што новы лес вырас».

Ногі баляць, мучаюся з нагамі, адслужылі ногі…

*Жыхары в. Гразь*

Вецярок такі ўжо калючы. Скора сібірскія маставікі (маразы) прыдуць. Месяцаў на пяць дарога. Гарачыя гады вырабатаў. Гадоў шасцярню таму

назад. Чалавек грузны, а каля пчол хаданіны многа. Я рана есці не магу, не хачу, пакуль вы́хаджуся.

Я ж спаткаўся з людзьмі, Дамэнта з Гаравых, а Тарэнта багат — тры катлы калатухі ў яго заўсягды на загнеце варыцца... Такі жмундзяк-жмундзіла. А родні (сямейнікі) гэты сядзяць каля печы. Ён знаіць, дзе ста́чыць і як (канцы звесці).

Возера Баравёнак ля Забораўна, адзінае возера, дзе яшчэ ракі ёсць. Сухія акуні — возера, дзе многа зброі на дне.

Агуновіч пытаецца ў Мікалая Мікалаевіча, ці ёсць нямецкія крыжы ў лузе: «У нас іх быць ня можа, бо немцы тут доўга не папасаваліся».

*Ганна Рыгораўна БЫКАВА*
*(в. Ваўчо)*

Зжылася ўжо... Зямля роўная, не нада на горы гэтыя ўзлязаць (пераехала жыць да дачкі Валянціны). А тут другі свет. І вяселле перабыла Колева, усё было добра.

Як я першы раз ішла замуж, было мне 23 гады...

Ці здаровенек Міколка?

*Валянціна Уладзіміраўна БЫКАВА*
*(в. Ваўчо)*

Мама ў Завулку нарадзілася, бацька ў Бычках. Спалі на палацях на сені. Матка была добрая, ветлая. Маці звала бацьку Ладзімір.

Мама цестам аблепіць, абмажаць дзюравы кацёл, і можна варыць. Кацёл пабяляны (паліваны). Стаўбун насоліць грыбоў. Я салёных не падабала. Васіль любіў яечню. У Васіля самая норма — паў-

чарачкі. Ён адмáлі неразгаворлівы. А бацька любіў пагаварыць… І свіней, і кароў, і авец пасцілі. Мой брат, быкаўскі, бедны, гараваў… «Калхознікі, тарбешнікік йдуць!» — не любілі ў Польшчы ўсходнікаў.

Танцы: маладыя аж у ляпёшку біліся. У нядзелю ўжо збілася — не танцавала ўжо.

У Селішчах, у касцёлі, у кляштары, быў дзетдом. Возіра Любаўна, возіра такое затоністае, як балота.

У партызаны бралі сілком, хто хацеў, хто не хацеў, па 15 — 16 гадоў. Мясцовыя партызаны хаваліся ў кустах. Як зайцы — з аднаго куста ў другі. А немцы, — ён ў хлеў, яго матка гноем засыпала… Абышлі ўсе лясы — і Красны бор, і Вухвіцкі бор — і не найшлі нікога.

Прапанавалі кароў гнаць з Усходняй Прусіі. Тры дзяўчыны ўзахвоціліся. Абуць нечага, лапцікі й нейкае пальцявёнка. Польскія салдаты даглядалі кароў, тры месяцы стаялі. Сталі гнаць — 160 галоў, 8 дзяўчат. Пазапускалі каровы на 2 сіські, на 3 сіські. А дажджы як на тую халеру. Прыгналі палавіну. Да апошняга абяцалі (карову даць). Намецілі сабе адну цялушачку (усіх ссала кароў). Райком, райвыканком забараніў узяць. «Вам працадні камандзіровачныя…»

Калі гналі кароў з Прусіі, у адным маёнтку танцы. Салдаты маладзенькія, нашых восем дзяўчатак. Стаяць купкамі, абадраныя, галодныя. А полькі расфранчоныя. Салдаты ўсе да іх. А мы стаім. Да нашых каб хто, адзін нейкі падышоў, нешта мыркнуў і назад. Стаім як на гарачай патэльні. А тут адна як загалосіць, што па нябожчыку. І мы ўсе прозлзверы…

Вырабатавала й пенсію, і гады свае вырабатавала. Зайздросцяць, што добра жыву, мужык у мяне ня п'ець. Дзяннік свой каля хаты абгарадзіў. Трывале́йшы, калі робіць нешта. У гародзі сама пару́ся памалу. Бульба згарэла, і яе трава заела. Мушкаты ў мяне растуць, цвітуць на ўсю хату, цвіціць цвет за цвятом! Сінічка пладзілася, на ўгле, вывіла дзяцюнышаў, кошка агледзела. Дык яна сабрала дзяцёнышаў і гняздзечка — усярэдзіні ў трубе. Дзеці рукамі паралі, і яна тады адраклася…

Цялушка ўпарадкавала, збыла. Свойсклівыя куры. І пад ногі тады ляцяць, я іх туру́, ганю. Чорненькія, як галавешачкі, кураняткі, а як сталі абрастаць — шэранькія сталі. А колькі мяне Шурка вытрудзіў!

У вёсцы сабак ёсць. Вэрхал як падымуць. У некаторых сабакі папрывязаныя, сабачаняты. Сарока траскачыць і нешта дзяўбець, стукаіць і стукаіць па страсе. Як ката ўбачаць — пачынаюць стракатаць.

Шы́ферына лопнула была. Шупчаць дошкі, ад сырасці дзіркі. У мяне сонца толькі ў сцяну глухую (без вакон). Там цяплей пад баком… Там дровы абы-якія падбор — усё нейкае падбіраюць.Учора кладок наскладала дроў.

Не ўторкнулі тэлефон ў хату, не правялі. Вада трубамі ані пахніць. Вада такая жорсткая. А ў мяне як на тую халеру газ кончыўся. Я тады здуракавала, не купіла. Кацялок (галава) знасіўся… Я недадукрыла, што ўзяць. Так у галаве заматылі́ла, што забылася. На скорым часе лепі, чым калі задаўніцца.

Туфлі купіла, раз надзела, падашва растапілася. Як прышлося, зімы нават неданасіла. Як я зіма не люблю…

Не магу ўходаць цэлую місу. У панядзелак я снедала бульбінай. Я адной рыбай магу пражыць. Кілбаса як дзераўляная, яна й мясам ня пахніць. Я скароміну не люблю, аб малочным болі жыву. Два бліны накрапала тварагом. Я гэта ня ўходаю (на чарку). У нас ўсе параспіваныя. Як жы́гніць па каптур… Яны там кухарнічаюць. Ужо падагравайцца вада, сіпіць. Юшку зліеш, а гусцё з'еш. Няхай пастыніць гарбата. Мне кісля́ ў яблыках не наравіцца, я ня дужа кіслае люблю. Нарэдчас люблю цукерку ўзяць.

Я думаю, не мітаць жа вас, трэба адведаць… Прыхаджу ў Вушачу, як у лес, як па лесі хаджу. Думалі, што я праяўлюся (з'яўлюся). Добра ў вас, алі пайду памалу. Няхай табе будзіць цёплінька ў тваёй хатцы, й твайму катку…

Як замуж за Шурку йшла, быў кот Васіль. Хадзіў дзесяць гадоў. Апошні раз — з адным вокам. А вясной як пайшоў — і загінуў, болей як дзесяць гадоў… Кяў-кяў — і да бацькі. Ён к яму прынадзіўся. Возьміць яго на ахопак. Як упыліць за ім. Кот сыйшоў на ўсё лета, толькі прыйшоў, снег назаўтра пайшоў. І праўны прыйдзіць. Як пайшоў і не вярнуўся, недзе лу́нуў. Такі лавушчы кот быў, за зіму восем пацукоў злавіў. Тужыўся-тужыўся, а пацук зароў дзіччу… Пайшоў кот у сені, сціхся-сціхся й здох.

Загадавала катка маладога. Хрыбецік беленькі, а пулькаценькі. Вочы, як ліхтарыкі, хвосцік абараначкам загнуты, як у вавёрачкі. Ён адма́лі не прывучаны да ласкі. Дзікун кот. У хаці не стыкаіцца кот ні ноччу, ні ўдзень. Гайсаіць, можа, дзе птушак пілнуіць, па ўловах ходзіць. Ашчыцілі пуню, каб кот ціплукоў

не цягаў. Ён знаіць пару́, прыходзіць есці. Глядзіць мне ў вочы, каб дала яму што добрае, хоць і німа дужа чаго такога. Як пад'есь, тады брыкі дась. Як сабака, кулік-кулік за мной. Пабегаіць па двары, прыбяжыць і расцягніцца пасярод хаты, найдзіць сабе халадок, хвастом кратаіць.

На вакнах будзіць сядзець кот. На шчытку, на пяколку ён спіць. Кот як сойдзіць, яго ніколі дома німа, а кошка дому пілнуіцца. Грабалася, грабалася кошка, калі пачуіць, што там шапчыць. Мышка ляжыць, ня кра́таіцца. Як мышка кранецца, а яна за ей. Пакуль мышку не загуляіць. За мурлаціны схаваліся, пад страху. Кошка курносая, а кот даўганосы а смеленькі. Малы кот да ежы не прытыкаіцца.

Такі кот (сіамскі), як аблі́заны, такі гладкі. Мой бы кот ня даўся павадок надзець. Мой кот адма́ля апантаны, а ваш спакойны... А мой дык з луской рыбіну есь. Мала зубоў стала, дык рыбіну жвецьжвець, не можа сажваць. Скружыцца на прыпалі́ кот, любіць на прыпалах ляжаць. Так расспаўся ў цёпленькім кот, як нежывы. Коцік, ты выспаўся, цярэбісся, ідзі пахаладайся. Адзін кот сырую бульбу еў, а другі шалупкі. Як карова худая, вылінаваіць. І кот лінуіць.

Пагода стала, апагодзілася. Вясной снег далоў, лес распускаіцца. Ня спаўшы, дык спадарожылася. Так прыйшлося спадарожнічаць. Калі йду не саўсём памалу. Там цяні́, дык і спякота ня страшна. Дарога добрая, высахшая цяпер, такая сушка. Сонца зайдзіць, а пякота пячэць, пякотка такая. Басячком мы ішлі. Чуць не спякліся, вецер нідзе не дыхнець. Халера пякота такая... Нібыта хмарыц-

ца. Вецярок яшчэ троху паадыха́іць. Можа, к начы наляціць дождж.

Пасля дажджу можа зноў апагодзіцца. Сонца німа, хмарната́ цэлы дзень. Можа, дождж падрабнеіць, нешта ён да самага вечара. Дождж туды перасуніцца, тады пайду, адкуль віднеіцца, яшчэ пагрымліваіць. Макрата такая, усюды мокра. Берагом дождж пастаў. З гарашыну́ град. Сёлета неяк і прасушыць. Летась так высушу, аж ўсё хрупчыць.

Во варта табе! Яна такая тоўстая зробілася, таўстая стала.

Грыб перастоіў, перарос. Грыбоў вядро й рыбы сетку. Сядзіць выкрыпываіць з сеткі. Ён траву ў кашэль кладзець. Саджонікі — саджаны лес. Ня трэба ў лес хадзіць, грыбы пад бокам. Толькі снег далоў абсохніць з Міколы, як зіма надыходзіць.

Сёлета ні на вошта ўроды (ураджаю) німа. Дзве слівіны на слівіні, а так цвілі! Перацвіло ўсё. Тыя разы што вішань было! І дробненькая бульба, й тэй німа. Фунтавыя дулі, як зваліцца — разаб’ецца. Доўга не састоіць, кожны год як абсыпана яблыкаў. Бе́ліна (белы наліў) увосень была сопкая, як бульбіна. Сёлета на маей бе́ліне мала яблыкаў. А вясной цвіло, кругом бель-беллю было.

Яны дрэнныя яблыні не вадзілі, не садзілі. Падкрадваюць яблыкі. У яго яблыкі да вясны, знаіць, як захаваць. І да рыбы, і да палявання, да ўсяго адма́лі здатны. Двое сабак паляўнічых. Віцька ня горды, гаваркі. Гу́кні ты яму, што Васіль прыехаў.

Цяпер і ў зуб не бярэць. Душа чалавек! Які ён ветлы, які харошы. Такі ён ветлы, усё роўна як родны. Калі яму выпадзіць прыехаць?

Жыццё ня склалася. Не набяруцца, кажны год купляюць абуванне. Не зрадніліся добра. Яна яго ўсё грызла́-грызла́. Дужа непрыхільная, няветлівая. Сваіх клянець, курэй клянець, карову клянець. Як сучка пачнець круціцца. Шумна, гамна. Па хаце толькі трэтар ідзець, толькі грукатня па хаце йдзець. Як кляпнулі дзвярыма, кот аж падскочыў.

Яшчэ нічога, лёгак. Усе быкаўцы́ казалі (з вёскі Бычкі). А губернатарам даваў у хры́бет. Слухаюць, што ў вушы кладзець. Гаворыць і ня к толку, без памяці гаворыць. Стараўся ўсімі сіламі ўсім глотку заторкнуць. Пранцы яго бяры…

Узяла прыма́ку, у яго тры жонкі ў Полацку. Нейкая гладка абы-што. Біць яшчэ ня біў, але падскакаваіць. Грошы німа, пабяжыць на сяло, адарлаіць (пазычыць), пенсію на даўгі аддаець. Дзве сумкі яму набудуіць. Абы змахлярнічаць. Баяўся, што мальцы яго абаб'юць. Ва́тага якая малых. Папуляў вочы, кулакамі лупіў у шафу, тады аброс, страшны твар, паросшы паўсцёй. Прыйдзіць і на яго хіба. У мужчыны адна слязіна пакацілася й тая назад вярнулася.

Каму салжэш, а душы не салжэш…

Падношаную машыну купяць, паездзяць, потым новую купляюць. Машына адна за адной у размін ідуць. Грошы аценіліся (упалі ў цане) — спахапіліся.

Дзён дзесяць пабыў цвярозы, так для сходства добры. Для сходства (сходзяцца) пагаварыць, схадзяся, добра, адзін аднаго паважаюць. Сабраўся (выпіў) добра на вяселлі. Набухтэрылі гарэлкі, а мне на адзін глык. Пайшлі на кватэру дагуліваць вяселле. Такая пулькаценькая, вочкі такія вялікія. Тады

меліся за ей ехаць, з радзілкі забіраць. Пажаніліся нямыя, а дзеці ў іх былі гаваркія. Глухія — яны тады крыклівыя. І жонка акрывела, яна не крыўляка, яна будзіць самастойнай дзяўчынай. Ад чыстай душы…

Яна такая прыімчывая (прымае гасцей), такая прыветная. Яна мяне згледзіла. Яна ж такая тарапка́я… Для сустрэчы яна была нічога, ня дужа каб прыхільная. Ад мяне адчужы́лася. Я не чапаю яе воўсенькі.

Мне абрыдзілі яны. Усе параспіваліся. Кажны дзень смажуць і смажуць (п'юць). Спі'тыя ўсе. Сядзіць на кура́чках. Такі быў ганаровы, сядзіць і вочамі паглядаіць, дзе якія благія бабы на вуліцы. Лахманы якія, адзежа нейкая. А наогул усё ўсіх здакучыла… Я ў ватоўцы, у валёнках, непрыбраная…

Чаго ка мне асва прычапілася? Адштурну рукой. Пакусалі, цэлае гняздо асоў, рукі красныя, успухшыя.

Я ж ня віджу зда́леку, сонца на захадзе. Як ішла, дзяўбанулася нагой, аж гузак ускочыў. Ратуначку крычу. Нага спохлая была й красная. Абляпіхай нагу загаіў. Сэрца маё калацілася без канца. Кохлік яго збіў, але-ткі выжыў. Болькі пад пахай насадзіліся… Ён жа быў інсульт падхваціўшы.

А тут адзін пень ад зуба. Троху ногі параўнаваць (расхадзіцца). Як халодна, тады болі ўвальваюць у спіну. Сяджу-сяджу, а як крануся — боль хапае… Як кратаюся, шавялюся, тады лягчэй. Далі нейкага мазідла — мазаць карак. Я слаба імі, вочамі гэтымі, бачу.

Абы Бог здароўя яшчэ даваў памалу шавяліцца… Яна ўжо збіраецца к смерці. Екатала перад смерцю.

Усе разумныя, а паміраюць дуракамі. На магільніку прышэльцы розныя.

Як былінка ў полі асталася, нікога роднага, блізкага, толькі два суседы людскія. Галоўнае, што з нікім падзяліцца па душах... Я на ўсю зіму нагаварылася... Няхай таму Бог паможаць, хто яго любіць...

*Аляксандр Аляксандравіч КАВАЛЕНКА*
*(в. Краснае)*

Усё жыццё ня так спрытна жылося селяніну. Лыко́выя лапці былі. Жыў красняцкі пан (двор Краснае). Хадзілі да яго ў падзённікі. Пан банкуе... Яці яго па корані! Ганкі ганяў у Рыгу, корнікам быў. За вуллё кожнае падаткі плаці. На мяне націнаў бацька, каб я быў настаўнікам.

Нікому ж не хацелася галаву складаць. Галава пырсь уверх, паляцела (снарад разарваўся). Увачавідзь усё зробілася. Бурлісты Днепр... Заапарк разбамбілі (везлі эшалонам), і мядзведзь уцякаў з хлопцамі. Яны сядуць, і ён — глядзеў за самалётамі... Мядзведзь лажыцца так, каб перад світанкам чуць, як пеўні пяюць...

Белай алехі шмат. Пярэйдзем рэчку цераз кладзі. А там перахростак. Як я прыйшоўшы быў... Прадрогаўся па дарозе. Машыны жыхаюць і жыхаюць. Да Воўча даехаў, тады ў Воўчы сеў. Салдат падмог у машыну пасадзіць.

Сажонка каля дарогі, елачкамі абсаджана. Усве́жа ехаць (уцэла). Як траханець мяне па ямках. Пусцішся — і йдзеш, і йдзеш.

Зарасло, занясло ўсё, скора ў хату самі дровы прыйдуць. Замасціў фанерай. Троху прыпарадчу.

Глінянка — гліняная печ у лазні. Каторую ня ссілю, самі будзеце ліць бочку. Хапае жаркай вады ў лазні. Згніў кузаў у пэ́трухі, дык я яго за лазовыя кусты выкінуў. Днішча іржой пераесць. Суседзі на мяне вурчаць.

Гарод з гародай (ізгародай, ізгародам). Ужо справіўся сад вырасці. Пайду ў сад, пабяру яблыкаў. З'ёмныя яблыкі. Далуках ляжыць толькі шалупка — восы выядаюць ігрушы. Суха — плугоў ня ўгоніш у зямлю, а цяпер адмачыла. Баронку падчапіў.

Рушаная зямелька дожджыку просіць.

Як аракі ўсе трудзяцца. У сена ездзілі. Заўтра хлопцы паедуць, хоць троху паскрабаюць карове сена. Косы падстрайваю, іструу ім косы. Чара́начкі касцяныя аблапіліся ў нажы.

Страсянка — страсалі салому з сенам.. Калі свіння гудзіць, ей ня трэба ніякі кнур. Які конь красівы стаў, як яго адпасвіў. Вала за хвост абсіліць, каня муты́ліць кожны дзень. Як пень які ў лесе рос.

Як пятух закокаець, куры бягом. Курыца аж крылля расставіць — ляціць. Яны таго не нанясуць яец, колькі шкоды наробяць. Петухоў сеч не люблю. Цвердаватая каровіна.

Ячмянёк засушыла гэты год. Ячмяні прапалі. Ад сухаты́ й бульбе добра не было. Каліва яшчэ зялёная, значыць, бульба яшчэ расцець... Пры за́марзках ужо.

Няма ахвоты да работы. Упаўвека ўжыўшы... Я ўжо работаў для вясёласці. Я тварыў дзяламі. Як закурыш — усю нуду разаб'еш, час перавядзеш падобраму. Навуджваў рыбы. Возера заплыло бузой. Жаўцяк у рыбе вэнджанай не заводзіцца.

Ветлівенькі такі чалавечак. Шчырасцю кожны бярэць. Ён малец рукаты. Шкураціна якая — прыносіць шкурацінкі мне. Ад сям'і адбіўшыся, трэба ж слухаць некага старэйшага. Розум малады — палявы, вецер і бяжыць, і звіжжыць…

Як ты ім у душу ўпаў!

Падхухýліцца (прычапурыцца) і ў клуб. Яна такая закукярэчыца (закапылістая)! Ня дужа любіў памаўзаваць па чужых істопках (па чужых жонках). Чалавек стараўся, каб хоць як к жыццю. Прысватыш такі. Маўчалівам чалавеку дрэнна саўсім быць. Цалуемся-мілуемся… Абнятку (абдоймы) арганізаваць… Давай я цябе паціскаю…

Мужык кажа жонцы худой: «Іскрыпачка мая, балалайка мая!..»

Як задубарыцца (заўпарціцца) яна. Варону й злавіў (праваронiў). І смешна, й пацешна. Жонцы трэба мець дысцыпліну перад мужам. Надуюцца адзін на аднаго як мяхі. Што вы тырчыцё?

Любілі чарку пацягнуць. Гарчакý ў рот набраць (выпіць). Ёрш тваю на корані! Ён за бутэлькай блыху ў Маскву пагоніць. П'ець па-вар'яцку. А морда здаровая стала, аж вочы пазапахалі (апухлі). А яна пражыцца па ім. Ён запіўся сільна крэпка ды скавенчыўся (замучыўся). І сам рот разінуў (памёр) не парой яшчэ. Матка ў роў (у плач).

У яе срадства (радні) не было. Яна ўзялася гарэлку піць. Яна й абдужала яе. Набірацца як бэля. Бацькі ўдýбкі з ей. Зблыталася й сыйшлася з нейкай блытаўкай. Такая змяістая баба. Калі сячэш дрэва, трэскі далёка не ляцяць (яблыка ад яблыні…).

Тожа блэнда, ейныя транты пазбіраў. Зношаная-перазношаная кашуля. Стаяла б стоцьма. А яна мне

й будзіць па-свінску казаць. Мне адразу цюкнула. Ёрш яе на корань! Яна мне тут пільна ня трэба саўсіў.

Усё глядзяць, каб сабе. Некаторыя прыхітрыліся. Закупіцца (адкупіцца) — і харош. Во й спёрся (адгаварыўся). У іх спайка (хаўрус) была. Хватаў, абхватваў (абіраў) людзей. Чужой бядой пачынаець радавацца.

Жанчыну заб'ець, а пасля знахальнічаець. Камень яму на грудзі, такой падле! Ня бойся звера, а бойся благога чалавека.

Чорт прыйшоў з балота, накруціў круцёлак. Як успомніць — слёзы пусціць. А мы ўжо былі зажыліся. Паціхоньку каля дому скра́баўся. Унукаў прыгадоўваю... Застаўся адзін як кст, як помнік.

Магу знаёмага раздзяліць (пазнаць) на адлегласці. Слуханне слабейшае, ня так чую. Што ўжо чакацца, калі ўжо зямлёй пахнеш. Сэрца ў адпачынак як пойдзець, тады кепска. Я захварэў бягом. Недамоглы нейкі стаўся. Нядумана я папаў у больніцу. У мурах не магу дыхаць. Урачыха лухаўкі ўзяла, абслухала-абслухала мяне ўсяго. Як нажам разане. Рука як аграблі́на зрабілася. Ляпа не хацела разявацца.

Не да вясёласці, а трэба слухаць, што болька гаворыць, ты ж ей падчыняешся. Толькі пачынаець абціхацца хвароба, новае зноў. Такі я драміла цяпер. Усё ўжо маё ўрачэнне (захапленне) кончылася. Можа, троху адкрэўлю (папраўлюся). Паглядзіцца, як будзець, можа, і прайдуся. Пайду на калідор, смакану́ папяросіну. Я занудзеў (засумаваў) тут. Варваноў (вырванцаў, унукаў) маіх прышлюць.

Памёр бы, каб ня мучыўся, толькі шкода тых ягнятак (унукаў).

Калі б не ўпатаропках, я б рады даў. Клыбае памалу. Сядзяць седма. Дыб-дыб — хадзіць ня можаць. Што з гэтым касталыгам (на мыліцах) зробіш, калі ён не чалавек, а палавіна чалавека (інвалід). І гэны рот разінуў (памёр). Памерла — прыкапалі. Патрывожыў маю душу. Нечага думаць, калі з зямлёй шэпчаш. Мне ўжо бяссмертнік (бестэрміновы пашпарт)далі.

Да скураногa ўрача павялі. Такую цяжбу (непамыснасць) пераносіць чалавек, і паспагадаць некаму. Ці ад Бога, ці ад злога. Грамнічную свечку палілі па табе (паміналі, думалі, што памёр). Яны цябе з бяды выведуць бягом.

Будзеш дужа салодкі — зліжуць, а будзеш дужа горкі — выплюнуць. Ніколі ня ткайся (не суйся). Адзін з агнём, другі з вадой — так трэба жыць (сябрам). Вось я напуціў вас (наставіў), на шлях даў параду. Ад Бога ўтайкі няма.

Вушацкі словазбор —
Спатканне й развітанне,
Ўспамін і напамін,
І одум валуноў,
Рассыпаны чабор,
Як жар,
Са жмені рання,
І выраевы клін
Ззімелых палыноў…

# Змест



# Слоўнік



# Ізборнік

## Гаваркое слова, альбо Жыццё, як яно ёсць...

Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна / укл. Н. Давыдзенка ;
В88 прадм. У. Някляева. – Мінск : Кнігазбор, 2013. – 388 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 47).
ISBN 978-985-7057-93-1.

Пад адной вокладкай нарэшце сабраныя неацэнныя скарбы беларускай мовы, якія, пачынаючы са школьных гадоў, бесперапынна занатоўваў за роднымі й землякамі народны паэт Беларусі, – асобныя словы, прымаўкі й пад'ялдычкі, зычэнні й грозьбы, а таксама народны каляндар, замовы, стравы, звычаі, гаспадарчыя й жыццёвыя парады й шмат іншага.

Трэці раздзел склалі запісы жывой ушацкай гаворкі, у якіх і гісторыя, і побыт, і душа народа, – усё жыццё, як яно ёсць.

**УДК 821.161.3-3**
ББК 84(Беи)

Пры афармленні вокладкі выкарыстаны фрагмент фота В. Ждановіча.

*Навукова-папулярнае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 47

# Вушацкі словазбор
# РЫГОРА БАРАДУЛІНА

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Набор *В. Пятровай*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *М. Аляксеева*
Фота *Г. Лабадзенкі*

Падпісана да друку 23.09.2013. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 20,37.
Ул.-выд. арк. 10,85. Наклад 500 ас. Зак. 502.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33,
тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.




Пад адной вокладкай гэтага
ўнікальнага выдання
сабраныя неацэнныя скарбы
беларускай мовы, якія,
пачынаючы са школьных
гадоў — і ўсё жыццё,
бесперапынна занатоўваў
за роднымі й землякамі
народны паэт Беларусі
Рыгор Барадулін.

«Слоўнік» змяшчае асобныя
словы, устойлівыя выразы
й прыказкі, а «Ізборнік», —
як і належыць, вялікую
разнастайную «калекцыю»:
народны каляндар, звычаі,
парады, стравы й замовы,
прыгаворкі, зычэнні, грозьбы
й пад'ялдычкі, загадкі
й шмат іншага.

У раздзеле «Гаваркое
слова...» — запісы жывой
ушацкай гаворкі,
у якіх і гісторыя, і побыт,
і душа народа — усё жыццё,
як яно ёсць...